АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БАЛАДЫ



## У ДЗВЮХ КНІГАХ

## Кніга 2

МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
1978

С (Бел) Ф
Б 20

Рэдакцыйная калегія:

**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, В. І. Ялатаў**

Укладанне, сістэматызацыя, уступны артыкул і каментарыі
**Л. М. Салавей**

Уступны артыкул, укладанне і сістэматызацыя напеваў
**Т. А. Дубковай**

Рэдактары тома
**К. П. Кабашнікаў, В. І. Ялатаў**

Б 20 **Балады** ў дзвюх кнігах, кн. 2. Рэд. К. П. Кабашнікаў, В. І. Ялатаў. Мн., «Навука і тэхніка», 1978.

744 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

Другая кніга тома ўключае раздзел «Балады навелістычныя» і каментарыі да яго, а таксама асабовы і геаграфічны паказальнікі да ўсяго тома. Разлічана на спецыялістаў-фалькларыстаў, этнографаў, выкладчыкаў, студэнтаў, журналістаў, прапагандыстаў і ўсіх, хто цікавіцца народнай творчасцю.

Б $\frac{70700-021}{М316-78}$ 37—77 С (Бел) Ф

# БАЛАДЫ НАВЕЛІСТЫЧНЫЯ



## ПАХВАЛА КАНЮ

### 538

Выхадзіла, выхадзіла два брахненькі радненькіх,
Выхадзіла, выхадзіла два брахненькі радненькіх.

Вынасілі, вынасілі два тапарочкі, два вайстрэнькіх,
Вынасілі, вынасілі два тапарочкі, два вайстрэнькіх.

Высякалі, высякалі два калінавых кусточкі,
Высякалі, высякалі два калінавых кусточкі.

Вымашчалі, вымашчалі два калінавых масточкі,
Вымашчалі, вымашчалі два калінавых масточкі.

Выганялі, выганялі табун коні вараненькіх,
Выганялі, выганялі табун коні вараненькіх.

Калінаў мост, калінаў мост, а ён паламіўся,
Табун коні, табун коні, а ён патапіўся.

Не жаль жа мне табун коні вараненькіх,
Толькі мне жаль аднаго каня варанога.

Што быў за конь, што за добрая лашадка:
Капытом конь, капытом конь белы камень рассякаець,

Хвосцікам конь, хвосцікам конь, а ўсё войска вымятаець,
Вушкамі конь, вушкамі конь, а ўсё войска выслыхаець,

Вочкамі конь, вочкамі конь, а ўсё войска выглядаець,
Губкамі конь, губкамі конь, а ўсё мора выпіваець.

539

Й а ў нядзельку, й а ў нядзельку
Вельма й рана-параненька [1]

Выхадзілі й выхадзілі
Да тры братцы радненькіх,

Вынасілі, вынасілі
Тры сякеры сталяныя,

Вяскалі, высякалі
Тры калінавы кусточкі,

Вымашчалі, вымашчалі
Тры калінавы масточкі,

Выганялі, выганялі
Лашадзіную стаду.

Й абламіліся, й абламіліся
Тры калінавы масточкі.

Патанула, патанула
Лашадзіная стада.

Што й жаль мне, што не жаль мне
Лашадзінае стады.

Толькі жаль мне, толькі жаль мне
Аднаго каня варанога.

Што й за конь быў, што й за конь быў,
Што за добрая й лошадзь:

Глазкамі конь, глазкамі конь
Усяе войска высматраець,

Капытом конь, капытом конь
Белы камень рассякаець,

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Хвосцікам конь, хвосцікам конь
Свае й сляды замятаець,

Вушкамі конь, вушкамі конь
Усяе войска выслухаець,

Зубкамі конь, зубкамі конь
У лузе траву выядаець,

Губкамі конь, губкамі конь
У моры ваду выпіваець.

## РАТАЙ І ЖАУНЕР

### 540

— Збудзі мяне, матка, рана,
Ой, так рана, штобы не світала,
Штобы коніку аброк даны,
Й аброк даны да і напаяны,
Адно сеўшы да паехаўшы!
Еду поле да другое,
На трэцім да ратай гарэ.
— Памагай бог, да ратаеньку.
— Бывай здароў, да жаўнераньку.
— Ці не бачыў ты войска ідучы,
Уперадзе каня бегучы?
— Ой, я бачыў войска ідучы,
Наперадзе да каня ведучы.
На том кані да жаўнер сядзіць,
На жаўнеру шабля вісіць,
З тае шаблі да кроў капаець,
З тае крыві да рэчка бяжыць,
З тае рэчкі да мора стаіць,
На том моры да воран крача,
Што па сынку да матка плача.
— Да не плач, матка, не плач, не журыся,
Бо я ўжо па калені падрубіўся,
Бо ўжо мае ручкі да на чатыры штучкі,
Маё цела да на дробны мачок,

Да збудавалі мне да цёмны далок,
Да без дзвярэй, без вако́нец,
Да ўжо майму жыццю ко́нец.

## ВОРАН (СОКАЛ) ПАВЕДАМЛЯЕ МАЦІ ПРА СМЕРЦЬ СЫНА

### 541

Ой, на моры, на моры
Гуляла рыба даволі.
Быў у маткі адзін сын
Да і той без долі.
Вышаў за варота,
Стаіць, як сірота.
Ніхто яго не займае,
Бо долі не мае.
— Ой, прадай жа ты, маці,
Да каня варанога,
Да ажані, мая маці,
Сына маладога!
Не схацела маці
Да каня прадаваці,
Па беламу чорным піша:
«Сына ў рэкруты аддаці».
— Ці ты пішы, ці не пішы,
Я таго не баюся,
Сам малады, конь вараны,
То яшчэ выслужуся.
Вой, пашла тая маці
І к мору воду браці,
Ляціць воран з чужых сторан,
Маці сына пытае:
— Ах ты, воран, ах ты, воран,
Ты па свету лятаеш,
Часта ў палку бываеш,
А ці часта майго сына
У войску відаеш?
— Ці не той твой сыночак,
Што ўсё войска пабівае,
Сам на чужой староны
Да й галоўку пакладае?

Ой, да там твой сыночак
У чыстым полі пры дарозе
Да там ён спачывае.
Сокал ясны прылятае,
За галоўку сціскае,
А чорны воран прылятае
Да цела абірае.
А ўжо ж тыя косці
Ад дажджу пасінелі
Да і з ветру пачарнелі!
Ой, не дай, божа, смерці,
На чужом краю ўмерці,
Да некаму дазіраці
Салдацкае смерці.

## 542

Moderato







Выпраўляла маці сынку
У чужую краінку. [1]

— Ой, едзь, паедзь, мой сыночак,
Толькі скоранька, не баўся,

За чатыры нядзелькі
Дамоў варачайся.

Ой, жджэ маці нядзелечку,
Ой, жджэ і другую,

[1] Кожная страфа паўтараецца два разы.

На трэцюю нядзелечку
За вароты выхадзіла.

Забачыла, завідзела
Яна сокала ў палёце.

— Ах ты, сокал, ты ясны,
Галубчык пракрасны,

Ты высоканька лятаеш
І далёканька відаеш.

Ці не бачыў, ці не відзеў
Майго сына на Украіне?

— Бачыў, відзеў, старушачка,
Твайго сына на Украіне:

А ён з коніка зваліўся,
Па калені ў зямлю ўбіўся.

## МАЛОЙЧЫК НА ВАЙНЕ

### 543

У чыстым полі снег ідзець,
Зямлю сыру прыкрываець.

А мамка сына благаслаўляець,
У чужу старонку выпраўляець.

— Ах, мамка мая міленькая,
Мамка мая старэнькая!

Я тваю ўсю журбу знаю:
У чужую старану ад'язджаю.

[У чужую старану ад'язджаю.]
Цябе, старэнькую, пакідаю

Да і з коніка не ссядаю,
І ножак із страмян не выймаю.

К Дунаю я ад'язджаю
І цябе, мамка, прашчаю.

— Дунаёк мой ціхусенькі,
Што ты стаіш мутнюсенькі?

Чы цябе вална збіла,
Чы цябе лебедзь замуціла?

— Мяне замуцілі кулькі гарматныя
І ў ваду удары частыя,

Чэраз Дунай лятаючы,
У малайцоў лучаючы,

З плеч галоўкі скідаючы,
Белы целы валяючы.

— Коні мае вараненькія,
Коні мае, коні дарагенькія!

Чаму ж вы не п'яцё вады на Дунаі?
Чаму не п'яцё — я не разгадаю.

Ёны не п'юць да толькі ўздыхаюць
Да на Дунай-рэку паглядаюць:

Як там малайцы гуляюць,
Адзін другога забіваюць,

Як там цякуць рэчкі крывавыя
І ручайкі цякуць слезавыя,

Як там масты мосцяць трупавыя
Усё малайцы удалыя.

## ДОМ-ЦЯМНІЦА

### 544

♩ = 80

Ты, дуб - ро - ва, дуб - ро - ва, дуб - ро -
вач - ка зе - ля - на - я. Ты, дуб - ро - ва, дуб -
ро - ва, дуб - ро - вач - ка зе - ля - на - я.

Ты, дуброва, дуброва,
Дубровачка зеляная.[1]

Ах, і што ж ты, дуброва,
А не родзіш ты нічога?

Не зрадзіла дуброва
А ні хмелю, ні ячменю.

А зрадзіла дуброва
Густы ельнік да бярэзнік.

Каб па том па ельнічку
Ды два брахненькі гулялі.

Ды два брахненькі гулялі,
Яны брусейка цясалі.

Яны брусейка цясалі,
Святлічаньку будавалі.

Яны думалі — святліца,
Ажну цёмная цямніца.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца два разы.

— Вот цяпер жа мы, брацец,
Навек з табой запрапалі.

А й не будзем, брацец, знаці,
Калі зіма, калі лета;

А й не будзем, брацец, знаці,
Калі дзянёк, калі ночка;

А й не будзем, брацец, знаці,
Калі свят дзень, калі будні.

А па том зіму знали,
Што зялезы прыстывалі;

А па том лета зналі,
Што зязюлі кукавалі;

А й па том ночку зналі,
А што пеўні успявалі;

А й па том свят дзень зналі —
Ўва ўсе звоны зазванялі.

## АД'ЕЗД СЫНА НА ВАЙНУ

### 545

З-пад лесу, лесу цёмнага
Вылятае птушка райская,
Выносіць пісьмо царскае,
Пісьмо царскае, гасударскае,
Каб губерні адчыняліся,
Каб малойцы прыбіраліся.
У ўдовачкі тры сыночкі былі,
Да ўдовачкі тры пісьмачкі прышлі.
Стала ўдоўка тыя пісьмы чытаць,
Катораму сыну ў войска ступаць:
Старшаму не годзіцца,
Сярэдняму не прыходзіцца,
Наймлодшы убіраецца,
Шэльма жонка наругаецца.

— Такое маё наруганнейка,
Сэрцу з жалю распаданнейка.
— Выйдзі, выйдзі, найстарэйша сястра,
Нясі хустку што найлепшую,
Найлепшую, найбялейшую,
Бялейшую, харашэйшую.
Выйдзі, выйдзі, найстарэйшы браток,
Вядзі каня што найлепшага,
Найлепшага, найсільнейшага,
Выйдзі, выйдзі, матка родненькая,
Пакланюся за апеку тваю,
Бо паеду аж на Русь на вайну.

## СМЕРЦЬ МУЖА НА ВАЙНЕ

### 546




Растужылася, расплакалася [1]
Жаўнерская маладая жана,
Па новых сенях расхаджывала,
Свайго дружка ўсё супрашывала:
— Начуй, начуй, мой дружочак, у мяне.
— Рад ба быў тры-чатыры начаваць —
Коні ж мае ўсе заложаны стаяць,
Барабаншчыкі нанятыя сядзяць.
Еду ў поле да ў новыя варата,
Аж мой татка ля варотцаў стаіць.
— Сынку, сынку, што не адказываеш?
— Табе, тата, да ўсё новыя двары,

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Табе, мама, злота, срэбра сума,
Табе, брацік, усё жыта малаціць,
Табе, сястра, мае хустачкі насіць,
Табе, жана, да тры волюшкі даю,
Хочаш, тут будзь, хочаш, замуж ідзі,
А не хочаш, дык з вайны дажыдай.
— Ой, выйду ж я ўсё на крутую гару,
Ой, гляну ж я ўсё пад ясную зару:
Усе дружкі са ваёнушкі ідуць —
Майго дружка толькі конікі вядуць,
А платочкі ўсе крывавыя нясуць.
Я й слёзачкамі бела вымыла,
Без качалак гладка выкачала,
Я й без сонца суха высушыла.

## СМЕРЦЬ БРАТА-ВАЯКА

### 547

Ой, там за гарою жыла ўдава,
Яна гадавала сына-сакала.[1]

Яна гадавала і ў армію аддала,
А старша сястрыца выправажала.

А старша сястрыца каня сядлала,
А младша сястрыца брата пытала:

— Ох, братка, ты братка, а родны ты наш,
Кагда ж ты прыедзеш у госці да нас?

— Ох, выйдзі, сястрыца, на гару круту,
Да глянь ты, сястрыца, на рэчку быстру.

Як быстрая вада камень панясе,
Тагда ажыдайце у госці мяне.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

2. Зак. 811

Ох, быстрая вода камень панясла,
Ждалі сёстры брата, а брата няма.

Ой, там за гарою салдаты ідуць,
На белых ручэньках шабелькі нясуць.

На белых ручэньках шабелькі нясуць,
На вараных конях брацетка вязуць.

— Ой, братка, ты братка, адзін ты у нас,
Кагда ж ты прыехаў у госці да нас.

## 548

Парадзіла маці сына,
Парадзіўшы, выгадавала,
Выгадаваўшы, каня купіла,
Каня купіўшы, сядло зглажыла,
Сядло злажыўшы, сына ўсадзіла
І на ваенку выправіла.
Старшая сястра хусты качала,
Серадольшая сястра брата ўбірала,
А сама мельша брата пытала:
— Скажы ты, брацейка, ці з вайны вернешся?
— Ах, выдзі, сястра, на крутую гару,
Да й зірні на быструю ваду:
Калі пёрачка на дно патоне,
А белы камень наверх сплыве,
Тады я, сястронка, з вайны вярнуся.
Ах, вышла сястра на крутую гару,
Да й зірнула на быструю ваду:
А сызо пяро на дно патанула,
А белы камень наверх сплынуў.
Ах, пашла сястра бітым гасцінцам,
Да й сустрачае тры дваранін:
— Ой, ці не бачылі майго брацейка?
— Ці не то твой брат быў,
Што ўсе тры ночкі галоўкі валіў,

А на чацвёрту сам галоўку злажыў?
Конікі стогнуць, цела везучы,
Чаляданька плача, за ім ідучы,
Саколікі свішчуць, за ім летучы,
Харцікі выюць, за ім бегучы.

## 549

Парадзіла маменька сына-сакала,
Эх, парадзіла маменька сына-сакала.[1]
Парадзіўшы, маменька долі не дала,
А долічкі не даўшы, ў салдаты здала,
Ў салдацікі здаўшы, сама плакала.
А большая сястрыца каня вывела,
Сярэдняя сястрыца сядло вынесла,
А самая меншая плацце складала,
Плацце складала, ў брата пытала:
— Калі, калі, брацетка, к нам ў госці прыдзеш?
— Тагды, тагды, сёстранька, к вам ў госці прыду,
Калі белы камешак наверх усплывець,
Як сізае пёрышка на дно панырнець.
Выйдзі, выйдзі, сёстранька, на быстру гару,
Паглянь, паглянь, сёстранька, пад ясну зару.
А з-пад яснай зараньні салдацікі йдуць.
— Салдацікі-брацікі, родныя мае,
Ці бачылі брацетку ў чужой старане?
— Ці не твой брацетка, што ў палку служыў,
У чацвёртым палочку галоўку злажыў?
— Ляці, ляці, зязюля, у зялёны сад,
Зачні, зязюлечка, крэпка кукаваць.
Ці не ўчуе мамачка, печачку тапя,
Ці не ўчуе татачка, па двару хадзя,
Ці не ўчуе брацетка, коніка пая,
Ці не ўчуе сястрыца, зёлачкі садзя?
Не кукуй, зязюлечка, што я тут ляжу,
А кукуй, зязюлечка, што цару служу.

---

[1] Кожны радок паўтараецца з выклічнікам «эх» упачатку.

# 550




Спарадзіла мамачка сына-сакала,
Гэй, спарадзіла мамачка сына-сакала.[1]
Спарадзіўшы, мамачка сына ўзрасціла,
Узрасціўшы, мамачка лошадзь купіла,
А купіўшы лошадку, ў салдаты здала,
А здаўшы ў салдацікі, сама плакала.
Старшая сястрыцачка каня сядлала,
Срэдняя сястрыцачка бяллё качала,
Младшая сястрыцачка брата пытала:
— Калі, калі, брацетка, к нам ў госці прыдзеш?
— Тады, тады, сястрыца, я ў госці прыду,
Ўзгляні, ўзгляні, сястрыца, на быстру ваду,
Калі белы камешак наверх усплыве,
Калі сыза пёрушка на дно патане.
Выйдзі, выйдзі, сястрыца, на круту гару,
Ўзгляні, ўзгляні, сястрыца, на ясну зару.
Там з-пад яснай зорачкі салдаты ідуць,
Казловымі ботамі паскрыпаваюць,
Яснымі шабелькамі памахаваюць.
— Ой, вы ці не відзелі, вы ці не чулі,
Ой, вы ці не чулі майго брацетку?
— Ці не твой жа брацетка ў трох палках служыў,
А ў чацвёртым палочку галоўку злажыў?
А як яго конікі вазы вазілі,
Да па ім нізісенька галоўкі кланілі,
Да як яго дзевачкі ды прыбіралі,
Да па ім мілюсенька ўсе галасілі.

---

[1] Кожны радок паўтараецца з выклічнікам «гэй» упачатку.

Як па ім зязюлечкі ўсе кукавалі!
—- Кукуй, кукуй, зязюлечка, праўды не кажы,
Не кажы матулечцы, што я ўбіт ляжу,
Да кажы матулечцы, што цару служу.

## 551




Спарадзіла маменька сына-сакала,
Эй, спарадзіла маменька сына-сакала.[1]
Спарадзіўшы, маменька скора ўзрасціла,
А ўзрасціўшы. маменька каня купіла,
Каня купіўшы, ездзіць навучыла,
А ездзіць навучыўшы, у салдаты здала,
А ў салдаты здаўшы, сама плакала.
А старшая сястрыца каня сядлала,
А малодшая сястрыца брата пытала:
— Кагда, кагда, брацетка к нам ў госці прыедзеш?
— Тагда, тагда, сёстранька, к вам ў госці прыеду,
Як серы камушак наверх выплывець,
А сізае пёр'ішка на дно ападзець.
Узыйдзі, ўзыйдзі, сёстранька, на быстру гару,
І глянь, і глянь, сёстранька, пад ясну зару.
З-пад гэтай зораньні тры салдаты ідуць.
— Салдацікі-брацікі, родныя мае,
Ці не відзелі майго брацеткі ў чужой старане?
— Ці не твой жа брацетка тром палкам служыў,
А ў чацвёртым полушку галоўку злажыў?
Да плакалі бабкі, яго мыючы,

[1] Кожны радок паўтараецца з выклічнікам «эй» упачатку.

Галасілі дзевушкі, прыбіраючы,
Заірзалі конікі, яго везучы,
Кукавала зязюлечка, за ім летучы.
— Кукуй, кукуй, зязюлечка, праўды не кажы,
Не кажы, зязюлечка, што я тут ляжу,
Да кажы, зязюлечка, што цару служу.

## 552

Гэй, гэй, парадзіла маменька сына-сакала,
Гэй, гэй, парадзіўшы, маменька долі не дала.
Гэй, гэй, долечкі не даўшы, ў салдаты здала.
Гэй, гэй, ў салдацікі здаўшы, тры дні плакала.
Гэй, гэй, старшая сястрыца каня сядлала,
Гэй, гэй, сярэдняя сястрыца бяллё складала,
Гэй, гэй, меншая сястрыца брата пытала:
— Гэй, гэй, калі, калі, браценька, к нам ў госці прыедзеш?
— Гэй, гэй, тады, тады, сёстранька, к вам ў госці прыеду,
Гэй, гэй, калі сера пёрышка на дно упадзе,
Гэй, гэй, калі белы камушак наверх усплыве.
Гэй, гэй, з-пад чырвонай зорачкі тры салдаты йдуць.
— Гэй, гэй, наверна, наш браценька тром палкам служыў,
Гэй, гэй, на чацвёртым полушку галоўку скланіў.
Гэй, гэй, плакалі сястрыцы, за ім ідучы,
Гэй, гэй, кукавала зязюля, за ім летучы,
Гэй, гэй, стагнала зямелечка, ў яму кладучы.

## 553

Зялёную траву вада падняла,
Красную дзяўчыну туга узяла.
Ай, выду на двор, пакачу пярсцень:
— Каціся, пярсцень, да маіх сясцёр.
Там сёстры брата на вайну правяць.
Большая сястра коніка вядзець,
Сярэдняя — сядзельца нясець,
Самая меншая — хусткі падаець,
Ай, падаючы, жаласна плача:
— Калі, брацетка, з вайны вернешся?

— На сінім моры бел камень ляжыць,
На тым на камені — струсава пер'е.
Як белы камень наверх усплывецъ,
Струсава пер'е на дно ападзець,
Тады, сястрыца, з вайны вярнуся.
Вось паехала сяло малайцоў,
Сяло салдат, а ўсё рыбакоў.
— Пойдзем, сястрыца, брата пытаць.
Вы салдацікі, вы рыбалачкі,
Ці не відзелі брата нашага?
—Ці не той твой брат быў,
Што два войскі збіў,
А ў трэцім войску галоўку скланіў?
Раўлі яго конікі, цела везучы,
Скоглілі саколечкі, над ім летучы,
Бліщчэлі шашкі, за ім несучы!

## 554




Было ў мамкі тры дачухны,
Было ў мамкі тры дачухны,
Чацвёрты сынок.

Загадалі сынку на военку йці.
Старшая сястрыца хусткі качае.

Старшая сястрыца хусткі качае,
Серадольша сястрыца братку ўбірае.

Серадольша сястрыца братку ўбірае,
Меншая сястрыца ў браткі пытае.

Меншая сястрыца ў браткі пытае:
— Ды калі ж ты, брацейка, ў госцейкі прыдзеш?

— Тагды я, сястрыца, ў госцейкі прыду,
Як серае пяро на дно патане,

Як серае пяро на дно патане,
А белы камень наверх усплыве.

Ждала сястрыца гадок і другі,
Серае пяро на дно не тане.

Серае пяро на дно не тане,
А белы камень наверх не плыве.

А белы камень наверх не плыве,
І родны брацейка ў госцейкі не йдзе.

Пашла сястрыца з гары да ўнізы,
Сустракае сястрыца цары і паны.

— Ой вы, мае цары да паны,
Ці не бачылі майго брацейкі?

— Ці не той твой брацейка, што тры войскі ўбіў,
На чацвёртым войску шабельку зламаў?

На чацвёртым войску шабельку зламаў,
А на пятым войску галоўку скланіў?

Да плакалі стары бабы, умываючы,
Да плакалі малойчыкі, убіраючы.

Да плакалі дзевачкі, вяночкі ўючы,
Да трубілі трубачы, за ім ідучы.

Патамілі конікі, цела везучы,
Да стагнала дарожачка, яго дзержачы.

### 555

Эй, катораму братачку на военку йці?
Што ў большага братачкі дзеткі дробны,
Сярэдняга братачкі жана хараша,

Што ў меншага братачкі нікога няма —
Эй, да меншаму братачку на военку йці.
Да большая сястрыца абед гатуе,
Эй, сярэдняя сястрыца хвусты вымуе,
Эй, што ж меншая сястрыца каня сядлае,
Ой, засядлаўшы коніка, к сеням прывяла.
Да меншы жа братачка ўссеў да паехаў,
Да меншая сястрыца ў яго спрасіла:
— Да братка мой, братачка, што мне дзелаці,
Калі цябе, братачка, з салдатаў ждаці?
— Да ідзі-тка, сястрыца, на круту гару,
Эй, да зірні, сястрыца, пад ясну зару.
З-пад яснае зорачкі конічак зарзаў,
З-пад яснага соўнейка салдацікі йдуць,
Папярод жа конікі ды цела вязуць.
Патаміліся конікі, цела везучы,
Заплакала дзевачка, услед ідучы:
— Салдацікі-брацікі, ці не тут мой брат?
— Ці не той твой братачка, што тры роты ўбіў,
На чацвёртай ротушцы галоўку злажыў?

## 556

— Ох, і што ж ты, моладзец, смуцен, не вясёл?
— Ох, як жа мне, молайцу, вясёламу быць?
Выпраўляюць молайца са двара далой.
Большая сяструшка плацця качаець,
Сярэдняя сяструшка братца ўбіраець,
А меншая сяструшка каня сядлаець.
Засядлаўшы, к крылцу падвяла,
А падвёўшы к крылцу, братца ўсадзіла,
А ўсадзіўшы брахнейку, плётку падала,
А падаўшы плётачку, братца правяла,
А правёўшы брахнейку, яго пытала:
— А брахнейка, брахнейка, гаручая кроў,
Кагда к нам, брахнейка, ў госцікі будзеш?
— Есць у сінім моры белы камушак, павіна пяро,
Кагда белы камушак наверх усплывець,
А павіна пяро на дно патанець,
Тагда я к вам, сёструшкі, ў госцікі буду.

— А ўзайдзіце, сёструшкі, на круту гару,
Паглядзіце, сёструшкі, пад ясну зару:
Едуць, едуць казачанькі ўсё ды са вайны,
А нашага брахнейка ўсё ды не відаць.
Пытаемся ў ваднаго: «Ці не відзелі?»
Пытаемся ў другога: «Ці не бачылі?»
А трэці жа кажыць:
— Ці не ваш жа брахнейка два войскі згубіў,
На трэцім жа войску галоўку паклаў?
Запрагайце шасцёрку коні!
Пышуць, пышуць конікі, цела везучы,
Стогнуць, стогнуць собалі, ўпярод бежучы,
Плачуць, плачуць сёструшкі, побач ідучы,
Кукуець зязюлюхна, ўгары летучы.

## 557

Парадзіла матушка да тры дачары,
Во, да чацвёртага сына-сакала.
Парадзіўшы, да узрасціла,
Узрасціўшы, каня купіла,
А каня купіўшы, ў салдаты 'ддала.
Сама больша сястрыца каня вывела,
Селядорша сястрыца сядло вынесла,
А самая меншая братку правяла,
А правёўшы брацейку, да пытала:
— Калі ты, брацейка, з вайны вернешся?
— Тады я, сястрыца, з вайны вярнуся,
Тады я, сястрыца, з вайны вярнуся,
Як сухое пёрышка на дно патане,
А беленькі камушак наверх усплыве.
Ждала яна гадок, ждала і другі,
На трэці гадок пашла глядзеці.
Сухое пёрышка на дно не тане,
А белы камушак наверх не плыве.
Пашла сястрыца з гары ў даліну,
Сустрэла сястрыца два двараніны.
— Да ці не бачылі браткі-сакала?
Адзін кажа: «Не чуў, не бачыў».
А другі кажа: «Я чуў і бачыў.
Ці не той твой брацейка тры войскі ўбіў,

На чацвёртым на войску галоўку злажыў?
Да плакалі бабушкі, яго мыючы,
Плакалі малойчыкі, труну робячы,
А дзяўчаты плакалі, на то гледзячы.
Станавіліся конікі, цела везучы,
Іграла капелюшка, за імі ідучы,
А спявалі папы, ўперадзе йдучы,
Свісталі сакалы, над ім летучы».
Кінулася сястрыца аб сыру зямлю:
— Сырая зямліца, вазьмі ты мяне,
Узяла атца й мацеру, брата і сястру,
Вазьмі ты мяне, бедну сірату.

558




А сёстры брата на вайну правяць, [1]
А яны правяць, ўсё пытаюцца:
— Калі, брацетка, з вайны вернешся?
Калі, родненькі, з вайны вернешся?
— Выйдзі, сястрыца, ў роўнае поле,
Зірні, сястрыца, ў сіняе мора.
На сінім моры бел камень ляжыць,
На тым камені струсава пяро.
Як белы камень наверх усплывець,
Струсава пяро на дно ападзець,
Тады, сястрыца, з вайны вярнуся,
Тады, родная, з вайны вярнуся.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Сама большая кашулю мыла,
Серадушчая ў вакно глядзела.
— Усе панаўё з вайны ўжо ідуць,
Нашага брата нідзе не відаць.
Сама меншая ды не ўтрывала,
Вышла на вулку ды папытала:
— Ах вы, панаўё, самі цараўё,
Ці не відзелі майго брацетку?
— Ці не той ваш брат, што тры войскі збіў,
На чацвёртае галоўку скланіў?
Коні рагочуць, цела везучы,
А сёстры плачуць, за ім ідучы.

## ВЕСТКА ПРА СМЕРЦЬ КАЗАКА

### 559




Наляцела, наляцела,
Наляцела повен двор галубоў. [1]

Крылушкамі, крылушкамі,
Крылушкамі падвор'ейка змяталі.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Вочачкамі, вочачкамі,
Вочачкамі святлічаньку свяцілі.

Галаскамі, галаскамі,
Галаскамі удовушку будзілі:

— Устань, устань,
Устань, маладая удава.

Выйдзі, выйдзі,
Выйдзі за новыя варата.

Ой, стань, ой, стань,
Стань, паслухай, што шуміць да гудзе.

— Едзе, едзе,
Едзе сем палкоў казакоў.

А майго, а майго,
Майго мілага не чуваць, не відаць.

Толькі яго, толькі яго,
Толькі яго сіва лошадзь бяжыць.

На лошадзі, на лошадзі,
На лошадзі сядзёлушка ляжыць.

На сядзёлцы, на сядзёлцы,
На сядзёлцы рубашачка вісіць.

Тонка-бела, тонка-бела,
Тонка-бела уся у крыві.

Да й вазьмі ж ты,
Да й вазьмі ж ты, мая міла, рубашачку
спаласні.

Спаласнула, спаласнула,
Спаласнула — горка сэрца сваё ўлякнула.

560

♩=70

Ой, пры да-ро- зе, ой, пры да-ро- зе,

пры да- ро- зе са- лу- чы- ла- ся бя- да,

пры да- ро- зе са- лу- чы- ла- ся бя- да.

Ой, пры дарозе,[1]
Пры дарозе салучылася бяда.

Эй, там убілі,
Там убілі маладога казака.

А да й харанілі,
Харанілі пры шырокай даліне.

Ай, паміналі,
Паміналі на высокай магіле.

Ой, наляцелі,
Наляцелі саколікі-сакалы.

Ой, да селі-палі,
Селі-палі на удовушкін дворык.

Эй, крылышкамі,
Крылышкамі увесь дварок падмялі.

Ой, ножанькамі,
Ножанькамі увесь дварок стапталі.

Ой, дзюбачкамі,
Дзюбачкамі вакошачкі атварылі.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Ой, кагаткамі,
Кагаткамі ўсе ганачкі спісалі.

Ой, галаскамі,
Галаскамі удовушку будзілі:

— Ой, ты жа ўстань-ка,
Ты жа ўстань-ка удовушка малада.

Ой, выйдзі, выйдзі,
Выйдзі, выйдзі за новыя варата.

Ой, ты прыляж-ка,
Ты прыляж-ка к сырой матушцы-зямлі.

Ой, паслухай-ка,
Паслухай-ка, маладая удава,

Ой, а ці стогнець,
Ой, ці стогнець дарожачка шырака,

Ой, ці шуміць жа,
Ці шуміць жа дубровушка зеляна?

— Ой, стогне, стогне,
Стогне, стогне дарожачка шырака.

Ой, шуміць, шуміць,
Шуміць, шуміць дубровушка зеляна.

Ой, едуць, едуць,
Едуць, едуць салдацікі са вайны.

Ой, толькі нету,
Толькі нету маладога казака.

Ой, толькі ідзець,
Толькі ідзець яго конік вараной.

Ой, на коніку,
На коніку 'дно сядзёлышка ляжыць.

Ой, на сядзёлышку,
На сядзёлышку востра шабелька ляжыць.

## 561

♩ = 50

Эй, што ў го- ра - дзе, эй, што ў го- ра- дзе,

што ў го- ра- дзе с(а) лу- чы - ла - ся бя - да,

што ў го - ра - дзе с(а) лу- чы - ла - ся бя - да.

Эй, што ў горадзе, [1]
Што ў горадзе салучылася бяда.

Эй, там убілі,
Там убілі маладога казака.

Эй, схаранілі,
Схаранілі пры шырокай даліне.

Эй, накапалі,
Накапалі высокую магілу.

Эй, пасадзілі,
Пасадзілі чырвоную каліну.

Эй, з-пад той чырвонай каліны
Вылятаюць тры ясненькіх сакалы.

Эй, селі-ўпалі,
Селі-ўпалі ў удовачкі на дварэ.

Эй, дзюбушкамі,
Дзюбушкамі ўсе вароты спісалі,

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Эй, галаскамі,
Галаскамі і ўдовушку будзілі:

— Эй, устань, прачніся,
Устань, удовушка малада,

Эй, выйдзі, выйдзі,
Выйдзі, выйдзі за новыя варата.

Эй, стань паслухай,
Стань паслухай, а што людзі гавораць.

## 562

Allegro

Гэй, а ў га_ ро_ дзе, да гэй, а ў га_ ро_ дзе, да

а ў га_ ро_дзе,да а ў га_ро_ дзе да па_лу_ чы_ла_ ся бя_ да,

а ў га_ро_дзе,да а ў га_ро_дзе да па_ лу_ чы_ла_ ся бя_ да.

Гэй, а ў гародзе, да гэй, а ў гародзе,
Да а ў гародзе, да а ў гародзе да палучылася бяда. [1]

Гэй, там забілі, да гэй, там забілі,
Да там забілі, да там забілі да маладога казака.

Гэй, пахавалі, да гэй, пахавалі,
Да пахавалі, да пахавалі да пры шырокай даліне.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца без «да» ўпачатку.

3. Зак. 811

Гэй, там ляцелі, да гэй, там ляцелі,
Да там ляцелі, да там ляцелі да два сівыя сакалы.

Гэй, селі-ўпалі, да гэй, селі-ўпалі,
Да селі-ўпалі, да селі-ўпалі да на ўдовушкіным двары.

Гэй, скрыдалкамі, да гэй, скрыдалкамі,
Да скрыдалкамі, да скрыдалкамі да ўвесь дварок накрылі.

Гэй, ножанькамі, да гэй, ножанькамі,
Да ножанькамі, да ножанькамі да ўсе замочкі пабілі.

Гэй, галаскамі, да гэй, галаскамі,
Да галаскамі, да галаскамі да ўдовушку ўзбудзілі:

— Гэй, ўстань, паслухай, да гэй, ўстань, паслухай,
Да ўстань, паслухай, да ўстань, паслухай да нехарошу навіну.

Гэй, твой казак забіты, да гэй, ён забіты,
Да ён забіты, да ён забіты да у чужой старане.

Гэй, ён да пахаваны, да гэй, ён да пахаваны,
Да пахаваны, да пахаваны да пры шырокай даліне.

Гэй, ўдоўка заплакала, да гэй, ўдоўка заплакала,
Да заплакала, да заплакала, да белы ручкі заламала.

— Гэй, а мае ж вы, да гэй, а мае ж вы
Да сакалечанькі, да сакалечанькі, да я ж цяпер прапала.

## 563

Tempo di marcia

Эй, ў Слуц- ку- го - ра-дзе, эй, ў Слуц- ку - го - ра-дзе,

ў Слуц - ку- го - ра - дзе, ў Слуц - ку- го - ра - дзе




Эй, ў Слуцку-горадзе, эй, ў Слуцку-горадзе,
Ў Слуцку-горадзе, ў Слуцку-горадзе,
Там здарылася бяда! [1]

Эй, там убілі, да эй, там убілі, да
Там убілі, да там убілі, да
Маладога казака.

Эй, схаранілі, да эй, схаранілі,
Схаранілі, да схаранілі, да
Пры шырокай даліне.

Эй, высыпалі, да эй, высыпалі, да
Высыпалі, да высыпалі, да
Высокую магілу.

Эй, пасадзілі, да эй, пасадзілі, да
Пасадзілі, да пасадзілі, да
Чырвоную каліну.

Эй, наляцелі, да эй, наляцелі, да
Наляцелі, да наляцелі, да
Сакалушкі-сакалы.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

Эй, селі-ўпалі, эй, селі-ўпалі,
Селі-ўпалі, да селі-ўпалі, да
Ва ўдовушкі на дварэ.

Эй, крылушкамі, да эй, крылушкамі, да
Крылушкамі, да крылушкамі, да
Ўсё падвор'е занялі.

Эй, галаскамі, да эй, галаскамі, да
Галаскамі, да галаскамі, да
Удовушку збудзілі:

— Эй, ўстань, ўдовушка, эй, ўстань, ўдовушка,
Устань, ўдовушка, ды паслухай жа,
Пра што людзі гавараць!

Эй, людзі баюць, да эй, людзі баюць, да
Людзі баюць, да людзі баюць, да
Удовушку ругаюць.

Эй, хочуць Ваню, эй, хочуць Ваню, да
Хочуць Ваню, хочуць Ваню, да
У салдатушкі аддаць!

### 564

Ой, пры дарозе, [1]
Пры дарозе салучылася бяда.

Эй, тама ўбілі,
Там убілі маладога казака.

А да й харанілі,
Харанілі пры шырокай даліне.

Ай, паміналі,
Паміналі на высокай магіле.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Ой, наляцелі,
Наляцелі саколікі-сакалы,

Ой, да селі-палі,
Селі-палі на удовушкін дварок.

Эй, крылушкамі,
Крылушкамі й а ўвесь дварок падмялі.

Ой, ножанькамі,
Ножанькамі й а ўвесь дварок стапталі.

Ой, дзюбачкамі,
Дзюбачкамі вакошачкі адтваралі.

Ой, кагаткамі,
Кагаткамі ўсе ганачкі спісалі.

Ой, галаскамі,
Галаскамі й а ўдовушку будзілі:

— Ой, ты ўстань-ка,
Ты ж устань-ка, удовушка малада.

Ой, выйдзі, выйдзі,
Выйдзі, выйдзі за новыя варата.

Ты прыляж-ка,
Ты прыляж-ка к сырой матушцы-зямлі.

Ой, паслухай,
Паслухай, маладая ўдава,

Ой, ці стогнець,
Ой, ці стогнець дарожанька шырока?

Ой, ці шуміць,
Ой, ці шуміць дубровушка зялёна?

— Ой, стогнець, стогнець,
Стогнець, стогнець дарожанька шырока.

Ой, шуміць, шуміць,
Шуміць, шуміць дубровушка зялёна.

Ой, едуць, едуць,
Едуць, едуць салдацікі са вайны.

Ой, толькі нету,
Толькі нету маладога казака.

Ой, толькі ідзець,
Толькі ідзець адзін конік вараны.

Ой, на коніку,
На коніку 'дно сядзёлышка ляжыць.

Ой, на сядзёлушку,
На сядзёлышку востра шабелька ляжыць.

## 565

Эй, там ва гродзе,
Там ва гродзе саслучылася бяда.

Эй, там убілі,
Там убілі маладога казака.

Эй, пахавалі,
Пахавалі пры шырокай даліне.

Эй, салятались,
Салятались сівы пташкі-сакалы.

Эй, селі-палі,
Селі-палі да ў удоўкі на дварэ,

Эй, крылейкамі,
Крылейкамі двор шырокі размялі,

Эй, галасамі,
Галасамі яны ўдоўку ўзбудзілі.

Эй, слёзынькамі,
Слёзынькамі ўсю пасадку змачылі.

— Эй, ўстань ты, ўдова,
Ўстань ты, ўдова, ўстань ты, ўдова малада.

Эй, ты выйдзі,
Выйдзі-выбеж за новыя варата.

Эй, да паслухай,
Да паслухай, пра што людзі гаварацъ.

Эй, людзі баюцъ,
Людзі баюцъ да ўдаваньку пужаюцъ:

— Эй, твайго мужа,
Твайго мужа ўжо ў жывых даўно няма.

Эй, яго каня,
Яго каня ўсё таварышы вядуцъ.

Эй, руж'ё, шаблю,
Руж'ё, шаблю на белых ручаньках нясуцъ.

## 566

♩ = 70

Эй, у А – мэ – ры – цы, эй, у А – мэ – ры – цы,

а ў А – мэ – ры – цы слу – чы – ла – ся бя – да,

а ў А – мэ – ры – цы слу – чы – ла – ся бя – да.

Эй, у Амэрыцы,[1]
А ў Амэрыцы случылася бяда.

Эй, там убілі,
Там убілі маладога казака.

Эй, схаранілі,
Схаранілі пры шырокай даліне.

Эй, накапалі,
Накапалі высокую магілу.

Эй, пасадзілі,
Пасадзілі чырвоную каліну.

Эй, расці, расці,
Расці, расці, чырвоная каліна.

Эй, гуляй, гуляй,
Гуляй, гуляй, маладая дзяўчына.

Эй, наляцела,
Наляцела у дзярэўню сакалоў.

Эй, селі-ўпалі,
Селі-ўпалі ў марыканкі на двары.

Эй, крылушкамі,
Крылушкамі шырокі двор абмялі.

Эй, капцюркамі,
Капцюркамі на ганачак ступілі.

Эй, галаскамі,
Галаскамі марыканку збудзілі:

— Эй, устань, устань,
Устань, устань, марыканка малада.

Эй, ўстань, паслухай,
Ўстань, паслухай, што суседзі гаворaць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Эй, усе мужы,
Усе мужы ўсе з Амэрыкі ідуць.

Эй, твайго мужа,
Твайго мужа парна конямі вязуць.

Эй, заплакала,
Заплакала марыканка малада.

Ай, доч красіва,
Доч красіва засталася сірата.

## 567

♩ = 75

1 эй, што ў го- ра - дзе, эй, што ў го- ра - дзе,

што ў го - ра - дзе с(а)- лу- чы - ла - ся бя - да,

што ў го - ра - дзе с(а)- лу - чы - ла - ся й бя- да.

І эй, што ў горадзе, эй, што ў горадзе,
Што ў горадзе салучылася бяда. [1]

І эй, там убілі, эй, там убілі,
Там убілі маладога й казака.

І эй, ён убіты, эй, ён убіты,
Ён убіты, несхаронены ляжыць.

І эй, схаранілі, эй, схаранілі,
Схаранілі пры ў шырокай даліне.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

І эй, накапалі, эй, накапалі,
Накапалі высокую ж магілу.

І эй, пасадзілі, эй, пасадзілі,
Пасадзілі чырвоную й каліну.

І эй, зажурылі, эй, зажурылі,
Зажурылі пракрасную дзяўчыну.

І эй, пры́ляцелі, эй, пры́ляцелі,
Пры́ляцелі салоўюшкі-салаўі.

І эй, селі-ўпалі, эй, селі-ўпалі,
Селі-ўпалі і ў удовушкі на двор.

— І эй, ўстань, прачніся, эй, ўстань, прачніся,
Ўстань, прачніся, маладая удава.

## 568

♩ = 82

Ў Наў- га - ро - дзе у нас ста - ла - ся бя - да:
ой, там у - бі - лі, ой, там у - бі - лі,
там у - бі - лі ма - ла - до - га(й) ка - за - ка,
там у - бі - лі ма - ла - до - га(й) ка - за - ка.

## 569

♩=55

(А)Ох, з паў- да- рож - кі, ох, з паў- да-рож - кі,

з паў- да- рож - кі с(а)- лу - чы - ла - ся бя - да,

з паў - да- рож - кі с(а)- лу - чы - ла - ся бя - да.

Ох, з паўдарожкі, [1]
З паўдарожкі салучылася бяда.

Ох, там забілі,
Там забілі маладога казака.

Ох, схаранілі,
Схаранілі пры шырокай даліне.

Ох, й адпраўлялі,
Й адпраўлялі пры глыбокай даліне.

Ох, налятали,
Налятали два сызыя галубы.

Ох, селі-палі,
Селі-палі ў удовушкі на дварэ.

Ох, крылачкамі,
Крылачкамі увесь дворык занялі,

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Ох, лапачкамі,
Лапачкамі траўку-мураўку стапталі,

Ох, глазікамі,
Глазікамі светлічэньку асвяцілі,

Ох, галасамі,
Галасамі й удованьку абудзілі.

— Ох, і ўстань,
Й устань, устань, маладая удава.

Ох, выйдзі, выйдзі,
Выйдзі, прайдзі за новыя варота.

Ох, стань, паслухай,
Што злыя людзі гавораць.

Ох, людзі баюць,
Людзі баюць, на суседзі гавораць.

Ох, хочуць Ваню,
Хочуць Ваню й у салдацікі аддаць.

### 570

А з-пад лесу, лесу цёмнага,
А з-пад лесу, лесу цёмнага,
А з-пад гаю, а з-пад гаю, гаю з-пад зялёнага,
А з-пад гаю, а з-пад гаю, гаю з-пад зялёнага
Наляцела да тры стады галубоў.
Палёталі, вароцечкі 'дчынілі,
Крылушкамі увесь двор падмялі,
А й ножкамі ўвесь ганачак стапталі,
Пёрушкамі а й сенушкі вымелі,
А й вочкамі святолушку ўсвяцілі,
Галасочкам удовушку ўзбудзілі:
— Устань, устань, маладая і ўдава,
Выйдзі, выйдзі за цясовы варата,
Прыляж, прыляж к сырэй зямлі-матушцы:
Ці не шуміць зялёная дуброва,

Ці не стогнець шырокая дарога,
Ці не едуць салдацікі сы вайны?
— Шуміць, шуміць зялёная дуброва,
Стогнець, стогнець шырокая дарога,
Едуць, едуць салдацікі сы вайны.
Майго ж мілага не чуць, не відаць,
Майго мілага толькі лошадзя вядуць.
На лашадцы сядзёлушка ляжыць,
На сядзёлушкі шкатулушка стаіць,
У шкатулушцы рубашачка ляжыць.
Я думала, што шаўком ушыта,
Ажны яна кроўю уліта;
Я думала — пазлачаная,
Ажны кроўю саліваная.
І дзе ж мне яе дзець: ці на вадзе вымыць,
Ці на ветру высушыць, ці ў качалкі выкачаць?
А вымыю гаручаю слязою,
А высушу сваім цяжкім ўздыханнем,
А выкачу, белы рукі ломячы.

## 571

Allegretto










Прыляцелі два сізыя галубы,
Селі-палі у ўдовушкі на двары. [1]

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Крыльечкамі падвор'ечка падмялі,
Вочачкамі свяцельнічку свяцілі.

Гоманамі удовушку будзілі:
— Устань, устань, маладая удава,

Да паслухай, да ці шуміць дуброва,
Да ці стогне шырокая дарога,

Да ці стогне шырокая дарога,
Да ці едуць казачэнькі із вайны?

— Шуміць, шуміць зялёная дуброва,
Стогне, стогне шырокая дарога,

Едуць, едуць казачэнькі із вайны,
Вязуць, вязуць міленькага на кані.

Рубашачка ўся жа кроўю ізліта
І пулямі ўся жа яна ізбіта.

Вот цяпер жа ■ навекі удава,
Дзеткі мае да навекі сіроты.

## 572

♩ = 90

На – ля – це – лі, на – ля – це – лі,

на – ля – це – лі а тры сы – зых га – лу – бы,

на – ля – це – лі а тры сы – зых га – лу – бы.

Наляцелі, [1]
Наляцелі а тры сызых галубы,

Селі-палі,
Селі-палі у ўдовачкі на дварэ.

Крылачкамі,
Крылачкамі увесь ганак спісалі,

Лапачкамі,
Лапачкамі ўсё падвор'е стапталі,

Галаскамі,
Галаскамі й удовачку збудзілі:

— Устань-устань,
Устань-устань, удовачка малада.

Ой, паслухай,
Ой, паслухай, а што людзі гавораць.

Твайго мужа,
Твайго мужа на галовачках нясуць,

Схаранілі,
Схаранілі пры шырокай даліне.

## 573

Да ляцелі серыя гусі із Русі,
Селі-палі ў удованькі на дварэ.
Лапкамі сваімі ўсю мураўку істапталі,
А скрыдламі сваімі весь двор укрылі,
Сваімі вочкамі цэлы свет асвяцілі,
Сваімі галаскамі ўдованьку будзілі:
— Ўстань, ўстань, паднімісь, маладая ўдава!
Выйдзі жа, выйдзі за новыя варата
Да паслухай, чы не шуміць дуброва,
Да паслухай, чы не стогнець, не звініць дарога?

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Ажна едуць тры казакі з вайны,
Да вядуць трох конікаў вараных.
— Вот жа табе, маладая удава,
Гэтых трох конікаў на стаенцы гадаваць,
Да за то мілага мужа ў век вякоў не аглядаць

## 574

♩ = 90

А з-пад ле- су, ле – су цём – ма – га,

а з-пад га – ю з-пад зя – лё – на – га

на – ля – це – ла ста – да сы – зых га – лу – бей,

на – ля – це – ла ста – да сы – зых га – лу – бей.

А з-пад лесу, лесу цёмнага,
А з-пад гаю з-пад зялёнага
Наляцела стада сызых галубей. [1]
Селі-палі ва ўдовушкі на дварэ,
Лапачкамі ўвесь дварочак стапталі,
Крылушкамі ўвесь ганачак пабілі,
Галаскамі удовушку збудзілі:
— Устань, устань, маладая удава,
Выйдзі, выйдзі за цясовы варата
А паслушай, ці шуміць дубровушка,
А ці стучыць дарожачка шырака,
А ці едуць казачанькі са вайны.

---

[1] Далей кожны радок паўтараецца два разы.

— Шуміць, шуміць зялёная дуброва,
Стучыць, гручыць шырокая дарога,
Едуць, едуць усе мужы са вайны.
Майго міла толькі коніка вядуць,
А на коніку сядзёлачка ляжыць,
На сядзёлачцы рубашачка вісіць.
Я думала — красным шоўкам вышыта,
Ажна яна уся ж кроўю выліта.
А ні яе ды вадою вымыці,
А ні яе ды на ветры высушыць,
А ні яе ды ў качалачкі скачаць.
Вымыю я, дробны слёзы ронячы,
Высушу я, цяжкім духам дышучы,
Выкачаю, белы ручкі ломячы.

## 575




Шуміць, гарыць сасоначка,
Плача, тужыць ўдовачка.

Плача, тужыць і рыдае,
На шлях біты пазірае.

Як на том жа бітым шляху
Усе ж маскалі з вайны едуць.

Усе ж маскалі з вайны едуць,
Белагрыва каня вядуць.

— Ох ты, косю белагрывы,
Скажы, скажы, дзе мой мілы.

— Вот твой мілы ў гробе ляжыць,
У правай руцэ шаблю дзяржыць.

— Маскалікі, братцы ж мае,
Вы скажыце маёй жане,

Няхай мяне з вайны не жджэ,
Няхай другога шукае.

За другім ей лепей будзе,
Няхай мяне пазабудзе.

## 576




І эй, зашумела дубровачка,
Загручэла дарожачка.

І эй, загручэла дарожачка,
Заплакала удовачка.

І эй, заплакала удовачка:
— Чужыя мужы з вайны ідуць.

І эй, чужыя мужы з вайны ідуць,
Майго мужа не слыхаць, не відаць.

І эй, майго мужа не слыхаць, не відаць,
Мой муж убіт ляжыць.

І эй, а мой муж убіт ляжыць,
Правай рукой каня дзяржыць.

І эй, правай рукой каня дзяржыць,
Левай рукой расу бярэць.

І эй, левай рукой расу бярэць,
Расу бярэць, к сэрцу кладзець.

І эй, расу бярэць, к сэрцу кладзець:
— Раса мая расістая,

І эй, раса мая расістая,
Сэрца маё жывістае,

І эй, сэрца маё жывістае.
Ідзі, конь, дарогаю,

І эй, ідзі, конь, дарогаю,
Накажы маей жане.

І эй, накажы маей жане,
Няхай йна мяне з вайны не жджэ.

І эй, няхай йна мяне з вайны не жджэ,
Хай сабе за маладога йдзе.

## ЛЕС ЗЛАЧЫНЦА

### 577

Галоўка мая прабедная!
Куды я пайду — бог долі не даў.
Пайду я, пайду у цёмны лес,
У цёмным лесе ваўкі загудуць,
Заскогляць на молайца!
Галоўка мая прабедная!
Куды я пайду — мне долі нямаш.
Пайду я, пайду ў чыстае поле,
У чыстым полі явар стаіць,
На тым явары салавей сядзіць,
Засвішча, зашчабеча на молайца!
Галоўка мая прабедная!
Куды я пайду — мне долі нямаш.

Пайду ж я, пайду ў чужую старану,
У чужой старане капаюць ямы глыбокія,
Стаўляюць стаўпы высокія,
Вешаюць сілля пяньковыя —
Хочуць молайца завесіці.
— Стойце, братцы, вы не вешайце,
Ёсцека на мне тры грахі:
Первый жа грэх — бацюшку браніў,
А другі й жа грэх — матушку пабіў,
А трэці й жа грэх — жане душу загубіў.

## 578

Асвяці, свяці, ясён месячык,
І зямлю, ваду, мяне, маладу,
Мяне, маладу, сярод гораду,
Сярод гораду, з добрым малайцом.
Добры маладзец з цюрэм ідзець,
Ён не п'ян, не п'ян, ён шатаецца,
Роду-племені ён пытаецца,
Роду-племені, маладой жаны,
Маладой жаны з дробнымі дзеткамі.
Ацец, матушка даўно памярлі,
Дробны дзетачкі па чужых людзях,
Малада жана даўно замужам.
— Атца, матушку памінаць буду,
Дробных дзетачак да сябе вазьму,
Маладу жану я з ружжа заб'ю.

## ТРЫ ДАРОЖКІ МАЛАЙЦА

## 579

З-пад белага камення
Што крапіўнае карэнне,
Што салдацкае жаленне.
Пры бальшой дарожцы тры казачкі стаялі,
Яны позна вечарам ружжы чысцілі.
А з паўночы казакі у паход пайшлі,

Недалёка прайшоўшы, застанавіліся,
Станавіліся і спаць лажыліся.
Йшла, наступіла сіла варожая,
Пабіла, пагубіла ўсіх казачкоў,
Застаўся адзін добры маладзец.
Пайшоў маладзец на зялёны лужок,
На зялёным лужку тры дарожкі:
Адна дарожка золатам выслана,
Другая дарожка серабрам выслана,
А трэцяя дарожка следам вытаптана,
Следам вытаптана, слёзкамі вылітая.
Першая дарожка — к айцу, к мацеры,
Другая дарожка — к радні, к племені,
А трэцяя дарожка — к маладой жане.
К айцу, к мацеры пайсці — ці жывы, ці не,
К радні, к племю пайсці — ці ўзнаюць, ці не,
А к маладой жане пайсці — ці дома, ці не?
Ох ты, войстрая шабелька, знімі мне галаву,
Зялёныя кусточкі, пашуміце па мне,
Шэрая зязюля, пакукуй па мне.

## ВЯРТАННЕ ДА МАЦІ, ЖОНКІ, МАЧАХІ

### 580

Ой, у полі, у полі стаяла ігрушка,
А з-пад тае йгрушкі да тры дарожкі.

А тудэю йшло да тры салдацікі,
А тудэю йшло да тры салдацікі.

Хто і к мамцы йдзе, дык той песенькі пяе,
Хто к жонцы ідзе — на скрыпачку йграе,

Хто к жонцы ідзе — на скрыпачку йграе,
Хто к мачысе ідзе — сільненька плача.

Пераймала мамка з паўдарожанькі
Із талеркаю, із гарэлкаю,

Із талеркаю, із гарэлкаю.
— Ой, ці там на войска да сонейка ўзышло,

Ой, ці там на войска да сонейка ўзышло,
Што мой сын із вайны прышоў?

Пераймала жонка у вароцечках
Із белым сырам, із маленькім сынам.

— Ой, ці там на вайне месячык ўзышоў,
Што мой міленькі із вайны прышоў?

Пераймала мачыха ў сенях на парозе
Із горкім дымам, із дубовым кіем.

— Ой, ці там на вайне кулек не было,
Што майго пасынка із вайны прынясло?

— Ой, мамачка, хоць няродная,
Скажу табе слоўца, хоць нявернае:

Да ляцелі кулькі, як пчолкі гулі,
Да ляцелі кулькі, як пчолкі гулі.

Да ляцела кулька цераз дарожку,
Да папала кулька коніку ў ножку;

Да ляцела цераз сядзельца,
Да папала коніку ў сэрца;

Да ляцела кулька цераз мосцік,
Да папала коніку ў хвосцік;

Да ляцела кулька цераз горку,
Да папала коніку ў грыўку.

## 581

Ішлі, пашлі тры молайцы,
Дуброваю зялёнаю. [1]
Што ўпярод ідзець, песенькі пяець,
Пасярод што йдзець, у скрыпачку йграець,
А ззаду што йдзець, сільненька плачыць.

---

[1] Рэфрэн «Дуброваю зялёнаю» паўтараецца пасля кожнага радка.

Што ўпярод ідзець, той да матулькі,
Пасярод ідзець, той да жонухны,
А ззаду што йдзець, той да мачыхі.
Матушка сына да й пераймала
Зялёным віном, залатым кубкам.
Жонухна мужа да й пераймала
З беленькім сырам, з маленькім сынам.
Мачыха сына да й пераймала,
Да й пераймала, да й праклінала:
— Ці там на цябе рэчкі не было,
Чаму ты там да й не ўтапіўся?
— А я на рэчку кладачку найду!

### 582

Ах, лесам, лесам тры дарожанькі,
Тудою ішлі тры малойчыкі.

А адзін ідзе — песенькі пяе,
А другі ідзе — ў скрыпачку йграе,

А другі ідзе — ў скрыпачку йграе,
А трэці ідзе — моцненька плача.

А хто да маткі йдзе — песенькі пяе,
А хто да жаны йдзе — ў скрыпачку йграе,

А хто да жаны йдзе — ў скрыпачку йграе,
А хто да мачыхі йдзе — моцненька плача.

Пераймае маці ў паўдарожанькі
З хлебам-соллю, з шчасцем-доляй.

— А рад я таму, толькі аднаму,
Толькі аднаму — маёй матачцы.

Пераймае жана ў вароцечках
З белым сырам, з маленькім сынам.

— А рад я таму, толькі аднаму,
Толькі аднаму — роднаму сыну.

Пераймае мачыха ды на парозе
З горкім дымам, з дубовым кіем,

З горкім дымам, з дубовым кіем:
— Чаму на цябе, сынок, вайны не было?

— Вох ты, мачыха, вох ты, дзіўная,
Я й на вайне быў — ніхто не забіў:

Каля мяне кулі, як пчолы, гулі,
Пад мной конікі моцненька ірзалі.

Пад мной конікі моцненька ірзалі,
Каля мяне шабелькі, як звон, звінелі.

## 583




Цераз шчыры бор тры дарожачкі,
Ай, рана, рана, тры дарожачкі. [1]
Туды ж ба ішло тры малойчыкі.
Первы малойчык ў скрыпачку йграець,
Другі малойчык песенькі пяець,
Трэці малойчык сільненька плачыць.
Ў скрыпачку йграець — ён к мамцы ідзець.
Песенькі пяець — к жане маладой,
Сільненька плачыць — к ліхой мачысе.
Мацi сустрэла ў паўдарожачкі,

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ай, рана, рана».

Жана сустрэла ў паўвароцікаў,
Ліха мачыха — ў паўпарожачка.
Маці сустрэла з беленькім сырам,
Жана сустрэла з маленькім сынам,
Ліха мачыха — з дубовым кіем.

## 584

♩ = 85

Ой, з-пад ле - су, ле - су цём - на - га,
ой, з-пад ле - су, ле - су цём - на - (га)
там да - рож - ка пра- ла - жо - (на).

## ДЗЯЛЬБА БРАТОЎ

## 585

Жылі-былі тры браточкі,
Пажаніліся і падзяліліся:
Большы братка ўзяў шчырае злота,
Сярэдні узяў шчырае срэбра,
А меншы узяў старую матку.
Пашлі ж яны ў карчомку гуляць.
Большы братка з карчомкі ідзе —
Сільненька плача:
— Нашто ж я браў шчырае злота?
У мяне ў доме не ў парадачку:
Жана мая не ў загадзе,
А дзетачкі не ў кукомнасці.

Сярэдні братка з карчомкі ідзе —
Сільненька плача:
— Нашто ж я браў шчырае срэбра?
У мяне ў доме не ў парадачку:
Жонка мая не ў загадзе,
А дзетачкі не ў кукомнасці.
Меншы братка з карчомкі ідзе —
Песенькі пяе:
— А хвала ж табе, божа,
Што я матку ўзяў:
У мяне ў доме ў парадачку,
І жонка мая ў загадзе,
І дзетачкі мае ўсе ў кукомнасці.

## 586




Як жылі-былі да тры брахненькі,
А жыўшы-быўшы, раздзяліліся.

Большы брат узяў рыжа золата,
Сярэдні брат ўзяў чыста серабра,

Мяньшой брат узяў атца з матушкай.
А ў нядзелюшку паранёшаньку

Большы брат ідзець ўдоль па вуліцы,
Ўдоль па вуліцы, слёзна плачучы:

— А нашто ж я ўзяў рыжа золата,
А чаму не ўзяў атца з матушкай!

А ў дварэ ў маім непарадачак,
Дзеткі мае мне ў пуць не йдуць.

[А] ў нядзелюшку паранёшаньку
Сярэдні брат ідзець ўдоль па вуліцы.

[Сярэдні брат ідзець ўдоль па вуліцы,]
Ўдоль па вуліцы, слёзна плачучы:

— А нашто ж я браў чыста серабра,
А чаму не ўзяў атца з матушкай!

А ў дварэ маім непарадачак,
Дзеткі мае мне ў пуць не йдуць.

А ў нядзелюшку паранёшаньку
Мяньшой брат ідзець ўдоль па вуліцы.

Ўдоль па вуліцы, ў гуслі йграючы:
— А слава богу і славім яго,

А што я не ўзяў рыжа золата,
А што я ўзяў атца з матушкай!

А ў дварэ ў мяне ўсё парадачак,
А дзеткі мае мне ў пуць ідуць.

## ДВА БРАТЫ

### 587

♩ = 66

Як жы - лі- бы - лі да два бра - ты,

Як жы - лі - бы - лі да два бра - ты.

Як жылі-былі да два браты, [1]
Адзін быў багаты, другі бедны.
[У] багатага брата пірушкі-гулюшкі.
— Як пайду, брацец, у лясочак,
Як высеку, брацец, чаўначочак,
Як пушчу, брацец, па Дунаю.
Па Дунаю вецер падуваець,
Чаўночак вада набіваець,
А я, добры маладзец, патанаю,
Я к сабе паратуначку гукаю.
Друзьё-пабрацімы па беражку ходзяць,
Мяне ж то, малайца, не ратуюць.
Пры віннай жа чары друзьёў многа,
Пры злэй жа гадзіне нет нікога!
Адкуль жа ўзяўся да родны брацец,
Па шыюшку ў ваду паступаець,
Шаўковы шнурочак закідаець:
— Бярысь-ка, мой брацец, за шнурочак,
Хадзі-ка, мой брацец, да на беражочак.

## ЦЕШЧА У ПАЛОНЕ У ЗЯЦЯ-ТАТАРЫНА

### 588

Ой, лятаў-лятаў да сівы гарол,
У кіпцёх ён нясець руку белую,

Руку белую малайцоўскую,
А ўдагон яму ясён сакол:

— Пагадзі-пастой ты, сівы гарол,
А дзе быў-жыраваў ты, сівы гарол?

— А я быў-жыраваў на пабоішчы,
Над шырокай ракой каля Клецiўска!

А там послань сцелена ды галовамі,
Усё галовамі малайцоўскімі.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

А там кроў плыве ды Дунай-ракой,
А ваўкі грызуць белы костачкі.

Там агні гараць, там катлы кіпяць,
І татары стаяць, палон дзелючы,

Палон дзелючы, падзяляючы,
Дзяцей з маткамі разлучаючы.

Даставалася сястра брату-патурчаніну,
Сястра брату, цешча зяцю-басурманіну.

А брат сястру дамоў пусціў,
Дамоў пусціў, добра слоўца казаў:

— Ты вяртай, сястра, борзда дадому:
Прыдуць татары налета ўзнову.

Прыдуць узнову хмарай страшною,
Стануць абозам ля нашага двору.

[А прывёз зяць цешчу маладой жане,]
А прывёз зяць цешчу маладой жане:

— Вось табе, мая малада жана,
Вось табе з вайны паланяначка.

Будзе яна табе, мая верна жана,
Векавечная твая работніца.

А вам, дзетачкі мае, будзе нянькай яна.
А ты дай ей, жана, тры работанькі:

Перша работа — тонкі кужаль прасці,
Друга работа — гусей ў лузе пасці,

Трэця работа — дзіця калыхаці,
[Трэця работа — дзіця калыхаці.]

Ножкамі маці дзіцё калыхае,
Дзіцё калыхае, сціха падпявае:

— Ой, люлі-люлі, маё ты мілае,
Ой, люлі, дробна дзіцятка.

А па бацьку ты мне татарчатка,
А па маці ты мой унучатка!

Як учула дачка песню з пакою,
Бяжыць у сені борздай стралою:

— Ой, кінь, кінь, маці, дзіцё калыхаці,
Хадзем у пакоі, а сядзь за сталом.

Бяры ў мяне, маці, ключы залатэя,
Адмыкай жа імі дубовыя скрэні.

Бяры злота-срэбра, колькі табе трэба,
А будзь у мяне, родна, як у сябе дома!

— Дзіцятка маё, Аленка, мілое,
Не нада мне грошы, пусці дадому,

[Не нада мне грошы, пусці дадому,]
Пусці дадому ў клецкі староны.

## 589

У нядзелю пад панядзелак
Звала нявехна завіцу нанач:
— Хадзі, завічка, хадзі, сястрычка,
[Хадзі, сястрычка,] ка мне нанач!
— Баюсь, нявехна, баюсь, галубка.
— Не бойсь, завічка, не бойсь, сястрычка:
Ёсць у мяне каморка смаловая,
У мяне завалы дубовыя,
У мяне замочкі нямецкія,
У мяне караватка цясовая,
У мяне пярыны пуховыя,
У мяне падушкі цвятовыя,

У мяне палажочкі бярчастыя.
Ой, стучыць-гручыць кала каморкі...
Завіца кажа: «Татары едуць!»
Нявехна кажа: «Начлежнікі ідуць,
Коней вядуць, пужкамі сякуць».
Адзін прышоў — каморку адбіў,
А другі прышоў — палажок адкрыў,
А трэці прышоў — завічку павёў.
— Нявехна мая — здрадніца,
Здрадзіла ты мяне, маладую,
Як вішаньку садавую,
Як ягадку баравую.
Ой, не татка мяне выпраўляе,
Не мамка мяне сураджае,
Не браты мне вароты адчыняюць,
Не сёстры мяне праважаюць.
Выпраўляе мяне ясен месяц,
Сураджае мяне цёмная ночка,
Адчыняюць вароты буйныя ветры,
Праважаюць мяне яркія звёзды!
Пашла мамулька дачкі шукаці.
Ідзе поле, ідзе другое,
На трэцім полі стаіць хатачка,
А ў той хатачцы — татарачка.
Зайшла мамулька ў тую хатку,
Татарка кажа: «Бабулечка,
Наймісь ка мне дзяцей калыхаць,
Белымі рукамі кужалю прасць,
Ярымі вачамі гусей пасць».
— Кужалю прасць — падумаці,
А гусей пасць — пагуляці.
— Садзісь, бабка, у мяне дзяцей калыхаць,
А я пайду к суседу на бяседу.
Ой, стала татарачка пад дзвярмі
Да й слухае, як баба дзяцей калыша.
А яна калыша да й «коціка» прыпявае:
— Ай, нуце спаткі, мае татараняткі!
Вы не татараняткі, вы мае доньні дзіцяткі!
Увайшла татарка ў хату
Да й за слязамі свету не бача:
— Кідай, бабулька, дзяцей калыхаці,
Хадзем, бабулька, бяседы вадзіці,
Ты не бабулька — мая мамулька.

Наехалі, наехалі ўсё татарыны,
Наехалі ўсё татарыны.[1]

Сталі яны, сталі яны дзяльбу дзяліці,
Сталі яны дзяльбу дзяліці.

Таму-сяму, таму-сяму па татарыну,
Таму-сяму па татарыну.

Дасталася, дасталася, ой, цешча зяцю,
Дасталася, ой, цешча зяцю.

Загадаў зяцька, загадаў зяцька тры дзелы дзелаць,
Загадаў зяцька тры дзелы дзелаць:

Первае дзела, первае дзела — белы кужаль прасці,
Первае дзела — белы кужаль прасці.

Другое дзела, другое дзела — серых гусей пасцівіць,
Другое дзела — серых гусей пасцівіць.

Трэцяе дзела, трэцяе дзела — дзіця калыхаць,
Трэцяе дзела — дзіця калыхаць.

— Я ручкамі, я ручкамі белы кужаль праду,
Я ручкамі белы кужаль праду.

Я глазкамі, я глазкамі серых гусей пасу,
Я глазкамі серых гусей пасу.

Я ножкамі, я ножкамі дзіця калышу,
Я ножкамі дзіця калышу.

— Баю, баю, баю, баю, маё дзіцятка,
Баю, баю, маё дзіцятка.

Па матушцы, па матушцы — мой унучачак,
Па матушцы — мой унучачак.

Па бацюшцы, па бацюшцы — мой татар'евіч,
Па бацюшцы — мой татар'евіч!

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы

591

Andante

Ба - ю, ба - ю, ма - я дзі - цень - ка,

ба - ю, ба - ю, ма - я дзі - цень - ка,

ба - ю, дзі - ця, ба - ю, да - ра - га - я.

## СВАТАННЕ-НАПАД

592

Да што ў полі за дымы дымяць,
Да што ў полі за агні гараць?
Турэцкі цар з вайны едзець.
А зачула Марысечка,
Да зачула яго душачка:
— Татулечка мой родненькі,
Замкні й мяне на трыста замкоў,
З трыста замкоў да хоць у тры,
Каменнейкам пазавалівай,
Калодзейкамі пазакачывай.
— Чалом, чалом, да Іванавіч,
Выведзь сваю да дачушачку,
Выведзь сваю да Марысечку!
Іван, таго не ўбаяўшыся,
Вывеў сваю да чалядніцу.
Турэцкі цар да з каня далоў,
Трыста замкоў да паадмыкаў,
Калодзейка да паадкідаваў,
Каменнейка да паадкачаваў.
— Чалом, чалом, да Марысенька,
Чалом, чалом, мая душачка,
Сядай са мной да на коніка.

5. Зак. 811

А мой конік варанюсенькі,
Каламажачка маляваненькая,
Аглоблічкі вызлацаныя.
Едзем поле, едзем другое,
На трэцяе ўз'язджаем мы.
— Пастой, да пастой, турэцкі цар,
Аддай маю да Марысеньку,
Аддай маю да дачушачку.
Марысечка, мая дачушачка,
Ай, вярніся да адкланіся,
З айцом, маткай папрашчайся!

## 593




Пайшоў Іван у карчомачку,
Ён упіўся ды пахваліўся.

Ён упіўся ды пахваліўся:
— Ёсць у мяне дзве дачушачкі.

Адна дачка ды Марусечка,
А другая ды Ганусечка.

Пашла Ганусечка хусты праць,
Прала, прала ды ўзлякнулася.

Прала, прала ды ўзлякнулася,
Пад ёй мора скалыхнулася.

А прышла ж яна дамовачкі,
Стала яна ў канцы ложачка:

— А мая ж ты ды матулечка,
Што я ў роўным полі відзела:

У роўным полі ды агні гараць,
Агні гараць да дымы дымяць.

— А мая ж ты ды дачушачка,
Ці ты ж таго ды не сазнала?

Ці ты ж таго ды не сазнала,
Што па цябе царскі сын едзець?

Выняй хусты найнавейшыя,
Надзень сукні даражэйшыя...

## 594

Што у полі за карчомка,
У тэй карчомцы шынкарачка.

У тэй карчомцы шынкарачка,
А ў тэй шынкарачкі дзве дачушкі.

Адна звалася Кастусечка,
А другая Ганусечка.

Селі яны пад аконца,
Пралі яны валаконца,

Глянулі ж яны ў аконца.
— А мая ж ты мамачка!

Што ў лесе за дым дыміць,
Што ў полі за агонь гарыць?

— Мая ж ты Ганусечка,
Малады яшчэ розум маеш.

Малады яшчэ розум маеш,
Яшчэ ўсяго не сазнаеш.

Гэта ж едзе маскоўскі цар,
Маскоўскі цар і царскі сын.

Яны ж хочуць цябе ўзяці.
— А мая ж ты матусечка!

Прыбяром мы Кастусечку
Ды ў маю сукеначку.

Прыбралі Кастусечку
Ды паставілі у ганачку.

Служкі з коней не ссядаюць,
З страмён ножкі не вымаюць:

— Бярыце ж вы Кастусечку,
А стаўце вы Ганусечку,

Або я вас агнём спалю,
Або я вас агнём знясу.

А паставілі Ганусечку,
А забралі Кастусечку.

Служкі з коней пассядалі,
З страмён ножкі павымалі.

А ехалі ж яны, ехалі,
Даехалі да сіня мора.

— А мой жа ты мілюсенькі,
Пусці ж мяне умыціся.

Пусці ж мяне умыціся,
Да свякроўкі убрацiся...

— А божа ж мой мілюсенькі,
Які ж я нешчаслюсенькі!

А мая ж ты Ганусечка,
Я цябе ад бацькоў адвёз.

Я цябе ад бацькоў адвёз
І сваім бацькам на паказ не завёз.




Выйду, выйду за вароцейка,
Як гляну я ў роўна полейка.

Як гляну я ў роўна полейка:
А што ж ў полі за агні гараць?

А што ў полі за дымы дымяць?
Усё ж маскоўя на канях сядзяць.

Як увідзела Ганулечка:
— Матка ж мая ды й матулечка!

Матка ж мая ды й матулечка,
Схавай мяне пад трыста дзвярэй.

Схавай мяне пад трыста дзвярэй,
Замкні мяне пад сорак замкоў.

Выбер служку найвярнейшую,
Злажы сукню што найлепшую.

Паставі ж яе й у ганачку,
Пасчытаюць за Ганулечку.

Як прыехаў да маскоўскі сын,
Дак з коніка не ссядаючы,

Дак з коніка не ссядаючы,
З струмен ножкі не вымаючы:

— Выйдзі, выйдзі да кралевіча,
Падай дачку да Ганулечку,

А то будзе ўся сям'я адвячаць,
Старой матцы з плеч галоўку здымаць.

Як пачула ж ды Ганулечка:
— Матка ж мая да матулечка!

Выпусць мяне з-пад трыста дзвярэй,
Адамкні мяне з-пад сорак замкоў:

Як мела ж за мяне сям'я адвячаць,
Лепей буду я адна прападаць.

А як вышла ж да Ганулечка,
А як вышла ж да у ганачак,—

Да з конікаў пассядалі,
Да з струмен ножкі павымалі.

Да з струмен ножкі павымалі:
— Ой, дзень добры, да Ганулечка.

Як узялі ж да Ганулечку,
Як узялі ж да за ручаньку.

Пасадзілі да ў карэтачку,
Вязлі поле, вязлі другое.

На трэцяе не ўз'язджаючы,
Стала ж яна да прасіціся:

— Пусціце к Дунаю умыціся
Да гладзенька учасаціся.

Да гладзенька учасаціся,
К тому свету прыбраціся.

— Каб я знаў, я б ад маткі не браў,
Лепей бы я адзін прападаў.

596

А што ў полі за дым дыміць,
А што ў лесе за шум шуміць,
Там княжы сын з вайны едзець.
Заязджаець к Яну на двор.
— Ах ты, Ян, ты, Янушка,
Выведзі сваю Марусеньку
За белу ручаньку!
А Ян таго не спужаўся,
Вывеў сваю чалядзіну.
— Ах ты, Ян, ты, Янушка,
Не кпі з княжага сына,
Будзець табе безгалоўейка!
А Ян, спужаўшыся таго,
Вывеў сваю Марусеньку
За белую ручаньку.
Селі яны і паехалі.
Едуць поле і другое,
На трэцяе уз'язджаюць,
Пайшлі у святолушку,
Пілі-елі і далей паехалі.
Прыязджаюць к сіне мору.
— Ах ты, князь, мой княжыч,
Пусці ж мяне ўмывацiся.
Не верыш мне — пусці слуг са мною,
А не верыш слугам — йдзі сам са мною.
Стала Маруся вымывацiся,
Стала мора калыхацiся.
— Майму тату — шанаваннейка,
Маёй маме — слезаваннейка,
Маім сёстрам — мае ўборы,
Маім братам — мае коні,
Майму Януську — залаты пярсцянёк,
Майму княжычу — залато сядло,
А я, малада,— камянём на дно.

597

Былі ў бацькі тры дачушкі.
Пайшлі яны ў ягадкі.

Адну дачку звяры з'елі,
А другая ўтапілася.

А другая ўтапілася,
А трэцюю татары ўкралі.

Татарачка па двары ходзіць
Ды ўсё свайго мілага просіць:

— Дай мне, мілы, вяровачку,
Пайду у лес па травачку

Ды накармлю каровачку.
Учула тое мамка яго:

— На давай, сынку, вяровачку,
Яна пойдзе павесіцца.

Татарачка па двары ходзіць
Ды ўсё свайго мілага просіць:

— Дай мне, мілы, вядзёрачка,
Пайду ў Дунай па вадзіцу

Ды напаю каравіцу.
Учула тое мамка яго:

— Не давай, сынку, вядзёрачка,
Яна пойдзе ўтопіцца.

Татарачка па двары ходзіць
Ды ўсё свайго мілага просіць:

— Дай мне, мілы, да ножычак,
Пайду рэзаць хустачку.

Не ўцэліла у хустачку,
А папала ў шчыра сэрца.

## 598

Паехаў каралевіч
У поле ваяваці,
Сабе панну шукаці.

Да забачыў падалянку
На высокім ганку.
— Слугі мае дарагія,
Прывядзіце мне падалянку
З высокага ганку.
Як узялі яе пад ручкі,
Стала бела, як бяроза,
Як пасадзілі яе на скамейцы,
То стала, бы чырвона роза.
Яна стала лісты пісаці
Ды да маткі слаці.
— Мая маці родная,
Прышлі мне шоўкаў пояс,
Ды белы ручнічок,
І залаты пярсцёначак.
— Годзе табе, дочка, сваволіці.
— Не, мацянка, я не сваволю:
Пад мячом я стаяла,
Па няволі я шлюб брала,
Пад мячом залаценькім,
З каралевічам маладзенькім.

599

Жыла ўдоўка багатая,
А ў яе дочка харошая.
Пашла на бераг ложак мыць.
Яшчэ ложак не памыла,
Цёмная хмарка уступіла.
— Ой, мамка мая радненькая,
Што ж то за хмарка цямненькая?
— То ж не хмарка, да царэвіч едзе.
— Ой, мамка ж мая радненькая,
Дзе ж ты мяне захаваеш?
Трома дзверамі пазачыняеш,
Трома замкамі пазамыкаеш!
Прыехаў царэвіч да церама,
А ў цераме адчыніліся самі дзверы.
— От табе, ўдоўка багатая!
От твая дочка харошая!
Няхай яна ні табе, ні мне,
Няхай яна гніе ў сырой зямле.

## ТАТАРЫ-СВАТЫ

### 600

Ой, сюй ночы стучэла-грымела,
Я думала, што брат з войска ідзе.
А то ехалі татарэ-баярэ,
Вязлі з сабой тры падаляначкі,
Тры падаляначкі — ўсе тры сёстранькі.
Ой, старшую везлі ў чырвоным убранні,
А сярэднюю везлі ў зялёным жупане,
А найменшую везлі голеньку-нагеньку.
Ой, найстаршай трэба чыпок вышываці,
А сярэдняй трэба вяночак увіці,
А найменшу трэба на Дунай пусціці.
Няхай плыве да ойца, да маткі,
Да сваёй радзінанькі.

### 601

Не дзве хмаранькі з-міжы гор выступаюць,
Ой, рано-рано, з-міжы гор выступаюць.[1]
Там татараве Падол ваявалі,
Вываявалі тры падаляначкі.
Старшая плача па валах, па каровах,
Сярэдняя плача па сваёй горкай долі,
Меншая плача да ойца, да матанькі.
Ой, старшай даці валы і каровы,
Сярэднюю даці маладым ахвіцэрам,
Меншу пусціці а з ціхаю вадою.

### 602

## СУСТРЭЧА СЯСТРЫ З БРАТАМ-«ТАТАРЫНАМ»

А ў нядзелю параненька
Наехалі татары,
Ўсе дзевачкі пазаймалі,
Ў чыста поле пагналі.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ой, рано-рано».

Жануць поле, жануць друга,
А на трэцім трэ стаці
І конікі папасаці.
— Станьма, браце, пры даліне,
Падзелімо па дзяўчыне —
Нялася сястра брату.
Узяў яе за ручаньку,
Павёў яе ў святлічаньку,
А сам засеў у карты граці,
Дзеўку заставіў пасцель слаці.
Пасцель сцеле, сільна плача,
Сільна плача, цяжка дыша.
Ў карты грае і пытае:
— Чаго ты, дзеўка, плачаш,
Сільна плачаш, цяжка дышаш?
— Ой, таго ж я сільна плачу:
Мая маці удованька,
А я бедна сіротанька.
Парадзіла дзевяць сыноў,
А дзесяту дочку,
Да і тую бяздолечку.
Два служаць капітану,
А два служаць гасудару,
А два служаць пры гетману,
А два служаць нашаму пану,
Дзевятага не відна:
Чы ў агні пагарае,
Чы ў бойску пагібае,
Чы на моры патапае.
— Дзякуй богу, дапытаўся,
Што ад бога граху не набраўся
І з сястрою не звянчаўся.
Слугі мае вярненькія,
Запрагайце коні вараны,
Паедземо да маценькі.
Сын ідзе із вайніцы,
Маці бяжыць із піўніцы,
Нясе ў руках дзве шкляніцы.
Ў правай руцэ — то та дачцэ,
Ў левай руцэ — то та сыну.
Дала сыну — сын напіўся
І з коніка пахіліўся.
Дала дачцы — напілася,

За сэрданька узялася.
— Матка наша радненькая,
Дзе ж ты нас пахаваеш?
— Сына свайго — пры касцеле,
А дачушку — ў чыстым полі.
На сынаві — зялёны явар,
На дачушцы — бярозанька.
Ліст із лістом зліпаецца,
Мацерына сэрца нажом крае:
— Што ж я, бедна, нарабіла,
Дзеткі свае родны патруціла.

## 603

У нядзелю, у нядзелю параненьку
Татарове палон гналі.

Жануць поле, жануць поле, жануць другэ,
А на трэцім апачыньма.

А на трэцім, а на трэцім апачыньма,
Па дзеўчыне падзелімо.

Ўсім татарам, ўсім татарам па дзяўчыне,
Сястра брату й нялася.

Сястра брату, сястра брату й нялася,
Слёзанькамі аблілася.

— Ой, дзяўчына, ой, дзяўчына-дзяўчынанька,
Ой, якога ты роданьку?

— А я ж роду, а я ж роду ўдавінага,
Жыла ўдава блізка двара.

Жыла ўдава, жыла ўдава блізка двара,
Мала ж яна дзевяць сыноў.

Мала ж яна, мала ж яна дзевяць сыноў,
Дзесяту дочку-бяздольначку.

Адзін служыць, адзін служыць дзесь пры пану,
Адзін служыць дзесь пры пану.

Другі служыць, другі служыць дзесь пры пану,
Другі служыць дзесь пры пану.

Трэці служыць, трэці служыць дзесь пры цару,
І чацвёрты — дзесь пры цару.

Пяты служыць, пяты служыць пры пісару,
Шосты служыць пры пісару.

Сёмы служыць, сёмы служыць пры гетману,
Восьмы служыць пры гетману.

А дзевяты, а дзевяты чы ў агні пагарае,
Чы ў вадзе патанае.

— Хвала богу, хвала богу, што спытаўся,
Што з сястрою не звянчаўся.

Хвала богу, хвала богу, што даў знаці,
Што з сястрою не лёг спаці.

## ПЕТРАВА ЖОНКА У ПАЛОНЕ У ТАТАР

### 604

А Пётрава маці па двару ходзіць,
А па двару ходзіць, ручачкі ломіць,
Ручачкі ломіць і Пётру пабуджае.
— Ах, уставай, Пётра, Пётра малады,
А ўжо тваю жонку татары ўзялі
І павялі яе на круту гару.
А за крутой гарой тры елі стаіць,
А за тымі елямі тры сталы стаіць,
А за тымі сталамі — Пётрава жана.
Як ускочыць Пётра з белыя ложы,
Як пабяжыць Пётра ў нову камору.
— А ўставайце, служанькі найвярнейшыя,
Выбірайце конікаў вы найлепшых,

Асядлайце Пётру сіўца-воранца,
Ды паедзем жа мы за круту гару.
Там за крутой гарой тры елі стаіць,
А за тымі елямі тры сталы стаіць,
А за тымі сталамі Пётрава жана
На тры лісты піша, назад не зірне.
Маладому Пётру слова прамовіла:
— Разлучысь, Пётра, з сваімі дзяцьмі,
Павянчайся, Пётра, з маладой жаной.
Як кінецца Пётра аб сыру зямлю:
— Няхай разлучыць мяне сыра маць-зямля,
А павянчае мяне жоўты пясочак,
Пракукуе мне шэра зязюля,
Пращчабечуць мне дробныя пташачкі:
А шэра зязюля — мамачка мая,
А дробныя пташачкі — дзетачкі мае.

## УДАВА РАЗМАЎЛЯЕ З АРЛОМ

### 605

Каля рэчкі Дняпра
Там хадзіла ўдава,
Там хадзіла ўдава.
Там забачыла яна
На явары арла.
— Ой ты, арол, мой арол,
Да ты чорны, як варон,
Ты высока лятаеш
І далёка пазіраеш.
А ці не відзеў ты, арол,
Майго мілага дружка?
— Ох, твой міленькі дружок
Ён з туркамі ваюе,
Ён з туркамі ваюе
Па каленачкі ў крыве
Ды й па пашачкі ў трупе.
А на яму рубашоначка
Ўся ўскіпела у крыве.
— Ой ты, арол, мой арол,
Ох ты, чорны варон,

Ты высока лятаеш
І далёка пазіраеш.
Прынясі-ка ты, арол,
Мне рубашачку ад яго.
Выпару я рубашачку
Сваімі гаручымі слязьмі.
Высушу я рубашачку
Сваёю сухатой,
Перашыю рубашачку
Я сваёю красатой.

## РАЗВАЖЛІВАЯ ДЗЯУЧЫНА У ПАЛОНЕ

### 606

Дунаю, Дунай, чаго ціха йдзеш?
За сабою, Дунай, тры палкі вядзеш:
У першым палку конікі іржуць,
А ў другім малайцы пяюць,
А ў трэцім палку дзяўчына плача.
Конікі іржуць — ад вады ідуць,
Малайцы пяюць — з сабою бяруць.
Ой, стаў капітан дзяўчыны пытаць:
— Дзяўчына мая, чаго ты плачаш?
Ах, ўзяў бы цябе — няроўная мне.
Вазьму ж я цябе за свайго слугу:
Яму будзеш шыць, а мне вышываць,
Яму будзеш слаці, а са мною спаць.
— Жаль, жаль, капітан, няпраўда твая.
Дзе ж два месяцы пры адной зарэ?
Дзе ж два мужы жывуць пры адной жане?
Каму буду жана, таму й мілая,
Каму буду шыць, таму й вышываць,
Каму буду слаці, з тым і лягу спаць.

### 607

— Дунай, Дунай, Дунайчык мой,
Чаму ж ты, Дунай, так ціхенька ідзеш?
— Як жа ж мне, Дунаю, ціхенька неісці?

Бо па мне, Дунаю, тры чаўны плывуць,
У першым чаўночку ўсе конікі ржуць,
У другім чаўночку салдаты пяюць,
У трэцім чаўночку дзяўчына плача.
Прышоў да яе сам пан-капітан.
— Чаго ты, дзявіца, так сільна плачаш?
Узяў бы цябе за жонку — не раўня ты мне.
Вазьму цябе за слугу сваю.
Слузе будзеш пасцель слаць, а са мною разам
спаць.
— Не свецяць два месяцы пры адной зары,
Ой, не жывуць дзве жонкі пры адном мужы.

## 608

Дунаю, Дунаю, чаму ціха ідзеш? [1]
— А як мне, Дунаю, паціху не ісці?
На мне, Дунаю, тры чаўны ідуць.
Да ў адным чаўночку конікі ірзуць,
У другім чаўночку малайцы пяюць,
А ў трэцім чаўночку дзяўчаты плачуць.
Конікі ірзуць, бо вайну чуюць;
Малайцы пяюць — на вайну ідуць;
Дзяўчаты плачуць — замуж не хочуць.
Да прышоў да яе сам пан-капітан.
— Чаго ты, дзяўчынка, так сільна плачаш?
Ці ты, дзяўчынка, замуж не хочаш?
А ўзяў бы я за сябе — няроўна ты мне.
Вазьму я цябе за свайго слугу:
Яму будзеш жана, а мне мілая,
Яму будзеш пасцель слаць, а са мной ляжаш спаць.
— Няпраўда твая, сам пан-капітан!
Каму буду пасцель слаць, з тым і лягу спаць.
А ці свецяць два месяцы пры адной зарэ?
Ды не жывуць два мужы пры адной жане.
— Дзяўчына, дзяўчыначка размысленая,
Была б твая галовачка з плеч зрубленая.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## 609

Учора рака, рака быстра йшла,
Учора рака, рака быстра йшла,
Сягоння рака замуцілася.
— Як жа мне, рацэ, рацэ, быстра йці?
Нада мною, ракой, тры роты стаіць:
Первая рота — рота польская,
Другая рота — рота маскоўская,
Трэцяя рота ўсё жаўнерская.
У польскай роце конічак іржэць,
Конічак іржэць — на вайну ідзець.
У маскоўскай роце шабелькі блішчаць,
Шабелькі блішчаць — галовы ляцяць.
У жаўнерскай роце дзеванька плачыць,
Дзеванька плачыць — замуж не хочыць.
Прышоў да яе старжант-капітан:
— Не плач, дзеванька, не плач, красная,
Узяў бы за сябе, не стоіш мяне.
Ай, вазьму, вазьму цябе за слугу сваго,
Слузе будзеш жана, а мне мілая,
Слузе пасцель слаць, са мной ляжаш спаць,
Слугу абнімаць, мяне цалаваць.
— Няпраўда твая, старжант, няпраўда, капітан:
А й нет у зары па две месяцы,
А й нет у жаны па два мужыкі.
Каму буду жана, таму й мілая,
Каму пасцель слаць, з тым лягу спаць,
Каго абнімаць, таго й цалаваць.

## 610

Moderato






Ў каралеўскім войску конікі ірзуць, [1]
А ў пана-лацмана дзевачка плачыць,
Дзевачка плачыць — замуж не хочыць.
— Цыц жа ты, дзевачка, цыц жа ты, не плач,
Вазьму цябе замуж за слугу свайго.
Яму будзеш гатаваць, а мне падаваць,
Яму будзеш пасцелю слаць, а са мною спаць.
— А пану, мой пану, бадай ты прапаў!
Не насіла мая маць па два паясы,
Не любіла мая маць па два мужыкі.
Каму буду гатаваць, таму буду падаваць,
Каму буду пасцелю слаць, із тым буду спаць.

## 611




— Ай, рака, рака, рака быстрая,
А чаго ж, рака, так смутна стала?

— Чаму ж мне, рацэ, не смуціціся?
Нада мной, ракой, тры роты стаіць.

А ў первай роце сівы конь іржэць,
Сівы конь іржэць — дарожку чуець.

А ў другой роце малайцы пяюць,
Малайцы пяюць — у паход ідуць.

А ў трэцяй роце шабелькі звіняць,
Шабелькі звіняць — галоўкі ляцяць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Дзявіца плачыць — у палон бяруць.
— Не плач, дзявіца, не плач, молада.

Калі ж буду я да й жаніціся,
Вазьму ж я цябе за жану сваю.

## РЫЦАР БАЙДА

### 612

Да й у Слуцку на рыначку
Да піў Байда гарэлачку.

Турэцкі цар наязджае,
Маладога Байду намаўляе:

— Ой ты, Байда маладзюсенькі,
З цябе ж рыцар слаўнюсенькі!

Будзеш ты панам, будзеш гаспадарам —
Вазьмі маю дачку-царэўначку!

— Твая ж дачка паганачка,
Яе вера праклятая!

Тут крыкнуў цар на свае служкі,
На свае служкі вярнюсенькі:

— Ой вы, служкі вярнюсенькі,
Вазьміце ж Байду да й звяжыце.

[Вазьміце ж Байду да й звяжыце,]
На гак рабром перачапіце!

Вісіць Байда не дзень, не два,
Ані адну ночку, ані гадзіночку...

На трэці дзень праглядае,
Да свайго цюры прамаўляе:

— Ой ты, цюра вярнюсенькі,
Падай лучок тугусенькі!

Забачыў я трох галубочкаў,
Буду страляці цару на вячэру.

Трапіў цара пасярод лаба,
А царыцы — ў патыліцу.

А царову дочку — пад ручочку!
— Вота жа табе, цару, за Байдаву кару.

Было табе знаці, як Байду караці:
Лучша табе было галаву з плеч зняці,

А па яго смерці з гармат страляці,
А цяпер будзем разам паміраці.

## КАРАЛЕВІЧ, ЗНЯМОЖАНЫ ВАЙНОЮ

### 613

А ў полі, у полі пад грушачкаю,
Там стаяла ложа з падушачкаю.

Там стаяла ложа з падушачкаю,
Да на той жа ложы каралевіч ляжыць.

Да на той жа ложы каралевіч ляжыць,
Прышла да яго каралеўна яго:

— Ой, устань, каралевіч, устань, не ляжы,
Бо ўжо тваё войска туркі абнялі.

— Няхай абнімаюць, як самі знаюць:
Баляць мае ногі, па гарах ходзячы,

Баляць мае ногі, па гарах ходзячы,
Забалелі рукі, цягнучы лукі,

Баляць мае вушы, стогны чуючы,
Баляць мае вочы, на кроў гледзячы.

## ТАЯМНІЧАЕ ЗНІКНЕННЕ ЖОНКІ (СЯСТРЫ, МІЛАГА)

### 614




Ехаў-паехаў князь па полі, [1]
Сеяў красачкі-васілёчкі,
А пасеяўшы, аглянуўся.
— Красачкі, мае васілёчкі,
А хто вас будзець даглядаці,
Зрання, вечарам паліваці?
Сястрыца мая мала-мала,
Матка мая стара-стара,
А жана мая на Дунаі
А бяллё мыець бялюсенька.
А ці яна там утанула?
Як жа яна там утанула,
Сіняе мора скалыхнула б.
А ці яе там ваўкі з'елі?
А было б тамка талачышча
І крывавае балацішча.

### 615

Хадзіў маладзец бел па полі, [1]
Сеяў красачкі-васілёчкі,
А пасеяўшы, сеў, паехаў,
А паехаўшы, аглянуўся,
Сваім васількам адклікнуўся:
— Васількі мае баравыя,

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Хто вас будзе даглядаці,
Рана вечарком палівaці?
Мамулька стара-старусенька,
Сястрыца мала-малюсенька,
Жоначка млода-младзюсенька
Як пайшла ў Дунай па вадзіцу.
Ці яна там заблудзіла?
Ці яна там утанула?
Ці яе там ваўкі з'елі?
А каб яна заблудзіла,
Зялёны лясы зашумелі б.
А каб жа яна утанула,
Сіняе б мора ўскалыхнула.
А каб жа яе ваўкі з'елі,
Была б слава вялікая.

## 616




Хадзіў маладзец па загор'ю,[1]
Сеяў красачкі-васілёчкі,
А пасеяўшы, проч ад'ехаў,
А ад'ехаўшы, аглянуўся,
На красачкі схамянуўся.
— Красачкі мае, васілёчкі,
Хто ж вас будзе дагдядаці,
Раннім вечарам паліваці?
Мамка ж мая старушэнькая,
Сястра ж мая малюсенькая,
Жонка ж мая маладзенькая
Пайшла ў Дунай хусты мыць.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

А ці яна там утанула?
А ці яна там заблудзіла?
А ці яе там ваўкі з'елі?
А каб жа яна утанула,
Вада б тады забурліла.
А каб жа яна заблудзіла,
Лясы-бары б зашумелі.
А каб жа яе ваўкі з'елі,
Там было ж бы лагавішча,
Лагавішча-крывавішча.

## 617




Хадзіў-пахадзіў Ясь па полі,
Сеяў-рассяваў васілёчкі.

А рассеяўшы, проч паехаў,
Ад'ехаўшы, аглянуўся.

А ад'ехаўшы, аглянуўся,
Сіні васілёк скалыхнуўся.

— Васілі ж мае, васілёчкі,
А хто ж вас будзе палівацi?

А хто будзе вас паліваці,
Ад злых марозаў укрываці?

Мамка стара, сястра мала,
А жана малада на Дунай пашла.

Да ці яна там утанула?
Да ці яе там звяры з'елі?

Каб яна там утанула,
Сіняе мора ўскалыхнулась.

Да каб яе там звяры з'елі,
Крывавыя б рэчкі ды пабеглі.

## 618




Хадзіў-пахадзіў Ясь па полю,
Сеяў-рассяваў васілёчкі.

— Васількі мае дарагія,
Ды хто ж вас будзе паліваці?

Мамка старая, сястра малая,
А жонка мая на Дунай пайшла,

На Дунай пайшла хусты мыці,
Пайшла на Дунай, не вярнулась.

А ці яна там утанула,
А ці яна там заблудзіла?

А ці яна там заблудзіла,
А ці яе там звяры з'елі?

Ды каб жа яна утанула,—
Ціхі бы Дунай ўскалыхнула;

Ды каб жа яна заблудзіла,—
Ды усе б лясы пасушыла;

Ды каб жа яе звяры з'елі,—
Лясы і бары зашумелі б.

Дык, знаць жа, яна ўкрадзёна,
На Украінaчку завязёна!

## 619




Хадзіў-пахадзіў Ясь па полі, [1]
Сеяў-рассяваў васілёчкі,
А пасеяўшы, аглянуўся.
— Красачкі мае, васілёчкі,
А хто ж вас будзець даглядаці,
Зрання, вечарам паліваці?
Сястрыца мая малюсенька,
Мамачка мая старусенька,
А жаны маёй дома нету,
Пайшла на Дунай хусты мыці.
Да ці яна там утанула?
Да ці яна там заблудзіла?
Да ці яе там звяры з'елі?
Да каб жа яна утанула,
Сіняе б мора скалыхнула.
Да каб жа яна заблудзіла,
Дык бы бары загудзелі.
Да каб жа яе звяры з'елі,
Дык бы буйны ветры зашумелі.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## 620




## 621

Сеяў маладзец васілёчкі,
Пасеяўшы, проч паехаў,
Ад'ехаўшы, ён агляну́ўся.
— Красачкі мае, васілёчкі,
А хто ж вас будзе палівацi?
А хто ж вас будзе даглядаці?
Мая матулька старанькая,
Мая сястрыца маленькая,
Мая жонухна маладая.
Ды пашла яна у крынічку
Па халодненькую вадзічку.
Ды ці яна там ўтапілася?
Ды ці яна там заблудзіла?
Ды ці яе там ваўкі з'елі?
Каб яна там ўтапілася,
Была б поўна крынічка.
Ды каб яе там ваўкі з'елі,
Была б травічка пакрапана.

## 622

Ехаў, паехаў Ясь па полю,
Ехаў, паехаў па чыстаму.

Сеяў, рассяваў васілёчкі,
Сеяў, рассяваў ўсе цвяточкі.

Сеяў ён, сеяў, аглянуўся,
Што яго конік спатыкнуўся.

— Васілёчкі мае, васілёчкі,
Васілёчкі мае баравыя!

А хто ж вас будзець палівацi,
А хто ж вас будзець даглядацi?

Мамка мая старая не ўздалеець,
Сястрыца малая не сумеець,

Жана маладая ў грыбы пашла.
А цi яна там утанула?

А цi яна там заблудзiла?
А цi яе там ваўкi з'елi?

А каб жа ж яна заблудзiла,
Усе ж бы лясочкi засушыла.

А каб жа ж яна утанула,
Усе ж бы лясочкi ўскалыхнула.

А каб жа ж яе ваўкi з'елi,
Усе ж бы лясочкi зашумелi.

## 623

Andante




Па полечку бел малойчык паязджае,
Баравы цвет васiлёчак высявае.

— Расцiце вы, мае краскi-васiлёчкi,
Без полiва, без накрыва, без прыгляду,

Што некаму васілёчка зберагаці,
Ад марозаў, ад халадоў прыкрываці.

Адна была ў мяне младшая сястрыца,
Тая пашла ў ціхі Дунай па вадзіцу.

Калі б яна на Дунаі затанула,
Тады б яна Дунай-рэчку скалыхнула.

Еслі б яе у цёмным лесе звяр'ё з'ела,
На тым месцы б траўка-мураўка пачарнела.

На тым месцы б траўка-мураўка сталачона,
Куды б мая сястрыца звалачона.

Еслі б яна ў цёмным лесе заблудзіла,
К катораму б беражочку прыблудзіла.

## 624




Хадзіў-пахадзіў Ясь па полі, [1]
Сеяў-рассяваў васілёчкі.
Рассеяўшы, сеў, паехаў,
Ад'ехаўшы назад, аглянуўся.
Тут жа мой сівы конік страпянуўся.
— Ах вы, мае красачкі-васілёчкі,
А хто ж вас будзець цяпер паліваць?
— А брацетка мой родненькі,
А вазьмі ж ты мяне з сабой.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

А вазьмі ты маё гора,
Завязі яго ў чыста поле,
Каб там дзеўкі не хадзілі
І цвяточкі не збіралі,
Маё гора не таптаалі.

## 625




На бітым гасцінцы карчомка стаяла,
А у той карчомцы дзеўка начавала.

Наехалі хлопцы а ўсё маладыя,
Пад імі конікі сівы, вараныя.

Пад імі конікі сівы, вараныя,
А на іх сядзёлкі а ўсе залатыя.

Сталі яны піці, сталі гаварыці,
Сталі гаварыці, як дзеўку збудзіці.

Дзяўчынанька ўстала, ручкі заламала,
Ручкі заламала, сільна заплакала:

— Ой, божа мой, божа, дзе мой мілы дзеўся,
Ці ваўкі заелі, ці ў Дунай ўтапіўся?

Каб ваўкі заелі, лугі зашумелі б,
Каб ў Дунай ўтапіўся, Дунай бы разліўся!

## ДАЧКА ТОНЕ Ў ДУНАІ (ВІРЫ)

### 626




Вох, паслала дачку маці
Да Дунаю воду браці.

Ой, жджэ-пажджэ дачкі маці —
Няма вады і дзіцяці.

Пашла жа сама маці
Да Дунаю і пытаці,

[Да Дунаю і пытаці:]
— Дунаю, як мне цябе зваць?

Вох, ці мне цябе зяцем зваць,
Ці мне цябе таплёнічкам?

— Ой, не заві мяне зяцем,
Да заві мяне таплёнічкам:

Я тваю дачку ўтапіў,
Маладую з свету збавіў

Да з русенькай касы,
Да з дзявоцкай красы.

### 627

Была ў маці адна дачка,
Яна была самавольніца.

А паслала яе маці
Ды й у вір ваду браці.

Яна вады не брала,
Каля віру скакала,

Каля віру скакала,
Ды й у вір ускочыла.

А пайшла яе маці
Каля віру шукаці.

— Ой, віру, мой віру,
Як жа цябе называці?

Ці назваці цябе зяцем,
Ці назваці патапейнічкам,

Ці назваці патапейнічкам.
Зялёным муравейнічкам?

— Не заві мяне зяцем,
Заві мяне патапейнічкам,

Заві мяне патепейнічкам,
Зялёным муравейнічкам.

## 628

Пайшлі дзеўкі ў ягады,
У чырвоны журавіны,

Пайшлі яны ў журавіны,
Адну дзеўку загубілі.

Прыйшлі яны да Дунаю,
Адна дзеўка ўтапілася,

Адна дзеўка ўтапілася,
З кладачкі звалілася.

Пайшлі весці па воласці,
Зайшлі да яе мамачкі.

Пайшла маці, гукаючы,
Свае дочкі шукаючы.

Пайшла маці, шукаючы,
Прыйшла яна да Дунаю:

— Ой, Дунаю, мой Дунаю,
Як я цябе звацъ думаю:

Ці назваць цябе Дунайчыкам,
Або ціхім патопчыкам?

Ці назваці цябе зяцем,
Што ты маю дачку узяў?

## МАЦІ НЕ АДДАВАЛА ДАЧКУ ЗАМУЖ, ТАЯ ПАМЕРЛА

### 629

♩ = 65

Жы - ла ўда - ва ў ка- н(ы)- цы ся - ла,

жы - ла ўда - ва ў ка - н(ы)- цы ся - ла,

ме - ла дач - ку- пры - дат - нач - ку.

Жыла ўдава ў канцы сяла, [1]
Мела дачку-прыдатначку.

Мела дачку-прыдатначку,
Тонка прала й звонка ткала.

То сёй, то той прысылаўся,
Маці дачкі не аддавала.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Маці дачкі не аддавала,
Маці дачкі шкадавала.

Маці дачкі шкадавала,
На вясёнку адкладала.

А як прышла вясна красна,
Ўзяла дачка ды й памерла.

— Ой, божа ж мой міласцівы,
Што ж мне цяпер і зрабіці?

Што мне цяпер і зрабіці,
За каго сваткі садзіці?

Што дубочак — то й сваточак,
Бел бярэзнік — то й сваточкі.

Бел бярэзнік — то сваточкі,
Тонкі арэшнік — то дружачкі.

Тонкі арэшнік — то дружачкі,
Ціхі Дунай — то музыкі.

Ціхі Дунай — то музыкі,
Цясовая дошка — то свякроўка.

Цясовая дошка — то свякроўка,
Жоўты пясок — то зяць мой.

Жоўты пясок жа — то зяць мой:
Узяў дачку, не сватаўшы,

Узяў дачку, не сватаўшы,
Не сватаўшы і не пытаўшы.

## 630



Была ў маткі адна дачка,
Адна дачка-работначка.

Да яе кавалеры ўдаваліся,
[Да яе кавалеры ўдаваліся.]

Яе матка: «Не аддаць!»
Сырая зямля: «Дасе ўзяць!»

Сырая зямля расступіла,
Дачку з маткай разлучыла.

. . . . . . . . . . .

Матка плача, як звон звініць,
Татка плача, як гром грыміць,

Сястра плача, як зязюлька кукуе,
Братка плача, як салавейка свішча.

## МАЛОЙЧЫК ПАТАНУЎ, ДЗЯЎЧЫНА ПРАКЛІНАЕ РЭЧКУ

### 631

♩ = 75

(Э )Што ка – зак ха – ро – шань – кі,
што ка – зак пры – го – жань – кі
ду – маў рэч – ку пе – рай – сці, і
ду – маў рэч – ку пе – рай – сці.

Што казак харошанькі, што казак прыгожанькі
Думаў рэчку перайсці, і думаў рэчку перайсці.

Намасціў ён кладачак, намасціў ён жордачак,
Удоль па рэчушкі пайшоў, і ўдоль па рэчушкі пайшоў.

Кладачка схілілася, жордачка зламілася,
На дно мілы затануў, і на дно мілы затануў.

Увідала дзевіца, увідала красная
З высокага церама, і з высокага церама.

Пабрала вядзёрушкі, пабрала судзёнышкі,
У рэчку па ваду пайшла, і ў рэчку па ваду пайшла.

Набрала вядзёрушкі, набрала судзёнышкі,
Стала рэчку праклінаць, і стала рэчку праклінаць:

— А бадай ты, рэчушка, а бадай ты, быстрая,
Іржой, граззю заплыла, іржой, граззю заплыла.

Як ты майго мілага, дружка чарнабрывага
З свету белага звяла, і з свету белага звяла.

## 632

Я сягоння нездарова,
Баліць мая галава.
Эй, схадзіце, прывядзіце
Майго мілага сюда.

Пасадзіце ў галовачках,
А можа, я адыду.
Мостам, мостам, маставінай
Аж да мілага двара,

Маставіна правалілась,
А мой мілы ў рэчку ўпаў.
А там хлопцы-рыбалоўцы
Рыбу-шчуку лавілі.

Ах вы, хлопцы-рыбалоўцы,
Закідайце невады,
Закідайце, выцягайце
Майго мілага з вады.

Калі выцягніце жывога,
Буду рэчку спамінаць,
Калі выцягніце патамнóга,
Буду рэчку праклінаць:

А бадай ты, быстра рэчка,
Ды чаротам зарасла,
Як ты майго міленькага
Ў ціхі Дунай занясла.

## 633

Andante

Як мне труд – нень – ка, як мне нуд – нень – ка,
я не зна – ю, ой, ча – му? Ох, пай– дзі – це мне,
пры – вя – дзі – це мне, ка – го я вер – нень – ка люб – лю.

Як мне трудненька, як мне нудненька,
Я не знаю, ой, чаму?
Ох, пайдзіце мне, прывядзіце мне,
Каго я верненька люблю.

Ой, пайдзіце мне, прывядзіце мне
Харошага малайца,
Што расчэсаны жоўты кудзеркі
Частым і густым грабушком.

Расчасаў жа ён жоўты кудзеркі,
Белу шапку налажыў,
Белу шапку белу налажыўшы,
Да паненкі прыхадзіў.

Цераз рэчаньку, цераз быструю
Маставінанька ляжыць,
Маставінанька апазыбнулася,
І друг міленькі затануў.

Ох вы, хлопчыкі-рыбалоўчыкі,
Ох, закіньце невада,
Да злавеце ж вы, да паймеце ж вы
Маго мілага із вады!

Ой, як зловіце, ой, як поймеце,
Будзем рэчку спамінаць,
Як не зловіце, як не поймеце,
Будзем рэчку праклінаць.

Ой, вада тая, быстра рэчанька,
Каб ачаротам зарасла.
Як яна ж маго да міленькага
Да ў быстры Дунай занясла!

## 634

Andante

Це – раз рэ – чань – ку, це – раз быст – ру – ю
зыб – ка кла – дач – ка ля – жыць. Це – раз там – ту – ю
зыб – ку кла – дач – ку мой мі – лень – кі пры – бя – жыць.

Цераз рэчаньку, цераз быструю
Зыбка кладачка ляжыць.
Цераз тамтую зыбку кладачку
Мой міленькі прыбяжыць.

Зыбка кладачка пахілілася,
Мой міленькі затануў.
Ён часаў, часаў свае кудзеркі
Бялюсенькім грабянцом.

Ён умываў да сваё лічанька
Зімнай вадой да з мылцом.
Ён уціраў бела лічанька
Тонкім белым ручнічком.

Пачасаўшыся, паўмываўшыся,
Ў той рэчаньцы затануў.
[Пачасаўшыся, паўмываўшыся,
Ў той рэчаньцы затануў.]

— Ах, малойчыкі-рыбалоўчыкі,
Закідайце невада!
Ды знайдзеце ж мне, да злапайце ж мне
Харошага малайца!

Калі зловіце, калі жыў будзе,
Буду рэчку спамінаць.
Як не зловіце, як жыў не будзе,
Буду рэчку праклінаць.

Бадай, рэчанька, бадай, быстрая,
Густым трасцём зарасла,
Ах, як ты маяго мілюсенькага
За сабою панясла!

Бадай, рэчанька, бадай, быстрая,
Жоўтым пяском заплыла,
Як ты маяго чарнабрывага,
Ой, навекі да ўзяла!

## 635

Часаў мальчык кудзеркі, часаў мальчык русыя
Сваеваласочкі.

Расчасаўшы кудзеркі, расчасаўшы русыя,
Сам да дзевіцы пайшоў.

Не дайшоў да дзевіцы, не дайшоў да краснае —
Быстра рэчка працякла.

Цераз тую рэчку, цераз тую быструю
Тонка кладачка ляжыць.

Цераз гую кладачку, цераз тую тонкую
Белы моладзец пайшоў.

Кладачка абвалілася, шапачка звалілася,
Бел моладзец патануў.

Завідзела дзевіца, завідзела красная
З высокага церама.

Схваціла вядзёрачкі, схваціла цясовыя,
Стала рэчку выліваць.

Не выліўшы рэчку, не выліўшы быструю,
Стала рэчку праклінаць:

— Няхай цябе, рэчанька, няхай цябе, быстрая,
Брудам, пяском занясе.

А як табе, рэчанька, а як табе, быстрая,
Без крутога беражка,

А так жа мне, дзевіцы, а так жа мне, краснае,
Без мілага без дружка.

# КАРАЛЕВІЧ (МАЛОЙЧЫК) ГІНЕ Ў ШЛЮБНЫМ СПАБОРНІЦТВЕ

## 636

Па гары хаджу, вінаград саджу,
Гэй, гэй, вінаград саджу. [1]
Расці, вінаград, тонкі, высокі,
Тонкі, высокі, дробны, шырокі.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, гэй».

На ём ягадкі дробны, салодкі.
Вінаград пасаджу, ў красату пайду.
З красаты выйду, вяночка й заўю.
Звіўшы вяночка, пайду ў таночка.
Із танка прыду, на ваду пушчу,
На ваду пушчу, на быстру рэчку.
Хто вяночка пойме, той мяне возьме.
Ой, адказавае каралёў сын:
— Я ж вяночка пайму і цябе вазьму
Ступіў ён нагою — па каленца стаў,
Ступіў ён другою — валасок сплаў.
— Ой, бяжы, коню, да й дарогаю,
Да й дарогаю, да й шырокаю,
Забяжы, мой коню, к новаму двору.
Ой, стукні, бразні капыцечкамі,
Штоб падковачкі зазвінелі,
А капыцечкі зашчымелі.
Ой, то там выйдзе старая жона,
Старая жона — то маці мая,
Дасць яна табе аўса, сена,
Да спытаецца свайго сына.
Не кажы, коню, што утапіўся,
Да скажы ж, што ажаніўся.
Узяў жану — быстру рэчку,
Узяў я ў сваты беражкі круты,
Узяў свашачкі — малы пташачкі,
Узяў дружачкі — ў вадзе рыбачкі.

## 637

Па лугам, лугам дзявочкі ішлі,
Дзявочкі ішлі, красачкі няслі.
Красачкі няслі, вяночкі вілі,
Вяночкі вілі, на Дунай пускалі.
А ўсе вянкі паверх вады,
Адзін мой патануў.
Адна дзеўка рэч гаворыць:
— Хто мой вянок пярэйміць,
За таго я замуж пайду!
Адкуль узяўся купечаскі сын
На вараном кані:
— Я твой, дзеўка, вянок перайму,

Я цябе, дзеўка, замуж вазьму.
Прывязаў каня к ініцай лазе,
К ініцай лазе, к белай бярозе.
Первы раз ступіў — па калена ў ваду,
Другей раз ступіў — па белы плечы,
Трэці раз ступіў — шляпа паплыла.
Ён і рэч гаворыць:
— Рвісь, мой конь, рвісь, вараны,
Ад ініцай лазы, ад белай бярозы,
Бягі, мой конь, бягі, мой вараны,
К майму бацюшку, к маёй матушцы.
Не кажы ж ты, мой коня, што я заліўся,
А спомні, мой коня, што я жаніўся.
Узяў за сябе быструю рэчушку,
Сватовы мае — у моры начоўя,
Свашачкі мае — мелкія пташачкі,
Ізгалоўе маё — крутэя беражкі,
Пасцеля мая — жоўтыя пяскі!

## 638




Ой, рана, рана куры запелі,
Каляда, куры запелі. [1]
Ой, яшчэ раней Ганначка ўстала.
Ганначка ўстала, коску ўчасала.
Коску ўчасаўшы, павы пагнала.
Павы жанучы, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў хвартушок клала.
З хвартушка брала, вяночак віла.
Вяночак звіла, на Дунай пусціла.
— Хто вяночка пойме, той мяне возьме.

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Каляда».

Ой, адазваўся малады Васілька:
— Я вяночка пайму, я цябе вазьму.
Як ступіў нагою — па пояс вадою.
Як ступіў другою — на дно галавою.

## 639

Няма пана дома, паехаў да Гродна,
Па мэд, па гарэлку, па харошую дзеўку.
Ой, прыехаў наш пан з Кабрыня, з Валыня,
Ой, прывёз ён сабе тры валыначкі,
[Тры валыначкі,] ўсе тры сяструначкі.
Перша сястра едзе на вараным коні,
Друга сястра едзе на залатым сядле,
Трэцproperly сястра едзе, кашулечку шые,
Шые, вышывае, на Дунай пускае:
— Хто кашулечку пойме, той Мар'ечку возьме!
Адазваўся Міхалачка на той бок Дунаю:
— Я кашулю пайму, сабе Мар'ечку вазьму!
Уступіў [ён] нагою — па пояс у воду,
Як ўступіў другою — на дно галавою.
— Ой, бяжы ты, коню, проста дарогаю,
Ой, забяжы, коню, да маяго дому.
Ой, не кажы, коню, што я утапіўся,
Адно скажы, коню, што я ажаніўся.
Ўзяў сабе сванечку — і ў моры шчучачку,
Ўзяў сабе мілу — ў полі магілу,
Ўзяў сабе сватове — і ў моры рачкове.

## 640



Па саду хаджу, зелле рассаджу,
Гэй, гэй, зелле рассаджу.[1]
Зелле рассаджу, вяночка заўю,
Заўю вяночка, пайду ў таночка.
З таночка прыду, на Дунай спушчу.
Хто й вянка пойме, той мяне возьме.
Ох, адазваўся сам малойчычак:
— Я й вянка пайму, я й цябе вазьму.
Ступіў нагою — стала па шыю.
Ступіў абыма — шапачка сплыла,
Шапачка сплыла, на Дунай паплыла.
— Ой, бяжы, коню, да й дарогаю.
Не скажы, коню, што я ўтапіўся,
Да скажы, коню, што я ўжаніўся.
Браў я свашанькі — звер'я, пташанькі,
Браў я свашыцы — звер'я, пташыцы,
Браў я дружанькі — звер'я, шчучанькі.

## 641

Moderato

Па-се-ю я ру-ту, ру-ту за ра-ко-ю,
па-са-джу дзя-рэў-ка за мо-рам блі-зень-ка,
па-са-джу дзя-рэў-ка за мо-рам блі-зень-ка.

---

[1] Другая частка кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, гэй».

## СЯСТРА УТАНУЛА

### 642

Вой, жылі-былі ды два брацеткі,
Дума ж мая, й дума, дума над думою. [1]
Ды два брацеткі, трэцяя сястрыца.
Пайшлі брацеткі на луг касіць.
Аставілі сястрыцу абед варыць.
Во ім сястрыца абед зварыла.
Селі брацеткі самі абед есці,
Паслалі сястрыцу каня паіці.
Во іх сястрыца каня паіла,
Каня паіла, сама ўтанула.
Пака брацеткі сястру шукалі,
Ужо яе цела рыбка аб'ела.
Ужо яе валасы вада аб'ела.

## ЖОНКА УТАНУЛА

### 643

А ў Тураве на мураве,
А ў Кіеве на рыначку...
Ходзе Янка па беражку.
— Ды чаго ж, Янка, тута ходзіш,
Ці ты ж, Янка, рыбку ловіш,
Ці ты, Янка, людзей перавозіш?
— Ліхі мае перавозы,
Абліваюць горкі слёзы,
Як сок цячэ із бярозы.
Была ў мяне жонка міла,
На камені ножкі мыла,
Ў Дунай-рэчку затанула,
Траіх дзетак пакінула,
Чацвёртае ў павіточку,
Трудна сэрцу й жываточку.
— Не плач, Янка, не журыся,
Не плач, Янка, не пячалься,
Яшчэ молад — ажэнішся.

---

[1] Рэфрэн «Дума ж мая, й дума, дума над думою» паўтараецца пасля кожнага радка.

## ЖОНКА ПАМЕРЛА

### 644

Там малойчык папар арэ[1]
Да на валы гукае,

Да на валы гукае,
На сонейка пазірае:

Ці высока сонейка
Да ці пара абедаці.

— Што ўсе жонкі абед нясуць,
Мая жана ні снедання,

Мая жана ні снедання,
Ні позняга абедання.

Ні позняга абедання,
Ні ранняга вячэрання.

Прыаруся я к гарэ
Да пакіну свае валы ў ярме,
А сам пайду к сваёй жане.

Узыходжу на падвор'е —
Падворайка не вясёла.

Уваходжу я у сені —
Сені мае не мецены.

Уваходжу я ў хату —
У печы мае не палена,

У печы мае не палена,
Дзеткам есці не варана.

Дзеткі плачуць — есці хочуць.
— Дзеткі мае маленькія,

---

[1] Першы радок кожнай страфы (за выключэннем сёмай) паўтараецца два разы.

Дзеткі мае маленькія,
Дзе ж вашая маці?

— Наша маці ў караваці
Пад светленькім акном,

Пад светленькім акном
Да з маленькім сынком.

— Жана мая маладая,
Ці не было дзіцяці,

Ці не было дзіцяці
Па суседку паслаці?

Ці не было другога
Да па мяне, маладога?

Вазьмі, божа, валы ў ярме,
Вярні маю жану ка мне.

— Што ж бы гэта за смерць была,
Штоб памершы жыва была.

## 645




На балоце касец косіць, [1]
Паклаў касу да й галосіць:

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

— Чаго ж мая каса тупа,
Чаго ж мая жонка скупа?
Да ўсе людзі абед нясуць,
А мае жонкі не відна.
Кіну ж валоў на дуброве,
А сам жа пайду дадому.
Падыходжу к вароцечкам —
Вароцечкі не адчынены
Да й па двару не ходжана.
Адчыніў я ў хату дзверы,
Аж у хаце не мецена,
А ў печы не палена.
Жана сына нарадзіла
Да й сама ляжыць нялсыва.
Дзіцятачка маленькае.
Жана ж мая міленькая!

## 646

♪ = 150

Што й пад ле - сам, што й па цём - ным,

та - м(ы)а - ра - лі, ой, д(ы)-ва бра - точ - кі.

Што й пад лесам, што й пад цёмным, [1]
Там аралі, ой, два браточкі,

Там аралі два браточкі,
Там аралі, гаварылі:

— А ўсім, братка, абед нясуць,
А нам, братка, нямашачка.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Адпражыма, братка, коней
Да й пусціма й на лужочак.

Самі пойдзем, паабедаем,
Сваіх жонак адведаем.

Прыходжуем к вароцечкам —
Сядзяць дзеткі ў вароцечках.

— Ці вы, дзеткі, абедалі?
— Мы шчэ, татка, не снедалі.

Парадзіла маці сына,
Сама крэпка уваснула.

— Ці вы, дзеткі, не будзілі?
— Мы будзілі — не ўзбудзілі.

Мы будзілі — не адгукнулась,
Мы гукалі — не адгукнулась.

— Ці не было, дзеткі, бабы,
Што не дала мамцы рады?

## 647

Andante

Да па - шоў му- жы - чок ў чыс - та по -
- ле га - рацъ, эй, эй, ў чыс - та по - ле га - рацъ.

Да пашоў мужычок
Ў чыста поле гарацъ,
Эй, эй, ў чыста поле гараць [1]

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з дадаткам «эй, эй» упачатку.

Да забыўся хлеба,
Хлеба, солі узяць.

Да гарэ мужычок,
Да пагукувае:

— Да чужыя жаначке
Да палуднаць нясуць.

Адно мае міленькае
З абедам няма.

Ой, пастаўлю я валэ
На высокай гарэ,

А сам пайду дадоманьку,
Адведаю міленькае.

Прыходжу я дадоманьку —
Аж браменька замкнёна,

Вадзіца не ношана,
Расіца не трушана.

Аж мая міленькая
Сынка парадзіла.

[Сынка парадзіла,]
Сама ляжыць няжыва.

Ці не было ратуначку,
Ні блізкай суседачкі?

Ах, божа-збавіцелю,
Да й знімі мае валы,

[Да й знімі мае валы]
Да з высокай гары,

Да й вярні маю жану,
Жану з тамтага свету!

Не дзяля мяне, маладога,
Да для дзіцяці малога.

— О, дзіўны ты чалавеча,
Ці адзін ты такі на свеце?

Што ж гэта за свет настаў,
Каб умёр і зноў устаў.

## 648




Што за белым бярэзнічкам,
За зялёным арэшнічкам

Там два братцы папар аруць,
Яны аруць і гаворань.

Яны аруць і гаворань:
— Хадзем, братка, паабедаем.

Хадзем, братка, паабедаем,
Тваю жану атведаем.

Прыхаджу я к вароцечкам —
Вароцечкі затвораны.

Вароцечкі затвораны,
Шчэ па двару не ходжана.

Шчэ па двару не ходжана,
Шчэ расіца не топтана.

Прыходжу я і ў хатачку,
Жана сына спарадзіла.

Жана сына спарадзіла,
Накрыж ручкі сашчапіла.

— Жана мая міленькая,
Плача дзіця маленькае.

Плача дзіця маленькае,
Ці не было суседачкі?

Ці не было суседачкі
Адратаваць ад смертачкі?

### 649

А ў садзе, ў садзе, ў вінаградзе [1]
Стаіць сіў косюк на парадзе.

Ніхто не сядзець, не паедзець,
Да й сеў вусары і паехаў.

Паехаў вусары к цешчы ў госці —
Цешчы варотцы замкнёныя.

— Стукні, сіў косю, капытамі,
Каб ключы-замкі падляталі,

Каб мая жана вышла ка мне.
Не вышла жана, вышла цешча.

— Вот, мой зяцюхна, не журыся:
Ужо твая жона умаржона.

Ужо твая жона умаржона,
У вішнёвым садочку палажона.

Паехаў вусары на магілу,
Прывязаў коніка да рабіны.

— Ох, устань, жана, устань, міла.
— Вот, мой міленькі, не журыся,

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Вот, мой міленькі, не журыся,
Пажджы нядзелькі ды жаніся.

Да будзець жана, будзець міла,
Маім дзетачкам пойдзець крыва.

Вот будзець жана, будзець любка,
Маім дзетачкам будзець жутка.

## 650

Moderato

Ой, у са – ду, са – ду, ў ві – на – гра – ду
ста – іць сі – вы ко – нік на па – ра – ду.

Ой, у саду, саду, ў вінаграду
Стаіць сівы конік на параду.

Ніхто сена не накосіць,
Ніхто яму цаны не паложыць.

Ішло два малойцы з Украіны,
Яны яму сена накасілі,

Яны яму цану палажылі.
Сеў малоец старшы да й паехаў.

— Бяжы, коню, край балота,
Сваёй мілай пад варота.

Не вышла жонка, да і цешча:
— Пажджы, пажджы, сівы конік, ешча:

Твою мілу пахавалі,
Ў вішнёвым садочку палажылі.

Прыехаў малойчык ды да саду,
Прывязаў каня да вінаграду.

Прывязаў каня да вінаграду,
Пашоў да мілай на параду.

— Жоўценькі пясочак, рассыпіся!
Зялён дзярночак, расхіліся!

Цясовы дамочак, адчыніся!
Мая міла, акажыся!

Ці мне, мілая, да жаніціся,
Ці мне, міла, журыціся?

— Ой, не кажу табе журыціся,
Кажу табе жаніціся.

Вазьмі сабе жонку маладую,
Маім дзеткам матку гарэнькую.

Вазьмі жонку у вяночку,
Маім дзеткам матка у пясочку.

## 651

Andante

Ой, у са – ду, ў са – ду, ў ві – на – гра – ду

ста – іць сі – вы кон – нік на па – ра – ду.

Ой, у саду, ў саду, ў вінаграду
Стаіць сівы конік на параду.

Ніхто каню сена не заложыць,
Ніхто яму цаны не наложыць.

Прышло тры купчыкі з Украіны,
Яны ж яму цану налажылі:

Сто чырвоных злотых палажылі.
Адзін купец кажа, што конь добры.

Другі купец кажа, што конь догі.
Трэці купец, сеўшы, да й паехаў.

— Бяжы, бяжы, коню, ўсё шырока,
Да мае мілое пад варота.

Аж не вышла міла, вышла маці:
— Пакінь, пакінь, зяцю, штурмаваці.

Ужэ тваю мілу пахавалі,
Жоўценькім пясочкам прысыпалі,

Зялёнай мураўкай аблажылі,
Крыжык над галоўкай паставілі.

Скочыў мілы з коня, як шалёны,
Пабег жа ў садочак, у зялёны.

— Міла ж мая, міла, што ж зрабіла,
Як мяне з дзеткамі аставіла!

— Ціха, мілы, ціха, не журыся,
Па вішнёвым саду прахадзіся.

Няхай ветрык голаў правявае,
Да галоўкі розум прыбывае.

Ой, мілы, ты па мне не журыся,
Прыждаўшы восені, ажаніся.

Возьмеш сабе жонку у вяночку,
Удовіну дачку да й паненачку.

Возьмеш сабе жонку маладую,
Маім дзеткам матку нерадную.

## 652

Andante

А ў на – дзе – лю ра – на со – нень – ка ус – хо – дзіць,

там мой мі – лень – кі па са – доч – ку хо – дзіць.

А ў нядзелю рана соненька усходзіць,
Там мой міленькі па садочку ходзіць,

Дзяціну малую на ручаньках носіць.
— Уставай, мілая, дзяціна плача!

— Няхай плача, няхай тое знае,
[Няхай тое знае,] што мамы не мае!

— Уставай, мілая, кароўкі рыкаюць!
— Выпушчай цялятка, няхай высысаюць!

— Уставай, мілая, коні ў стайні ржуць!
— Выпушчай на вулачку, няхай пагуляюць!

— Уставай, мілая, жыта урадзіла!
— Няхай родзіць, хоць у трубы ўецца,

Ужо маё сэрданька назад не вярнецца.
— Уставай жа, міла, гаспадарка гіне!

— Няхай гіне, няхай пагінае,
Бяры маладую — няхай папраўляе.

## 653

♩ = 78

Ча – рач – ка ма – я ме – да – ва – я,
з кім я ця – бе піць бу – ду, да – ра – га – я,
з кім я ця – бе піць бу – ду, да – ра – га – я?

Чарачка мая медавая,
З кім я цябе піць буду, дарагая? [1]

Без мілага дружанька, без савету,
Дзесь паехаў мілы мой, дома нету.

Ой, паехаў мілы мой у дарогу,
Ён пакінуў мілую нездарову.

Ой, прыехаў мілы на варота:
— Выйдзі, выйдзі, мілая, краша злота.

Ой, не вышла мілая, вышла маці:
— Годзе, годзе, зяцейка, жартаваці.

Бо ўжо твая мілая снараджона,
На дубовай лаваньцы палажона.

Васковая свечанька запалёна,
Цісовая труначка ўжо зраблёна.

Глыбока магілка выкапана,
Чырвона калінанька пасаджана.

Ой, паехаў мілы мой да магілы,
Прывязаў ён коніка да каліны,

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А сам жа ён прыпаў да магілы:
— Устань, устань, мілая, падзівіся,

На правую ручаньку узапрыся,
Пазволь, пазволь, мілая, ажаніцца.

— Не жаніся, міленькі, у суботу,
Не бяры ты ўдовушку на сухоту.

А жаніся, міленькі, у нядзельку,
Не бяры ты ўдовушкі, бяры дзеўку.

## 654




Ой, у садзе, садзе-вінаградзе
Стаяў сівы конік на парадзе.

Ніхто таму каню цаны не наложыць,
Дваццаць пяць чырвонцаў не паложыць.

Наехалі купцы з Украіны,
Таму каню цану налажылі.

Таму каню цану налажылі:
Дваццаць пяць чырвонцаў палажылі.

Адзін купец кажа, што конь добры.
Другі купец кажа, што конь строгі.

Трэці купец кажа: «Асядлаю,
Асядлаўшы, сяду ды паеду».

Еду поле, еду і другое,
А на трэцяе поле узʼязджаю.

А на трэцяе поле узʼязджаю,
Шырай, шырай каня паганяю.

— Шырай, шырай, конік, у вароты,
Ці не выйдзе жана ў срэбра-злоце?

Ой, не выйшла жана, выйшла маці:
— Годзе табе, зяцю, шурмаваці.

А ўжо твая жана памірала,
У зялёным садочку пахавана!

— Шырай, шырай, конік, у садочак,
Стукні капыцечкам у дзярночак!

Зялёны дзярночак, адваліся,
Жоўценькі пясочак, адсыпліся.

Жоўценькі пясочак, адсыпліся,
Кляновая дошка, адчыніся.

Кляновая дошка, адчыніся,
Жана маладая, акажыся:

Ці мне, маладому, журыціся,
Ці мне, маладому, жаніціся?

— А ты, мой міленькі, не журыся,
А, прыждаўшы вясны, ажаніся.

Вазьмі сабе жонку хоць татарку,
Абы вяла ў хаце гаспадарку.

Вазьмі сабе жонку хоць валынку,
Абы была ў хаце гаспадынька.

655

Да ў саду, у саду вінаградным
Стаіць конь ў уборы парадным.

Ніхто каню заганы не наложыць,
Ніхто каню цаны не паложыць.

Наехалі купцы з Русі крайняй,
Павялі купцоў да стайні.

Заганы каню не налажылі,
А цану каню палажылі:

Сто чырвоных злотых ацанілі.
Адзін купец кажа: «Конік добры!»

Другі купец кажа: «Дужа добры!»
Трэці ўскочыў на каня да й паехаў.

Едзець ён поле і другое,
На трэцяе ўз'язджае.

— Ступай, коню, шырэй у садочак!
Стукні капытом у церамочак!

Дубовы церамочак, расступіся,
А ты, мая мілая, адзавіся!

[А ты, мая мілая, адзавіся,]
Ці мне жаніціся, ці не жаніціся?

— Ой ты, дружок мой верны, не журыся,
Даждаўшысь восені, ты ажаніся!

Вазьмі сабе ты жонку падалянку,
Харошага роду, хоць і мяшчанку!

Вазьмі сабе жонку маладую,
Дзецям маім матку нерадную!

Ты возьмеш сабе жонку пракрасную,
Для дзетак маіх долю няшчасную.

# 656







Ой, у садзе, садзе, ў вінаградзе
Стаяў сівы конік на парадзе.

Ніхто таго каня не купляе,
Прыехалі з войска два гусары.

Яны таму каню цану далі,
Асядлалі каня — паехалі.

Прыехаў гусарык на сваё падвор'е,
Не вышла жонка пераймаці.

Вышла пераймаці старая маці:
— Годзе, годзе, гусар, паязджаці!

Ужо твае жаны няма на свеце,
У нядзелю рана памірала.

Ў панядзелак гроб рабілі,
Гусараву жану схаранілі.

Сеў жа гусарык да й паехаў,
Прыехаў гусарык на даліну.

Прывязаў каня за рабіну,
Сам жа пайшоў на магілу.

— Гусарава жонка, адзыўніся,
Да ці мне плакаці, ці журыцца?

Да ці мне плакаці, ці журыцца,
Ці, прыждаўшы вясны, ажаніцца?

— Не плач, гусарык, не журыся,
Прыждаўшы вясны, ажаніся.

Прыждаўшы вясны, ажаніся,
Толькі з маіх дзетак не глуміся.

Бо ты будзеш жыці із жаною,
Мае дробны дзеткі із сцяною.

Бо ты ляжаш спаці у пярынах,
Мае дробны дзеткі ў гарахвінах.

Бо табе міленька жонка другая,
А маім дзеткам доля ліхая.

## 657

У садзе, у садзе-вінаградзе
Стаіць сівы конік на парадзе.
Ніхто яму рады не дарадзіць,
Ніхто яму цаны не паложыць.
Прыехалі гузары з Украіны,
Яны яму цану палажылі.
Адзін гузар кажаць: «Сто талераў».
Другі кажаць: «І чатыры».
Трэці, сеўшы, да й паехаў.
Ехаў, ехаў да й далінай,
Прывязаў каня пад калінай,
А сам пашоў да дзяўчыны.
— Стукні, грукні, косю, капыточкамі,
Ці не глянець яна ка мне вочкамі.
Не глянула яна — вышла маці.
— Досыць, досыць, сынку, штурмаваці,
На вараных конях раз'язджаці.
Да ўжо твая жана закапана,
У вішнёвым садочку захавана,
Жоўтым пясочкам засыпана,
Зялёнай мураўкай закладзена.

— Сырая зямля, растварыся,
Маладая жана, адзавіся,
Ці мне маладому ажаніцца?
— Не журыся, казак, не журыся,
Вазьмі гарну дзеўку — ажаніся,
Спраў ёй шубу дарагую,
Спраў ёй полаць залатую.

## 658




Да і ў садзе, ў садзе-вінаградзе
Стаіць сівы конік на парадзе.
Ніхто таго каня не цануе. [1]
Прыехаў гусарык з Украіны,
Ой, ён тому каню цану налажыў жа:
Семдзесят чырвонцаў шчэ й чатыры.
Ой, як сеў гусарык, дак паехаў,
Прыехаў гусарык і к вароцечкам.
Як стукаць, так грукаць ў вароцечкі.
Не вышла жана, вышла цешча.
— Не штурмуй жа, зяцю, не штурмуй,
А ўжо твая жана пакапала,
У вішнёвым садзе пахавана.
Паехаў гусарык па садочку,
І знайшоў ён тую магілачку.
— Жоўценькі пясочак, ты адсыпся,

[1] Далей кожны радок паўтараецца два разы.

Смаловая дошка, адчыніся,
Жана маладая, абзавіся,
Ці восені ждаці, ці жаніцца?
— Во як прыдзе восень, ажаніся,
Толькі з маіх дзетак не глуміся.

## ДЗЕУКА ЗАБЛУДЗІЛА У ДУБРОВЕ

### 659

♩ = 80

Ды пас – ці – ла дзеў – ка ва – лы на дуб – ро – ве,

ды пас – ці – ла дзеў – ка ва – лы на дуб – ро – ве.

Ды пасціла дзеўка валы на дуброве. [1]
Валы загубіла, сама заблудзіла.
Прыблудзіла дзеўка к шырокай дарозе,
К шырокай дарозе, да к белай бярозе.
На белай бярозе чоран воран крача,
Пракрасная дзеўка па воліках плача.
— Вой ты, чоран воран, ты сядзіш высока,
Ты сядзіш высока, ты бачыш далёка.
А ці бачыў жа тых валоў на дуброве?
— Я валоў не бачыў, валоў на дуброве,
А толькі я бачыў атца-маці дома.
Па надворку ходзяць, белы ручкі ломяць:
— Былі ў мяне валэ, валэ палавыя.
Валэ палавыя будуць і другія,
А майго дзіцяці да навек не будзе.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## 660




Пасціла дзеўка коні, [1]
Йна, пасучы, задрамала,

Йна, пасучы, задрамала,
Стада коней пацярала,

Стада коней пацярала.
Як пашла яна шукаці

І, шукаючы, заблудзіла.
Прыблудзілася яна к дубку.

Што на тым жа дубочку
А сядзіць воран чоран.

— Ах ты, воран чоран,
Сядзіш жа ты высока,

А бачыш ты далёка,
А ці бачыў маіх коней?

— Стада коней я не бачыў,
Толькі бачыў твайго бацьку.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ён па садзіку ходзе,
Белы ручкі ломе, з вішнямі гавора:

— Вішні, мае вішні,
Чэраз сад перавіслі.

Хто вас шчыпаць будзе,
Як дзіцяткі не будзе?

Стада коней яшчэ куплю,
А дзіцяткі я не куплю.

## 661




Пасціла дзеўка
Кароў на дуброве,
Эй, кароў на дуброве.[1]

Яна крэпка ўснула,
Кароў не пачула.

Ачхнулася дзеўка,
Ажны кароў нету.

Ішла яна, ішла
Лужком, беражком,

А прышла яна
К зялёнаму дубу.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з выклічнікам «эй» упачатку.

А на тым дубочку
Чоран воран драчыць,

А пад тым дубочкам
Дзяўчыніца плачыць.

— А ты, чоран воран,
Ты высока сядзіш,

Ты высока сядзіш,
Ты далёка відзіш.

А ці відзіш, воран,
Кароў на дуброве?

— А я не віджу
Кароў на дуброве,

А толькі я віджу
Твайго татку родна.

Ён па двару ходзіць,
Белы ручкі ломіць:

— Калі жыў я буду,
Я кароў набуду,

А свае дачушкі
Век я не забуду.

## ДЗЯЎЧЫНА-ВАЯК

### 662

Ой, загадалі на вайну
Нашаму сялу усяму,
Нашаму войту самому.
У нашага войта сыноў нет,
Адна дачушка на раду,
І тое ехаці на вайну.
— Да спраў жа мне, бацька, востры меч,

Каб добра было войска сеч.
Скора вайтоўна ўступіла,
Палавіна войска упала,
Скора вайтоўна махнула,
Дак [тое] войска уснула.
Адазваўся каралевіч:
— Ой, каб я ведаў, чый то сын,
Аддаў бы дачку-каралеўначку!
— Ой, не пытай, каралевіч, чый то сын,
Я сама панна-вайтоўна.
— Калі ж ты ёсць вайтоўна,
Я ж цябе за сына вазьму,
Я ж табе палавіну каралеўства апішу!
Ой, вайтоўну бацька выпраўляў,
Вайтоўне бацька прыказваў:
— Да не едзь, вайтоўначка, наперадзе!
Вайтоўна бацькі не слухала,
Напярод войска паехала.
Прыехала к сіняму мору,
Трэба таму войску ўплаў плысці.
Скора вайтоўна паплынула,
Пасярод мора ўтанула.
Усе казакі з вайны едуць,
Вайтоўны каня ў руках вядуць:
Вайтоўна бацькі не слухала
Да ўніз галоўку палажыла.

## 663

Заказалі сялу на вайну,
Нашаму войту самому.
У нашага войта сына нету,
Адна дачушка на раду,
І тая паедзе на вайну.
— Спраў жа мне, бацюшка, коніка,
А на коніка — сядзельца,
А да сядзельца — страменца,
Да страменца — востры меч,
Каб было чым палякаў сеч.
Скора да войска дапала,
Семсот палякаў зрубала.

Запытаў яе сам кароль:
— Чый то сын так ваюе?
Даць за яго дачку-каралеўну!
— Нашто мне дачка-каралеўна,
Калі я сама вайтоўна.
Я твайго каралеўства не хачу,
А свайго вайтоўства не трачу.

## 664




Ды загадалі на вайну [1]
І нашаму сялу усяму,
Нашаму войту аднаму.
У нашага войта сыноў нет,
Адна дачушка на раду,
І тая паедзець на вайну.
— Скуй мне, татулька, востры меч,
Ды каб чым было войска сеч.
Адным замахам махнула —
Семсот казакоў заснула,
Другім замахам махнула —
Палавіна войска заснула,
А трэцім замахам махнула —
Ды ўсё войска заснула.
Як ababраўся царскі круль:
— Ды каб я ведаў, чый то сын,
Узяў бы ён дачку каралёву.
— Нашто мне дачка каралёва,
Я естэм цурка вайтова!

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

# 665




Адна дачушка на раду,
Тая паедзе на вайну,

Тая паедзе на вайну.
— Ой, едзь, татачка, да таргу.

Вой, едзь, татачка, да таргу,
Спраў мне сукенку да долу.

Спраў мне сукенку да долу,
А да сукенкі — коніка,

А да сукенкі — коніка,
А да коніка — сядзелца.

А да коніка — сядзелца,
А да сядзелца — струменца,

А да струменца — востру меч,
Паеду, татачка, людзей сеч.

Толькі вайтоўна махнула,
Семсот казакоў уснула.

Толькі вайтоўна на каня,
Семсот казакоў пад каня.

666




Заказалі, заказалі ўсім дзевачкам,
Штоб дзяўке́ сыны мелі.

Адна дзеўка, адна дзеўка дачку мела,
Дачку мела Ганулечку.

Яна яе, яна яе навучала:
— Не йдзі, доня, напярод войска,

Да ідзі, доня, да ідзі, доня, напаслед войска.
Ганулечка не слухала.

Ўпярод войска, ўпярод войска мандравала,
Сто казакаў зваявала.

На пасьеднім, на пасьеднім сама ўпала,
Ой, да маткі ліст пісала:

— Матка мая, матка мая радненькая,
Хавай мяне пры дарозе,

Абтыч мяне, абтыч мяне ялінаю,
Зялёнаю калінаю.

Будуць пташкі, будуць пташкі прылятаці,
Каліначку абіраці.

Каліначку, каліначку абіраці,
Ганулечку спамінаці.

## 667

Ой, пасярод сяла да жыла ўдава,
Як у той ўдоўкі адна дачка,
[Адна дачка —] Марусечка,
Да й тая ў войска пашла.
Ой, Марусю мамка научае:
— Будзь, Маруся, разумная,
Папярод войска не хапайсь,
Пазадзь войска не аставайсь,
Дзяржыся, Маруся, сярэдзіны.
Маруся мамкі не слухала,
Папярод войска паехала.
Адкуль узяўся каралевіч
І ўзяў коніка за грывачку,
Марусю — за ручачку.
Коніку — сена і аўса,
А Марусі — мёду і віна.
Конь ржэ, аўса не е,
[Аўса не е,] ў войска хоча,
А Маруся плача, дамоўкі хоча.
— Конік ржы, хоць перастань,
Табе ў войску не бываць.
Вайсковых конікаў не відаць.
Маруся плач, хоць перастань,
Табе ў мамкі не бываць,
Таткава падвор'я не відаць.
Маруся ж паехала і ўтанула,
Толькі ручкаю махнула.

## 668

Сядзела ўдава на канец сяла,
Гэй нам, гэй! [1]
Ой, былі у ей да тры дачушкі,
Ой, адна была да й Марусенька,
А другая да Касюленька,
А трэцяя была да Настасія.
А Марусенька хусты качала,

---

[1] Рэфрэн «Гэй нам, гэй!» паўтараецца пасля кожнага радка.

А Касюленька каня сядлала,
А Настасія на ваёнку выязджала.
Ёна маткі да й спрашывала:
— Спраў мне, матка, ўсе салдацкія рэчы:
Першая рэч салдацкая — каня варанога,
А другая — сядло залатое,
А трэцяя — шапачка на глувку,
А чацвёртая — шабелька да боку,
А пятая — сіні шаравары.
Яе матулька выпраўляла,
Выпраўляючы, да наўчала:
— Не стой, доньку, да папярод войска,
Бо папярод войска начальнікі стаяць,
Да стань, доньку, да серад войска.
Ёна матунькі не паслухала,
Да стала папярод войск.
А старшы начальнік да ўзяў яе
Пад белыя ручанькі, да ўзяў яе
Да вывеў яе ў чыстае поле.
Клікнуў свайго да цёмнага войска.
Казаў яе раздзець, як матка радзіла.
Пасадзілі яе да на белым камені.
Казаў свайму войску да руж'я набіці,
Як зачэлі да яе з руж'я паліці.
Каля яе кулі, як боб, брашчаць,
Каля яе шаблі, як агонь, гараць.
На левае плечка галоўку схіліла,
А ў правай руцэ пюра дзяржала.
— Гэта табе, Настаз'я, войскам кіраванне,
А другое — ад маткі наўчанне.

### 669

Не стой, вербіца, над вадою,
Стань, вербіца, сярод вуліцы,
Гдзе старыя суды судзяць,
Маладыя танкі водзяць,
Парабочкі к войску ідуць,
Красныя дзеўкі вяночкі ўюць.

У нядзелю пад панядзелак
Сабіралася грамада,
Ўсё казацкая парада.
Радзілі раду вялікую:
Каго ў войска выпраўляці?
А хто сына мае,
Няхай к войску выпраўляюць,
А хто не мае — хай наймаюць.
Абазвалася удовачка:
— Бедная мая галовачка!
У мяне сыночка ніводнага,
Толькі донечка Ганнусенька,
Ды й тую ў войска выпраўляю,
Выпраўляючы, прыказую:
— Донька ж мая Ганнусенька,
Паперад войска не хапайсь,
Пазадочку не аставайсь,
Едзь, Ганнуся, пасярэдзіне!
Ганнуся мамкі не паслухала,
Паперад войска паехала,
Усё поля сукрасіла,
Усіх казакоў узвесяліла.
Прыязджае к Дунай, к мору.
Усе парабочкі пастанавілісь,
Ганнусенька уплынь пашла.
Адкуль узяўся турчанін,
Узяў коніка за павадочак,
А Ганнусечку за ручачку,
Павёў коніка да стаенькі,
А Ганнусю — да светлінкі.
Сыпюць вараному коніку аўса,
Ганнусеньцы даюць мёду-віна.
Конь іржэ, аўса не есць,
[Аўса не есць,] у стаду хоча.
Ганнуся плача, віне п'е,
[Віна не п'е,] к мамцы хоча.
Іржы, конік, не іржы —
Табе ў стадзе не бываць,
Травы ў вочы не відаць.
Плач, Ганнуся, не плач —
Табе ў мамкі не бываць,
Мамкі ў вочы не відаць.

# 670




Ой, загадалі, заказалі
А ўсяму сялу на военку.

А ў каго сынкі — выпраўляйце,
А ў каго няма — нанімайце.

Зажурылася і ўдовачка,
Бедная яе галовачка,

Што ў яе сына ніводнага,
Толькі адна дачка й Алёначка.

І тую мамка выпраўляла,
І Алёнцы мамка прыказала:

— Глядзі, Алёнка-дзіцятачка,
Наперад войскі не хапайся.

Наперад войскі не хапайся
І ззаду войскі не аставайся.

Алёнка мамкі не слухала,
Наперад войскі паехала.

Усіх казачанькаў упярод вяла,
Цару, ахвіцэру здароў дала.

— А здароў, здароў, Алёначка,
Бедная твая галовачка.

Вядзіце каня на стаенку,
А Алёначку ў свяцёлачку.

А й дайце каню й аўса, сена,
А й Алёначцы — мякка пасцеля.

## МУЖ НА ВЯСЕЛЛІ СВАЕЙ ЖОНКІ

### 671

Ажаніўся пан Дуброва,
Пабраў сабе жонку Рузю.

Сам на вайну выязджае,
Рузю матцы пакідае.

— Ото ж табе, пані-матка,
Гадуй маю Рузю гладка

Да да року да сёдмэго,
Да прыезда да моего.

На сёмы год наступае,
Рузя замуж замышляе.

Ой, за кего, за якего?
За пісара Хмельніцкего.

А ў нядзелю па абедзе
Пан Дуброва з вайны едзе.

— Кланям, кланям, пані-матка,
Да чы жые Рузя гладка?

— Жые, сынку, і крулюе,
Дзісь вяселле нам гатуе.

— Падай, хлопча, скрыпку маю,
Я й паеду граць вяселле.

Ой, сяду я ў канцы стала,
Ці не ўвідзіць Рузя мая.

Скора Рузя абачыла,
Ў чтыры столы выскачыла.

— Кланям, кланям, пан Дуброва,
З табой была перша змова.

Ты, пісару з чужой стро́ны,
Шукай сабе іншай жо́ны.

## ГОСЦІ-РАЗБОЙНІКІ

### 672

Паехаў Ясенька на Русь, на Ўкраіну,
Сваю Марусеньку едненьку пакінуў.

Прыехалі к Марусі трое госці на двор,
Запыталі Марусі: «Ці дома пан твой?

Нямашака пана, выйдзі да нас сама!»
Марусенька вышла, як зорачка зышла,

Марусенька стала, як вішанька звяла:
— Не есць вы госці, есць вы разбойнічкі.

— Маруся, Маруся, чым жа нас пазнала,
Чым жа нас пазнала, нам гарда сказала?

### 673

Каля быстрыя рэчкі
Ішло два разбойнічкі,

Пыталіся да сяла,
Да Ганулiна двара.

— Ой, Ганулъ, Гануленьку,
Ці дома Ясюленька?

А калі нет Яся ўдому,
То выйдзі хоць сама да нас.

А не выйдзеш сама да нас,
То вышлі хоць слугу да нас.

А Гануленька пышна
За варота не вышла.

Да праз тын ручку дала,
Разбойнічкамі назвала.

— Гануль, Гануленьку,
Па чаму ты нас знаеш,

[Па чаму ты нас знаеш,]
Разбойнічкамі называеш?

— Па таму я вас знаю,
Што Ясеў конь пад табою,

[Што Ясеў конь пад табою,]
А сядло пад слугою.

Забілі Ясюленька
У дуброве на карэнні.

— Гануль, Гануленьку,
То няпраўда ёсць твая.

Таргавалі мы каня
У Свіслачы на рыначку,

А лічылі дзенушкі
На цісовым столічку.

— Ой, няпраўда то ёсць ваша!
Забілі Ясюленьку.

[Забілі Ясюленьку]
У дуброве на карэнні,

А лічылі грошыкі
На сасновай калодзе.

## ЗАМОРСКАЕ ЗЕЛЛЕ

### 674




Зашумела у бару сосенка, [1]
Забалела Марысі галованька.
Наехала тры казакі з поўку
І звязалі Марысі галоўку.
Адзін кажа: «Я Марысю люблю!»
Другі кажа: «Я Марысю вазьму!»
Трэці кажа: «Я на шлюбе стану!»
— Ой, хто жа мне трызелле дастане,
Той за мною да шлюбаньку стане.
Адазваўся Ясё маладзенькі:
— Ест у мяне тры коні на стайні,
То я табе зеллечка дастану.
Адзін белы, як лебедзь беленькі,
Другі сівы, як голуб сівенькі,
Трэці чорны, як воран чарненькі.
Белым конем поле пераеду,
Сівым конем мора пераплыну,
Чорным конем трызелле дастану.
Стаў Ясенька трызелле капаці,
Стала над ім зязюля каваці:
— Пакінь, Ясю, зеллечка капаці,
Едзь Марысі вяселле спраўляці.
Так Ясенька на каня сядае,
Прэндкім крокам ў варота ўязджае.
Ўзяў Ясь коня за белу грывэньку,
А Марусю за праву ручэньку,
А з-пад паса ядвабну нагаеньку:

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Раз па коню, двойчы па Марысі.
— Табе, коню, заморскае зелле,
А Марысі — другое вяселле.

## 675




Марусенька нядужа ляжала,
Чорным шоўкам галоўку звязала.

Прыехалі тры казакі з поўку,
Развязалі Марусі галоўку.

Адзін кажа: «Я й Марусю люблю!»
Другі кажа: «Я й Марусю вазьму!»

Трэці кажа: «З Марусяю я й на шлюбе стану».
Заганула Маруся загадку:

Хто Марусі труйзелле дастане,
З Марусяю той на шлюбе стане.

Абазваўся Ясюк маладзенькі:
— Ёсць у мяне тры коні на стайні:

Адзін конік, як голуб, сівенькі,
Другі конік, як воран, чарненькі.

Трэці конік, як лебедзь, бяленькі.
Сівым канём да мора даеду,

[Сівым канём да мора даеду,]
Чорным канём мора пераплыну,

Белым канём труйзелля дастану,
З Марусяю я й на шлюбе стану.

Пайшоў Ясь труйзелле капаці,
Стала над ім зязюлька каваці:

— Кідай, Ясю, труйзелле капаці,
Ідзі Марусі вяселле спраўляці.

Едзе, едзе Маруся з сватамі.
Вялі, Ясю, ў паўдарогі стаць.

Вялі, Ясю, музыкам заграць,
Бяры, Ясю, Марусю гуляць.

Ў левую ручку Марусю харошу,
А ў правую да шабельку гостру.

Ў чыстым полі шабелька звінела,
Там Марусі галоўка зляцела.

— Гэта ж табе, Маруся, за тое,
Што ты звяла Яся маладога.

## 676

Andante

Е ў Ма - ру - сі ха - та на па - мос - це.
Пры - е - ха - лі тры ка - за - кі ў гос - ці.

Е ў Марусі хата на памосце.
Прыехалі тры казакі ў госці.
Адзін кажа: «Я Марусю люблю».
Другі кажа: «Я Марусю вазьму».
Трэці кажа: «На ручнічку стану».

Забалела Марусі галоўка,
Захацела заморскага зёлка:
— А хто ж мне трохзелля дастане,
Той са мною на ручнічку стане.
Адазваўся козак наймалодшы:
— Ест у мяне тры коні на стайні,
Я Марусі зеллечка дастану.
Адзін конік, як голуб, сівенькі,
Другі конік, як воран, чарненькі,
Трэці конік, як лебедзь, бяленькі.
Чорным конем горы пераеду,
Другім конем мора пераплыну,
Трэцім конем трохзелле дастану,
З Марусяю на ручнічку стану.
Стаў казачок трохзелле капаці,
Стала над ім зязюлька каваці:
— Кідай, казача, трохзелле капаці,
Ужо ў Марусі вяселлечка ў хаце.
Едзе казак дадому з трохзеллем,
Спатыкае Марусю з вяселлем.
— А мае ж вы музыканты ладны,
Заграйце мне варшаўскага вальца,
То я пойдэ з Марусяю таньца.
Ў правай ручцы Марусеньку водзіць,
Ў левай ручцы гостру шаблю носіць.
Ціха-ціха діброва шумела,
Яшчэ цішэй галоўка зляцела.
— Ото табе, Марусю, вяселле —
Не пасылай казака па зелле!

## 677

Зацвіцела ў гародзе макоўка,
Забалела Марысі галоўка.

Захацела заморскага зелля.
Каму ехаць за мора па зелле?

Таму ехаць, каму рукадзелле.
Татку ехаць за мора па зелле.

Татка кажыць: «Я й коніка не маю».
Татка кажыць: «Я й зелля не знаю».

Зацвіцела ў гародзе макоўка,
Забалела ў Марусі галоўка.

Захацела заморскага зелля.
Каму ехаць за мора па зелле?

Таму ехаць, каму рукадзелле.
Брату ехаць за мора па зелле.

Братка кажыць: «Я й коніка не маю».
Братка кажыць: «Я й зелля не знаю».

Зацвіцела ў гародзе макоўка,
Забалела ў Марусі галоўка.

Захацела заморскага зелля.
Каму ехаць за мора па зелле?

Таму ехаць, каму рукадзелле.
Ясю ехаць за мора па зелле.

А Ясь кажыць: «Я й коніка маю».
А Ясь кажыць: «Я і зелле знаю».

Адзін конік поле пераехаць,
Другі конік мора пераляцець,

Трэці конік да зелля даехаць,
[Трэці конік да зелля даехаць.]

А стаў Ясь зелле капаці,
Сталі над ім пташкі шчабятаці:

— Не капай, Ясюленька, зелле,
Ўжо ў Марысі другое вяселле.

А едзь, Ясю, лугам, берагом,
А стань, Ясю, ў полі пад шатром:

Будзеш відзець, як Марысі сваты паедуць.
— Пазволь, пазволь, Марысенька, на двор!

— Не пазволю, Ясюленьку першы,
Ёсць у мяне другі, мілейшы.

— Пазволь, пазволь, Марысенька, ў хату!
[Пазволь, пазволь, Марысенька, ў хату!]

— Не пазволю, Ясюленьку першы,
Ёсць у мяне другі, мілейшы.

— Пазволь, пазволь, Марысенька, за стол!
[Пазволь, пазволь, Марысенька, за стол!]

— Не пазволю, Ясюленьку першы,
Ёсць у мяне другі, мілейшы.

— Пазволь, пазволь, Марысенька, танчыць!
[Пазволь, пазволь, Марысенька, танчыць!]

— Не пазволю, Ясюленьку першы,
Ёсць у мяне другі, мілейшы.

Узяў Ясь Марысю за левую ручку,
У правай ручцы шабельку трымаець.

Сцяў Ясь Марысі галоўку роўна з плеч,
[Сцяў Ясь Марысі галоўку роўна з плеч.]

— Вот Марысі заморскае зелле,
Вот Марысі другое вяселле.

Вот Марысі «Ясюленька першы,
Ёсць жа ў мяне другі, мілейшы».

678




Загуляла Маруся на рынку,
Загуляла Маруся на рынку. [1]

Чорным шоўкам галоўку звязала.
Прыехалі тры казакі з полку,

Развязалі Марусі галоўку.
Адзін кажыць: «Я Марусеньку люблю».

Другі кажыць: «Я яе замуж вазьму».
Трэці кажыць: «Я да старушкі пайду».

Загадала Маруся загадку:
— Хто за морам зелліка дастанець,

За таго я замуж пайду.
— А ўжо мне тры конікі настроілі:

Первы коня, як воран, чарнёнек,
Другі коня, як голуб, сізэнек,

Трэці коня, як лебедзь, бяленек.
На чорненькім да на кані праеду,

На сізэнькім я мора пралячу,
На беленькім я зелля накапаю.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А як стаў казак зелліка капаць,
Перад ім кукушка кукаваць.

— Перастань-ка, казак, зелліка капаць!
— Перастань-ка, кукушка, кукаваць!

— А ўжо твае Марусі вяселле,
[А ўжо твае Марусі вяселле.]

А ў казака шабля засвісцела,
А ў Марусі галоўка зляцела.

— А вось табе, Маруся, за тое,
Не мяняй жа казака данскога.

## 679




Зацвіцела ў гародзе макоўка,
Забалела ў Марысі галоўка.

Марысенька нядужа ляжала,
Чорным шоўкам галоўку звязала.

Зажадала заморскага зелля,
Зажадала заморскага зелля.

Хто ж Марысі зеллейка дастане,
Той з Марысяй на каберцы стане.

Прыехалі тры казакі з полку,
Развязалі Марысі галоўку.

Адзін кажыць: «Я Марысю люблю».
Другі кажыць: «Я Марысю вазьму».

Трэці кажыць: «Я зелля дастану,
Я з Марысяй на каберцы стану.

Ёсць у мяне тры кані на стайні:
Адзін конік, як воран, чарненькі,

Другі конік, як лебедзь, бяленькі,
Трэці конік, як голуб, сівенькі.

На воране поле пераляту,
На воране поле пераляту.

На лебедзі мора пераплыву,
На лебедзі мора пераплыву.

На голубе я зелле дастану,
Я з Марысяй да й у шлюбе стану».

Стаў казача зеллейка капаці,
Сталі яго паслы выклікаці:

— Кідай, казача, заморскае зелле,
Ужо ў Марысі із другім вяселле.

Кінуў казак заморскае зелле,
Прыехаў казак к Марысі ў вяселле.

Левай ручкай Марысю вітае,
Левай ручкай Марысю вітае.

Правай ручкай шаблю вынімае,
Правай ручкай шаблю вынімае.

— Вот, Марыся, заморскае зелле,
Вот, Марыся, із другім вяселле.

### 680

Марусенька ў нядузе ляжала,
Чорным жа шоўкам галоўку звязала,
Моранага зелля яна забажала.

Прыехала тры казакі з поўку,
Развязалі ж Марусі галоўку.
Й адзін кажа: «Я Марусю люблю».
Другі жа кажа: «Я за сябе вазьму».
А трэці кажа: «Я й на шлюбе стану.
Ест у мяне тры кані на стайні:
Адзін конік, як гаўка, чарненькі,
Другі конік, як орлік, сівенькі,
Трэці конік, як лебедзь, бяленькі.
Белым я конем поле пераеду,
Сівым конем мора пераплыву,
Чорным жа конем зеллейка дастану».
Ой, стаў Яся зеллейка капаці,
Заўзюлечка начала й каваці:
— Кідай, Ясю, зеллейка ж капаці,
Ужо ж Маруся за іннога уйшла!
Кінуў Яся зеллейка капаці.
Едзе ж ён поле, едзе ён другое,
На трэцяе толькі ж шчы ж ўз'язджае,
Аж Марусю з вяселлем спаткае.
— Ой, зайграйце ж усе музыканты,
То я пайду з Марусяю ў танцы:
Ў левай руцы Марусю вадзіці,
Да ў правай руцы востры меч насіці.
Мы ж думалі ж — макоўка звінела,
Аж Марусі галоўка зляцела.
— Цяпер ужо, браце, да й ні табе, ні мне,
Няхай гніе ў сырой зямле.

## 681



Марусенька пшанічаньку жала,
Марусенька, Марусенька пшанічаньку жала.

Марусенька хворая ляжала,
Марусенька, Марусенька хворая ляжала.

Чорным шолкам галоўку звязала,
Чорным шолкам, чорным шолкам галоўку звязала.

Прыехалі тры казакі з полку,
Прыехалі, прыехалі тры казакі з полку.

Развязалі Марусі галоўку,
Развязалі, развязалі Марусі галоўку.

Адзін кажыць: «Маруся, Маруся!»
Адзін кажыць, адзін кажыць: «Маруся, Маруся!»

Другі кажыць: «Ці любіш ты мяне?»
Другі кажыць, другі кажыць: «Ці любіш ты мяне?»

Трэці кажыць: «Ці пойдзеш за мяне?»
Трэці кажыць, трэці кажыць: «Ці пойдзеш за мяне?

У мяне ёсць тры кані на стайні.
У мяне ёсць, у мяне ёсць тры кані на стайні:

Адзін конік, як воран, чарненькі,
Адзін конік, адзін конік, як воран, чарненькі.

Другі конік, як лебедзь, бяленькі,
Другі конік, другі конік, як лебедзь, бяленькі.

Трэці конік, як голуб, сівенькі,
Трэці конік, трэці конік, як голуб, сівенькі.

На чарненькім да мора даедзем,
На чарненькім, на чарненькім да мора даедзем.

На бяленькім мора пераедзем,
На бяленькім, на бяленькім мора пераедзем.

На сівенькім зеллейка дастанем.
На сівенькім, на сівенькім зеллейка дастанем».

Да стаў казак зеллейка капаці,
Да стаў казак, да стаў казак зеллейка капаці.

Стала яму зелле прамаўляці,
Стала яму, стала яму зелле прамаўляці:

— Кідай, казак, зеллейка капаці,
Кідай, казак, кідай, казак, зеллейка капаці.

Ўжо едуць Марусіны сваццi,
Ужо едуць, ужо едуць Марусіны сваццi.

— Да й зайграйце, паны-музыканты,
Да й зайграйце, да й зайграйце, паны-музыканты.

Мы з Марусяй пойдзем танцаваці,
Мы з Марусяй, мы з Марусяй пойдзем танцаваці.

А я думаў — пчолка зазвінела,
А я думаў, а я думаў — пчолка зазвінела.

Аж ў Марусі галоўка зляцела,
Аж ў Марусі, аж ў Марусі галоўка зляцела.

## 682

Allegro

А ў Ма - ру - сі ха - та на па - мос - це,
а ў Ма - ру - сі, а ў Ма - ру - сі ха - та на па - мос - це.

А ў Марусі хата на памосце,
А ў Марусі, а ў Марусі хата на памосце.

Прыехалі тры казакі ў госці,
Прыехалі, прыехалі тры казакі ў госці.

— Ой, хто ж бо мне зеллейка дастане,
Ой, хто ж бо мне, хто ж бо мне зеллейка дастане,

Той са мной на ручнічку стане,
Той са мной, той са мной на ручнічку стане!

Першы кажа: «Я Марусю люблю!»
Другі кажа, другі кажа: «Я Марусю вазьму!»

Трэці кажа: «Зеллейка дастану,
Я з Марусяй, я з Марусяй на ручнічку стану!

Ёсць у мяне тры кані на стайні,
Ёсць у мяне, ёсць у мяне тры кані на стайні:

Адзін конік, як лебедзь, бяленькі,
Другі конік, другі конік, як голуб, сівенькі,

Трэці конік, як воран, чарненькі,
Трэці конік, трэці конік, як воран, чарненькі.

Белым канём поле пераеду,
Сівым канём, сівым канём за мора даеду.

Чорным канём зеллейка дастану,
А з Марусяй, а з Марусяй на ручнічку стану!»

Ой, стаў Яся зеллейка капаці,
Стала над ім, стала над ім зязюлька куваці:

— Годзе, Яся, зеллейка капаці,
Бо ў Марысі, бо ў Марысі вяселлейка ў хаце!

### 683

Ой, пазволь, божа, да лотаці даждаці,
То пойдзема да Марусенькі ў сваты.

Марусенька да нядужа ляжала,
Шаўковым платочкам галавоньку звязала.

Прыехалі тры казачэнькі з полку,
Развязалі Марусеньцы галоўку.

Адзін і кажа: «Я Марусеньку люблю».
А другі кажа: «Я Марусеньку й вазьму».

А трэці кажа: «Хіба мяне й не будзе,
То тады ўжо ваша Марусенька будзе».

А Марусенька кажа: «Хто трызелле дастане,
То той са мною да на шлюбаньцы стане».

Адазваўся казачэнька маладзенькі:
— Ой, ё ў мяне тры конікі вараненькіх.

Адным конікам я да мора даеду,
А другім канём чэраз мора пераеду.

Другім канём чэраз мора пераеду,
Й а трэцім канём трызелле дастану.

Заехаў казачок, стаў трызелле капаці,
Ляціць зязюленька, стала над ім кавацi:

— Перастань, казачок, трызелле капаці,
Ужо пашла Маруся із іншым шлюбу браці.

— Ой, нарваў жа я зелля і карэння,
Іду зустрачаю Марусеньку з вяселля.

Ох ты, Маруся, шчо ж ты мне нарабіла,
Шчо ж ты ля мяне тры канькі загубіла.

У казачэнька ў руках шабелька зашумела,
Марусі галоўка із плячэй ізляцела.

— Табе, Марусенька, ў чыстым полі ляжаці,
Ой, а я пайду да іншай у сваты.




А з-пад гаю, гаю вецер веець,[1]
Казачанька пшанічаньку сеець,
Марусенька па гаёчку ходзіць.
— Казачанька, выведзь мяне з гаю,
А я з гаю дарожкі не знаю.
Марусенька бальненька ляжала,
Чорным шоўкам галоўка звязана.
Прыехалі тры казакі з полку,
Развязалі Марусі галоўку.
Адзін кажыць: «Я Марусю люблю».
Другі кажыць: «Я Марусю вазьму».
А трэці кажыць: «На венчыку стану».
Загадала Маруся загадку:
— Хто з-за мора зелліка дастанець,
Тэй са мною на венчыку станець.
Адзін казак а ён выхваляўся:
— Ёсць у мяне тры кані на стайні:
Адзін конік, як воран, чарненькі.
Другі конік, як лебедзь, бяленькі.
А трэці конік, як сокал, ясненькі.
На ворану поле пераеду,
На лебедзі мора пераплыву,
А на сокалу зелліка дастану.
Стаў казача зелліка капаці,
Над ім сталі пташкі шчабятаці:
— Не капай ты, казачанька, зелля,
Ужо Маруся на венчыку стала,
На венчыку стала з паповым сынам.
Прыехаў казача к паповым варотам:
Марусенька па дварочку ходзіць,
Паповіч пад ручаньку водзіць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

— Пазволь, паповіч, на двор уз'ехаць.
— Прашу цябе, не разлучай мяне.
— Пазволь, паповіч, каню аўса даць.
— Прашу цябе, не разлучай мяне.
— Пазволь, паповіч, з Марусяй танцаваці.
— Віджу цяпер, разлучыў ты мяне.
Выняў казача свой войстры меч,
Зняў Марусі галовачку з плеч.

## 685

Зашумела ў бару сасонка [1]
Забалела Марусі галоўка.
Прыехалі тры казакі з полку,
Ды й прывезлі чорнага шоўку.
Адзін кажыць: «Марусенька мая».
Другі кажыць: «Ці любіш мяне?»
Трэці кажыць: «Ці пойдзеш за мяне?»
Загадала Маруся загадку:
— Ды хто маець тры кані на стайні?
Адазваўся Ясю маладзенькі:
— Есць у мяне тры кані на стайні:
Белым канём бары пераеду,
Чорным канём мора пераплыву,
Сівым канём на зямельку стану.
Сівы конік зямельку капаець,
Заморскае зелле дабываець.
— Пакінь, косю, зямельку капаць,
Пакінь, Ясю, жалосна плакаць.
Да едзь, Ясю, крыжавой дарогай,
Спаткаеш Марусіных сватоў.
— Ах вы, дуды, дуды-музыканты,
Ды й зайграйце мне жалосны танец,
А я пайду з Марусяй скакаць.
Левай ручкай Марусеньку вяду,
Правай ручкай я шабельку нясу.
Я думаў — бары зашумелі,
Аж Марусі галоўка зляцела.
Ото ж табе, Марусенька, тое,
Ісці замуж, ісці за другога.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## 686

Марусенька тры гады ляжала,
Чорным шоўкам галоўку звязала.
Прыехалі тры казакі з полку,
Развязалі Марусі галоўку.
Ой, адзін гаворыць, што «Марусю люблю».
А другі гаворыць: «Я Марусю вазьму».
А трэці гаворыць: «Я на шлюбе стану».
А хто з-за мора зеллейка дастане,
Той з Марусенькай і на шлюбе стане.
— Есць у мяне тры кані вараныя,
Ой, то я з-за мора зеллейка дастану,
Я з Марусенькай і на шлюбе стану.
Ой, я чорным канём да мора даеду,
Сівым канём мора пераеду,
А рабенькім канём да зелля даеду.
Ой, стаў казачэнька зеллейка капаці,
Прыляцела заўзуля, начала каваці:
—Годзе, казачэнька, зеллейка капаці,
Ўжэ Марусенька да й на шлюбе стала.
Едзе казачэнька, едзе па заселлю,
Едзе Марусенька, едзе з вяселля.
Я ж думала — макаўка шумела,
Аж то з Марусенькі галоўка зляцела.

## 687

♩ = 80

За_ шу_ ме_ ла у ба_ ры са_ сон_ ка,
за_ шу_ ме_ ла, за_ ба_ ле_ ла
ў Ма_ ру_ сі га_ лоў_ ка, за_ ба_ ле_ ла.

Зашумела у бары сасонка, зашумела,
Забалела ў Марысі галоўка, забалела.
Прыехалі тры казачкі з полку, прыехалі,
Завязалі Марысі галоўку, завязалі.
Адзін кажыць: «Я Марысю люблю», адзін кажыць.
Другі кажыць: «Я за сябе вазьму», другі кажыць.
Трэці кажыць: «Я з ёй ажанюся», трэці кажыць.
Загадала Марыся загадку, загадала:
— А хто з'ездзіць Марысі па зелле, а хто з'ездзіць,
Із тым будзець у Марысі вяселле, із тым будзець.
Адзін кажыць: «Я каня не маю», адзін кажыць.
Другі кажыць: «Я зелля не знаю», другі кажыць.
А трэці кажыць: «Я й конікі маю, я й зеллейка знаю.
Ёсць у мяне тры кані на стайні, ёсць у мяне.
Адзін конік, як лебедзь, бяленькі, адзін конік.
Другі конік, як воран, чарненькі, другі конік.
А трэці конік, як голуб, сівенькі, трэці конік.
Я й на белым поле пераеду, я й на белым.
А на чорным мора пераплыву, я й на чорным.
А на сівым зелля накапаю, я й на сівым».
Прыязджаець Ванюша з-за мора, прыязджаець
І прывозіць заморскае зелле, і прывозіць.
Аж гуляець Марыся з другім вяселле, аж гуляець.
Правай ручкай Марысю вітаець, правай ручкай,
А левай ручкай шаблю вынімаець, а левай ручкай,
Да й Марысі галоўку здымаець, да й Марысі.
— Да й вот табе заморскае зелле, да й вот табе.
Да й вот табе, Марыся, вяселле, да й вот табе.

## 688

♩ = 92

За- ба- ле- ла Ма-ры-сі га- лоў- ка,

за- ба-ле- ла Ма- ры-сі га- лоў- ка.

Забалела Марысі галоўка,[1]
Захацела турэцкага зёлка.
Адазваўся млоды Ясё з войска:
— Я Марысі да й дастану зёлка.
Я Марысі зелленька дастану,
Я ў Марысі за мілага стану.
Ест у мяне тры кані на стайні,
Я Марысі зелленька дастаўлю.
Адзін конік, як воран, чарненькі,
Другі конік, як голуб, сівенькі,
Трэці конік, як лебедзь, бяленькі.
Я на чорным землю пераеду,
А на сівым мора пераплыву,
А на белым да зелля даеду.
Злез Ясенька, стаў зелле капаці,
Ляціць воран, над Ясенькам грача:
— Пакінь, Ясю, зелленька капаці,
Едзь Марысю замуж выдаваці.

## 689




Плоха, плоха Маруся ляжала,
Плоха, плоха Маруся ляжала.

Чорным шоўкам галоўку звязала,
Чорным шоўкам галоўку звязала.

Прыехалі тры казакі з полку,
Прыехалі тры казакі з полку.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Развязалі Марусі галоўку,
Развязалі Марусі галоўку.

Адзін кажа: «Я Марусю люблю»,
Адзін кажа: «Я Марусю люблю».

Другі кажа: «Я Марусю вазьму»,
Другі кажа: «Я Марусю вазьму».

Трэці кажа: «Пад вянец пастаўлю»,
Трэці кажа: «Пад вянец пастаўлю.

Я й Марусі зеллейка дастану,
Я й Марусі зеллейка дастану».

Пайшоў казак карэнне капаці,
За ім услед Марусіна маці:

— Кідай, казак, карэнне капаці,
Ўжо ў Марусі вяселлейка ў хаце.

Пайшоў казак карэннейка мыці,
За ім услед Марусіна маці:

— Кідай, казак, карэннейка мыці,
Ўжо Марусю вязуць хараніці.

## 690

♩ = 154

Ма – ру – сень – ка пша – ні – чань – ку жа – ла,

Ма – ру – сень – ка пша – ні – чань – ку жа – ла,







Марусенька пшанічаньку жала, [1]
Марусенька, Марусенька пшанічаньку жала.

Марусенька пальцы пабразала,
Марусенька, Марусенька пальцы пабразала.

Марусенька так бальна ляжала,
Марусенька, Марусенька так бальна ляжала.

Йна з-за мора зеллейка бажала,
Йна з-за мора, йна з-за мора зеллейка бажала.

— А хто ж то мне зеллейка дастане,
А хто ж то мне, а хто ж то мне зеллейка дастане,

Тэй жа маім дружком стане,
Тэй жа маім, тэй жа маім дружком стане.

Абабраўся казак маладзенькі,
Абабраўся, абабраўся казак маладзенькі.

— А я ж табе зеллейка дастану,
А я ж табе, а я ж табе зеллейка дастану,

А я ў цябе дружочкам стану,
А я ў цябе, а я ў цябе дружочкам стану.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

691




Зацвіцела у садзе макоўка,
Забалела Марусі галоўка.

Зажадала заморскага зелля,
Зажадала заморскага зелля.

Хто Марусі зеллейка дастане,
Той з Марусяй на венчыку стане.

Адазваўся Яська маладзенькі,
Адазваўся Яська маладзенькі:

— Я Марусі зеллейка дастану,
Я з Марусяй на венчыку стану.

Есць у мяне тры кані на стайні,
Есць у мяне тры кані на стайні.

На адным кані да мора даеду,
Другім канём мора пераеду,

Трэцім канём зеллейка дастану,
Я з Марусяй пад венчыкам стану.

## 692




Зацвіцела ў гародзе макоўка, [1]
Забалела ў Марусі галоўка.

Марусенька нядужа ляжала,
Чорным шоўкам галоўку звязала.

Прыскакалі тры казакі з полку,
Развязалі Марусі галоўку.

Адзін кажыць: «Я Марусю люблю».
Другі кажыць: «Я Марусю вазьму».

Трэці кажыць: «Я у шлюбе стану,
Я й Марусі зелліка дастаўлю.

Ёсць у мяне тры кані на стайні:
Адзін чорны, як воран чарненькі,

Другі белы, як лебедзь бяленькі,
Трэці сівы, як галуб сівенькі.

Я на чорным да мора даеду,
Я й на белым мора пераеду.

Я й на белым мора пераеду,
Я на сівым зелля накапаю».

Як стаў Ясю зеллейка капаці,
Сталі к Ясю птушкі прылятаці.

— Нашто табе заморскае зелле,
Ужо ў Марусі із другім вяселле.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Скочыў Ясю к мамцы пад акенца.
— Падай, мамка, найвастрэйшу шаблю.

Падай, мамка, найвастрэйшу шаблю,
Я паеду к Марусі ў вяселле.

— Не едзь, сынку, галоўкай наложыш.
— Не бойсь, мамка, каму бог паможыць.

А ў Ясюнькі шабля заблішчэла,
А ў Марусі галоўка зляцела.

А вот табе заморскае зелле,
А вот табе із другім вяселле.

## 693

♩=75

Ой, у по — лі ма — каў — ка зві — не — ла,

у Ма — ру — сі га — лоў — ка ба — ле — ла (й).

Ой, у полі макаўка звінела,
У Марусі галоўка балела.

У Марусі галоўка балела,
Ішло-прышло тры казакі з полку.

Ішло-прышло тры казакі з полку
І звязалі Марусі галоўку.

Адзін кажа: «Я Марусю люблю».
Другі кажа: «Я вяночак зраблю».

Трэці кажа: «А хто з'ездзіць за мора па зелле,
Дык той зробіць Марусі вяселле».

Адзін кажа: «Коніка не маю».
Другі кажа: «Дарожкі не знаю».

Трэці кажа: «Я конічкі маю,
Конічкі маю, дарожку знаю.

Адным канём да мора дастану,
Другім канём мора пераеду.

Другім канём мора пераеду,
Трэцім канём зелля накапаю».

Пакуль з'ездзіў за мора па зелле,
Дык зрабілі Марусі вяселле.

## 694

♩=96

А ў Ма- ру - сі, а ў Ма - ру - сі

пас -цель пу - ха - ва - я, гэй,

а ў Ма - ру - сі, а ў Ма-

ру - сі пас - цель пу - ха - ва - я.

А ў Марусі, а ў Марусі пасцель пухавая,
Гэй, а ў Марусі, а ў Марусі пасцель пухавая. [1]

---

[1] Кожны радок паўтараецца з выклічнікам «гэй» упачатку.

А ў той ды пасцеленьцы Маруся бальная.
А ў Марусі, а ў Марусі хата на памосце.
Прыехалі да Марусі тры казакі ў госці.
Першы кажа, першы кажа: «Я Марусю люблю».
Другі кажа, другі кажа: «Я Марусю вазьму».
Трэці кажа, трэці кажа: «На камені стану.
Я для сваёй Марусенькі зеллейка дастану».
Пайшоў казак, пайшоў казак зелле даставаці.
Прыляцела зязюленька ды стала куваці:
— Нашто табе, казачанька, нашто табе зелле,
Ужо ў тваёй Марусенькі гуляюць вяселле.
Перва шабля, перва шабля толькі зазвінела,
Друга шабля, друга шабля — галава зляцела.

## 695




Ё ў Марусі хата на памосце. [1]
Прыехалі тры казакі ў госці.
Адзін кажа: «Я й Марусю люблю».
Другі кажа: «Я й за сябе вазьму».
Трэці кажа: «Марусенька мая».
Тады Маруся бальная ляжала,
Тады яна тройзелля бажала.
Адазваўся маладзенькі Ясю:
— Я Марусі тройзелля дастану,
Я з Марусяю на шлюбоньцы стану.
Едзе Ясю із заморскім зеллем,
Сустракае Марусю з вяселлем.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

— Чалом, чалом, панове сватове,
Пазвольце мне з Марусяй у танцы.
Мы ж думалі, шабелька звінела —
У Марусі галоўка зляцела.
— Не трэба мецi казакоў многа,
Да трэба ждаці мяне, маладога.

## 696

Moderato

А ў Ма- ры- сі ха- та на па- мос- це,
ха- та на па- мос-це, пры- е- ха- ла тры ка- за- кі ў гос- ці,
пры- е- ха- ла тры ка- за- кі ў гос- ці.

А ў Марысі хата на памосце, хата на памосце,
Прыехала тры казакі ў госці.[1]

Адзін кажа: «Я Марысю люблю, я Марысю люблю»,
Другі кажа: «Я Марысю вазьму».

Трэці кажа: «На ручнічку стану, на ручнічку стану»,
Трэці кажа: «На ручнічку стану».

Забалела Марысі галоўка, Марысі галоўка,
Захацела Марыся трузелля.

Азваўся адзін казак: «Я маю тры кані, я маю тры кані:
Адным канём да мора даеду,

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Другім канём мора пераеду, мора пераеду,
Трэцім канём трузелле дастану».

Ой, стаў казак трузелле капаці, трузелле капаці,
Стала ёму зазуля каваці:

— Не капай ты, казача, трузелле, казача, трузелле,
Бо ў твае Марысі дзісь вяселле.

Скочыў казак да Марысі ў хату, да Марысі ў хату:
— Ой, зайграйце, музыканты, вальца.

Ой, зайграйце, музыканты, вальца, музыканты, вальца,
А я пайду з Марысяй у танцы.

Левай ручкай Марысеньку водзіць, Марысеньку водзіць,
Правай ручкай востру шаблю носіць.

Ой, так ціха дуброва шумела, дуброва шумела,
Яшчэ цішэй галоўка зляцела.

## ДЗЯУЧЫНА ТОПІЦЬ НЯШЛЮБНАЕ ДЗІЦЯ

### 697

Да у нашым Слуцку навіна стала,
Адна ж панна-вайтоўначка сына радзіла.

Парадзіўшы сыночка, ў кітай спавіла,
Парадзіўшы сыночка, ў кітай спавіла.

Спавіўшы ў кітаечку, на Дунай пусціла,
Спавіўшы ў кітаечку, на Дунай занясла.

— Да плыві ж, мой сыночак, да дзе дна няма,
Як у гэтым Дунаечку да й няма канца.

Да ніхто ж таго дзіва не чуў, не бачыў,
Толькі ж чуў да бачыў паніч-каралевіч,

На высокім ганачку пахаджаючы,
Да белыя свае ручкі памываючы,

Да белыя свае ручкі памываючы,
Шоўкаваю хустаю паціраючы.

Як зажадаў пан-кралевіч шчучкі-рыбачкі:
— Да мілыя мае тры рыбаловы,

Да й закіньце сеткі, сеткі-невадкі.
Ці не ўловіце, не спаймаеце шчучкі й акуньца?

Да як закінулі, так і спаймалі,
Да як закінулі, так і спаймалі.

Не ўлавілі, не спаймалі шчучкі й акуньца,
Да злавілі, да спаймалі малое дзіця.

Да й узялі тое дзіця да й на ручанькі,
Да й паняслі ж тое дзіця да святлічанькі.

Да як зазванілі ува ўсе званы,
Да штоб сабраліся паненкі, паны.

Да ўсе ж паны, паненачкі вясёленька йдуць,
Да ж на сваіх галовачках вяночкі нясуць.

Адна ж панна-вайтоўначка хмурнесенька йдзе,
Да на сваёй галовачцы вянка не нясе.

Да у сені не ўвайшла, цяжка уздыхнула,
А на дзіцятка глянула — да й заплакала.

— Знаці, знаці, вайтоўначка, твая прычына.
Як узялі вайтоўначку пад белы бокі.

Як узялі вайтоўначку пад белы бокі
Да й уруцілі вайтоўначку ў Дунай глыбокі.

Яны ж да й німалі, што яна ўтанула,
Но шчэ панна-вайтоўначка тры разы ўзрыгнула,

Такі сваёй роднай мамцы слоўца мовіла:
— Есць жа ў цябе, мая мамка, яшчэ дачок пяць.

Есць жа ў цябе, мая мамка, яшчэ дачок пяць —
Не пускай іх па вячорках, хай дома спяць.

Есць жа ў цябе, мая мамка, яшчэ дачок тры —
Не пускай іх па вячорках, дзверы падапры.

Есць жа ў цябе, мая мамка, яшчэ дачок дзве —
Не давай ім патоленькі, як давала мне.

Не пускаць было мяне, маці, з поўначы на віно,
Ну, гэта мяне тое віно з розуму звяло.

Як зайгралі, завяселілі ў скрыпкі і ў цымбалы
І з панічом-кралевічам спаць паклалі.

## 698




Нашы хлопцы-рыбалоўцы рыбу лавілі,
Трай-рай, ра-ра-рай, рыбу лавілі. [1]
Не злавілі рыбы-шчукі — злавілі куня,
Адвярцелі, паглядзелі — малоя рабя.
Занясіце рабёначка у казённы дом,
Палажыце дзіцятачка на дубовы стол.
— Усе дзеўкі-красотачкі сабірайцеся
І гэтаму дзіцятачку прызнавайцеся.
Усе дзеўкі-красотачкі уперад ідуць,
Яны сабе на галоўках вяночкі нясуць.
Адна дзеўка-красотачка яна ззаду йдзець,
Яна сабе на галоўцы вянок не нясець.
— Чаму, дзеўка-красотачка, чаму ззаду йдзеш?
Чаму сабе на галоўцы вянок не нясеш?

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Трай-рай, ра-ра-рай».

— У суботу ранюсенька хворая была,
Дык я сабе на галоўку вянка не звіла.
У нядзельку ранюсенька сына радзіла,
На свет божы не пусціла, ў мора ўбросіла.

## 699




Красна панна Марусіца сына зрадзіла,
Яна яго, маладога, ў Дунай пусціла:

— Плыві, плыві, мой сыночку, па ўсім беражкам,
Бо выйдзе жа няславачка па ўсім дзевачкам.

Там жа, там жа рыбаловы рыбу лавілі,
Краснай панны Марусіцы сына злавілі.

Прынеслі яны яго да пана ў пакоі,
Палажылі яны яго на часовым столе.

Наказалі ўсім дзевачкам да судуісці,
Да на сваіх галовачках вяночкі нясці.

Красна панна Марусіца наўперад ішла,
Яна жа на галоўцы вянка не нясла.

— Бадай жа то тому пану дабра не было,
Што ён мяне цёмнай ночы паслаў па віно!

Ў той бок ішла, ў той бок ішла — месячык свяціў,
Назад ішла цёмнай ночы — казак ухваціў,
Ох, ён жа мне, маладзенькай, няславу зрабіў.

## 700

І а ў нашай у дэярэўні нова навіна,
Трай-раю-рай, нова навіна! [1]
Маладая дзяўчоначка сына радзіла,
Не хацела васпітаці — ў мора бросіла.
Рыбалоўцы, добры хлопцы, рыбу лавілі,
Не ўлавілі рыбы-шчукі, ўлавілі дзіця.
Панясілі таго дзіцятка у казённы дом
І ўдарылі ў барабаны, ў самы громкі звон:
— Сабірайцесь, раскрасоткі, будзе перабор:
Каторая раскрасотка сына радзіла.
А ўсе нашы раскрасоткі весела ідуць,
Адну нашу Настасію пад пашкі вядуць.
Услед за ёю родна маці слёзна плачацца.
— На плач, маці, не плач, маці, ■ ў цябе не адна,
Не глядзела мяне маці, гуляла да дня.
Не плач, маці, не плач, маці, яшчэ дома пяць —
Не пушчай іх, родна маці, ў начлежкі гуляць!
А ў начлежках, а ў начлежках нязродная маць,
З кім хочацца, не хочацца, прыходзіцца спаць.

## 701

У мястэчку Берастэчку чуць навіна,
Наша панна Маруленька сына радзіла,
Парадзіла і спавіла і ў Дунай пусціла:
— Плыні, сыночку, па ўсіх беражках,
Пашла няславанька па ўсіх старанах.
Пашлі хлопцы-рыбалоўцы рыбу лавіць,
Не злавілі рыбы-шчукі, а злавілі дзіця.
Заняслі тое дзіця на судовы двор,
Палажылі тое дзіця на буковы стол.
Заказалі ўсім дзевачкам да суду ісці,
На сваіх галаванькаx вянцы нясці.
Усе дзевачкі-сястроначкі да суду ішлі,
На сваіх галаванькаx вянцы нясли.
Адна панна Маруленька паміж імі ішла,
На сваёй галаваньцы вянца не нясла.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Трай-раю-рай».

Асудзілі Маруленьку і ў Дунай пусцілі.
— Плыні, Маруленька, па ўсіх беражках,
Пашла на нас няславанька па ўсіх старанах.
— Бадай тому пану і панне дабра не было,
Што пасылаў сярод ночы па мёд і віно:
У той бок ішла — месячык свяціў,
А назад ішла — кавалер вянок схваціў.

## 702




А ці чулі ды вы, дзевачкі, гэту навіну?
А-я, гэту навіну! [1]
А што наша ды вайтоўначка сына радзіла?
А радзіўшы, ды дзіцятачка панесла тапіць.
Ажну там рыбалоўнічкі рыбу лавілі.
Не ўлавілі рыбалоўнічкі ані рыбачкі,
А ўлавілі рыбалоўнічкі малое дзіця.
Як панёслі ды дзіцятачка ўсё на войтаў двор,
А ўдарылі рыбалоўнічкі а ў вялікі звон:
— Сабірайцеся вы, дзевачкі, ўсе на войтаў двор.
А ўсе дзеўкі ды падружачкі вясёла ідуць,
Адну нашу ды вайтоўначку пад пахі вядуць.
— Ёсць жа ў майго да татачкі яшчэ ў дварэ дзве —
Не давайце ім распустачкі, як мне, маладзе.
Ёсць жа ў майго ды татачкі яшчэ ў дварэ пяць —
Не пускайце іх ў начлежачкі, няхай ў дварэ спяць.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з дадаткам «А-я».

## 703

А ў нядзельку раненька дзевачкі пяюць
І на свае галовачкі вяночкі кладуць.

Адна дзеўка Марысіца лянівa была,
Яна сабе на галоўку вянка не звіла.

У нядзелю ранюсенька стала навіна,
Маладая Марысіца сына радзіла.

Нарадзіўшы, пакупаўшы, ў полкі спавіла,
А спавіўшы у полачкі, ў Дунай панясла:

— Няма ў цябе, Дунайчыку, ні дна, ні канца,
Няма ў цябе, мой сыночак, роднага айца!

Выскачылі тры казакі з-пад быстрай ракі,
Ухвацілі Марысіцу пад белы бакі.

Ухвацілі Марысіцу пад белы бакі,
Укінулі Марысіцу ў Дунай глыбакі.

Як жа стала Марысіца на дно ападаць,
Тады стала Марысіца мамку ўспамінаць:

— Мая мамка, старэнькая, яшчэ ў цябе пяць,
А не пускай на йгрышчанька, няхай дома спяць!

Мая мамка, старэнькая, яшчэ дома тры,
А не пускай на йгрышчанька, варотцы запры!

Мая мамка, старэнькая, яшчэ дома дзве,
А не давай такой волі, як мне, маладзе!

А мне дала, мая мамка, вялікую волю,
А ты дай ім, мая мамка, шчаслівую долю.

## 704

Ой, паехалі да рыбалоўцы
Рыбу й лавіці. [1]

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Да не спаймалі да рыбы-шчукі,
Спаймалі ліна.

Ой, не лін-рыба да не лін-шчука —
Малое дзіця.

У суботаньку рана-парана
Стараста ходзіць

Да заказвае красным дзевушкам,
Шчоб ішлі на збор,

Бо цяперака красным дзевушкам
Будзе перабор.

— Вы каторая расканалія
Сына радзіла?

Ой, не карміўшы да не паіўшы,
Ў рэчку бросіла?

Ой, плыві, дзіця, да плыві, родна,
Куды волны б'юць.

Да ў нядзельку рана-парана
Усе званы б'юць,

Да ўжо тую расканалію
Пад ручкі вядуць.

Ой, адзін вядзе да за ручаньку,
Другі за рукаў,

А трэці стаіць, ручкі ломіць —
Любіў да не ўзяў.

— Ой, да не жаль мне маіх ножак,
Што я пахаджаў,

Толькі жаль мне маіх ручак,
Што я абнімаў,

Да чы не жаль мне да маіх губак,
Што я цалаваў.

А ззаду ідзе маці старая,
Плача, рыдае.

— Не плач, матка, не плач, стара,
Яшчэ ў цябе пяць,

Не пускай жа да на вячоркі —
Няхай дома спяць.

## 705

(1) Да у По- лацку, слаў- ным го- ра- дзе,

гэй, гэй, гэй, слаў- ным го- ра- дзе.

Да у Полацку, слаўным горадзе,
Гэй, гэй, гэй, слаўным горадзе, [1]
Млода Хімушка, красна дзевіца,
Сына прывяла, шоўкам спавіла,
Шоўкам спавіла, ў Дунай пусціла.
А сама пашла лужком-беражком
Да напаткала трох малойчыкаў:
— Вы малойчыкі, рыбалоўчыкі,
Да закіньце ж вы шаўковы невад,
Вы уловіце шчуку-рыбінку.
Як закінулі шаўковы невад,
Не выцягнулі шчучкі-рыбінкі,
Да выцягнулі малое дзіця.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, гэй, гэй».

Да як панясл ў самы дальшы край
Да зазванілі ў самы большы звон:
— Сабірайцеся, ўвесь дзявічы збор.
Усе дзевушкі, ўсе малодушкі,
Ўсе самі ідуць, млоду Хімушку,
Красну дзевушку, пад ручкі вядуць,
Пад ручкі вядуць, бізуном сякуць.

## 706

Ды паехаў каралевіч на ваяванне,
Ды пакінуў Ганусіцу на гараванне.
Яго жана Ганусіца сына радзіла,
Парадзіўшы, свайго сына ў пялюшку звіла,
Спавіўшы ў пялюшачкі, у Дунай пусціла.
— Плыві, плыві, мой сыночак, ды як плотушка,
Ці не буду я, молада, йшчэ дзевушка.
Там хадзілі рыбалоўнічкі, рыбку лавілі,
Не злавілі шчукі-рыбы, злавілі дзіця.
Во й панеслі дзіцятушка на крулеўскі двор,
Ударылі-зазванілі у жалосны звон.
— Усе дзевачкі-паненачкі, сабірайцеся,
Вы к гэтаму дзіцятушку прызнавайцеся.
Усе дзевачкі-паненачкі напярод ідуць,
Яны на сваіх галовачках вяночкі нясуць.
Ох, і тая Ганусіца назаду ідзець,
Яна на сваёй галовачцы вянка не нясець.
— Зачэм, зачэм, Ганусіца, ляніва была
І ты на сваю галовачку вянка не звіла?
— Я ўчора су вячора больна ляжала
І на сваю галовачку вянка не звівала.
Ох, узялі Ганусіцу пад белы бокі,
Укінулі Ганусіцу ў Дунай глыбокі.
Ішчэ тая Ганусіца йшчэ не ўтанула,
Яна сваю усю роскаш успамянула.
— Во, маеш жа, мой татачка, яшчэ дачок пяць —
Не пушчай жа па кірмашах, няхай дома спяць.
Вой, маеш жа, мой татачка, яшчэ меншых дзве —
Не давай жа такой волі, во як даў і мне.

Як паехаў пан каралевіч на Русь ваяваць,
Пакінуў Марусечку гора гараваць.

Марусечка гора гаравала, сына радзіла,
У пялёначку спавіла і ў Дунай пусціла.

А там хлопцы-рыбалоўцы рыбку лавілі,
Не злавілі шчукі-рыбы — злавілі дзіця.

А як панеслі дзіця ўсё на рожны двор,
Як далі ў барабаны і ў жалобны звон.

Загадалі ўсім дзевачкам сабірацісяя
І малому дзіцятачку прызнавацісяя.

Усе дзевачкі, як кветачкі, напярод ідуць,
Яны на сваіх галовачках вяночкі нясуць.

Марусечка-каралеўначка пазаду ідзе,
На сваёй галовачцы вянка не нясе.

— Зачым, зачым, Маруся, забаўна была,
Што на сваю галовачку вянка не звіла?

— Я сем нядзель, як адзін дзень, ўсё хвора была,
На сваю галовачку вянка не звіла.

— Знаем, знаем, Маруся, ўсе твае размовы.
А кінулі Марусю ў Дунай глыбокі.

А яшчэ Маруся не патанула,
Яна сваю матулечку успамянула.

— Бадай табе, матулечка, ручка балела,
Як ты мяне, матулечка, біці жалела.

Ёсць у цябе, матулечка, дочкі ўдома дзве,
А не давай патолечкі, як давала мне.

Ёсць у цябе, матулечка, дочак ўдома пяць,
А не пушчай па кірмашыках, няхай ўдома спяць.

## 708

♩=80

А ў ня-дзель-ку па-ра-вень-ку ўсе зва-ны ра-вуць,

трай- рай- рай, ўсе зва-ны ра-вуць.

## 709

♩=120

Ой, у на-шай дзе-ра-вуш-цы слу-чы-лась бя-да,

трай-рай-рай, слу-чы-лась бя-да.

Ой, у нашай дзеравушцы
Случылась бяда,
Трай-рай-рай,
Случылась бяда. [1]

Маладая Настасея
Сына радзіла.

Не паіла, не карміла —
Ў рэчку бросіла.

Маладыя рыбаловы
Рыбу лавілі,

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Трай-рай-рай».

Не паймалі шчукі-рыбы —
Паймалі ліна.

Развярнулі, паглядзелі —
Аж мало дзіця.

А ў нядзельку параненьку
Ва ўсе звоны б'юць,

Маладую дзяўчонаньку
Пад наказ вядуць.

## 710

♩ = 108

Што ў на – шай дзя – рэў – ні но – ва на – ві – на,

што ў на – шай дзя – рэў – ні но – ва на – ві – на,

трай – рай – рай – рай, но – ва на – ві – на,

трай –рай – рай – рай, но – ва – на – ві – на.

Што ў нашай дзярэўні нова навіна, [1]
Трай-рай-рай-рай, нова навіна.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Маладая Настасея сына радзіла,
Трай-рай-рай-рай, сына радзіла.

Не пусціла на свет божы — ў мора бросіла,
Трай-рай-рай-рай, ў мора бросіла.

Рыбалоўцы-хлопцы рыбу лавілі,
Трай-рай-рай-рай, рыбу лавілі.

Не спаймалі шчукі-рыбы, паймалі ўюна,
Трай-рай-рай-рай, паймалі ўюна.

Рассматрэлі, разглядзелі — малое дзіця,
Трай-рай-рай-рай, малое дзіця.

А ў нядзельку параненьку ўсе званы равуць,
Трай-рай-рай-рай, ўсе званы равуць.

Маладую Настасею к расстрэлу вядуць,
Трай-рай-рай-рай, к расстрэлу вядуць.

А за ёю родна мацьь плачыць, рыдаець,
Трай-рай-рай-рай, плачыць, рыдаець.

— Не плач, не плач, родна мацьь, яшчэ дома пяць,
Трай-рай-рай-рай, яшчэ дома пяць.

Не пускай іх на вуліцу, няхай дома спяць,
Трай-рай-рай-рай, няхай дома спяць.

## 711

♩ = 78

Ай, у на-шай дзе-ра-вуш-цы вы-шла на-ві-на,
трай-рай-рай, вы-шла на-ві-на.

Ай, у нашай дзеравушцы вышла навіна,
Трай-рай-рай, вышла навіна.[1]
Маладая дзяўчыначка сына радзіла.
Не ўскарміла, не ўспаіла, ў рэку бросіла.
А там хлопцы-рыбалоўцы рыбу лавілі,
Не злавілі шчукі-рыбы, злавілі ліна,
А узялі, развярцелі — малое дзіця.
А панеслі дзіцятачка на заезны двор
Да ўдарылі па дзіцяці й у вялікі звон.
— Да ўсе ж нашы дзевачкі, сабірайцеся
Да к гэтаму дзіцятачку прызнавайцеся.
Адна наша дзяўчыначка смутненька ідзе,
А за ёю ацец-маці слёзачкі ліе.
— Не плач, не плач, ацец-маці, яшчэ дома пяць —
Не пушчайце на вячоркі, няхай дома спяць:
На вячорках чужа маці кладзе з хлопцам спаць.

## 712

У нядзелю ранюсенька ўсе званы равуць,
Трай-рай-рай, ўсе званы равуць.[1]
Маладую бандароўну пад наказ вядуць.
А там хлопцы-рыбалоўцы рыбу лавілі,
Не паймалі рыбы-шчукі, паймалі ліна,
Рассматрэлі, разглядзелі, што мало дзіця.
А ў нядзелю ранюсенька ўсе званы равуць,
Маладую бандароўну серад двара б'юць.
— Ой, матуля дарагая, маеш ты дочак пяць —
Не пускай іх па вячорках, няхай ў доме спяць.
Ой, матуля дарагая, маеш ты дочкі дзве —
Не пускай іх па вячорках, як пускала мяне.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Трай-рай-рай».

## 713

♩ = 110



## 714

♩ = 120



Ой, у Кіёве жа да на рыначку
Случылась бяда.

Случылась бяда.
Да маладая ды Марусечка
Радзіла сына.

Радзіла сына
Да на свет божы ды не пусціла,
А ў рэчку бросіла.

Ў рэчку бросіла.
Да пайшлі хлопцы да рыбалоўцы
Рыбаньку лавіці,

Рыбаньку лавіці,
Да не паймалі да рыбу-шчуку,
Паймалі ліна.

Паймалі ліна
Ды як узялі на белы рукі —
Аж гэта дзіця,

Аж гэта дзіця.
Ды й панеслі ту дзяцінaчку
У казённы дом,

У казённы дом,
Ды палажылі ту малютачку
На цясовы стол,

На цясовы стол.
Ды й ударылі, ды й урэзалі
У галосны звон,

У галосны звон:
— Да й усе дзеўкі сабірайцеся
Да й на перазоў,

Да й на перазоў.
Да ўсе дзеўкі ды й сабраліся —
Не сазналіся,

Не сазналіся.
Ды маладая ды Марусечка
Ды й сазналася,

Ды й сазналася.
Да й ужо тую ды Марусечку
Пад наказ вядуць,

Пад наказ вядуць.
Да яе маці ды старэнькая
Горкі слёзы льецы,

Горкі слёзы льецы.
— Да не плач, не плач, маці стара,
Яшчэ дома пяць,

Яшчэ дома пяць.
Да не пускай жа да на вуланьку,
Няхай дома спяць.

## 715




Ой, у нашай дзеравушцы нова навіна,
Трай-рай-рай, нова навіна.[1]
Маладая Настасея радзіла дзіця.
Не хрышчона, не баблёна ў рэчку бросіла.
Ой, там хлопцы-рыбалоўцы рыбу лавілі.
Не спаймалі шчукі-рыбы, спаймалі ліна.
Разглядзелі рыбалоўцы — ажно то дзіця.
Яны ўзялі тое дзіця на белы рукі,
Ой, панеслі тое дзіця у казённы дом,
Палажылі тое дзіця на цясовы стол.

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Трай-рай-рай».

Ударылі рыбалоўцы у голасны звон:
—Сюды, дзеўкі, сюды, красны, і к нам на субор.
А ўсе дзеўкі, а ўсе красны весела ідуць,
Маладую Настасею пад рукі вядуць.
— Прызнавайся, Настасея, чыё то дзіця.
Прызналася Настасея, што яе дзіця.
— Мы хадзілі на вячоркі, там чужая маць,
А чужая маць вялела нам з хлопцамі спаць.
Жартавалі, жартавалі, ды й палеглі спаць,
А ўсе тыя жартушкі на праўду ходзяць.

## 716




Як выйду я да на вуліцу —
Салома ляжыць. [1]

Вой, тудою красная дзяўчонка
Па ваду бяжыць.

Бяжы, бяжы, да красная дзеўка,
Не аглядуйся,

Як будуць цябе гукаць,
Не адгукайся.

Да йшлі хлопцы-рыбалоўцы
Рыбу лавіці,

Не спаймалі да шчуку-рыбу,
Спаймалі 'куня.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Рассматрэлі ж яны, разглядзелі —
Аж гэта ж дзіця.

Як узялі ж гэтага дзіцёнка
На белы рукі,

Да паняслі гэтага дзіцятачка
На саборны двор,

Да ўдарылі да па дзіцёнку
У самы большы звон:

— Да ўсе ж нашы да начлежнічкі,
Сабірайцеся

Да к гэтаму дзіцятачку
Прызнавайцеся.

Да ўсе ж нашы да начлежнічкі
Весела ж ідуць,

Адну ж нашу да начлежачку
Пад рукі вядуць.

Да за ёю ацец-маці да пазадзі ідуць,
Сільненька плачуць.

— Вы ж не плачце ж, ацец-маці,
Яшчэ ж дома пяць,

Не пускайце ж іх на начлежкі,
Няхай дома спяць.

## ДЗЯУЧЫНА ЗАСНУЛА У ЧАУНЕ, ХЛОПЦЫ СПІХНУЛІ ЯЕ У МОРА НА ПАГІБЕЛЬ

### 717

А на моры дзяўчыначка бель бяліла,
Бель бяліла, ручкі мыла ды заснула,

Бель бяліла, ручкі мыла ды заснула,
Ішлі хлопцы-малойчыкі, ды не чула.

Узялі яны ўсе трое па шасточку
І сапхнулі дзяўчыначку з беражочку.

Прачнулася дзяўчыначка сярод мора:
— А божа мой міленькі, ўсё нядоля,

Што не татачка вяселлейка спраўляе,
Што не мамачка куфэрак накладае,

Што не мамачка куфэрак накладае,
Не сястрыца баярачкай выязджае.

А спраўляе вяселлейка ясны месяц,
Накладае куфэрачак цёмна ночка.

Накладае куфэрачак цёмна ночка,
Выязджае баярачкай заранычка!

## 718




А на моры дзяўчына бель бяліла,
У вадзіцу злат персцень абраніла.

Там чаўнамі рыбалоўцы праплывалі,
Невадамі той персцень іспаймалі.

— Бяры персцень, канчай бель бяліці,
Пойдзем, красная, з намі мядок піці.

Ой, спаілі дзяўчыну на мядочку,
П'яну спаць палажылі ў чаўночку.

Адпіхнулі чаўночак на прастору —
Абудзілася дзеўка сярод мора.

Абудзілася дзеўка сярод ночы,
Заліліся слязамі ясны вочы:

Што не мамка да шлюбу выпраўляе,
Не сястрыца ў баярках паязджае,

Што не родненькі татка благаслаўляе,
Што не брацік касіцу расплятае.

Выпраўляе да шлюбу цёмна ночка,
Паязджае ў баярках ясна зорка.

Благаслаўляе дзявіцу ясен месяц,
Расплятае касіцу буен вецер.

### 719

На беражочку ды на сіненькім
Дзяўчыначка бель бяліла,
Бель бяліла, хусты мыла,
Золат персцень ураніла.
На круценькім беражочку
Бель сушыла, бель сушыла.
А тудой ішло два малойчыкі,
Два малойчыкі-рыбалоўчыкі.
— Памагай табе божа, дзяўчыначка,
Бель бяліці, бель бяліці,
Хусты сушыці, хусты сушыці.
Узялі дзяўчыначку пад белыя рукі,
Павялі дзяўчонку у карчомку,
Напаілі дзяўчонку сільна п'яна.
Павялі дзяўчонку к беражочку,
Пасадзілі дзяўчонку і ў чаўночку,
Узялі сабе па шасточку,
Спіхнулі дзяўчонку з беражочку.

Ачнулася дзеўка сярод мора:
— Ці не татачка мяне сюды выпраўляў,
Ці не мамачка мне куфрык накладае,
Ці не сястрыцы мне песенькі спяваюць,
Ці не браткі мае конікі сядлаюць.
Выпраўлялі мяне буйныя ветры,
Накладалі мне куфрык цёмныя ночкі,
Успявалі мне песні ясны зоркі,
А сядлаў мне коні ясны месяц.

## 720

Ой, запіўся малойчык, загуляўся,[1]
Яго й конь вараненькі застаяўся.
— Ой вы, братцы-малайцы, пададжджыце,
Варанога коніка запражыце,
Ой, паедзем на мора па дзявіцу.
Ой, на моры дзявіца бель бяліла.
— Памагай бог дзявіцы бель бяліці.
— На здароўе вам, малойцы, хадзіці.
Ой, узялі дзявіцу пад ручачкі,
Ой, павялі дзявіцу ў карчомку,
Пасадзілі дзявіцу ў радочку,
Напаілі дзявіцу ўсё мядочкам.
Ой, прывялі дзявіцу к чаўночку.
Ой, узялі малойцы па пруточку,
Супіхнулі дзявіцу з беражочку.
Ачнулася дзявіца сярод мора.
— Ай, божа мой мілы, што за доля!
Ай, не татка да шлюбу выпраўляець,
Ай, не мамка скрыначку накладаець,
Не брацейка са мною паязджаець,
Не сястрыца косачкі расплятаець.
Выпраўляець да шлюбу ясен месяц,
Накладаець скрыначку ясна зорка,
Паязджаець са мною сіне мора,
Расплятаець косачкі буйны вецер.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## МАТРОСЫ (ПІЛІПОНЫ) ЗВОЗЯЦЬ ДЗЯЎЧЫНУ НА КАРАБЛІ

### 721

♩ = 78

Пра_ сі_ ла_ ся донь_ ка ў ма_ ці

па_ гу_ ля_ ці: —Пус_ ці, пус_ці, род_ на_ я

ма_ ці, ой, па_ гу_ ля_ ці.

Прасілася донька ў маці
Пагуляці:
— Пусці, пусці, родная маці,
Ой, пагуляці.

Пусці, пусці, родная маці,
Пагуляці.
— Ці ўсё ж сваё, донька, дзела,
Ой, парабіла,

Ці ўсё ж сваё, донька, дзела
Парабіла,
Што ты ў мяне зарань гуляці,
Ой, папрасіла,

Што ты ў мяне зарань гуляці
Папрасіла?
Ступай, донька, да каморы,
Ой, лажыся спаці,

Ступай, донька, да каморы,
Лажыся спаці.
Пашла донька да каморы,
Ой, крэпка ўснула,

Пашла донька да каморы,
Крэпка ўснула.
Укралі ж яе піліпоны,
Ой, дак не чула,

Укралі ж яе піліпоны,
Дак не чула.
Прачнулася красная дзеўка,
Ой, сярод мора,

Прачнулася красная дзеўка
Сярод мора
У маладога піліпона,
Ой, на прыполе,

У маладога піліпона
На прыполе.
Стала ж яна, красная дзеўка,
Ой, сільненька плакаць,

Стала ж яна, красная дзеўка,
Сільненька плакаць.
Стала дзеўка сільненька плакаць,
Ой, і рыдаці.

Стала дзеўка сільненька плакаць
І рыдаці.
Стала ж яна сваю мамку,
Ой, праклінаці,

Стала ж яна сваю мамку
Праклінаці:
— Бадай табе, родная маці,
Ой, не ўміраці,

Бадай табе, родная маці,
Не ўміраці,

Як ты мяне зарань спаці,
Ой, палажыла,

Як ты мяне зарань спаці
Палажыла,
Як ты мяне з сваім родам,
Ой, разлучыла.

Як ты мяне з сваім родам
Разлучыла.
Не татачка мяне замуж,
Ой, выдавае,

Не татачка мяне замуж
Выдавае.
Не мамачка мне кублічак,
Ой, накладае,

Не мамачка мне кублічак
Накладае.
Не брацетка да за мною,
Ой, праязджае,

Не брацетка да за мною
Праязджае.
Выдавала ж мяне замуж,
Ой, цёмная ночка,

Выдавала ж мяне замуж
Цёмная ночка.
Накладала мне кублічак,
Ой, ясная зорка,

Накладала мне кублічак
Ясная зорка.
Расплятаў жа мне косачку,
Ой, буйны вецер,

Расплятаў жа мне косачку
Буйны вецер.
Праязджаў жа да й за мною,
Ой, ясны месяц.

## 722

Зацвітала сіняе мора рознымі цвятамі,
Ой, не цвятамі, а ўсё караблямі.
Як на тых на новых караблях матросы гулялі,
Яны к сабе красну дзевушку у карабль пасадзілі.
Пасадзіўшы красну дзевушку, віном напаілі,
Напаіўшы красну дзевушку, спаць палажылі,
Палажыўшы красну дзевушку, карабель адвалілі,
Адваліўшы новы карабель, ў гуселькі зайгралі.
Прачнулася красная дзевушка сярод сіняга мора.
— Матросы, братцы-галубчыкі, што вы нарабілі,
Што вы мяне, красну дзевушку, ад роду адбілі?
— Было табе, красная дзяўчоначка, віна не ўпівацца.
Было табе, красная дзевушка, з матросамі не знацца.

## 723

Расцвітала сіняе мора разнымі цвятамі,
Разнымі цвятамі, з мора й караблямі.

Да й у тых жа караблечках матросы гулялі,
Яны к сабе красную дзеўку ў караб падзывалі.

— Хадзі, хадзі, красная дзеўка, ў карабель гуляці,
Будзем цябе, красная дзеўка, ромам угашчаці.

Напаілі красную дзеўку, ромам напаілі,
Тады яны красную дзеўку да й спаць палажылі.

Яны тады, добрыя хлопцы, караб адвалілі,
Тады яны, добрыя хлопцы, дзеўку разбудзілі.

Ачнулася красная дзеўка сярод сіняга мора:
— Вы ж матросы, добрыя хлопцы, што ж вы нарабілі?

Нашто мяне, красную дзеўку, ромам напаілі,
Нашто мяне, красную дзеўку ад роду адбілі?

— Было табе, красная дзеўка, ромам не ўпівацца,
А было табе, красная дзеўка, з родам распрашчацца.
Павек табе, красная дзеўка, з родам не відацца.

## 724

Зацвілі садочкі
Сінімі цвятамі,

Сінімі цвятамі,
Да заплыла сіняе мора
Да ўсё караблямі,

Да ўсё караблямі.
Ой, у тых жа карабельках
Матросы гулялі,

Матросы гулялі.
Яны сабе красную дзеўку
Гуляць падмаўлялі,

Гуляць падмаўлялі:
— Хадзі, хадзі, красная дзеўка,
Ў карабель гуляці,

Ў карабель гуляці.
Ой, і будзем, красная дзеўка,
Віном частаваці,

Віном частаваці.
Напаілі, накармілі,
Спаці палажылі,

Спаці палажылі.
Ой, спі, ой, спі, красная дзеўка,
Наспі сабе гора,

Наспі сабе гора.
Прачнулася красная дзеўка
Ў паўсіняга мора,

Ў паўсіняга мора.
— Матросікі маладыя,
Што вы мне зрабілі,

Што вы мне зрабілі,
Што вы мяне, маладзеньку,
З родам разлучылі,

З родам разлучылі?
— Не трэ было, красная дзеўка,
Віном упівацца,

Віном упівацца.
Не трэ было, красная дзеўка,
З родам разлучацца,

З родам разлучацца.
— Ой, паедзем, красная дзеўка,
Са мною вянчацца,

С табою вянчацца,
Ой, на тую гору крутую
Ў цэркаўку святую.

## 725

Расцвітала каліна разнымі цвятамі,
Выплывала сіне мора усё караблямі.

У тых караблёх ды матросы гулялі,
К сабе красных дзяўчат яны прымаўлялі.

— Хадзі, красна дзеўча, ды ўсё жа з намі,
Ды купім, красна дзеўча, вяночак з пярламі.

[Ды купім, красна дзеўча, вяночак з пярламі]
Ды абручкі на ручкі, сапожкі — на ножкі.

Узялі красну дзяўчыну матросы ўлавілі,
Мядовай водачкай напаілі і спаць палажылі.

— Засні, красна дзеўча, усё ж без гора.
Устала красна дзяўчына пасярод мора.

— Бадай ты, мора, ды пясочкам зачэзла,
Як мяне, красну дзеўчыну, сюды прынесла.

— Ужо ж табе, красна дзеўча, не жаць, не касіці,
Ужо ж табе, красна дзеўча, з матросамі жыці.

Ужо ж табе, красна дзеўча, з тваім родам не відацца,
Ужо ж табе, красна дзеўча, з матросамі звянчацца.

## 726

Расцвітала да сіняе мора разнымі цвятамі,
Ой, усё разнымі цвятамі да ўсё караблямі.

Ой, як на тых жа, о, да караблях матросы гулялі,
Яны к сабе красную дзеўку гуляць падмаўлялі.

Падмовіўшы да красную дзеўку, румам напаілі,
Напаіўшы да красную дзеўку, спаці палажылі:

— Усні, усні, красная дзеўка, усні да й на гора.
Прашнулася да красная дзеўка сярод сіня мора.

Стала красная дзеўка плакаці-рыдаці,
[Стала красная дзеўка] матросаў ругаці:

— Ой вы, матросы, хлопцы маладыя, парні заўдалыя,
Распінайце белыя парусы да долу, вярніце мяне дадому!

— Цяпер табе, красная дзеўка, дамоў не вяртацца:
Было табе, красная дзеўка, із родам папрашчацца.

Цяпер табе, красная дзеўка, па мору катацца,
Цяпер табе, красная дзеўка, з матросам вянчацца.

## 727




Расцвітала сіне мора
Рознымі цвятамі. [1]

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Да заплывала сіне мора
Усё караблямі.

Да у том жа караблiку
Сын Розін гуляе.

Ен гуляе, ён гуляе,
Дзеўку падмаўляе.

— Хадзі, хадзі, красна дзеўка,
К нам ў карабель гуляці,

Да буду цябе, красна дзеўка,
Ромам частаваці .

Да напілася дзеўка рому,
Легла й уваснула.

Прачнулася красна дзеўка
Сярод сіняга мора.

— Вот цяпер жа, мая мамка,
Вой, гора мне, гора.

Вярні-вярні мяне, божа,
На маю старонку.

Да пакланюся я атцу й мамцы
Ніжэнька я ў ножкі.

Да буду сваёй мамцы й татку
Ручкі й ножкі мыці.

Да буду я, маладая,
Тую ваду піці.

## КАЗАКІ (ЧУЖАЗЕМЦЫ) НАМАУЛЯЮЦЬ ДЗЯУЧЫНУ НА ВАНДРОУКУ

### 728

А на гарэ сосна, на даліне корчма,
У тэй жа карчомцы да два чужаземцы.

Адзін чужаземец, то ён п'е гарэлку,
Другі чужаземец намаўляе дзеўку:

— Малада дзяўчына, чы пойдзеш ты з намі?
Будзе табе лепей, як у роднай мамы.

У матулі была толькі на языках,
А ў нас, дзеўка, будзеш усё на музыках.

У матулі была толькі на абмовы,
А ў нас, дзеўка, будзеш усё на размовы.

У матулі насіла лапцікі лазовы,
А ў нас насіць будзеш чаравічкі казловы.

Прывялі дзяўчыну да сухой каліны:
— Вярніся, дзяўчына, ты ўжо нам няміла.

— Раз я радзілася, раз буду ўміраці,
Куды пусцілася, буду вандраваці.

Прывялі дзяўчыну да сухога дуба:
— Вярніся дзяўчына, ты ўжо нам нялюба.

— Раз я радзілася, раз буду ўміраці,
Куды пусцілася, буду вандраваці.

Прывялі дзяўчыну да да сухой сосны,
Прывязалі яе за русыя косы.

Украсілі агню з чорнага крамени,
Падпалілі сосну пад усё карэння.

Сасонка тлее, дзяўчына млее,
Сасонка гарыць, дзяўчына гавора:

— Хто ў лесе начуе, няхай тое чуе,
А хто дочкі мае, няхай навучае.

А хто дочкі мае, няхай навучае,
Аднэй да карчомкі позна не пушчае.

## 729

Стаяла карчомка на рыжым пясочку,
А у той карчомцы да два чужаземцы.

Адзін чужаземец п'е мёд і гарэлку,
А другі чужаземец намаўляе дзеўку:

— Едзь, дзяўчына, з намі, з намі, уланамі,
Будзе табе лепей, як у тваё мамы.

А у тваё мамы то трэба рабіцца,
З намі, уланамі,— мёд, гарэлку піцці.

А у тваё мамы кашулі латаны,
З намі, уланамі,— шоўкам вышываны.

А у тваё мамы ходзіш ў латужыне,
З намі, уланамі,— ў шчырым кармазыне.

А у тваё мамы лазовыя лычкі,
З намі, уланамі,— злоты чаравічкі.

Стала дзеўка, стала, стала, падумала,
Села дзеўка, села да і паехала.

Завезлі дзяўчыну за лясэ, за воды,
Пытаюцца ў дзеўкі, чы вернешся да роду?

— Лепей утаплюся — назад не вярнуся,
Бо ад сваго роду ўстыду набяруся.

Вязуць дзеўку, вязуць лясамі, барамі,
Прывязалі дзеўку да сосны пасамі,

Да сосны пасамі, да бору вачамі,
[Да сосны пасамі, да бору вачамі.]

Выкрасалі агню з сіняга каменя,
Падпалілі сосну з галля да ў карэння.

І сасонка гарыць, а казак гаворыць,
[І сасонка гарыць, а казак гаворыць:]

— Мусіць, ў гэтым лесе ніхто не бывае.
Малада дзяўчына з жалю памірае.

— Хто ў лесе начуе, няхай голас чуе,
Няхай мне, маладзенькай, з агня выратуе!

А хто дочкі мае, няхай тое знае,
Няхай да карчомкі гуляць не пушчае.

Бо тая карчомка — то велька здрадніца:
Здрадзіла дзяўчыну, як ў саду каліну.

## 730







А ў полі крыніца, халодна вадзіца,
Пайду прахаджуся, вадзіцы нап'юся.

А ў полі карчомка, карчомка стаяла,
А ў той жа карчомцы казакі гулялі.

Казакі гулялі, дзеўча намаўлялі:
— О, едзь, дзеўча, з намі, з намі, казакамі,

Будзе табе лепей, як у свае мамы,
[Будзе табе лепей, як у свае мамы.]

Ой, у мамы носіш сіву сермяжыну,
З намі, казакамі,— сіню казачыню.

Тое дзеўча дурна, яно паслухала
Да і з казакамі ў паход паехала.

Ой, павялі дзеўча гарамі, барамі.
— Павярніся, дзеўча, ты да свае мамы!

— От я да мамы свае не вярнуся,
Лепей з казакамі водачкі нап'юся.

І павялі дзеўча барамі, лясамі,
Прывязалі дзеўча к сасне валасамі.

Падпалілі сосну з долу да вяршочку.
Тая сосна гарыць, дзяўчына гаворыць:

— Хто ў лесе начуе, няхай голас чуе,
І хто дочкі мае, няхай навучае,
Няхай з казакамі гуляць не пушчае.

## 731







— Соненька нізенька, вечарок блізенька,
Прыязджай, казача, прыязджай, сардэнька!

Прыязджай, казача, да цёмнае ночы,
Пушчу цябе ў хату, не пачуе маці.

А як упушчала, за ручку сціскала,
А як выпраўляла, сільне заплакала.

— Калі маеш жону, то ідзі дадому,
А не маеш жоны, то начуй са мною.

— А я маю жону, яшчэ дзетак двое,
Калі не хіліцца да сардэнька мое,

Паедзьма, дзяўчына, паедзьма за намі,
[Паедзьма, дзяўчына, паедзьма за намі.]

А ў вашаму боку кашулі латаны,
А ў нашаму боку шаўком вышываны.

Дурная дзяўчына ўзяла, паслухала,
Да за казакамі ў госці паехала.

Павезлі дзяўчыну далёка ад роду,
Везлі дзяўчыну лясамі, барамі.

Прывязалі дзеўку да сосны плячыма,
Да сосны плячыма, да бору ачыма.

Выкрасалі агню з белага краменя,
Падпалілі сосну з галля да карэння.

А сосенка гарыць, дзяўчына гаварыць,
[А сосенка гарыць, дзяўчына гаварыць:]

— Хто ў лесе начуе, няхай тое чуе,
Няхай мяне, младу, з агню выратуе!

А хто дзеці мае, няхай навучае,
Ні рана, ні позна ў карчму не пускае.

Бо тая карчомка зрадная зрадніца,
Зрадзіла дзяўчыну, як ў лесе маліну.

## 732

Andante

І – шла шлях – та, і – шла шлях – та

на тры трах – та, а жаў – не – ры – на ча – ты – ры.

## 733

Andante

Ой, на га – рэ, га – рэ кар-чом-ка ста – я – ла,

а у той кар – чом – цы тры ка – за – кі гу – ля – лі.

Ой, на гарэ, гарэ карчомка стаяла,
А у той карчомцы тры казакі гулялі.

Адзін казачэнька піва налівае,
Другі казачэнька дзеўча намаўляе:

— Едзьма, дзеўча, з намі, з намі, казакамі,
Лепей табе будзе, як у твае мамы.

Ты у мамы ходзіш у лазовых лычках,
А у нас будзеш у слічных чаравічках.

Вывезлі дзеўку ў чыстае поле:
— Вярніся, дзеўка, будзе табе гора!

— А я не вярнуся, славы баюся,
З вамі, казакамі, верненька люблюся!

Вывезлі дзеўку цёмнымі лясамі,
Прывязалі дзеўку к сосне валасамі.

Высеклі агню з белага каменя,
Запалілі сосну з вярха да карэння.

Сосанька гарыць, дзеванька гаворыць,
Сосанька палае, дзеванька гукае:

— Хто ў лесе начуе, няхай голас чуе,
Хто дочкі мае, няхай навучае,
Няхай да карчомкі гуляць не пушчае.

## 734

Moderato







Сонца нізенька, вечар блізенька,
Найшлі уланы ў карчомку гуляці.

Музычанькі граюць, уланы гуляюць,
Маладу дзяўчыну сабе намаўляюць:

— Маладое дзеўча, паязджай жа з намі,
Будзе табе лепей, як у твае мамы.

Да у твае мамы кашуля латана,
А у нас, уланоў, гаптам гаптавана.

А у свае мамы ходзіш ў латужыне,
У нас будзеш хадзіць ў шчырым кармазыне.

Да на першы возы скрыні да пярыны,
На другія возы само дзеўча сядзе,

Само дзеўча сядзе, сядзе да й паедзе.
Ехалі, ехалі з гары да ў даліну.

Да бору цёмнага прывезлі дзяўчыну,
Да бору цёмнага, гаю зялёнага.

Прывязалі дзеўча да сосны вачыма,
Да сосны вачыма, да бору плячыма.

Запалілі сосну з гары ды ў даліну.
[Запалілі сосну з гары ды ў даліну.]

Хто ў бору начуе, няхай тое чуе,
Маладое дзеўча з агню выратуе.

А хто дочкі мае, няхай тое знае,
Да карчомкі з уланамі гуляць не пускае.

## 735

Allegretto







На бітым гасцінцы карчомка стаяла,
Ах, люлі да люлі, карчомка стаяла. [1]
А у той карчомцы да два чужаземцы.
Адзін чужаземец мёд-віно купляе,
Другі чужаземец дзеўку намаўляе.
Намовілі дзеўку з чорнымі брывамі
Да павялі яе цёмнымі лясамі,
Увязалі яе да сосны касамі,
Падпалілі сосну з верху і з ісподу.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ах, люлі да люлі».

Як сосна гарэла, дзеўка гаварыла,
Як сосна згарэла, дзеўка абамлела.
— Хто ў лесе начуе, няхай той чуе,
Няхай мяне, млоду, з агню выратуе.
Каторая матка адну дочку мае,
Няхай да карчомкі гуляць не пушчае,
Бо тая карчомка вяліка здрадніца,
Яна дзеўку здрадзіць, на агонь пасадзіць.

## 736

♩ = 60

Ой, у бо- ры, ў бо- ры
кар- чо-м(ы)- ка ста- я- ла,
ой, а у той кар- чом- цы
да тры лі- лі ма- лой- (цы).

Ой, у боры, ў боры карчомка стаяла,
Ой, а у той карчомцы да тры пілі малойцы.

Адзін п'е, гуляе, другі ў скрыпку грае,
Ой, а трэці, чарнявы, да дзеўку падмаўляе.

— Едзь ты, дзеўка, з намі, з намі, малайцамі,
Ой, лепей табе будзе, як у тваёй мамы.

Й а у твае мамы кашуля дзірава,
Ой, у нас, малойцаў, да шоўкам вышывана.

Ўзялі тую дзеўку, ўзялі падмовілі,
Ой, ўзялі падмовілі да на воз пасадзілі.

Да й павязлі дзеўку лясамі, барамі,
Гой, лясамі, барамі да бітымі шляхамі.

Прывязалі дзеўку да сосны касамі,
Гой, запалілі сосну, ой, з нізу да верху.

Сасна гарыць, гарыць, дзеўка не гаворыць.
Сасна дагарае, дзеўка прамаўляе:

— Ой, хто ў бару начуе, да няхай гэта чуе,
А хто дочкі мае, няхай навучае.

Няхай навучае, няхай навучае,
Гой, з казакамі гуляць да няхай не пускае.

Бо ў казака веры, як на моры пены,
А ў дзяўчыны ласкі, як на моры краскі.

## 737

Малада дзяўчына ваду набірала,
Малады казачак яе намаўляе:

— Садзіся, дзяўчына, на новы вазочак,
Паедзем, дзяўчына, у ноў гарадочак.

Пакупім, дзяўчына, часты грабянёчак,
Расчэшам, дзяўчына, русыя кудзерцы.

Пасадзілі дзяўчыну на новы вазочак,
Завезлі дзяўчыну ў зялёны лясочак,

Прывязалі дзяўчыну да белай бярозкі,
Да бярозкі вачыма, да дарожкі плячыма.

Пайшлі самі ў ельнік, назбіралі хмызу,
Запалілі бярозачку з верху і да нізу.

Бярозка гарыці, дзяўчынка крычыці:
— Хто ў бары начуе, няхай гэта чуе.

А хто дзецi мае, няхай навучае,
Ў крыніцу па вадзіцу няхай не пускае.

Бадай ты, крынічанька, скрозь зямлю ўтанула,
Як ты мяне, маладзеньку, абманула.

## 738




На гары карчомка, ды ў ёй чужаземцы,
Яны п'юць, гуляюць, дзяўчат падмаўляюць.

— Пойдзем, дзеўча, з намі, да з намі, казакамі,
Табе лучшай будзе, як у роднай мамы.

Ты ў мамы хадзіла ў лапціках ліповых,
А ў нас будзеш хадзіці ў чаравічках новых.

Павялі дзяўчыну палямі, лясамі,
Прывязалі дзяўчыну да дрэва й касамі.

А хто ў лесе да начуе, няхай голас чуе,
А хто дочкі мае, няхай не пушчае.

А хто дочкі мае, няхай не пушчае,
Няхай да карчомкі гуляць не пушчае.

Бо тая карчомка ёсць яна блудніца.
Учора была дзеўка, сёння — маладзіца.

# 739












## 740

Moderato con moto










На бітым гасцінцы карчомка стаяла,
Карчомка стаяла, тынам тынавана. [1]

А у той карчомцы дзве музыкі йграЛі,
Дзве музыкі йграЛі, малойцы гулялі.

Ой, адзін малойчык не п'е, не гуляе,
Не п'е, не гуляе, дзеўку намаўляе:

— Ой, едзьма, дзяўчына, з намі, малайцамі,
Будзе табе лепей, як у твае мамы.

А у свае мамы работу рабіці,
З намі, малайцамі,— мёд, гарэлку піці.

А у свае мамы кашулі латаны,
У нас будзеш насіць шоўкам вышываны!

Дзеўка паслухала, села, паехала,
Павязлі дзяўчыну гарамі, лясамі.

Павязлі дзяўчыну гарамі, лясамі.
— Варочайся, дзеўка, ты да свае мамы!

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Ой, я не вярнуся, сораму баюся,
Каго палюбіла, таго пільнуюся!

Ехалі казакі гарамі, лясамі,
Прывязалі дзеўку да сасны касамі.

Выкрасалі агню трыма палашамі,
Запалілі сосну зверху з каранямі.

Ой, тая сасонка ды стала гарэці,
Малада дзяўчына стала гаварыці:

— А хто тут начуе, няхай голас чуе,
Мяне, маладую, з агню выратуе.

А хто дзеці мае, няхай навучае,
Да тое карчомкі гуляць не пускае.

Бо тая карчомка — вяліка здрадніца,
Была дзеўка добра, стала паскудніца.

## 741

Moderato







А у чыстым полі карчомка стаяла,
А у той карчомцы ды два чужаземцы.

Адзін чужаземец віно папівае,
Другі чужаземец дзеўку намаўляе:

— Ідзі, дзеўка, з намі, з намі, казакамі,
Табе будзе лепей, як у тваё мамы.

Ты была у мамы — кашулі латаны,
Ў нас будзеш хадзіці — шоўкам вышываны!

Ехалі казакі барамі, лясамі,
Прывязалі дзеўку да сосны касамі.

Красалі каменне — сіняе пламенне,
Запалілі сосну зверху ды ў карэнне.

Сасонка гарэла, дзеўка абамлела,
Як сосна згарэла, дзеўка гаварыла.

— Цішай, дзеўка, цішай, каб тыя не чулі,
Каб тыя не чулі, што ў лесе начуюць!

— Тыя, што начуюць, няхай мяне чуюць,
Мяне, маладзеньку, з агню выратуюць.

Каторая маці дочак многа мае,
Ў карчму на гулянне няхай не пускае.

Бо тая карчомка — вялікая здрада,
Дзяўчыну здрадзіла, ў агонь пасадзіла.

## 742

На бітым гасцінцы карчомка стаяла,
Ох, люлі, палюлі, карчомка стаяла.[1]
У той карчоманьцы музыка іграла.
Ішлі тры дваракі, усе тры дуракі.
Адзін дурачына на скрыпачцы йграе,
Другі дурачына мёд, віно купляе,
Трэці дурачына дзеўку намаўляе:
— Ідзем, дзеўка, з намі, з намі, дваракамі,
У нас будзе лепей як у тваёй мамы,
У нас будзеш хадзіць шоўкам вышыванай.
Павялі дзяўчыну гарамі, даламі.
— Ой, вярніся, дзеўка, ты да сваёй мамы.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ох, люлі, палюлі».

— У той бок я йшла, назад не вярнуся,
Бо я ад радзіны стыду набяруся.
Павялі дзеваньку гарамі, лясамі,
Прывязалі дзеўку да сасны касамі.
Накрасалі агню з белага каменю,
Запалілі сасну з верху да камеля.
Як сасна гарэла, дзеўка гаварыла:
— Хто ў лесе начуе, няхай тое чуе,
А хто дочак мае, няхай навучае,
Да чужой карчомкі гуляць не пускае.
Чужая карчомка — вяліка здрадніца,
Яна дзеўку здрадзіць, на агонь пасадзіць.

## 743

Стаяла карчомка міжы дарагамі,
Міжы дарагамі, сухімі лясамі.

А у той карчомцы п'е два чужаземцы,
Яны п'юць гарэлку й намаўляюць дзеўку.

— Едзь, дзяўчына, з намі, з намі, казакамі,
Лепей табе будзе, як у тваёй мамы.

Бо у тваёй мамы трэба жыта жаці,
З намі, казакамі,— піці і гуляці.

Бо у тваёй мамы трэба ўсё рабіці,
З намі, казакамі,— мёд, гарэлку піці.

Бязумна дзяўчына стала падумала,
Стала падумала, села й паехала.

Ой, вязлі дзяўчыну трыма дарагамі,
Трыма дарагамі, сухімі лясамі,

Прывязалі дзеўку да сасны касамі.
Ой, сасонка гарыць — дзяўчына гаворыць.

Сасна дагарае, дзеўка прамаўляе:
— Хто ў лесе начуе, хай мой голас чуе.

А хто дзеці мае, няхай навучае,
Да тое карчомкі ноччу не пускае.

## 744




Ты карчма ж мая, карчма польская,
Карчма польская, каралеўская.

Стаяла карчомушка на крутой гарэ,
На крутой гарэ, на ўсёй красаце.

Што ў той жа карчомушцы шынкарка жывець,
Шынкуець шынкарушка півам і віном,

Півам і віном, салодкім мядом.
Як прышлі ў карчомушку да тры малайцы:

Казак да паляк да трэці салдат.
Казак віно п'ёць, манеты кладзёць.

Салдат з гора п'ёць, дзенег не кладзёць,
Дзенег не кладзёць, ён рэч гаварыць.

Ён рэч гаварыць, шынкарку маніць:
— Шынкарка, шынкарушка малодзенькая,

Паедзем, шынкарушка, ў маю старану.
Што ў нашай старонушцы не па-вашаму:

Не ткуць, не прадуць, хораша ходзяць,
Хораша ходзяць, адзёжу носяць.

Здавалась шынкарушка на ласкі-слава,
Садзілась шынкарушка на добра каня.

Дзяржалась шынкарушка м'лайцу за плячо.
Як завёз жа шынкарушку да ва шчыры бор.

Прывязаў шынкарачку кі сухой сасне,
Запаліў сасоначку з вярху й карашка.

Паглядзіце, людзі, як сасна гарыць,
Паглядзіце, добрыя, як дзеўка стаіць.

Закрычала дзевіца й громкім галасом:
— Ой, хто ва бару, ой, хто за борам!

Калі малады — братам назаву,
Калі пастарэй мяне — родным бацюшкам.

Адкуль жа ўзяўся малады матрос,
Адвязаў жа дзевушку ад сухой сасны.

## ЯСЬ-ЗВОДНІК ТОПІЦЬ ДЗЯУЧЫНУ

### 745

Moderato







Ой, у полі, полі стаіць студня вóды,
Ой, хто едзе, едзе, то ўсё коні поіць.

Напаіў коніка наймілейшы Ярся,
Адмовіў ад маткі наймілейшу Касю:

— Ой, вандруй жа, вандруй, Касенька, са мною,
Набяры ў матулі срэбра, злота ўволю!

— Не магу, Ясенька, бо не маю волі,
Ўзяла мама ключы ад новай каморы!

— Прыкінься, Касенька, што галоўка баліць.
— Аддай, мама, ключы, ад новай каморы!

Матуля думала, што Касенька спала,
Ажно Кася з Ясем ночку вандравала.

Прывандраваліся да зялёнай грушы:
— Вярніся, Касенька, ты мне не да душы!

— Не на тое ішла, каб я пакідала,
Каб айцу і матцы сэрца засмучала!

Прывандраваліся да зялёнай вішні:
— Вярніся, Касенька, ты мне не пад мыслі!

— Не на тое ішла, каб я вярнулася,
Бо я з братавою вельмі сварылася!

Узяў Ясь Касю за белыя бокі
Ды й кінуў Касеньку у Дунай глыбокі.

Наймілейша Кася беражок хватае,
А той шэльма Ясь назад адпіхае.

### 746

На ціхім Дунаю Ясь каня поіць,
Маладую Ганульку із сабою намовіць:

— Да Ганулька-пані, паязджай з намі,
Не сушы сардэнька чорнымі брывамі.

Забірай, Ганулька, срэбра, злота з сабою,
Каб было на коні, што ідуць пада мною.

Матуся думала, што Ганулька спала,
Як Ганулька з Ясем да й памандравала.

Мандруе поле, мандруе другое,
На трэцім [жа полі станем] апачыньма.

Да прымандравалі к ціхаму Дунаю.
— Ой, ціхі Дунаю, я ж цябе не знала.

[Ой, ціхі Дунаю, я ж цябе не знала,]
Да цяпер за Ясем да памандравала.

Да ўзяў Ясь Ганульку за белыя бокі,
Да ўкінуў Ганульку у Дунай глыбокі.

— Плыві, Ганулька, із конца да конца,
Ёсць там чатыры, да ты будзеш пята.

Да ўжо Ганулька патапае, ручку падымае:
— Ратуй, ратуй, Ясенька, за маё каханне.

## КАЗАКІ НАМАЎЛЯЮЦЬ ДЗЯЎЧЫНУ НА ВАНДРОЎКУ, АПАВЯДАЮЧЫ ЁЙ НЕБЫЛІЦЫ

### 747

Цякла рэчка чрэз мястэчка,
А другая край Дунаю.

Там казакі ў карты йграюць,
Дзяўчыначку падмаўляюць:

— Дзяўчыначка маладая,
Едзь ты з намі, з казакамі:

Да ў нас паля грашавыя,
Да ў нас сцірты пшанічныя,

Да ў нас рэчкі мядовыя,
Да ў нас росы цукровыя,

Да ў нас масты залатыя.
Едзем поле і другое,

На трэцяе ўз'язджаем.
Стала дзяўчына пытаці:

— Гдзе ў вас паля грашавыя,
Гдзе ў вас сцірты пшанічныя,

Гдзе ў вас рэчкі мядовыя,
Гдзэ ў вас росы цукровыя,

Гдзе ў вас масты залатыя,
[Гдзе ў вас масты залатыя?]

— Ты, дзяўчына, дурна была,
Што ж ты таго не сазнала,

Што ў нас паля камяныя,
Што ў нас рэчкі крамяныя,

[Што ў нас] росы крывавыя,
Што ў нас масты трупавыя.

## 748

Гэй, там долам, даліно́ю, [1]
Ехаў казак Турчыною.

Пусціў каня у лясочак,
А сам заснуў на часочак.

Там дзяўчына прыблудзіла,
Казачэнька абудзіла:

— Спіш, казача, пара ўстаці,
Тваго каня не відаці!

Ішлі туркі Турчыною,
Ўзялі каня з пlivадою.

— Як узялі, другі будзе,
Як не ўзялі, то той будзе.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ты, дзяўчына, паедзь з намі,
З маладымі казакамі:

У нас горы цукравыя,
У нас рэчкі медавыя,

У нас поле не мерана,
Пшанічанькі насеяна.

Едуць поле і другое,
А на трэце конь ступае.

Дзеўчанька задумала,
Казачэнька запытала:

— Дзе ў вас поле не мерана,
Пшанічанькі насеяна?

— Дзеўчыненька, чом ты дурна,
Чаму жа ты неразумна?

У нас поле — ўсе казакі,
Пшанічанька — то калпакі,

У нас горы туманыя,
У нас рэчкі крывавыя.

— Цо ж я, бедна, учыніла,
Так далёка заблудзіла!

## 749

Moderato



А у Слуц – ку на ры – нач – ку, а у



Слуц – ку на ры–нач– ку п'юць ка – за– кі га – рэ – лач –ку.

А у Слуцку на рыначку,
А у Слуцку на рыначку
П'юць казакі гарэлачку.

Яны пілі, не плацілі,
Яны пілі, не плацілі,
Младу дзеўку прыманілі:

— Ой ты, дзеўка маладая,
Едзем з намі, казакамі,
З маладымі малайцамі.

У нас поле залатое,
А рэчачкі медавыя,
А масточкі жалезныя!

Дзіця маткі не слухала,
Дзіця маткі не слухала,
З казакамі паехала.

Едуць поле і другое,
Едуць поле і другое,
На трэцяе уз'язджаюць.

Стала дзеўка сільна плакаць,
Стала дзеўка сільна плакаць
Ды ў казака праўды пытаць:

— А дзе ж поле залатое,
А рэчачкі медавыя,
А масточкі жалезныя?

— Ты, дзяўчына, ты дурная,
Ты, дзяўчына, ты дурная,
Чаму ж таго не сазнала,

Што ў нас поле камяное,
А рэчачкі крывяныя,
А масточкі трупяныя!

## ЗВЕДЗЕНАЯ ДЗЯЎЧЫНА ТРАЦІЦЬ ВЯНОК

### 750

Дзяўчоначка ваду брала, [1]
Казачэнька каня поіць.

Дзяўчоначка падліваець,
Казак дзеўку падбіваець:

— Мы паедзем, дзеўка, з намі,
З намі, з намі, з казакамі,

З намі, з намі, з казакамі,
З вялікімі рабятамі.

Ўзяла дзеўка паслухала,
З казакамі паехала.

Едуць поле і другое,
На трэцяе уз'язджаюць.

На трэцяе уз'язджаюць,
Цёмна ночка абнімаець.

Цёмна ночка абнімаець.
— Давайце, братцы, станавіцца.

Давайце, братцы, станавіцца,
Сіні агонь раскладаці.

Сіні агонь раскладаці,
Вячэраньку гатаваці.

— Вары, дзевачка, вячэру,
Сцялі мяккую пасцелю.

Дзеўка вячэранькі не варыць
І пасцелечкі не сцеліць.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

І пасцелечкі не сцеліць,
Сільнёшанька плачыць.

— А з каторым, дзеўка ляжаш?
І ці з тым ляжаш, у каго грошай многа?

А ці з тым ляжаш, ў каго ні капейкі?
Ці з тым ляжаш, у каго вум харошы?

— З тым не лягу, ў каго грошай многа,
З тым не лягу, ў каго ні капейкі.

З тым не лягу, у каго ні капейкі,
А з тым лягу, у каго вум харошы.

Ўсе казакі павуснулі,
Адзін казак не выспаўсь.

Адзін казак не выспаўсь.
— Вы паслухайце, рабяты!

Вы паслухайце, рабяты:
Не зязюлька кукуець,

Не зязюлька кукуець,
Не салоўюшка шчабечыць,

Не салоўюшка шчабечыць —
Плачыць маці па дзіцяці:

— Дзіця маё дарагое,
Сэрца маё рацівое,

Сэрца маё рацівое!
Дасталася маё дзетачка,

Дасталася маё дзетачка
Чужым людзям на наругу,

Чужым людзям на наругу,
Чужым бацькам на паслугу.

# 751

Andante







Ў роўным полі крынічанька, [1]
Там сцюдзёна вадзічанька.

Там гусары коні пояць,
З дзяўчыначкай размаўляюць:

— Ой, дзяўчына-дурачына,
Калі хочаш, едзь із намі,

Калі хочаш, едзь із намі,
З маладымі гусарамі.

Едуць поле і другое,
На трэцяе — начаваці.

На трэцяе — начаваці,
Гусар кажа пасцель слаці.

— Выйду на высоку горку,
Ой, гляну пад ясну зорку.

Там дзевачкі рвуць цвяточкі,
Самі сабе на вяночкі.

Вы, дзевачкі, вы, сястрыцы,
Накажэце маёй мамцы:

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Няхай па мне не бядуе,
Мне вяночка не гатуе.

Я свой венчык утраціла,
Пад яварам зеляненькім,

Пад яварам зеляненькім,
З гусарыкам маладзенькім.

## 752

Што у полі дымна, курна,
За туманам свету не відна.
Казачанька каня поіць,
Дзеўка ваду падліваець,
Казак дзеўку спадманяець:
— Мы паедзем, дзеўка, з намі,
З намі, з намі, з казакамі,
З казакамі, малайцамі.
Стала дзеўка падумала,
З казакамі паехала.
Едуць поле і другое,
На трэцяе уз'язджаюць,
Дробен дожджык пачынаець.
Казачанькі станавілісь,
Сталі шатры распінаці,
Сінія агні раскладаці,
Сталі вячэру гатаваці.
— Ты гатуй, дзеўка, вячэру,
Сцялі мяккую пасцелю!
Стала дзеўка, задумалась,
Сільнёшанька заплакала.
— Не плач, дзеўка, не плач, красна,
Не маць цябе выдавала,
Не бацюшка благаслаўляў,
Не сястрыцы праважалі.
Выдавала цёмная ночка,
Благаслаўляў ясён месяц,
Праважалі жаркія звёзды.

753

У полі курна да дымна,
За туманам свету не відна,
Край дарожкі шырокай
І крынічанькі глыбокай
Улан каня напавае,
Дзеўка вады падлівае,
Улан дзеўку намаўляе:
— Паедзема, дзеўча, з намі,
З маладымі уланамі:
Да у нас горы не такія,
У нас горы залатыя,
Да ў нас травы шаўковыя,
Да ў нас верба грушкі родзіць,
У нас дзеўкі ў злоце ходзяць.
Дурна дзеўка паслухала,
З уланамі паехала.
Едуць поле і другое,
І на трэцім трэба стаць
І конікі папасаць.
Сталі хмаркі наступаці,
І стаў дожджык накрапляці,
Вяліць улан пасцель слаці.
Стала дзеўка, падумала
І сільненька заплакала:
— Не маць мяне выдавала,
Штоб я ўланам пасцель слала.
Дала мне свая воля,
Няшчасная ліхая доля.
Ой, выйду я на горачку,
Падзіўлюся я на даліначку:
Ў даліначцы паненачкі
Рвуць цвяточкі на вяночкі,
Ох, я, млада, не рвала.

754

Ох, у полі курно да дымно,
За туманом свету не відно.

Край дарожкі шырокае
І крынічанькі глубокае

Дзеўка ваду чарпае,
Улан каня напавае.

[Улан каня напавае]
І так дзеўку намаўляе:

—Паедзема, дзеўча, з намі,
З маладымі уланамі.

Да ў нас горы не такія,
У нас горы залатыя.

[У нас горы залатыя,]
Да ў нас травы шоўкавыя.

Да ў нас вербы грушкі родзяць,
Да ў нас дзеўкі ў злоце ходзяць.

Дурна дзеўка паслухала,
З уланамі паехала.

Едуць поле і другое,
А на трэцім трэба стаці

І конікі папасаці.
Сталі хмаркі наступаці,

І стаў дождждык пакрапляці,
Вяліць улан пасцель слаці.

Стала дзеўка, падумала
І сільненька заплакала:

— Не маць мяне выдавала,
Штоб я ўлану пасцель слала.

Дала ж мяне свая доля,
Няшчасная ліха доля!

Ой, выйду я на горачку,
Падзіўлюся на даліначку:

У даліначцы паненачкі
Рвуць цвяточкі на вяночкі.

Ох, я, маладзенька, не рвала,
Улану вяночак аддала.

## 755

♩=100

Ах, ра – за – ро – на – я ра – бі – на,

ах, ра – за – ро – на – я ра – бі – на,

Ах, разароная рабіна, [1]
Ах, размышлёная дзяўчына.

Ах, пад вярбою ваду брала,
Ах, з казакамі размаўляла.

— Ах, ці паедзеш, дзеўка, з намі,
Ах, з маладымі казакамі?

Дзеўка дурна паслухала,
Ўзяла села, паехала.

Едуць поле і другое,
[Едуць поле і другое.]

А на трэцяе ўз'язджаюць,
Як цёмная ночка сустракаець.

— Ах, стойце, братцы, паслухаем,
Ці не зязюлька кукуець?

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Ах, стойце, братцы, паслухаем,
Ці не салавейка шчабечыць?

Ах, не зязюлька кукуець,
І не салавейка шчабечыць,

А плачыць маці па дзіцяці,
[А плачыць маці па дзіцяці:]

— Дзіця маё дарагое,
Пайшло ў людзечкі малое

Сваёй матцы на наругу,
Казачанькам на паслугу.

## 756

А ў нашага суседа
Пачынаецца бяседа.

Малойчыкі п'юць, гуляюць,
Дзяўчыначку намаўляюць:

— Дзяўчыначка чарнабрыва,
Сабірайся, едзь з намі.

Сабірайся, едзь з намі,
З маладымі малайцамі.

Дзяўчыначку напаілі,
На павозачку ўсадзілі.

— На павозачку садзіся,
Атцу й матцы пакланіся.

Едуць поле і другое,
На трэцяе ўз'язджаюць.

— А я стану паслухаю,
А што ў лесе галасуець.

Ці не зязюлька кукуець?
А не зязюлька кукуець.

А не салавей шчабечыць —
Плачыць маці па дзіцяці,

Што нет каму слугаваці,
Пасцель белую паслаці.

— Ты, дзяўчына-дурачына,
Калі хочыш, дык вярніся.

— Да хоць я і варачуся,
Дык мой венчык не вернецца.

— Ты, дзяўчына чарнабрыва,
Будзеш ехаць каля крамы,

Будзеш ехаць каля крамы,
Купім венчык такі самы.

— Да хоць ён такі самы,
Дык той венчык не вянчаны.

### 757

У нашага у суседа
Завадзілася бяседа.

Сабіраліся рабяты
Халастыя, не жанаты.

Новы сені паламілі,
Красну дзеўку падманілі.

— Ой ты, дзеўка, ты красная,
Ці паедзеш жа ты з намі?

[Ці паедзеш жа ты з намі,]
З халастымі казакамі?

Едзе поле, другое,
На трэцяе ўз'язджае.

Плача, плача ацец-маці
Па роднаму дзіцяці:

— Дзіця наша падмаўлёна,
На Ўкраіну завязёна.

Каб на лесе заблудзіла —
Ўсе б лясы пасушыла.

Каб на лузе затанула —
Ўсе б лугі затапіла.

Каб на агні згарэла —
Пашлі б дымы сіненькія.

## ДЗЯЎЧЫНА ЗАГУБІЛА ЗВОДНІКА-КАЗАКА

### 758

Ой, у Слуцку на рыначку
П'юць казакі гарэлачку.

І п'юць яны, выпіваюць,
Сабе дзеўку намаўляюць.

— Ой ты, дзеўка, язджай з намі,
Маладымі казакамі.

Дурна дзеўка паслухала,
З казакамі паехала.

Едуць поле і другое,
На трэцяе уз'язджаюць.

— Тут нам, дзеўка, тут нам стаці,
Тут нам коней папасаці.

Не спявалі, не крычалі,
Адпачыўшы, паскакалі.

— Агляніся, дзеўка, аглянісь назад,
Дарогаю скача, скача атрад.

То за ёю паганяе,
Яе бацька даганяе.

— Ох, вярнісь, мой татанька,
Ты мяне не дагоніш, толькі конікі патоміш.

Я казака перабуду,
Я сама свайму бацьку буду.

Крое дзеўка падарачкі,
Шые чырвонай нітачкай.

Не папала ў палаценца,
А казаку прама ў сэрца.

## КАЗАКІ (МАСКАЛІ) НАМАЎЛЯЮЦЬ ШЫНКАРКУ (ШЫНКАРЧЫНУ ДАЧКУ) НА ВАНДРОЎКУ

### 759







Ой, у сяле, ў сяле карчомка стаіць,
Эй, як у той карчомцы два казакі п'юць.
Ой, два казакі п'юць ды шынкарку маняць.
— Эй, шынкарачка Хаечка, паедзем із намі.
Як у нашай старане вельмі хораша жывуць:
Ні нітку не прадуць — хораша ходзяць,
Не сеюць, не пашуць — хлеб сітны ядуць.

Шынкарачка Хаечка да й паверыла,
Ўзяла сваю скрыначку да й паехала.
Прывезлі шынкарачку у цёмны лясок,
Прывязалі Хаечку к сасне высокай,
Запалілі сасонку з нізу да верху,
Сасонка гарыць, шынкарачка крычыць:
— Дзевачкі-сястрыцы, падружанькі,
Да не верце ж вы данскім казакам.
Эй, данскія казакі ёсць абманшчыкі,
Эй, абманулі ж мяне, маладзенькую.

## 760

♩=76

І ой, у Рэс – це, Рэс – це на пры- крас–ным мес – це,
вей-вей- вей, ша –бес гут, на пры – крас- ным мес – (це).

І ой, у Рэсце, Рэсце,
На прыкрасным месце,
Вей-вей-вей, шабес гут,
На прыкрасным месце. [1]

Карчомка стаяла,
Хайка пражывала,

Хайка пражывала,
Водку прадавала.

А у той карчомцы
Да тры чужаземцы.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Вей-вей-вей, шабес гут».

Яны водку пілі,
Хаечку манілі:

— Хайка маладая,
Паязджай-ка з намі.

Да у нашым краю
Нічога не робяць,

Нічога не робяць,
Да й хораша ходзяць.

— Не едзьце ў нядзелю,
Прыедзьце ў суботу,

Прыедзьце ў суботу,
Пойдзе матка ў школу.

Прыедзьце ка мне
Да з трыма фурамі:

Да ў первую фуру
Ложкі да падушкі,

А ў другую фуру
Скрынкі да пярынкі,

А ў трэцюю фуру
Хайку маладую.

Едуць яны поле,
Едуць і другое.

Прыязджаюць яны
К ціхаму Дунаю.

— Ці Хайка вярніся,
Ці ў Дунай тапіся.

— Я ж не вярнуся,
Лучша утаплюся.

Прывязалі Хайку
К сасонцы касамі,

К сасонцы касамі,
К Дунаю глазамі.

Запалілі сосну
З кораня да верху.

Як сасонка гарыць,
Так Хайка гаворыць:

— Хто ў лесе начуе,
Няхай гэта чуе.

А хто дочкі мае,
Няхай навучае.

## 761

Ой, на гары, гары стаяла карчомка.
А у той карчоме Хаечка гуляла,
Хаечка гуляла, віном таргавала.
Тры казакі пілі, дзенег не плацілі,
Дзенег не плацілі, ўсё Хайку манілі:
— Ой, Хаечка наша, паедзем із намі,
Табе ж лепей будзе, як у твае мамы.
Прыехалі яны к вялікаму броду.
— Успамяні, Хаечка аб сваяму роду.
Прыехалі яны к вялікаму мосту.
— Успамяні, Хаечка, аб сваім росту.
— Ой, Хаечка, наша Ўкраіна багата,
Рэчкі мядовыя, масты васковыя,
Рэчкі мядовыя, масты васковыя.
У нас не жнуць, не пашуць—ўсё танцуюць, пляшуць.
Прыехалі яны к вялікаму бору,
Прывязалі Хайку касою за сосну.
Запалілі сосну і з верху да долу.
Як сосенка тлее, дак Хаечка млее,
Як сосенка гарыць, Хаечка гаворыць:
— А хто ў лесе цёмным, а хто ў бары чуе,
А хто ў бары чуе, няхай паратуе.
А хто дочкі мае, няхай навучае,
З казакамі ехаць няхай не пушчае.

## 762







Каб на гарэ-горцы
Карчомка стаяла,

Ай, гіб, гвалты, во-ды, ну-ну-ну ды,
Вей-вей-вей, карчомка стаяла. [1]

Каб у тэй карчомцы
Хайка таргавала,

Хайка маладая
Віном таргавала.

Віном таргавала,
А маскалі пілі,

А маскалі пілі,
Грошы не плацілі.

Грошы не плацілі,
Хайку падманілі.

— Прыедзьце, маскалі,
А ў суботу рана,

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ай, гіб, гвалты, во-ды, ну-ну-ну ды, вей-вей-вей».

А ў суботу рана,
А на трох хурманках.

А ў суботу рана
Жыды ў школу пойдуць.

Жыды ў школу пойдуць,
А ключы пакінуць,

А ключы пакінуць
І скрыні расчыняць.

А на 'дну хурманку
І злота і срэбра,

На другу хурманку
А скрыні, пярыны,

На трэцю хурманку
С табой, маскаль, сяду.

А ехалі поле,
Едуць і другое.

На трэце ўз'язджаюць,
К мору прыязджаюць.

— Вот цяпер жа, Хайка,
На дзве табе волі:

Ці назад вярніся,
Ці ў Дунай тапіся!

— Назад не вярнуся,
Ў Дунаі ўтаплюся.

Няхай маці знаець,
Дзе Хайка гуляець.

Няхай маё цела
Шчука-рыба з'ела...

## 763

♩ =120

На га - ры вы - со - кай кар -чом - ка ста - я - ла,

гы- ры - гы -ры гы- ры-гыр, гар-ту-лень- кі, кар - чом-ка ста -я - ла.

## 764

♩ = 72

Ў го - ра -дзе ў А - дэ - се на пры-крас-ным мес- це, ох, мес - це,

ой, лі, зоб, зоб, на пры -крас -ным мес - це.

## 765

О, жыла-была жыдоўка-ўдоўка,
Была ў яе дочка Хайначка.

— Дочка Хайначка, люблю я цябе!
— Пане Зілянкевіч, пайду за цябе.

Не едзь жа ка мне ў нядзелю рана,
Прыедзь жа ка мне ў суботу позна.

[Прыедзь жа ка мне ў суботу позна,]
Калі мая маменька да школы пойдзе.

Прыедзь жа ка мне ў трох вазочках:
У адным вазочку скрынкі, пярынкі,

А ў другім вазочку срэбра і злота,
А ў трэцім вазочку там мы з табою.

Узяў я Хайначку пад белы плечкі,
Кінуў Хайначку ў глыбокую рэчку.

— Вот табе, Хайначка, вода і блота,
А мне, маладому, срэбра і злота.

Вот табе, Хайначка, жыці з вадою,
А мне ажаніціся із маладою.

## 766

Ой, была-жыла жыдоўка Рыўка,
Гей, гей, гут, гут![1]
Ой, была ў яе дочка Хаечка.
Любіў яе Іван Каралёўскі.
— Хаечка, душа, ці любіш мяне,
Ці любіш мяне, ці пойдзеш за мяне?
— Іван Каралёўскі, яй-богу, люблю,
Яй-богу, люблю і за цябе пайду.
Не едзь жа, Іванька, ў нядзелю рана,
Прыедзь жа, Іванька, ў суботу позна,
Як таты з мамай дома не будзе,
У школу пойдуць богу маліцца.
Не едзь жа, Іванька, на адной павозцы,
Прыедзь, Іванька, на трох павозках:
На адной павозцы срэбра ды злота,
На другой павозцы — скрынкі, пярынкі,
На трэцяй павозцы самі маладыя.
Ой, едуць поле, едуць другое,
А на трэцця уз'язджаючы,
Уз'ехаў Іванька на высокі мост:
— Хаечка, душа, вярніся дамоў!
— Ой, не вярнуся, маткі баюся.

[1] Рэфрэн «Гей, гей, гут, гут!» паўтараецца пасля кожнага радка.

Узяў жа Хайку за ценькі бокі
І ўкінуў Хайку ў Дунай глыбокі.
Не ўмела Хайка гугалю есці,
Учыся Хайка Дунаем плысці.
Белае цела рыбачка з'ела,
Русыя косы вада разносе.

## ДЗЯУЧЫНА ГІНЕ, АЛЕ НЕ ЗГАДЖАЕЦЦА НА ЗАМУЖЖА З НЯЛЮБЫМ

### 767

Па рэчачцы тры чаўночкі плывуць,
А ў чаўночках тры парнёчкі сядзіць.

Па беражку красная дзевачка ходзя,
Яна ходзя, з парнем гавора:

— Ох ты, парань, малады й парнёчак,
Вазьмі мяне із сабой ў чаўночак.

Яшчэ дзевачка ў човен не садзілася,
Ужо на моры хвіля ўсхапілася,

Выкінула дзевачку з чаўночка.
Адзін кажа: «Брат, ўжо дзевачка тоне!»

Другі кажа: «Няхай патанае».
Трэці кажа: «Нумо ратаваці».

— Ратуй мяне, малады й парнёчак,
Бяры з мяне вялікую плату.

— Я не буду з цябе плату браці,
Луччай з табой пад вяночак стаці.

— Луччай буду ў моры патапаці,
Нячымся з лядачым пад вянчанне стаці.

Няхай мяне кіт-рыба з'есці,
Чымся з паганым на пасадзе сесці.

Няхай мяне белая рыбка з'есці,
Нячымся з лядачым ў разгаворы стаці.

— Утапіся, красная дзевачка,—
Я пайду ў салдаты.

## 768

— Ох ты, дзяўчына, чырвоная вішня,
Чым ты да мяне звечара не выйшла?

— Я не выйшла, баюся марозу,
Бо я свае ножкі вельмі памарожу.

— Ты, дзяўчына, не бойся марозу,
Я твае ножкі ў шапаньку ўложу.

Мая ж шапанька вельмі дарагая,
За штыры волы яна купавана.

За штыры волы, за пяту карову,
За белае лічка і чорны бровы.

Ступай, дзяўчына, на чаўнок са мною,
[Ступай, дзяўчына, на чаўнок са мною.]

Яшчэ дзяўчына на чаўнок не села,
А ўжо ўсхапілася на моры няшчасна гадзіна:

Шчука-рыба чаўна затапіла,
Малада дзяўчына на Дунай паплыла.

А там за Дунаем тры казакі ходзіць,
Адзін да другога сціхенька гаворыць.

Адзін кажа: «Рыба ў моры грае».
Другі кажа: «Дзяўчына патанае».

Трэці кажа: «Шчо будзе, то будзе,
Такі дзяўчыну ратаваці буду».

— Ратуй, ратуй, казачэньку, з мора,
Будзеш маці ад маткі заплату.

Ратуй, ратуй мяне, маладую,
Будзеш маці ад бацька другую.

— Ой, я не хачу заплатанькі браці,
Я цябе хочу за мілую ўзяці.

— Ой, лепш буду я ў моры патанаці,
Ніж з нялюбым другам на шлюбе стаяці.

Лепш я буду ў моры пясок есці,
Ніж з нялюбым за столікам сесці.

Ў моры патануўшы, то ўтону, то зрыну,
За нялюбага пайду — навекі загіну.

У моры ўтаплюся — да краю прыплыну,
За нялюбага пайду — навекі загіну.

Ў моры патануўшы, мо, хто вcase ратуе,
За нялюбага пайду — ніхто не жалуе.

Ніхто не жалуе, ні ацец, ні маці,
Ні родны сёстры, наймілейшы браты.

Няхай мае рукі аб'ядаюць шчукі,
Няхай мае косці вадзіца падносіць.

[Няхай мае косці вадзіца падносіць,]
Няхай мая маці, ходзячы, галосіць.

— Ой, падай жа мне, братка, гострую тычыну,
Ой, скалю, праб'ю няверну дзяўчыну.

## 769

Наехала туча-хмара цёмна,
Вываліла дзяўчыначку з чоўна.

Там казакі коней напавалі,
Яны ўсё гэта дзіва відалі.

Адзін кажа: «Шчука-рыба йграе»,
Другі кажа: «Дзеўка патанае».

Трэці кажа: «Давай ратавацї»,
Трэці кажа: «Давай ратавацї».

— Ратуй, ратуй, малады казача,
Будзе табе ад бацюшкі плата.

Будзе табе ад бацюшкі плата,
Будзе табе ад маткі награда.

— Не хачу я ад бацюшкі платы,
Не хачу я ад маткі награды.

Не хачу я ад маткі награды,
А хачу я за сябе узяці.

— Лучша буду ў моры патанаці,
Як мне за цябе іціці.

Як мне з табой за столікам сесці,
За столікам сесці, хлебушак есці.

## 770

♩=80

З-пад ад- ной га - ры ве - цер ве - е, з-пад ад -
- ной га - ры ве - це - р(ы) ве - е.

З-пад адной гары вецер вее,[1]
З-пад другой гары павявае.
А маць сыну й гаварыла:

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

— Не сядлай каня і не едзь з двара.
Ай, сын маці не паслухаў,
А сядлаў каня, сеў, паехаў.
Ехаў полюшкам, ехаў другім,
А на трэцім полі кусты густы,
А ў тых кустах агонь гарыць,
А ў тым агні кацёл стаіць,
А ў тым катле вада кіпіць,
А ў тэй вадзе дзеўка крычыць.
Яна крычыць: «Спасай мяне!»
— А рад бы я цябе спасці,
Ды не хочаш ты за мяне ісці.
— А лучша ж я ў вадзе скіплю,
Чым за нялюбага замуж пайду.

## 771




Пайшлі дзеўкі у ягадкі,
Маладзічкі у бруснічкі, у бруснічкі,

Маладзічкі й у бруснічкі.
Маё дзіця ўслед за імі, ўслед за імі,

Маё дзіця ўслед за імі.
Ідуць дзеўкі су ягодак, су ягодак,

Ідуць дзеўкі су ягодак,
Маладзічкі із бруснічак, із бруснічак,

Маладзічкі із бруснічак.
Майго дзіцяці як нет, дак нет, як нет, дак нет,

Майго дзіцяці як нет, дак нет.
А ці яно заблудзіла, заблудзіла?

А ці яно заблудзіла?
Вой, ці яго ваўке з'елі, ваўке з'елі?

Вой, ці яго ваўке з'елі?
Вой, ці ў моры утанула, утанула?

Вой, ці ў моры утанула?
Вой, каб яно заблудзіла, заблудзіла,

Вой, каб яно заблудзіла,
Барэ б, луге зашумелі, зашумелі,

Барэ б, луге зашумелі.
Вой, каб яго ваўке з'елі, ваўке з'елі,

Вой, каб яго ваўке з'елі,
Усе б травы улажылі, улажылі,

Усе б травы улажылі.
Каб там яно утанула, утанула,

Каб жа яно утанула,
Сіня б мора скалыхнула, скалыхнула,

Сіня б мора скалыхнула.
Прыблудзіла і к Дунаю, і к Дунаю,

Прыблудзіла і к Дунаю.
На Дунаі чаўнок плыве, чаўнок плыве,

На Дунаі чаўнок плыве,
У тым чаўночку рыбалоўчык, рыбалоўчык,

У тым чаўночку рыбалоўчык.
— Рыбалоўчык, бел малойчык, бел малойчык,

Рыбалоўчык, бел малойчык,
Перавязі на той бачок, на той бачок.

Перавязі на той бачок,
На той бачок к атцу, к матцы, к атцу, к матцы,

На той бачок к атцу, к матцы.
— Ступай, дзеўка, на каменьчык, на каменьчык,

Ступай, дзеўка, на каменьчык,
З каменьчыка у чаўночак, у чаўночак,

З каменьчыка у чаўночак,
Буду я твой міл дружочак, міл дружочак,

Буду я твой міл дружочак.
— Лучша пайду я ў цёмны лес, у цёмны лес,

Лучша пайду я ў цёмны лес,
Да не пайду к табе ў чаўнок, у чаўнок,

Да не пайду к табе ў чаўнок.
Лепей я пайду ў свет страдаці, пагібаці,

Лепей пайду ў свет страдаці,
Чым з табою ночку начаваці.

## ДЗЯУЧЫНА І КАЗАК

### 772






Ой, там ў лесе грыбы зарадзілі,
Там дзяўчаты па грыбы хадзілі. [1]

Адна дзеўка заблудзіла,
Прыблукала к зялёнаму дубу:

— Я й думала, што дуб зеляненькі,
Ажно гэта казак маладзенькі.

Ты, казача, вялікі гультаю,
Выведзь мяне на дарожку з гаю!

— Як ты станеш са мной на размову,
То выведу з гаю на дарогу!

— Лепей буду ў лесе прападаці,
А не стану з табой размаўляці.

Буду хадзіць ад ночы да ночы,
Пакуль ўпадзе росанька на вочы.

Хоць і ўпадзе на сінія вочы,
Абы-такі не на русу косу.

Хоць і ўпадзе на русую косу,
Такі свайго вяночка даношу!

## 773







Ў цёмным лесе грыбы зарадзілі,
Там дзяўчаты па грыбы хадзілі. [1]

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Ой, пайду і я па грыбы да гаю,
Ой, там жа я заблудзіцi маю.

Прыблудзіла к зялёнаму дубу,
Тут я, млода, начаваці буду.

Я думала, што дуб зеляненькі,
Адазваўся казак маладзенькі.

— Ты, казача, вялікі гультаю,
Выведзь мяне на дарожку з гаю!

— Каб ты, дзеўка, дарожкі не знала,
То б ты мяне гультаём не звала.

Ой, куплю я кватэрку гарэлкі,
Запрабую, што за розум ў дзеўкі.

— Ой, купі ты такую другую,
То не звядзеш мяне, маладую.

— Ой, куплю я кватэрачку мёду,
Такі цябе з разумэньку зведу.

Яшчэ казак на вайну не вышаў,
Ужо дзяўчына дзяціну калыша:

— Люляй, люляй, мой маленькі сынку,
Я це знашла ў гародзе ў бацвінку;

Люляй, люляй, мой маленькі жачку,
Я це знашла ў гародзе у мачку;

Люляй, люляй, мой малы сыночку,
От цяпер жа я згублю сарочку.

## 774




Дзяўчынанька па грыбэ хадзіла,
К зялёнаму гаю заблудзіла.

Прыблудзіла [redacted] зялёнаму дубу.
— Ой, тут жа я начаваці буду.

Я думала, што дуб зеляненькі,
Ажно стаіць Ясё маладзенькі.

Ой ты, Ясю, ты, Ясю-гультаю,
Выведзь мяне на дарожку з гаю!

— Каб ты, дзеўка, дарожку не знала,
То б ты Яся гультаём не звала.

Здайся, здайся, дзеўча, на падмову,
То выведу з гаю на дарогу.

— Валей буду я па гаю блудзіці,
А не буду з Ясем гаварыці.

Завёў дзеўку пад белу бярозу,
Змануў дзеўку не п'яну, цвярозу.

За гарою буйны вецер вее,
Там Ясенька пшанічаньку сее.

Высеяў ён корац і паўкорца,
За ім носіць дзяўчынэнька хлопца.

— Ой, дам дзеўцы карову рабую,
Гадуй, гадуй, дзяціну малую.

Ой, дам дзеўцы яшчэ фаску масла,
Адвяжыся, дзеўчына пракрасна.

Ой, дам дзеўцы яшчэ бохан хлеба,
Скажы, скажы на старога дзеда.

— Я не буду твае каровы браці,
Не буду сына гадаваці.

Я не буду тваго масла браці,
Не буду сына гадаваці.

Я не буду тваго хлеба браці,
Я не буду на дзеда казаці.

## 775

♩=98

Там у ле – се гры – бы за – ра – дзі – лі,

там у ле – се гры – бы за – ра – дзі – лі,

ту – ды дзеў – кі па гры – бы ха – дзі – лі.

## МУЖ (СЫН) НЕПАЗНАНЫ ВЯРТАЕЦЦА З ВАЙНЫ

### 776

Ехалі казакі з вайны,
Прасіліся ва ўдавы нанач:

— Удовачка маладая,
Пусці казакоў нанач.

— Ой, рада б я пусціці,
Нейдзе конікам стаці.

— Удовачка маладая,
Дзе твае, там і нашы.

Ехалі казакі з вайны,
Прасіліся ва ўдавы нанач:

— Удовачка маладая,
Пусці казакоў нанач.

— Ой, рада б я пусціці,
Нейдзе спатачкі легчы.

— Удовачка маладая,
Засцілай белу ложу.

Засцілай белу ложу,
Кладзіся спаць са мною.

Кладзіся спаць са мною,
Кладзі ручкі ў запазуху.

Кладзі ручкі ў запазуху,
Вынь шаўкову хустачку.

Вынь шаўкову хустачку,
Дастань залаты персцень.

Ты па пе́рсценьку ўгадаеш,
Ты па хустачцы спазнаеш.

А назаўтра ранюсенька
Удовачка маладая,

Удовачка маладая
Дзетачак пабуджае:

— Уставайце, дзетачкі,
Ужо месячык узышоў,

Ужо месячык узышоў,
Ваш татулька з вайны прышоў.

### 777

Да на гары цэркаўка,
З-пад цэркаўкі — дарожанька.

Тудэйма йшоў ваявода,
Ваявода — слічна ўрода.

— Шынкарачка, матка мая,
Пусці мяне начаваці!

— Да не пушчу начаваці,
Бо для коня стайні няма.

[Бо для коня стайні няма,]
А для харта псарні няма,

Для сакола — сакаліцы,
А для пана — святліцы.

— Шынкарачка, матка мая,
Я і сам лягу сярод двора,

А коніка — вэбок сябе,
А харціка — у ножаньках,

[А харціка — у ножаньках,]
Саколіка — у галоўках.

Шынкарачка, матка мая,
Будзі ж мяне ранюсенька,

Штоб і куры не спявалі,
Штоб саколы не свісталі.

Пелі куры, перапелі,
Сакол свістаў — перасвістаў.

Сакол свістаў — перасвістаў,
Харцік брахаў — перабрахаў.

Заржаў конік вараненькі:
— Уставай, панок маладзенькі!

Бо ідуць кулі, як мак цвіце,
А шабелькі, як іскеокі.

— Шынкарачка, матка мая,
Не хацела са мною быці.

[Не хацела са мною быці,]
Не хацела нанач пусціці.

— Да божа ж мой мілюсенькі,
Каб я знала, што сыночак,

То для каня стайня была б,
А для харта — псарня была б,

Для сокала — сакаліца,
А для сыночка — святліца.

## МАЦІ ПРАПІВАЕ ДАЧКУ

### 778

Служыў Ванюша ў цара,
А выслужыў паслугу:

Ах, ах, ах, каня з сядлом
І Наталюшку з вянцом,

І Наталюшку з вянцом.
Сам паехаў за мора.

Сам паехаў за мора
Ў караблёх гандляваць:

У адным караблі
Чыста золата,

У другім караблі
Ванюша, брацец мой.

— Ты Наталюшка-сястра!
Ці сама сюды прышла,

[Ці сама сюды прышла,]
Ці татары прывялі?

— Мяне маць прапіла
На салодкім мяду,

[На салодкім мяду]
Данілушку-купцу.

Прышоў Ванюша дамоў
Да і к матушцы радной.

— Ах ты, матушка радна!
Дзе Наталюшка-сястра?

— Ты, Ванюша, сынок мой,
За табой скора ўмярла.

— Ах ты, матушка радна,
Дзе магіла яе?

— Ты, Ванюша, сынок мой,
Ты, Ванюша, сынок мой,

Мураўкаю зарасла,
Мураўкаю зарасла.

— Ах ты, матушка радна,
Дзе мураўка тая?

— Ты, Ванюша, сынок мой,
Каровушка хадзіла.

Каровушка хадзіла,
Муравушку скусіла.

— Ах ты, матушка радна!
Ўсё няпраўда твая:

Ты Наталюшку-сястру
Прапіла на мяду,

Прапіла на мяду
Ўсё Данілушку-купцу.

Было піць-прагуляць
Майго каня-варанца,

Майго каня-варанца
Або мяне, малайца.

[А мой] конь-варанец,
Ён бы выслужыўся.

А я б, маладзец,
Я бы выкупіўся.

А Наталюшка-сястра —
Яна не выслужыцца,

[Яна не выслужыцца]
І не выкупіцца.

## БРАТ ПРАДАЕ СЯСТРУ

### 779

Andante



Пай - дзём, сяс - тра, пай -дзём, сяс -тра, ў лес у



я - гад - кі, пай-дзём, сяс- тра, ў лес у чор - ны - я.

— Пайдзём, сястра, пайдзём, сястра, ў лес у ягадкі,
Пайдзём, сястра ў лес у чорныя,

У чорныя, у чорныя, у чарнічанькі,
Чырвоныя ды сунічанькі.

— Яшчэ, братка, яшчэ, братка, не часалася,
Яшчэ, братка, не ўмывалася!

— Пачэшашся, пачэшашся, мая сястрыца,
У чыстым полі на каменьчыку.

Умыешся, умыешся, мая сястрыца,
У ціхім лузе у калужынцы!

Ідуць поле, ідуць другое, ідуць другое
Ды на трэцяе усходжваюць,

На трэцяе, на трэцяе ды усходжваюць,
Страчае іх чужаземскі сын.

— Із кім ідзеш, із кім ідзеш, чужаземчычак,
Ці з жаною, ці з валынкаю?

Ці з жаною, ці з жаною, ці з валынкаю,
А ці з роднаю сястрыцаю?

— Ні з жаною, ні з жаною, ні з валынкаю,
А із роднаю сястрыцаю.

— Прадай, братка, прадай, братка, сваю сястрыцу,
Вазьмі грошы, ды не лічачы.

Вазьмі грошы, вазьмі грошы, ды не лічачы,
Вазьмі сукні ды не шытыя.

Вазьмі коні, вазьмі коні ды вараныя,
Вазьмі валы ды палавыя.

Прыйшоў братка, прыйшоў братка ды дадоманьку,
Сустракае яго маманька:

— А дзе, сынку, а дзе, сынку, ды сястрыцу дзеў?
— Прадаў, мамка, чужаземчыку!

17. Зак. 811

Пабраў грошы, пабраў грошы, ды не лічачы,
Пабраў сукні ды не шытыя.

Пабраў коні, пабраў коні ды вараныя,
Пабраў валы ды палавыя.

— Няхай грошы, няхай грошы колам у зямлю йдуць,
Няхай сукні ды ў агні згараць.

Няхай коні, няхай коні паздыхаюць,
Няхай валы ды ваўкі з'ядуць.

Няхай валы, няхай валы ды ваўкі з'ядуць,
Няхай дзіця дамоў ідзе!

Як пайду я, як пайду я ў студню па ваду,
Ды я з дзіцём як не ўгледжуся,

Ды я з дзіцём, ды я з дзіцём як не ўгледжуся,
З таго жалю ды ўтаплюся!

## БАЦЬКА ПРАЙГРАЎ ДАЧКУ Ў КАРТЫ

### 780

А хто й у нас будзець завадзіць песню новую,
Песню новую завадзіць будзець?

Завадзілі песню новую краўцы да шаўцы,
Краўцы да шаўцы, добрыя малайцы.

Маладзенькі кучмаранькі за сталом сядзіць,
За сталом сядзіць, у карты іграець.

Першы кінуў, тут пракінуў — золата прайграў,
Золата прайграў, чыста серабро.

Другей кінуў, тут пракінуў — коніка прайграў,
Коніка прайграў вароненькага.

Трэці кінуў, тут пракінуў — ён дочку прайграў,
Ён дочку прайграў сваю родную.

Стаіць конь пад вакошачкам, як воран чарной,
Як воран чарной, яшчо пачарней.

Сядзіць дзеўка за столікам, сільненька плачыць,
Бацюшку клянець свайго роднага:

— Нашто мяне, красную дзеўку, й у карты прайграў,
У карты прайграў у новенькія!

## МУЖ ПРАПІВАЕ ЖОНКУ

### 781

Ай, пры дарозе да й пры шырокай,
Дума мая, дума, дума над думою, [1]
Стаіць карчомка вельма новая.
У тэй карчомцы шынкарка млада,
Шынкарка млада мёдам шынкуе,
Шынкуе мядом, зялёным віном.
Ай, там жа пілі а тры брацеткі:
Адзін жа п'ець, ён грошы кладзець,
А другі жа п'ець, ён каня прапіў,
А трэці жа п'ець, ён жану прапіў.
Што грошы прапіў, вышаўшы, плюнуў.
Што каня прапіў, вышаўшы, свіснуў,
Што жану прапіў — рукі сашчапіў.
Прышоў дадому — дзетачкі плачуць:
— А татка, татка, гдзе наша матка?
— Пашла ў камору прыбірацісь.
Пашлі дзетачкі туды скачучы,
Ідуць дзетачкі адтуль плачучы.
— А татка, татка, гдзе наша матка?
— Пашла на мора умывацісь.
Пашлі дзетачкі туды скачучы,
Ідуць дзетачкі адтуль плачучы.
— А ціха, дзеткі, не плачце па ёй:
Я вам пастаўлю новую хатку,
Я вам прывяду маладу матку.
— А згары, татка, новая хатка,
Прападзі, татка, малада матка.

[1] Рэфрэн «Дума мая, дума, дума над думою» паўтараецца пасля кожнага радка.

782




У роўным полі карчомка стаіць.
Дума ж мая, дума, дума над думой. [1]
А ў той карчомцы тры брацеткі п'юць:
Адзін браток піў — сто рублей прапіў,
Другі браток піў — коніка прапіў,
Трэці браток піў — жоначку прапіў.
Сто рублей прапіў — вышаўшы, свіснуў,
Коніка прапіў — плечкамі цінснуў,
Жоначку прапіў — ручкі сашчапіў.
Прышоў дахаткі, пытаюць дзеткі:
— Ох, татка, татка, дзе ж наша матка?
— Ціхацця, дзеткі, ціха, не плачце:
Пастрою хатку навюсенькую,
Прывяду мамку маладзюсенькую.
— Згары ты, татка, із новай хаткай,
Прападзі, татка, з маладой маткай.

783




[1] Рэфрэн «Дума ж мая, дума, дума над думой» паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў роўным полі карчомка стаіць.
Дума мая, дума над думой. [1]
А ў тэй карчомцы тры брацеткі п'юць:
Адзін брацетка сто рублей прапіў,
Другі брацетка коніка прапіў,
Трэці брацетка жоначку прапіў.
Сто рублей прапіў — выйшаў, засвістаў,
Коніка прапіў — пайшоў спаганяць,
Жоначку прапіў — ручкі сашчапіў.
Прыйшоў дахаткі — нет дзеткам маткі.
— А татка, татка, дзе наша мамка?
— Ды на кладачку пайшла бяліцца.
Малыя дзеці пайшлі глядзеці —
Ані кладачка не замочана,
Ані вадзіца не замучана.
Малыя дзеткі сталі плакаці.
— Не плачце, дзеткі малюсенькія,
Пастаўлю хатку навюсенькую,
Вазьму вам мамку маладзюсенькую.
— Згары ты, татка, із новай хаткай
Да праваліся з маладой маткай.

## 784

А ў полі, ў полі стаіць карчомка.
Дума ж мая, дума, дума над думой. [2]
А ў тэй карчомцы ды тры брацеткі,
Ды тры брацеткі усе п'яныя.
Адзін брацетка ды каня прапіў,
Другі брацетка сто рублей прапіў,
Трэці брацетка ды жонку прапіў.
Што каня прапіў,— вышаўшы, гукнуў,
Сто рублей прапіў — вышаўшы, крыкнуў,
Што жонку прапіў — ручкі расчапіў:
— Будуць мяне дзеткі пераймаць,
Аб сваю матку у мяне пытаць:
— Ой, татка, татка! Гдзе наша матка?

---

[1] Рэфрэн «Дума мая, дума над думой» паўтараецца пасля кожнага радка.

[2] Рэфрэн «Дума ж мая, дума, дума над думой» паўтараецца пасля кожнага радка.

— На сінім моры хустачкі мыець.
Туды дзетачкі ды усё скачучы,
Адтуль дзеткі ды ўсё плачучы.
— Ой, татка, татка! Гдзе наша матка?
— А ціха ж, дзеткі! Паставім хатку,
Паставім хатку ды навюсеньку
Ды ваэьмем матку маладзюсеньку.
— Ды згарыць яна, нова й хатачка,
Прападзець яна, малада матачка.
Лепей хатачка ды старусенькая,
Лепей мамачка ды раднюсенькая.

## 785




А ў полі, ў полі карчомка стаіць,
А дума мая, дума, а дума-думушка! [1]
А ў той карчомцы да тры братке п'е.
Адзін братка піў, той грошы прапіў,
Другі братка піў, той каня прапіў,
А трэці жа піў, той жонку прапіў.
Што грошы прапіў — вышаў, засвістаў,
Што каня прапіў — вышаў, уздыхнуў,
Што жонку прапіў — вышаў, заплакаў.
Ен прышоў дадому — яго дзеткі плачуць.
— Да не плачце, дзеткі, не жалейце маткі.
Пастанаўлю ж я вам хатку новую,
Хатку новую, печ залатую,
Печ залатую, матку маладую.

[1] Рэфрэн «А дума мая, дума, а дума-думушка!» паўтараецца пасля кожнага радка.

— Правалiся, татка, з хаткай новаю,
З хаткай новаю, з печчу залатой,
З печчу залатой, з маткай маладой.
А глянь на лазу, як сарока гняздо ўе.
Як сарока гняздо ўе, так мачыха дзяцей б'е:
То ўдарыць, то ўшчыпне, ўсё дарам не абміне.

## 786

Moderato







А ўзышлі, ўзышлі тры месяцы ясны,
Ой, пілі, пілі тры браточкі красны.

Адзін браток піў — сто рублёў прапіў,
А другі брат піў — і каня прапіў.

А другі брат піў — і каня прапіў,
А трэці брат піў — і жонку прапіў.

Што грошы прапіў, той выйшаў і топнуў,
Што каня прапіў, той выйшаў і свіснуў.

Што каня прапіў, той выйшаў і свіснуў,
Што жонку прапіў — ручкі сашчапіў.

Што жонку прапіў — ручкі сашчапіў.
Прыйшоў дадому, дзеткі пытаюць:

— Ой, татка, татка, дзе ж наша мамка?
— Цішайце, дзеткі, пагнала цялятка!

Ой, пабеглі дзеткі у лес скачучы,
А адтуль бягуць ды ўсё плачучы:

— Ой, татка, татка, няма нашай мамкі!
—Цішайце, дзеткі, прададзім хатку.

Прададзім хатку ды навюсеньку,
А купім мамку маладзюсеньку.

— Хай згарыць хатка ды навюсенька,
Хай памрэ мамка маладзюсенька!

## 787




Ай, там на гарэ карчомка стаіць,
Ай, дума ж мая, дума, дума за думой! [1]
Тры братцы сядзяць — гарэлачку п'юць.
Большанькі брацец сто рублей прапіў,
Сто рублей прапіў, вышаў ды запеў,
Сярэдні брацец коніка прапіў.
Коніка прапіў, вышаў — засвістаў.
Меньшанькі брацец жоначку прапіў,
Жоначку прапіў, вышаў да й завыў.
Прышоў ён у двор — дзетачкі плачуць.

---

[1] Рэфрэн «Ай, дума ж мая, дума, дума за думой!» паўтараецца пасля кожнага радка.

## СЫМОН І КАЦЯРЫНА

### 788

♩=88

Да па- е- хаў Ся- мён- ка да у по -ле а- ра- ці,
пры- ка- заў ён Ка- ця- ры- не да а-
бед га- та- ва- ці,
пры- ка- заў ён Ка- ця- ры- не да а-
бед га- та- ва- ці.

Да паехаў Сямёнка да у поле араці,
Прыказаў ён Кацярыне да абед гатаваці.[1]

Арэ, арэ Сямёнка ды на шлях пазірае,
Ды й усім людзям абед нясуць, Кацярынка не дбае.

Арэ, арэ Сямёнка да зялёнага дуба,
Да й выпраг ён свае волы з двухлямешнага плуга.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Да пасецеся, волы, ды не бойцеся воўка,
А я пайду дадому: да баліць мая галоўка.

Да пасецеся, волы, покуль пашы не стане,
А я пайду дадому — мо, галоўка перастане.

Прыходзіць Сямёнка да із поля дадому,
Сядзяць дзеці на парозе, сядзяць дзеці на парозе.

— Ой вы, мае дробны дзеці, дзе ж ваша родна маці?
— Пайшла, пайшла, наша маці ў шчыры бор па каліну.

Да пайшла наша маці ў шчыры бор па каліну,
Забажылася, заклялася, што навек пакіну.

Ой, прыйшоў жа Сямёнка да дубовае скрыні —
Няма срэбра, няма злота, няма жонкі Кацярыны.

Кацярына не дура: новы боты абула,
Кажух новы апранула да й да хлопцаў пацягнула.

## 789

Andantino

Пай – шоў Сы –мон, пай– шоў Сы– мон ды й у по – ле а –
ра– ці І за – быў – ся ён з са –
бо – ю хле – ба з тор – ба – ю ўзя – ці,




Пайшоў Сымон, пайшоў Сымон ды й у поле араці
І забыўся ён з сабою хлеба з торбаю ўзяці. [1]

Арэ Сымон, арэ Сымон ды й на сонца паглядае:
— Усе жанкі абед нясуць, маю ліха трымае!

Араў Сымон, араў Сымон аж да цёмнае ночы,
Пусціў валы у дуброву, а сам гайда дадому.

Прыйшоў Сымон, прыйшоў Сымон ды да новае хаты,
Пытаецца малых дзетак: «А дзе ж вашая маці?»

— Пайшла маці, пайшла маці ды й у лес па каліну,
А мы чулі, як казала: «Я вас, дзеткі, пакіну!»

Пайшоў Сымон, пайшоў Сымон да й да новае скрыні —
Няма срэбра, няма злота, няма жонкі Кацярыны.

Хлопнуў Сымон, хлопнуў Сымон ды й аб полы рукамі:
— Дзеткі ж мае маленькія, што ж рабіцьму я з вамі!

Кацярына ды й не дурна, новы чобаты абула,
У кажух новы адзелася ды й у свет папялася.

Спусці, божа, спусці, божа, ды вялікія марозы,
Змарозь, божа, Кацярыну за Сымонавы слёзы!

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 790

Allegro moderato



А у на- шым у ся - ле ста -ла но - ва на - ві - на:



па - лю - бі-ла Ка- ця- ры- на гас-па - дар - ска- га сы -на,



па- лю-бі-ла Ка- ця- ры -на гас -па- дар - ска- га сы - на.

А у нашым у сяле стала нова навіна:
Палюбіла Кацярына гаспадарскага сына.[1]

Пайшоў Сымон, пайшоў Сымон ды й у поле араці,
Яго жонка Кацярына стала абед гатаваці.

Арэ Сымон, арэ Сымон, усё на сонца паглядае:
— Чужы жанкі абед нясуць, а маю ліха мае!

Прывязаў каня да дуба, а сам гайда дахаты:
— Дзеткі ж мае дробненькія, а дзе ж вашая маці?

— Нашай маці няма дома, пайшла ў лес па каліну,
Заклялася, забажылася: «Я вас, дзеткі, пакіну!»

Заляцеў Сымон ў камору ды й адразу да скрыні —
Няма сукняў, няма грошай, няма жонкі Кацярыны.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 791













— Кідай, Сямён, жонку, а я чалавека,
Мы паедзем на Ўкраіну, дзе вясёла жыці. [1]

— Баюсь, Кацярына, каб нас не дагналі,
Белы нашы ручкі назад не звязалі.

— Не бойся, Сямёну, некаму дагнаці,
Выправіла свайго мужа я ў поле араці.

Арэ, арэ мілы, ў той бок пазірае:
— Усе жоны абед нясуць, а мая не дбае.

Араў, араў мілы, ён дaараў паляну,
Кінуў коней у дуброву, сам пайшоў дадому.

Ён прышоў дадому, да новае хаты,
Сядзяць дзеці на парозе: «А дзе ваша маці?»

— Пайшла наша маці у луг па цяляці
І сказала: «Дробны дзеці, я не ваша маці».

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Пайшла наша маці у луг па карову
І сказала: «Дробны дзеці, бывайце здаровы».

А плёснуў жа мілы угару рукамі:
— Дзеткі мае дробненькія, запрапаў я з вамі.

Прападзіце скрынкі, прападзіце й грошы,
Ну, вярніся, Кацярына, ну ты, друг харошы.

## 792

♩ = 92

Ой, у_ чо_ ра звя_ чо_ ра да й слу_чы_ла_ся на_
ві_ на: на_ маў_ ля_ ла Ка_ ця_ ры_ на
ды й ка_ за_ ча_ га сы_ на, на_ маў_ ля_ ла
Ка_ ця_ ры_ на ды й ка_ за_ ча_ га сы_ на.

Ой, учора звячора да й случылася навіна:
Намаўляла Кацярына ды й казачага сына. [1]

— Кідай бацьку, кідай матку, а я кіну свае дзеці,
Ды й паедзем на Украіну мёд, гарэліцу піці.

— Ой, баюся, Кацярынка, каб нас не даганялі,
Каб нашыя белыя ручкі ды й назад не звязалі.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Ой, не бойся, казача, нас не будуць даганяці,
Выпраўлю я свайго Сымона ў чыста поле араці.

Ой, арэ, арэ Сымоне ды й на дом паглядае.
— Усе жонкі снедаць нясуць, а мае чорт яе й мае.

Ой, араў, араў Сымоне да й дааpаўся да бору,
Пусціў валы на дуброву, сам паплёўся дадому.

Як прыйшоў Сымон дадому ды й пытаецца ў дзеткаў:
— Дзеткі ж мае маленькія, да й дзе ж нашая мамка?

— Пайшла наша матка да й у луг па цялятка,
Забажылась, заклялася, што «не вашая матка».

Пайшла наша матка да й у луг па каліну,
Забажылась, заклялася, што «вас, дзеткі, пакіну».

Як пайшоў Сымон у камору, та й сплясну͡ў жа рукамі:
— Ах, ні скрынкі, ні пярынкі, да ні жонкі Кацярынкі.

Як прыйшоў Сымон у хату — ды й аб стол кулакамі:
— Дзеткі ж мае дробненькія, запрапаў цяпер я з вамі.

Ой, у полі стаяць лозы, ды й пабілі іх марозы.
Паб'юць цябе, Кацярынка, ды Сымонавы слёзы.

## 793









Кідай, Сямён, жонку, а я кіну мужа,
Ой, сядзем, паедзем, дзе жыць будзе люба. [1]

— Баюсь, Кацярына, каб нас не дагналі,
Каб белыя ручкі назад не звязалі.

— Не бойся, Сямёне, некам' даганяці,
Паслала я мужа у поле араці.

Дзецям прыказала, як прыедзе бацька,
Да будзе пытаці: «А дзе ж ваша маці?»

— Пашла наша маці у луг па каліну,
А нам прыказала: «Дзеці, я вас кіну».

Пашла наша маці чужымі слядамі,
А нас пакінула з бацькам сіратамі.

## 794

♩ = 88

Па- е- хаў Ся-м(ы)- ён - ка да й у по - ле а - ра - ці,

да й па - кі- нуў Ка- ця- ры- ну а - бед га - та- ва - ці.

Паехаў Сямёнка да й у поле араці,
Да й пакінуў Кацярыну абед гатаваці.

Дааpaўся Сямёнка да высокага дуба,
Да й выпраг свае валы з трохлямешнага плуга.

— Ой, пасецеся, валы, да й не бойцеся воўка,
А я пайду да й дадому, бо баліць мая галоўка.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А пасецеся, волы, пакуль пашы не стане,
А я пайду да й дадому — мо, галоўка перастане.

Ой, прышоў Сямён дадому, сядзяць дзеці на парозе.
— Ой, вы, дзеці, мае дзеці, дзе вашая родна маці?

— Ой, пашла ж наша маці у шчыры бор па каліну,
Забажылась, заклялася, што «навек я вас пакіну».

Да й пашоў жа Сямёнка да дубовае скрынкі:
Няма срэбра, няма злота, няма жонкі Кацярыны.

Кацярына не дура, новыя боты абула,
Кажух белы апранула і да хлопцаў пацягнула.

## 795

Ой, паехаў жа Сямён
Ды ў поле араці,
Ён пакінуў Кацярыну
Дай абед гатаваці.

Ды арэ Сямён, арэ,
На шлях паглядае,
Усе жонкі абед нясуць,
Кацярыны нямае.

Пусціў каня ў дуброву,
А сам прыйшоў дадому:
— Дзеткі мае дробненькія,
Дзе ж вашая маці?

— Ой, пайшла нашая маці
Ды ў луг па каліну,
Ой, а нам жа прыказала,
Што «навек пакіну».

Ды як пайшоў жа Сямён
У новую камору —
Няма скрыні, няма грошай,
Няма Кацярыны.

18. Зак. 811

Ой, ударыўся Сямён
Аб полы рукамі:
— Дзеткі мае дробненькія,
Што рабіць мне з вамі?

— Ой, не бядуй ты, татка,
Не бядуй ты з намі.
Ой, ты пойдзеш із касою,
А мы з грабелькамі.

Ты будзеш касіці,
А мы падграбаці.
Як станем стог класці,
То прыдзе наша маці.

Ды павейце марозы
На густыя лозы,
Замарозьце Кацярыну.
За сіроцкія слёзы.

## 796

♩ =75

А – раў Сы– мон, а – раў да са – ма– га бо – ру,
пус– ціў ко –ні на ду–б(ы)–ро– ву, са–м(ы) пай–шоў да– до –му.
пус –ціў ко– ні на ду–б(ы)–ро– ву, са–м(ы) пай–шоў да – до– му.

Араў Сымон, араў да самага бору,
Пусціў коні на дуброву, сам пайшоў дадому. [1]

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Прыйшоўшы дадому, пытаецца ў дзеці:
— А скажыце, мае дзеці, а дзе ж ваша маці?

— Як нашая маці пагнала цяляці,
Заклялася, заракласяя, што не наша маці.

Прыйшоўшы дадому, ён лёг на падушкі:
— А дзе ж мая Кацярынка, а дзе ж мая шчабятушка?

Сіроцкія слёзы дарма не бываюць,
Як падуць на белы камень, камень разбіваюць.

## НЕШЧАСЛІВАЯ ПАРАСІЦА

### 797




Як пайшла Парасіца у Дунай па ваду,
Ой, люлі, ой, люлі, люлі, люлі! [1]
У Дунай па ваду, ў раскапаную раку.
А Іванька-дзіцянё — ён дагадлівы быў,
Ён дагадлівы быў, наўпярод забягаў,
[Наўпярод забягаў,] Парасіцу паджыдаў.
Парасіца у ваду, а ён яе за нагу.
— Дасталася Парасіца ані мне, ані яму,
Ані мне, ані яму, ані брату майму.
Дасталася Парасіца ды цясовым даскам,
Ой, ды цясовым даскам і жоўтым пяскам.

[1] Рафрэн «Ой, люлі, ой, люлі, люлі, люлі!» паўтараецца пасля кожнага радка.

## 798

Як пашла наша Параня яравога жыта жаць,
Яравога жыта жаці, ячменю вязаці.
Ты Параня, ты Параня, ты Паранюшка мая! [1]

Первы снапок сажала і галоўку абвязала,
Другі снапок сажала, ў касу ленту запляла.

Трэці снапок сажала й азірнулася назад,
Азірнулася назад — стаіць Ванька у лазах.

— Хоць стой, хоць не стой, а я цябе не баюсь,
А я цябе не баюсь, за цябе замуж не йду.

А ён, сукін сын Іванька, ён дагадлівы быў:
Ён напярод забяжаў, пад калодай паляжаў і Параню
іспужаў.
Як узяў ён Параню да й за русую касу,
Як падняў жа Параню вышай буйнай галавы,

Як ударыў ён Параню аб сырую зямлю —
І [redacted] вечару Параня здзелалась бальна,

І к беламу свету богу душу аддала.
Як у Піцеры, ў Аршаве ва ўсе звонікі звоняць,

Ва ўсе звонікі звоняць — знаць, Параню хароняць.
Нясуць Параню хаваць, вядуць Ванюшу страляць.

Ужо Параню схаранілі, а Іваню застралілі,
Па Парані мамка плача, па Іваньку ваўкі выюць.

## 799

Пайшла Парася на Дунай па ваду,
Сустрэў Парасю малады жаўнер.
— Парася мая, кветнаборна мая,
Ці любіш мяне, ці пойдзеш за мяне?

---

[1] Рэфрэн «Ты Параня, ты Параня, ты Паранюшка мая!» паўтараецца пасля кожнай страфы.

— Я цябе не люблю і за цябе не пайду.
Як узяў Парасю за русу касу,
Кінуў Парасю аб сырую зямлю.
Пайшла Парася дадому, стогнучы,
Сустрэў Парасю яе родны бацька.
— Парася мая, дзіцятка маё,
Чаго ты хмурна да невясёла?
— Галовушка баліць і сэрца шчыміць.
Із вечара Парася расстагналася.
І к беламу свету так і людзі гаманяць,
[Так і людзі гаманяць,] так і папэ ступяняць,
Парасю вязуць і харонгві нясуць.
Малады жаўнер наўпярод прыбягае,
[Наўпярод прыбягае,] к белай труне прыпадае.
— Парася мая, кветнаборна мая,
Ні мне, ні каму, ні таварышу майму —
Сырой зямлі, жоўтаму пяску.

## 800

Пашла наша Парасенька
Усё ў луг па ваду.

Ох, той Ванюша, ох, душа,
Дагадлівы быў:

Ён наўперад забяжаў,
Пад кусцікам паляжаў,

Пад кусцікам паляжаў,
Парасеньку наджыдаў.

Як узяў жа Парасеньку
Усёй за правую руку,

Ох, як кінуў Парасеньку
Аб сырую зямлю —

Як устала Парасенька,
Без вёдзер пашла.

Ажно яе сустрачае
Войцец, матка радна.

— Ад чаго ж ты, Парасенька,
От, такая бляда?

— От, не магу я сказаць,
Прышоў час паміраць.

У нядзелю ранюсенька
Калакольчыкі звіняць,

Маладую Парасеньку
І ў дол хараняць.

Ах ты, Ванюшка, ах, душа,
Ён дагадлівы быў:

Ён наперад забяжаў,
На каленушкі упаў.

На каленушкі упаў,
Рукі, ногі цалаваў.

Рукі, ногі цалаваў,
Парасеньку праваджаў.

## ЗЛАЧЫНЕЦ-ДУНЕЦ

### 801

На шырокай даліне
Там гуляла дзяўчына,

Косу русу часала,
Малойчыка чакала.

Прыйшоў да яе дунец,
Ён пракрасны маладзец.

— Ці любіш ты дунца,
Ці пойдзеш за дунца?

— А я дунца не люблю,
Я за яго не пайду.

Як рассердзіўся дунец,
Як выхапіў вострую меч

І зняў дзяўчыне галаву з плеч,
Сам пусціўся у Дунец.

Там дунца спаймалі
І рукі-ногі звязалі.

Як даведаўся ацец,
Што сядзіць яго дунец.

За якую прычыну?
За пракрасную дзяўчыну.

Сыпнуў дзенег з рукаўца
І выкупіў свайго дунца.

— Ступай, дунец, дадому,
Не кажы нікому.

Дунец дадому не дайшоў,
Паўдарожанькі памёр.

Вот у нашага атца
Нет ні дзенег, ні дунца,
Ні краснага малайца.

## СМЕРЦЬ КАНЮШАГА

### 802

Пагнаў канюшы конікі
На шалковую травіцу,

На шалковую травіцу,
На здраёвую вадзіцу.

Конікі травы не елі,
Здраёвай вады не пілі,

Здраёвай вады не пілі,
Канюшага знасілі.

Канюшага знасілі,
Наўпол галоўку разбілі,

Наўпол галоўку разбілі,
А на чатэры — сардэнька.

Ой, ніхто таго не ведаў,
Адна матанька узнала.

Адна матанька узнала,
Сем міль ночкаю ўмахала.

— Што ты, канюшы, тут робіш,
Чы дробну рыбку ловіш?

— Ой, я рыбанькі не лаўлю,
Мяне конікі знасілі.

Мяне конікі знасілі,
Наўпол галоўку разбілі,

Наўпол галоўку разбілі,
А на чатэры — сардэнька.

— Ой, трэба табе дактароў,
Чы тых вялікіх лекароў?

— Не трэба, мамка, дактароў,
Ні тых вялікіх лекароў,

[Ні тых вялікіх лекароў,]
Ой, толькі трэба цяслікоў.

— Ой, дзе це, сыну, пахаваць,
Ой, чы ў касцеле пры сцяне?

— Не хавай, мамка, ў касцеле,
Пахавай мяне пры дродзы.

Пахавай, мамка, пры дродзы,
Ой, пры том бітым гасцінцы.

Насей, маманька, лялеі,
Ой, таго зёлка шалвеі.

Будуць панове ехаці,
Будуць лялеі шчыпаці.

— Ой, ту канюшы, ту лежы,
Што ёга коні знасілі,

Што ёга коні знасілі,
Наўпол галоўку разбілі,

Наўпол галоўку разбілі,
А на чатэры — сардэнька.

## КОНЬ — ЗВЯСТУН СМЕРЦІ

### 803

Ой, у полі пад вішэнькаю
Там казачок забіты ляжыць,
Над ім конік вараны стаіць,
Капыцейкам зямлю сячэ,
Свайму пану вады дастае.
— Табе, коню, вады не дастаць,
А мне, маладому, ад зямлі не ўстаць.
Бяжы, коню, да новага двара,
Выйдзе да цябе старая жана,
Старая жана — то матка мая.
Будзе ў цябе сынка пытаці,
Не кажы, коню, што забіт ляжу,
Да скажы, коню, што ажаніўся.
— Што ж у яго за сваты былі?
— Былі ў яго сваты — зялёны дубы.
— Што ж у яго, коню, за музыка быў?
— Быў у яго музыка — зялёны явор.
— Што ж у яго, коню, за сванька была?
— Была ў яго сванька — чырвона калінка.

— Што ж у яго, коню, за дружкі былі?
— Былі ў яго дружкі — белы бярозкі.
— Што ж у яго, коню, за млода была?
— Была ў яго млода — арабіначка,
У чыстым полі да магілачка.

## 804

Бедна ж мая галовачка,
Што чужая старoначка.

Ой, на мяне мой пан злуе,
Кайданачкі да й гатуе,

Кайданачкі на ножачкі,
А шабельку на ручачкі.

А ў нядзелю ранюсенька
Заказалі ў дарожаньку,

А ў якую — далёкую:
Пад француза ваяваці,

[Пад француза ваяваці,]
Польску землю адабраці.

Мы француза зваявалі,
Польску землю адабралі.

Ой, з-пад гары конік бяжыць,
А ў даліне трава шуміць.

[А ў даліне трава шуміць.]
А ў той траве казак ляжыць

Да ў купіну галавою,
Накрыў вочы сукманою.

А якою — чырвонаю,
Казацкаю заслугаю.

А над ім жа нет нікога,
Толькі стаіць конік ёга.

— Бяжы, конік, дарогаю,
А якою — шырокаю.

Прыбяжыш ты к вароцечкам,
Стукнеш, грукнеш капыцечкам,

Штоб капыты зашчымелі,
Штоб варота зазвінелі.

Выйдзе к табе стара жона,
Стара жона, матка мая.

Возьме цябе за грывеньку
І павядзе у стаенку.

Будзе табе есці даваць,
Будзе ў цябе праўды пытаць.

Адна праўда жаласліва,
А другая — гардарліва.

Ужо твой сын ажаніўся,
Узяў жонку кралёвачку.

[Узяў жонку кралёвачку —]
У чыстым полі магілачку.

— Чы ж я яму не казала,
Як на вайну выпраўляла:

Не бяры, сынку, багатай,
Ні багатай, ні харошай —

За багату забіраюць,
За харошу убіваюць.

Вазьмі, сынку, сірацінку,
Штоб умела гараваці,

Штоб умела гараваці,
Хлеба, солі зарабляці,

Хлеба, солі зарабляці,
Айца й маткі шанаваці.

## 805

Andante




За ракою, за быстрою,
Там ўланік ляжыць,
Ах, там уланік ляжыць. [1]

Ў правай ручаньцы
Вострую меч дзяржыць.

Сухую траваньку тне,
Конікаві дае.

Раны сваe балюшчыя
Пераверчывае.

Коню свайму вараному
Ўсё раскавывае.

— Ой ты, конь, ты мой конь,
Вараненькі ты мой!

Ты пры мне не ляжы,
Пабяжы ты ў дом мой,

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з выклічнікам «ах» упачатку.

Гдзе матка і ойчанька мой.
Занясі ты паклон

Айцу і матцы маёй.
Маёй мілай жане

То славамі раскажы:
Няхай мяне не жджэ,

Няхай мяне не жджэ,
Няхай замуж ідзе.

Пад варота прыбяжаў,
Галасненька заржаў.

Вышаў родны айцец.
Вароцечка адчыніў.

І вышла матулька радна,
Сядэлачка прыняла.

Вышла жонка малада,
За грываньку узяла.

За грываньку узяла,
На стаеньку павяла.

Аўса і сена дала,
Стала яна пытаці.

Стала ж яна, маладзенька,
Белы ручкі ламаці.

— Ой ты, конь, ты мой конь,
Гдзе таварышак твой?

— За ракою за быстрою
Ажаніўся з другою.

Ажаніла яго куля быстрая,
Пашлюбіла шабля вострая.

Абмыла вада чысценькая,
Прыхіліла зямля сыранькая.

806

Не шум, не шум да дуброванька,
Не шум, не шум да зялёна!

Не плач, не плач да ўдованька,
Не плач, не плач да й маладая!

— Ох, як жа мне да не шумеці,
Галлю майму да не жаўцеці:

Цераз мяне да пагон ідзе,
Пагон ідзе, купцы едуць.

На карэннях да агонь кладуць,
Падкоўкамі да карэнне б'юць.

— Як жа мне да не плакаці:
Усе казакі з вайны едуць,

А мой мілы да й убіт ляжыць,
У правай ручцы да каня дзяржыць.

А леваю да расу бярэ,
Расу бярэ да на сэрца лье.

— Раса ж мая да крапушчая,
Душа ж мая ды жывушчая.

Таварышы да мае братцы!
Завядзеце да каня майго,

Завядзеце да войцу і к матцы.
Накажыце да маёй жонцы,

Няхай яна да мяне не жджэ,
Няхай сабе за другога ідзе.

Ох, калі ёй да пагорш будзе,
Яна мяне спамінаць будзе.

Ох, калі ёй да палепш будзе,
Яна мяне праклінаць будзе.

## 807




За рэчкаю, за быстраю,
Там жаўнерык ляжыць,
Гэй, гэй, о, гэй, гэй, [1]
Там жаўнерык ляжыць.

Там жаўнерык ляжыць,
Гостру шабельку дзяржыць.

Гостру шабельку дзяржыць,
Суху траваньку тне.

Суху траваньку тне,
На коня кідае.

— Ой ты, конь, ой ты, мой,
Да бяжы ты дамой.

Да бяжы ты дамой
Дарожкаю стаўпавой.

Прыбяжы пад дварэц,
Галасненька заржы.

Выйдзе там да цябе
Матуленька мая,

Матуленька мая
Альбо мілая.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, гэй, о, гэй, гэй».

Ой, вышла да яго
Да міленька жаўняра.

Узяла за павады
Да ў стайню павяла.

Да ў стайню павяла,
Аўса, сена дала.

— Ой ты, коню, ой ты, мой,
Скажы, дзе мілы мой.

— За ракою, за быстрою
Ажаніўся з другою.

Ажаніла яго куля,
Куля да быстрая.

Дала шлюб жа яму
Шабелька гострая.

## 808




А за белым за бярэзнічкам
Бел малойчык ды убіт ляжыць.

Бел малойчык ды уоіт ляжыць,
Яго конік у галоўках стаіць.

Ён капыцікам зямлю сячэ,
Свайму пану вады дастае.

— Табе, косю, вады не дастаць,
Мне, маладому, ад зямлі не ўстаць.

Разарві, косю, шаўкоў павод,
Бяжы, косю, ды дарогаю,

Дарогаю ды шырокаю.
Прыбяжы, косю, к новаму двару,

К новаму двару, к бацьку майму.
Стукні-грукні у вароцейкі,

Каб варотцы расчыніліся,
Каб падкоўкі раззвінеліся.

Выйдзе к табе пані старая,
Пані старая — то матка мая.

Будзе у цябе пытаціся,
Умей, косю, дагадаціся:

— Пры дарозе ды пры шырокай
Бел малойчык ды пасяліўся.

— А што ў яго за сваты былі?
— Сваты былі сырыя дубы,

А сваточкі — бел бярэзнічак,
Сіне мора — ой, то музыкі!

Мора йграе, не ўлягае,
Матка плача, не сціхае.

## 809

Con moto







19. Зак. 811

Бяжыць вада сцюдзёная,
Расце трава зялёная.[1]

А ў той траве казак ляжыць,
А ў галоўцы конік стаіць.

Выбіў зямлю да каменя,
Выеў траву да кораня.

— Табе, косю, вады не дастаць,
Мне малайцу, з зямлі не ўстаць!

Бяжы, косю, дарогаю,
Бяжы, косю, шырокаю.

Як прыбяжыш к вароцечкам,
Стукні-грукні капыцечкам.

А там выйдзе стара бабка,
Стара бабка — мая мамка.

Стане ў цябе пытаціся,
Умей, косю, адказаці.

— Ах ты, косю вараненькі,
Дзе ж мой сынок маладзенькі?

Ці ты яго ў вайне забіў,
Ці ты яго ў лесе згубіў?

— Ні я яго ў вайне забіў,
Ні я яго ў лесе згубіў.

Згубілі яго цёмныя ночкі,
Марысіны сіні вочкі.

Прывяжа мяне да сасонкі,
А сам ідзе да карчомкі.

Прывяжа мяне да бярозы,
А сам ляжыць у белай ложы.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Каб це, косю, ваўкі з'елі,
Каб це, косю, разарвалі!

— Мяне ваўкі даўно знаюць,
Як я ляту — уцякаюць!

— Каб це, косю, агонь спаліў,
Каб це, косю, пярун забіў!

— Мяне агонь даўно знае,
Як я ляту — патухае!

## 810

Con moto







Дзе крыніца глыбокая,
Там вадзіца сцюдзёная
І травіца зялёная.

На травіцы казак убіт,
А ў галоўцы конік стаіць. [1]

Конь з казаком размаўляе:
— Ці ты на мне сам паязджай,
Ці ты мяне ў поле пушчай!

— Бяжы, косю, дарогаю,
Бяжы, косю, шырокаю!

Як прыбяжыш к вароцечкам,
Стукні-грукні капыцікам.

[1] У двухрадковых строфах другі радок паўтараецца два разы.

Ой, там выйдзе стара жана,
Стара жана — мамка мая.

Будзе цябе аўсом вітаць,
Будзе ў цябе сынка пытаць:

— Ой ты, косю сівусенькі,
Дзе мой сынок мілюсенькі?

Ці ты яго ў полі згубіў,
Ці ты яго ў вайне забіў?

— Мамка мая старэнькая,
Скажу слоўца вярненькае:

Ні я яго ў полі згубіў,
Ні я яго ў вайне забіў!

Ой, забілі цёмны ночы,
Дзяўчыніны чорны вочы.

Мяне вяжа да бярозы,
А сам ідзе к белай ложы.

Мяне вяжа да ляшчыны,
А сам ідзе да дзяўчыны.

Мяне вяжа да сасонкі,
А сам ідзе да карчомкі.

З карчмы ідзе — хіляецца,
Аж на мне поўсць мяняецца!

— Каб це, косю, ваўкі з'елі,
Каб це, косю, разарвалі,
Як на сынка досыць жалю!

Каб ты, косю, утапіўся,
Як мой сынок не жаніўся!

Каб це, косю, лясы ўбілі,
Каб це, косю сівусенькі,
Дзе ж мой сынок мілюсенькі?

— Мяне, мамка, лясы знаюць,
Як я бягу — шум сціхае.

Мяне, мамка, рэкі знаюць,
Як я бягу — высыхаюць!

Мяне, мамка, ваўкі знаюць,
Як я бягу — уцякаюць!

## 811

Moderato

Ой, на ві_ ры ва_ да гра_ е, ой, на
ві_ ры ва_ да гра_ е, бел ма_лой_чык па_ та_ па_ е.

Ой, на віры вада грае, [1]
Бел малойчык патапае.

Бел малойчык патапае,
З сівым канём размаўляе:

— Ой ты, коню, сівы хвосце,
Не бяжы ты па дарожцы.

А бяжы ты краёчачкам,
Стукні-бразні капыцечкам.

Стукні-бразні капыцечкам,
Каб вароты адляцелі,

Каб вароты адляцелі,
Сярод двара зазвінелі.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Выйдзе к табе стара бабка,
Стара бабка — родна матка.

Будзе з табой вітаціся,
Свайго сына пытаціся.

Не кажы, што утапіўся,
Да скажы, што ажаніўся.

Узяў жонку Марыначку —
Ў чыстым полі магілачку.

— Усе лугі зашумелі,
Адзін явар ціха стаіць.

Усе хлопцы з вайны едуць,
Майго сына каня вядуць.

## 812

Allegretto







Ў чыстым полі каліна стаіць,
Ах, мой божа, каліна стаіць! [1]
Пад калінай казак убіт ляжыць,
Над казаком сівы конь стаіць,
Капытом сячэ, ваду дастае.
— Тут табе, коніку, вады не дастаць,
Мне, маладому, ад зямлі не ўстаць.
Пабяжы, коню, аж пад ганачак,

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ах, мой божа».

Выйдзе да цябе пані старая,
Будзе у цябе мяне пытаці.
Ты скажы, коню, што ў войску служу,
Выслужыў сабе на вальначку,
У чыстым полі ды магілачку.
Зялёны дубы — то сваты мае,
Белы бярозы — то дружкі мае,
Вяліка сасна — то хата мая,
Сырая зямля — то жонка мая.

## 813




У чыстым полі ялінaчка,
Пад ялінкай — магілачка. [1]

А ў тэй магілцы казак ляжыць,
Над казаком конік стаіць.

— Не стой, косю, нада мною,
Над маёю галавою.

Бяжы, косю, дарогаю,
Бяжы, косю, шырокаю.

К майму сялу, к майму двару,
К вароціткам цісовенькім.

Стукні-грукні капыточкам,
Заржы дробным галасочкам.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Выйдзець цябе пераймаці
Стара жана — мая маці.

Будзець цябе пытаціся,
Умей, косю, адказаціся.

— Ах ты, мой косю вараненькі,
А дзе ж мой сын маладзенькі?

Ці ты яго ў вайне забіў,
Ці ты яго з вайны згубіў?

— Ні я яго ў вайне забіў,
Ні я яго з вайны згубіў.

Загубілі цёмны ночы,
Дзяўчыніны чорны вочы...

Мяне ўвяжаць ля сасонкі,
А сам пойдзець да карчомкі.

Мяне ўвяжаць ля яліны,
А сам пойдзець да дзяўчыны.

Ў цёмным лесе ваўкі выюць,
Аж пада мной ножкі ныюць.

Ў цёмным лесе звяр'ё скогліць,
Аж пада мной зямля стогнець.

Яму досыць віна й мёду,
А мне няма травы й вады.

## 814



Ой, на горцы агонь гарыць,
Пад гарою казак ляжыць.
Та-ра-ра, пад гарою казак ляжыць. [1]

Не стой, конік, прада мною,
Не бі зямлі прад сабою.

Бо ты зямлі не даб'ешся,
Мяне, млайца, не дажджэшся.

Бяжы, конік, дарогаю
Сталбавою, шырокаю.

Стукні-грукні й а ў бацькі дзверы,
Стукні-грукні й а ў бацькі дзверы.

Бацька выйдзе, рассядлае,
Маці выйдзе, распытае:

— Ой ты, конік вараненькі,
А гдзе сын мой маладзенькі?

— Не плач, мама, не журыся,
Твой сыночак ажаніўся.

Узяў сабе паляначку,
Ў чыстым полі зямляначку.

Вазьмі, маці, жменю пяску,
Пасей яго на камушку.

Калі гэтат пясок ўзайдзець,
Тагда сын твой з вайны прыйдзець.

Нету пяску, нету ўсходу,
Нету сына із паходу.

Нету жыта — бура збіла,
Нету сынка — куля ўбіла.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца зададткам «Та-ра-ра» ўпачатку.

## 815

Ой, на гары агонь гарыць, [1]
На даліне трава шуміць.

На даліне трава шуміць.
Там малойчык убіт ляжыць:

У купінку галоўкаю,
А к дарожцы ножанькамі.

У галоўцы свечы гараць,
А ў ножаньках сіў конь стаіць.

— Не стой, конік, нада мною,
Бяжы сабе дарогаю.

Як падбяжыш пад варота,
Стукнеш-бразнеш у варота,

Каб варота адляцелі,
Каб падкоўкі зазвінелі.

Выйдзе к табе стара бабка.
Гэта ж мая родна матка.

Возьме каня за грывачку
Да павядзе у стайнечку.

Да дасць каню аўса, сена,
Будзе пытаць свайго сына.

— Мой ты конік сівусенькі,
Дзе ж мой сынок раднюсенькі?

Ці ж ты яго ў вайне забіў,
Ці ж ты яго ў вадзе ўтапіў?

— А я яго з вайны вынес,
А я яго з вады вывез.

Да даў яму прыпыначку,
У чыстым полі магілачку.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Бабка ж мая старэнькая,
Вазьмі ж сабе пяску жменю,

Вазьмі ж сабе пяску жменю,
Пасып яго на камені.

Калі пясок жытам сыйдзе,
То твой сынок з вайны прыйдзе.

Няма жыта, няма ўсходу —
Няма сынка із паходу.

Няма жыта, каласочка —
Няма сынка Васілёчка.

**816**




Ой ты, полюшка, ты прыкраснае,
Васілёчкамі ўсё закрашана.

У роўным полі ракітавы куст,
А пад тым кустом малады салдат.

Малады салдат убіты ляжыць,
Над галованькай сівы конь стаіць.

Правай ручанькай павадок дзяржыць,
Левай ручанькай шаблю вострую.

— Ой ты, косю мой, ты таварыш мой,
Ой, ляці, косю, ў маю старану.

Дадуць табе, косю, аўса і сена,
Будуць пытаці пра свайго сына.

Не кажы, косю, што я ўбіт ляжу,
Дай скажы, косю, што цару служу.

Узяў жоначку, як маліначку,—
У роўным полі магілачку.

Жаніла мяне куля быстрая,
Благаславіла шабля вострая.

Узяў жоначку-грацаляначку —
У роўным полі сабе ямачку.

## 817







Ай, у полі, ў полі пад вішанькаю,[1]
Ай, тамака ляжыць казак убіты.
А ў яго ў галовачках сівы конь стаіць.
А ён жа капыцікам зямелечку б'е,
А ён жа ж казачаньку ваду дастае.
— Відна, табе, кося, вады не дастаць,
А мне, маладому, з мясцінкі не ўстаць.
Ай, бяжы ты, кося, гэтай дарогай,
Ай, бяжы ты, кося, к новаму двару,
Ай, к новаму двару, к татульку майму.
Выйдзе к табе, кося, старая жана,
Ай, старая жана — матулька мая.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Не кажы ты, кося, што я забіты,
Ай, кажы ты, кося, што я жанюся.
Ай, будзе пытаціся: «А што за сваты?»
Ай, кажы ты, кося, якія сваты:
Ай, былі ў яго сваты — зялёныя дубы,
Былі ў яго свашачкі — дробны пташачкі.

## ЧАРНАМОРАЦ ПАТАНАЕ

### 818




А ў нядзелю раненька,
Эй, прыбяруся шчыгульненька,
Прыбяруся шчыгульненька [1].

Сяду проціў яснага слонца:
Чы не ўгледжу чарнаброўца?

Чарнабровец з вайны едзе
І сямёра коні вядзе,

А на восьмым, вараненькім,
Да й і ён сам едзе.

Стаў ён коні напаваці,
Стала вада прыбываці.

[Стала вада прыбываці,]
Чарнаброўца занімаці.

— Ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верне любіла!

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Рада была б ратаваці,
Да й не ўмею плываці!

Ой, пайду жа ж я па людзі,
Чы не жаль каму будзе?

Пукіль людзі сабраліся,
Чарнабровец патапіўся.

Пашоў мілы із вадою,
Астаюся удавою;

Пашоў мілы да з аірам,
Астаюся з кавалерам;

Пашоў мілы з шчупачкамі,
Астаюся з дзетачкамі.

## 819

Andante

У_ ста_ ну я ра_ ню_ сень_ ка,
у_ мы_ ю_ ся бя_ лю_ сень_ ка, а ся_ ду я
пад а_ кен_ цам про_ ціў яс_ на_ га сон_ ца

Устану я ранюсенька,
Умыюся белюсенька,
А сяду я пад акенцам
Проціў яснага сонца.

Ах, проціў яснага сонца:
Ці не ўгледжу чарнаморца?
Чарнаморац з вайны едзе,
Ён сямёра коні вядзе,

А восьмага варанога:
На ём сядло залатое,
[На ём сядло залатое,]
Струмнянікі срабраныя.

Стаў пад Дунай пад'язджаці,
Стала вада прыбываці,
[Стала вада прыбываці,]
Чарнаморац патанаці.

— Ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верне ты любіла!
— Рада ж бы я ратаваці,
Каб я ўмела паплываці!

Дайце чэлан і вясёлцы,
Ратавала б сваё сэрца!
А пабягу я па людзі,
Ці не жаль каму будзе?

Пакуль людзі сабраліся,
Чарнаморац утапіўся,
Чарнаморац утапіўся,
Свае міласці забыўся.

Плыві, плыві ты з вадою,
Астаюся я ўдавою,
Плыві, плыві беражкамі,
Астаюся з дзетанькамі.

Плыві, плыві ты крутымі,
Астаюся я з драбнымі,
Плыві, плыві на пясочак,
А я пайду у шыночак.

**820**

А сягодня ранюсенька
Умываюся бялюсенька.

Умыюся бялюсенька,
Угладжуся гладзюсенька.

А вось сяду пад аконцам:
Ці не ўбачу чарнаморца,

Чарнаморца, ясна сонца?
Чарнаморац з вайны едзе.

Пяцёра [да] коней вядзе,
А на шостым ён сам едзе.

Стаў конікі напаяці,
Сталі коні ваду піці.

Стала вада прыбываці,
Чарнаморца займаці.

— Ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна любіла.

— Каб я мела вясельца,
Ратавала б сваё сэрца.

Каб я мела злотна пруга,
Ратавала б свайго друга.

Пайду я людзей прасіці,
Ці не прыдуць бараніці.

Пакуль людзі сабраліся,
Чарнаморац утапіўся.

Чарнаморац утапіўся,
Із вадою пакаціўся.

Зарасці тут хоць травою,
Засталася я ўдавою.

Зарасці тут хоць кветкамі,
Засталася я з дзеткамі.

## 821




Ой, не шуміце, лугі,
Не задавайце тугі.[1]

Ой, бо я тугу знаю,
Мілага не відаю.

Паехаў мілы за лес,
Чорны вочанькі занес.

Ой, за лес, за дуброву
Занёс ціху размову.

Устану я раненька,
Умыюся бяленька.

Сяду я ля вакенца:
Ці не йдзе маё сэрца?

А мой міленькі ідзе,
Чатыры кані вядзе,

Чатыры кані вядзе,
А на пятым сам едзе,

А на пятым, вараным,
На сядзёлку залатым.

Прыехаў да Дунаю,
Аж да быстрага краю.

Стаў конік ваду піці,
А казак рукі мыці.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Яшчэ конь не напіўся,
Казачэнька ўтапіўся.

Йшчэ напраўду не ўтапіўся —
За калінку ўхапіўся:

— Ой, ратуй, мая міла,
Калі верна любіла!

— Рада б я ратаваці,
Ды не ўмею плаваці.

Ратуйце, добры людзі,
То мой міленькі будзе!

Без чаўна, без вясельца
Патонеш, маё сэрца!

— Без чаўна, без парома —
Бывай, міла, здарова!

## 822

Allegretto risoluto















Чарнаморац з мора едзе
І сямёра коней ведзе,
Ой, сямёра коней ведзе,
На васьмому то й сам едзе.[1]

Ой, сямёра коней ведзе,
На васьмому то й сам едзе,
На васьмому, вараному,
На сядзёлку залатому.

Я думала, што да гаю,
Ён — да ціхага Дунаю.
Стаў коніка напайваці,
Стала вада прыбываці.

Стала вада прыбываці,
Чарнаморац — патапаці.
Чарнаморац патапіўся,
За каліноньку ўхапіўся:

— Ой, каліна, ой, маліна,
Ой, каму ж ты гаркая,
Ой, як ты мне саладкая,
Так як маценька радная!

Ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна ты любіла!
— Ой, рада б я ратаваці,
Ды не ўмею плаваці.

Ды не ўмею плаваці,
Пайду людзей запрашаці.
Пакуль людзі сабраліся,
Чарнаморац патапіўся.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы

## 823

Allegretto moderato




Ой, сяду я край ваконца, гэй!
Ой, сяду я край ваконца [1]
Супроць яснага сонца.

Супроць яснага сонца, гэй!
Выглядаці чарнаморца.

Чарнаморац едзе, едзе, гэй!
Дзевяцёра коней вядзе.

Дзевяцёра коней вядзе, гэй!
На дзесятаму сам едзе,

На дзесятым, вараненькім, гэй!
На сядзельцы шаўкавенькім.

Я думала, што да гаю, гэй!
Ён — да ціхага Дунаю.

Стаў коніка напаваці, гэй!
Стала вада прыбываці.

Стала вада прыбываці, гэй!
Чарнаморца затапляці.

Чарнаморац патапае, гэй!
Ён ручанькаю махае:

— Ратуй, ратуй, мая міла, гэй!
Калі верна любіла!

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца без выклічніка «гэй».

— Рада была б ратаваці, гэй!
Ды не ўмею плаваці!

Ой, каб човен ды вясельца, гэй!
Ратавала б цябе, сэрца.

Ой, пайду я клікаць людзі, гэй!
Ці не жаль каму будзе?

Пакуль людзі ізышліся, гэй!
Чарнаморац утапіўся.

Плыві, мілы, за вадою, гэй!
Асталася я ўдавою!

Плыві, плыві рэчанькамі, гэй!
Асталася з дзетанькамі!

## 824




Як устану я раненька,
Я й памыюся бяленька. [1]

Я й памыюся бяленька,
Уватруся румяненька.

Як сяду я пад ваконца,
Як гляну я супраць сонца:

Ці не ўвіджу чарнаморца?
Чарнаморац з Дону едзець,

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

З Дону едзець — патанаець,
Ён ратунку гукаець:

— Ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна любіла!

— Рада ж бы я ратаваці,
Ды не ўмею паплываці:

Каб чавёнчык ды вясельца,
Ратавала б сваё серца.

Каб і конічак, падпруга,
Ратавала б свайго друга.

— Бяжы, міла, на дзярэўню,
Ці не жаль каму будзець.

Пакуль міла зварацілась —
І шапачка паплываець.

— Плыві, міленькі, лужкамі,
Астаюся я з дружкамі!

Плыві, мілы, рэчанькамі,
Астаюся з дзетанькамі.

825

♩ = 90

Як ся_ ду я (й) у ва_ кон_ ца
про_ ці яр_ ка_ га сон_ ца, эх, як ся_ ду я (й) у ва_
ко_ н/ы/_ ца про_ ці я_ р/ы/_ка_ га сон_ ца.

Як сяду я у ваконца
Проці яркага сонца,
Эх, як сяду я у ваконца
Проці яркага сонца.

Проці яркага сонца:
Ці не ўвіджу чарнаморца,
Эх, проці яркага сонца,
Ці не ўвіджу чарнаморца?

Чарнаморац полем едзе
Да семера коней вядзе,
Эх, чарнаморац полем едзе
Да семера коней вядзе.

Чарнаморац полем едзе
Да семера коней вядзе,
Эх, да семера коней вядзе,
Сам на восьмым ён едзе,

На восьмаму, варанаму,
Ў зіпаніку зеляному.
Эх, я ж думала, што дадому,
Ажно к ціхаму Дунаю.

Стаў ён коней напаяці,
Стала вада прыбываці,
Эх, стаў ён коней напаяці,
Стала вада прыбываці.

Пакуль конік той напіўся,
Чарнаморац утапіўся,
Эх, пакуль конік той напіўся,
Чарнаморац утапіўся.

Каб мне рэмень да папруга,
Ратавала б свайго друга,
Эх, каб мне рэмень да папруга,
Ратавала б свайго друга.

Каб мне човен да вясельца,
Ратавала б маё серца,
Эх, каб мне човен да вясельца,
Ратавала б маё серца.

— Ратуй, ратуй, мая міла.
Калі верна любіла,
Эх, ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна любіла.

## 826

♩ = 70

У_ ста_ ну я ра_ ню_ се_ н(і)_ ка,
у_ мы_ ю_ ся бя_ лю_ се_ н(і)_ ка, эх,
ся_ ду, ся_ ду ля ва_ ко_ н(ы)_ ца
про_ ці яр_ ка_ га со_ н(ы)_ ца.

Устану я ранюсенька,
Умыюся бялюсенька,
Эх, сяду, сяду ля ваконца
Процi яркага сонца.

Эх, сяду, сяду ля ваконца
Процi яркага сонца,
Эх, процi яркага сонца:
Цi не ўбачу чарнаморца?

Чарнаморац адзін едзе,
Сямёра коней вядзе,
Эх, а васьмога, варанога,
Дружка майго маладога.

Павяду я коні к гаю,
Усё да ціхага Дунаю.
Эх, сталі коні ваду піці,
Стала вада прыбываці.

Эх, сталі коні ваду піці,
Стала вада прыбываці,
Эй, стала вада прыбываці,
Чарнаморац утапаці.

Чарнаморац утапае
Да й ратуначку гукае.
— Эй, ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна любіла.

— Ой, рада б я ратаваці,
Ды не ўмею плываці.
Штоб мне лодачка, вясельца,
Ратавала б сваё сэрца.

Штоб мне рэмень і папруга,
Ратавала б свайго друга,
Штоб мне рэмень і папруга,
Ратавала б свайго друга.

Пайду ў слабаду па людзі,
Ці не жаль каму будзе?
Эй, пакуль людзі сабраліся,
Чарнаморац утапіўся.

## 827

Праціў жаркага сонца
Адчыняла ваконца,
Паджыдала чарнаморца,
Праціў жаркага сонца.

Чарнаморац едзе, едзе,
Семярых ён коней ведзе,
А восьмага — варанога,
Сам ў кафтане зелянога.

— Садзісь, садзісь, мая міла,
Паедам да зялёнага гаю,
Да зялёнага гаю,
Да да ціхага Дунаю.

Сталі коней напаваці,
Стала вада прыбываці,
[Стала вада прыбываці,]
Чарнаморца патапаці.

Чарнаморац патапае,
Сваю мілую ўзывае:
— Ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна любіла.

— Рада б, рада б ратаваці,
Ды не ўмею выплываці.
Калі б лодачка, вясельца,
Ратавала б сваё сэрца.

Схаджу ў слабаду па людзі:
Чы не жаль каму будзе?
Пакуль людзі сабраліся,
Чарнаморац утапіўся.

— Плыві, плыві вадою —
Застаюся удавою;
Плыві, плыві вадою —
Застаюся удавою.

Плыві, плыві рэчачкамі —
Застаюся з дзетачкамі;
Плыві, плыві берагамі —
Застаюся з варагамі.

## 828




Як я была маладзенька,
Эй, як я была маладзенька, [1]
Уставала ранюсенька.

Уставала ранюсенька,
Умывалась белюсенька.

Умывалась белюсенька,
Убіралась харашэнька.

Ох, я стала пад аконца,
Процiў яснага слонца.

Процiў яснага слонца
Выглядала чарнаморца.

Чарнаморац з вайны едзе,
Ён сямёра коней вядзе,

А восьмага, варанога,
Для барына маладога.

Павёў конікаў да гаю,
Да шырокага Дунаю.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца з выклічнікам «эй» упачатку.

Сталі коні ваду піці,
Стала вада прыбываці.

Стала вада прыбываці,
Чарнаморац затапаці.

— Ратуй, ратуй мяне, міла,
Калі верна любіла.

— Рада была б ратаваці,
Каб умела плываці.

Каб мне коніка, папругу,
Ратавала б свайго друга,

Каб мне коніка, сядзельца,
Ратавала б свайго сэрца.

## 829










Ўстану, ўстану я раненька,
Я памыюся бяленька.
Эх! Я памыюся бяленька,
Прыбяруся харашэнька.

Ды я сяду пад ваконца
Проці яснага сонца.
Эх! Проці яснага сонца:
Ці не ўбачу чарнаморца?

Чарнаморац полем едзець,
Семярых конікаў гоніць.
Эх! Семярых конікаў гоніць,
А восьмага — варанога.

Станавіўся проці мора,
Станавіўся проці мора.
Эх! Сталі коні воду піці,
Капытамі землю біці.

Сталі коні націскаці,
Стала вада прыбываці.
Эх! Стала вада прыбываці,
Чарнамарца залiваці.

Чарнаморца залівае,
Чарнаморац патапае.
Эх! Чарнаморац патапае
Ды да мілае гукае.

Ды да мілае гукае:
— Ратуй, ратуй, мая міла!
Эх! Ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна ты любіла.

— Я бы рада ратаваці —
Нет ні лодкі, ні вясельца.
Эх! Нет ні лодкі, ні вясельца,
Не ўратую, маё сэрца.

Пабягу я ў добры людцы,
Пабягу я ў добры людцы.
Эх! Пакуль людзі сабраліся,
Чарнаморац патапіўся.

Moderato







Ўстану, ўстану я раненька, эй,
Ўстану, ўстану я раненька [1]
Да умыюся бяленька.

Да сяду я край аконца, эй!
Выглядаці чарнаморца.

Чарнаморац морам едзець, эй!
Ён сямёра коней вядзець,

А восьмага варанога, эй!
І прыслугу маладога.

Едзець, едзець аж да гаю, эй!
Аж да ціхага Дунаю.

Сталі коні ваду піці, эй!
Вада стала прыбываці.

Вада стала прыбываці, эй!
Чарнаморац пагібаці.

— Ратуй, ратуй, мая міла, эй!
Калі верна любіла.

— Я й не буду ратаваці, эй!
Бо не ўмеў шанаваці

І пасцельку не слаў жа, эй!
Мілай жонкай не зваў жа.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца без выклічніка «эй».

## МІЛЫ ПАМІРАЕ, МІЛАЯ ГАЛОСІЦЬ ПА ІМ

### 831




А што гэта за трава
Ў маём садзе парасла, [1]

Ў маём садзе парасла,
Жоўтым цветам зацвіла?

А што ж гэта за дружок,
Што далёка ад мяне,

Што далёка ад мяне,
Не ведае аба мне?

Напісала б я лісты,
Ды не знаю, як пісаць.

А і знаю, як пісаць,
Ды не знаю, з кім пасладь.

Паслала б я старога —
Стары скажыць: не дайду.

Стары скажыць: не дайду,
Ў паўдарогі прападу.

Паслала б я малога —
Малы скажыць: баюся.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Малы скажыць: баюся,
З паўдарогі вярнуся.

Паслала б я роўнага —
Роўны праўды не скажыць.

Роўны праўды не скажыць,
Дажа туды не зайдзець.

Выражайце мне каня,
Ды й паеду я сама.

Выражайце сівага,
Паеду да мілага.

Проці мілага мяжы
Папарваліся гужы.

Проці мілага двара
Паламалася дуга.

А ўходжу я ў сеначкі,
Ажна трунaчка стаіць.

А уходжу я ў хату,
Аж мой міленькі ляжыць.

Ажно стала я хадзіць,
Па мілому галасіць,

Па мілому галасіць,
Слёзным голасам прасіць:

— Ой вы, мае ножачкі,
Вы хадзіце да мяне.

Ах вы, мае глазачкі,
Выглядайце да мяне.

Ах вы, мае ручачкі,
Абніміце вы мяне.

Вусткі мае сладкія,
Пацалуйце вы мяне.

А ўстань, мілы, не ляжы,
Ідзі гужы падвяжы,

Ідзі гужы падвяжы
І коніка адпражы.

Але мілы мой ляжыць,
Нічога не гаварыць,

Нічога не гаварыць
Толькі свечачка гарыць.

## 832

А што ж гэта за трава
На ўсе стораны лягла,
Ох, я, бедная,
На ўсе стораны лягла.[1]

А што ж гэта за дружок —
Не адведае разок.

Запрагайце мне каня,
Я адведаю сама.

Даехала да варот —
Сабіраецца народ.

Даехала да мяжы —
Абарваліся гужы.

Паехала у падвор,—
Кажуць, міленькі памёр.

Трэба стаць падумаць,
Як па міленькім плакаць.

Ах вы, ножкі мае,
Вы хадзілі да мяне.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ох, я, бедная».

Ах вы, ручкі мае,
Абдымалі вы мяне.

Ах вы, вочкі мае,
Вы глядзелі на мяне.

Ох вы, губкі мае,
Цалавалі вы мяне.

## 833

А што гэта за трава
Ў маім садзе парасла?
Раз, два, тры, лю-ля,
Ў маім садзе парасла? [1]

Ў маім садзе парасла,
Жоўтым цветам зацвіла.

А што гэта за дружок,
Што далёка ад мяне,

Што далёка ад мяне,
Не ведаець аба мне?

Паслала б я старога,
Стары туды не дайдзець.

Паслала б я малога,
Малы таго не знаець.

Паслала б я роўнага,
Роўны праўды не скажыць.

Запражыце мне каня,
Ды паеду я сама.

Пад'язджаю да вёскі —
Парваліся атоскі.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Раз, два, тры, лю-ля».

Пад'язджаю да мяжы —
Абарваліся гужы.

Пад'язджаю я да двара —
Паламалася дуга.

Уз'язджаю я на двор —
Кажуць, міленькі памёр.

А стану я думаці,
Як па мілым плакаці.

— Ах вы, ножачкі мае,
Вы хадзілі да мяне.

Ах вы, вочачкі мае,
Вы ж глядзелі на мяне.

Ах вы, ручачкі мае,
Абымалі вы мяне.

Ах вы, вусанкі мае,
Цалавалі вы мяне.

## 834

Ой, што гэта за трава,
Ой, на мяжы ў полі расла,

Ой, на мяжы ў полі расла,
Ой, сінім цветам зацвіла.

Ой, што гэта за дружок,
Ой, недалёка ад мяне.

Ой, недалёка ад мяне,
Ой, не адведае мяне.

Ой, запражыце мне карэту,
Ой, я к міламу паеду.

Ой, пад'язджаю пад лясок,
Ой, падай, мілы, галасок.

Ой, пад'язджаю пад раку,
Ой, падай, міленькі, руку.

Ой, уз'язджаю я на двор,
Ой, кажуць — міленькі памёр.

Ой, уваходжу я ў хату,
Ой, ляжыць міленькі ўбраты.

Ой, я мілага абняла,
Ой, тонкі голас падала:

— Ой вы, ножкі мае,
Ой, нахадзілісь да мяне.

Ой вы, ручанькі мае,
Ой, паабнімалісь вы мяне.

Ой вы, губанькі мае,
Ой, нацалавалісь вы мяне.

## ЖОНКА КАПАЕ ЗЕЛЛЕ, МУЖ ПАМІРАЕ

### 835




Ой, у садзе вішанька, [1]
Адна к другой хіліцца.

А мне, беднай сіраце,
Прыхіліцца няма дзе.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Месяц, зора высока,
Ойцец, матка далёка.

Два брацікі на вайне
Не здумаюць аба мне.

Дзве сястронкі ў няволі,
У цёмненькай каморы —

Яны не знаюць аба мне,
Што я з мілым у гняве.

Ляжыць мілы на палу,
А я плачу па яму.

— Годзі, міла, плакаці,
Ідзі зелле капаці.

Яшчэ міла не дайшла,
Ужо за ёю пошта йшла:

— Капай, міла, з травою,
Астаешся ўдавою;

Капай, міла, жоўты цвет,
Будзе сірот повен свет;

Капай, міла, з траскамі,
Абальешся слязкамі.

## 836

Ой, як сяду я ля вакна, [1]
Як зірну я ў зелен сад.

Як зірну я ў зелен сад,
Ажно вішанькі вісяць.

Ажно вішанькі вісяць,
Адна к адной хіляцца,

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Адна к адной хіляцца,
Мне, маладзе, не к каму

Мне, маладзе, не к каму:
Ясен месяц высако,

Ясен месяц высако,
Ацец, маці даляко.

Ацец, маці даляко,
А сястрыца ў няволі,

А сястрыца ў няволі,
Не адведае ніколі,

Не адведае ніколі.
А братачка на вайне,

А братачка на вайне,
Ён не думае пра мяне,

Ён не думае пра мяне.
А мілы друг на палу.

А мілы друг на палу,
А мне журба па яму.

Як пайду я ў зелен сад
Зелле-карэнне капаць,

Зелле-карэнне капаць
Шчэ й міламу даваць.

Я да саду не дайшла,
За мной вестачка прыйшла.

За мной вестачка прыйшла:
— Кідай зелле капаці.

Кідай зелле капаці,
Ідзі мілога хаваці.

А мне ж цяпер, маладзе,
Як вутачцы на вадзе,

Чараняткам ў чараце —
Так мне, беднай сіраце.

Чараняткам у моры,
А мне, беднай, у горы.

## 837




Устану я раненька,[1]
Умыюся бяленька.

Ой, гляну я ў аконца,
Аж там вішанька стаіць.

Вішня к вішні хінецца,
Дзе ж мне беднай падзецца?

Татка з мамкай далёка,
Родны братка на вайне,

Родны братка на вайне,
Не ведае аба мне,

Што сястрыца ў горы,
Не ведае ніколі.

Ляжыць мілы на палу,
Журыць маю галаву.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Як пайду я да гаю
Капаць зелле, што знаю.

Я й да гаю не дайшла,
За мной пошта ўслед прыйшла.

— Кідай зелле капаці,
Ідзі мужа хаваці.

Я й зеллейкам траснула
І ручкамі спляснула.

— Расці, зелле, травою —
Засталася ўдавою.

Расці, зелле, кветкамі —
Засталася з дзеткамі.

Расці, зелле, жоўты цвет,—
Засталася на ўвесь свет.

## 838




Ляжыць мілы на палу,
Да звязаўшы галаву. [1]

А мілая на лаве
Абліваецца слязамі.

— Ціха, міла, не тужы,
Можа, яшчэ буду жыў?

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ідзі, міленька, да гаю,
Знайдзі зелле размаю.

А перамый на рачцэ,
А высуш яго на ручцэ,

А навары ў пітушцы,
[А навары ў пітушцы.]

Я да гаю не дайшла,
Да за мною почта ішла.

А я почты не знаю,
Усё зеллечка капаю.

— Кідай зелле капаці,
Ідзі мілага хаваці.

Кідай зелле з травою,
Застаешся ўдавою.

Кідай зелле з кветкамі,
Застаешся з дзеткамі.

А ў том зеллі жоўты квет,
Будзе дзетак поўны свет.

## 839

Con moto







Служыла Кася ў Альбове, [1]
Млоды Ясенька — ў Яблыні.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Кася Ясенька любіла,
Пару вяночкаў ізвіла.

[Пару вяночкаў ізвіла,]
На быстры Дунай пусціла.

— Плыньце, вянушкі, да млына,
Дзе мой Ясенька прабыва.

Ясё з-за млына выходзіць,
Пару вяночкаў знаходзіць:

— Плыньце, вяночкі, вы назад,
Да мае Касі на обяд.

Касенька обяд гатуе,
Ясь на коніку мандруе.

Касенька обяд выдае,
Ясё з коніка ўпадае.

— Бяжы, Касенька, да гаю,
Накапай зелля размаю!

— А я размаю не знаю,
Усяляка зелля капаю.

Кася да гаю не дайшла,
А за Касею пошта йшла:

— Вярніся, Кася, дадому,
Правядзі Яся да долу.

— Што ж [redacted] няшчасна зрабіла,
Пры Яся смерці не была!

Буду я хадзіць ў жалобе,
Па тóбе, Ясю, па тобе.

840

У чыстым полі пад гаем
Стаіць ложак дубовы.

А ў тым ложку дубовым
Ляжыць Яся без мовы.

Ляжыць Яся без мовы,
Піша лісцік да дохтара.

— Мая ты Касенька, вер жа мне,
Шукай зелля, ратуй мяне!

Пашла Кася да гаю
Шукаць зелля рожнага.

Яшчэ Кася не дайшла,
За ёй пасланка прыйшла.

— Варочайся, Кася, дадому,
Правядзі Яся да гробу.

Бі, Кася, талер на звоны,
А чырвонец — на цымбалы.

Звоняць званы жаласна,
А цымбалы радасна.

Звоняць званы для Яся,
А цымбалы для Касі.

Я да абеду у жальбе,
А па абедзе так сабе.

## МУЖ-РАЗБОЙНІК

841



— Доню, да доню, чым така смутна?
— А матка, матка, як вясёлай быць?
Не дала мяне за палкоўнічка,
Аддала мяне за разбойнічка.
Учора звячора каней сядлае,
Й а ў паўночкі ў паход ступае,
Перад белым светам ў двор з'язджае.
— Мілы, да мілы, дзе жа ты быў?
Напэўна, міленькі, у мае радні?
Пад табою конік татка маго,
Кала шыі хустка сястры радное,
На табе кашуля матулі мае,
Залаты пярсцёнак брата роднага.
— Міла, да міла, міла мая,
Чым я не ведаў, што твая радня!

## 842

Я думала, маладая, што за князя пайшла,
Ажно ж я, маладая, за разбойнічка пайшла. [1]

Да з паўночы, з паўночы разбойніка ні ў вочы,
А з-пад яснай зары едзе разбой малады.

Адчыняе вароцечка, кліча: «Мілка, адчыні!
Адчыні, міла, вароця частаколістыя.

Прымі, прымі гэта плацце, што ў чырвонай крыві.
Нясі яго на рэчачку, не распростуючы».

Яна яго распрастрыла, ў яе сэрданька заныла.
— Ах ты, вор, ты разбой, майго брата забіў.

Майго брата забіў, свайго швагру зарубіў.
— А не я ж яго біў, білі яго ўсе вары.

Білі яго ўсе вары, усе твае дзевяры.
Я паўдарожкі стаяў, громкім голасам крычаў:

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

«Набок, швагра, набок, мой, набок, жончын брат радной!»
Ён з дарожкі не саступіў, там галоўку палажыў.

Палілася кроў гарача, як у печы агонь,
Паліліся дробны слёзкі, як у моры вада.

Паліліся дробны слёзкі, як у моры вада,
Пасыпаліся русы кудры, як на гарэ туман.

## 843




Са вечара, са зары сабіраліся вары, [1]
І к поўначы разбойнікі у разбой пайшлі.
І к беламу разбойнікі са разбою прыйшлі,
Са разбою прыйшлі, восем коней прывялі,
А дзевятага таго — роднага брата майго.
— Бяры плаццe, жана, з возу, не разгортваючы.
Разгарнула, спаласнула, увідала сваю кроў.
— А і сукін жа сын, ты прасукін жа сын,
Ты майго братку убіў, ты насмерць загубіў.
— А не я яго убіў, убіла яго цёмна ноч,
Убіла яго цёмна ноч шчэ й цёмная вулачка.
Я й віваў, я й міргаў, а ён мяне не ўгадаў,
А ён мяне не ўгадаў, пад майго каня ўпаў,
А я яму, маладому, з плеч галовачку ізняў.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## 844

Са вечара разбойнічкі ў бані парыліся,
Са поўначы разбойнічкі ў разбой радзіліся,
Пад белы свет у разбой пашлі.
А ўжо сонца пад абед — разбойнічкаў дома нет,
А ўжо людзі паабедалі — разбойнічкі прыехалі.
Прыехалі, прывялі дзевяцера лошадзі,
На дзесятым на кані сам разбойнічак сядзіць,
Сам разбойнічак сядзіць, крывава плаццe дзяржыць.
Пад'язджаючы к двару, кліча мілую сваю:
— Ох ты, мілая мая, адчыняй-ка варата!
Шчо да на́ крывава плацце да нясі спаласні,
Да нясі спаласні, не разгартуючы,
Не разгартуючы, не рассматруючы.
Мая душа не сцярпела: разгарнула, паглядзела,
Уся кроўю скіпела да й, заплакаўшы, пашла.
— Ох ты, сукін сын, ты вор, ты разбойніцкі сын,
Шчо убіў ты, загубіў майго брата роднага,
Майго брата роднага, свайго шур'я большага?
— Не пяняйся, мая міла, не пяняйся на мяне,
Не пяняйся на мяне, пяняйся на войстры меч.
Ці ж яму не крычаў, штоб з дарогі зварачаў,
Ці ён таго не дачуў, што з дарогі не звярнуў?
Ён з дарогі не звярнуў, а я шабелькай махнуў,
Пусціў я свой востры меч, а яму галоўка з плеч.
Пакацілась галоўка, да й як макавачка.
Разлучылась душа з целам, да й як ластавачка.

## 845

Са вечара разбойнічкі сабіраліся,
Са паўночанькі у разбой пашлі,
Белы свет настаець — са разбоюшкі ідуць,
Са разбоюшкі ідуць — дзевяць лашадзей вядуць,
На дзесятым кані едзець разбойнік удалы.
Пад'язджаець к варотам, клічыць мілую жану,
Клічыць: «Мілая жана, адчыняй варата,
Адчыняй варата, бяры сівага каня,
Здымай плацце з яго, нясі ў Дунай тапіці,
Нясі ў Дунай тапіці, не аглядывайся.

Як нясла, так нясла — аглянулася назад,
Аглянулася назад — аж рубашачкі ляжаць,
Аж рубашачкі ляжаць ды ўсе яны ў крыві.
— Ох, разбойнічкі мае, майго брацетку ўбілі.
Ах ты, міленькі мой, ах ты, злоснічак мой,
Майго брацетку ўбіў, свайго шваґра загубіў.
— Ах ты, мілая жана, не адзін я губіў:
Білі яго ўсемярых — усе твае дзевяры.
Вот і я ж яму міргаў — рукавічкі кідаў,
Нам з дарожкі не с'ступіў — сам галоўку палажыў.
Адкацілася галовачка, ўсё як макавачка,
Палілася кроў гарачая, як раса па траве.
Пасыпаліся валаскі, як туман па расе.

## 846

Аддаў мяне татачка
За злодзея замуж,
Люлі-люлі, люлюшанькі,
За злодзея замуж. [1]

Злодзей едзець красці,
Мяне будзіць прасці.

Праду, папрадаю,
У акно паглядаю:

Ці не едзець злодзей,
Ці не вядзець коней.

А як едзець злодзей,
Вядзець дзевяць коней,

Дзевяць коней вядзець,
На дзесятым едзець.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Люлі-люлі, люлюшанькі».

Пагляджу я, молада,—
Усё бацькавы коні.

— Пусці ж, пусці, міленькі,
Да к татачку ў госці.

— Ідзі, ідзі, шэльма,
Не скажы пра коней.

Падхаджу я, молада,
К бацькавым варотам —

Мой татачка ходзіць,
Белы ручкі ломіць,

Белы ручкі ломіць,
Пра коні клапоціць.

— Не клапаці, татачка,
Коні тваё цэлы.

Коні тваё цэлы,
У роднага зяця.

Парай жа мне, татачка,
Што мне цяпер дзелаць?

Ці дворачку ііці,
Ці тута мне быці?

Дворачку ііці —
Забітай мне быці.

Тута мне быці —
Век мне не пражыці.

— Ідзі, дачка, двору,
Няхай вам і коні.

# 847




Прызаўныла маё сэрца яшчэ ў маленькія,
Яшчэ ў маленькія ды няўзросленькія.

Што й не быць мне за князем, за баярскім сынам,
Ах, і быць мне за ворам, за разбойнікам.

Са вячора разбойнікі сабіраліся,
Са паўночы разбойнікі у разбой пайшлі.

Са паўночы разбойнікі у разбой пайшлі,
Белым светам разбойнікі са разбою ідуць.

Белым светам разбойнікі са разбою ідуць,
Са разбою ідуць, семера коні вядуць.

Са разбою ідуць, семера коні вядуць,
Ах, і мой вор-каналій, ён папярадзе едзець.

Ах, і мой вор-каналій, ён папярадзе едзець.
Стуку-груку у вакошка: «А ці спіш ты, жана?»

Стуку-груку у вакошка: «А ці спіш ты, жана?
Ці так ляжыш, малада? Адчыняй-ка варата.

Ці так ляжыш, малада? Адчыняй-ка варата,
Я вязу табе падарак — тонку белу кашулю.

Я вязу табе падарак — тонку белу кашулю,
А й нясі ж ты яе ды на быструю раку.

А й нясі ж ты яе ды на быструю раку,
А памый ты яе, не раскачуючы.

А памый ты яе, не раскачуючы,
А памый ты яе, не развярчуючы,

А памый ты яе, не развярчуючы».
У мяне сэрца ў маладое нецярплівае было.

У мяне сэрца ў маладое нецярплівае было,
Я ж, молада, не сцярпела: развярцела, паглядзела.

Я ж, молада, не сцярпела: развярцела, паглядзела,
Развярцела, паглядзела ды й заплакала:

— Ах ты, вор, ты каналій, ты не ’цецкі сынок,
Загубіў майго брата, свайго швагера,

Загубіў майго брата, свайго швагера.
— Маўчы, шэльма, не кажы, а то скіпіш на нажы,

Маўчы, шэльма, не кажы, а то скіпіш на нажы.
Ці ■ ж яму не казаў, ці платочкам не махаў?

Ці я ж яму не казаў, ці платочкам не махаў:
«Саступ, саступ ты з дарогі са разбойніцкія!»

А ён жа не ўступіў, а я яго загубіў.
Разгарэлась кроў гаруча — роднаму бацьку не ўступлю.

## 848

З-пад ельнічку, з-пад бярэзнічку
Да вышаў, выбег сіў конь вараны.

Да вышаў, выбег сіў конь вараны,
Да за ім, за ім салдат малады:

— Косю да косю, слаўны лошадзю,
Да не пі вады з край Дунай-ракі:

З край Дунай-ракі вада нечыста,
Там дзяўчына вымывалася.

Яна да шлюбу прыбіралася,
З шлюбу прышоўшы, засмуцілася.

— Донька, да донька, чаго смуцішся?
— Матка, да матка, як жа мне не смуціціся:

Не 'ддаеш мяне ўсё за злотнічка,
Да 'ддаеш мяне ўсё за разбойнічка.

Што звечара каня сядлае,
А з поўначы з двара з'язджае.

[А з поўначы з двара з'язджае,]
Белым светам дамоў вернецца:

— Жонка, да жонка, адчыні вароты,
Да вязуць табе срэбра-злота.

— Да не рада ж я срэбру-злоту,
Толькі ж рада я мілому свайму.

— Жонка, да жонка, ты гарда сказала:
Ці свайго айца каня спазнала?

— Конь вараненькі — то айца майго,
Кашуля таненька — матачкі маёй.

[Кашуля таненька — матачкі маёй,]
Хустачка шоўкава — сястрыцы маёй.

— Жонка, да жонка, цёмная ноч была,
А я не бачыў, што радня твая.

## 849

Ці не сыр дубочак разгараецца,
Ці не мой гуць цягаецца?

Я зайду наперад і спрашу яго:
— Ці не хочаш, мой мілы, чаю, кофею?

— Я хачу, хачу сцюдзёнай вады,
Сцюдзёнай вады са крынічанькі.

— Я пайду, пайду на крынічаньку,
На крынічаньку за вадою.

На гару ішла, пісямцо знайшла,
Распячатвала і слёзна плакала.

Ох, як мой мілы у пасцель лёг,
[Ох, як мой мілы у пасцель лёг:]

— Ты не плач, жана, не сумуй, душа,
Дзень з табой жыву, ў ноч ў разбой іду.

Ты ўставай, жана, уздымай агня,
Уздымай агня і сядлай каня.

— Конь вараненькі — майго бацюшкі,
Залата збруя — брацеткі роднага.

Чорна шубушка — роднай матушкі,
Шоўкава плацце — роднай сястрыцы.

— Ты не плач, жана, не сумуй, душа,
То не я іх забіў, а цёмна ночушка.

## 850

А сваталі малодачку і папы, і дзякі,
І папы, і дзякі, і багатыя мужыкі.

Не аддаў мяне татачка ні за пана, ні за дзяка.
Аддаў мяне татачка за разбойнічка.

Звечара разбойнічкі у бані мыліся,
З поўначы разбойнічкі на разбой папашлі.

Ад белу свету разбойнічкі з разбою прышлі,
І усе ж тыя разбойнічкі па коніку вядуць.

А мой жа то вор-злодзей
Дзевяцера лашадзей вядзець.

Стук-пастук у шчытовыя варата:
— Адчыні ж, жана, шчытовыя варата.

Бяры каня за павадок, вядзі каня у паграбок.
— А ты, сукін сын, разбойнік, загубіў майго атца.

Дзевяцера лашадзей — гэта ж татачкі майго,
Крывавая рубаха — гэта ж мамачкі маёй.

А прытупленая шпага — гэта братачкі майго.
— Ціша, шэльма, замаўчы, а то скіпіш на нажы:

Я і крычаў, і свістаў, свайму роду я звяшчаў:
Еслі ёсць мой род, зварацiць ў правы бок.

А яны мяне не слыхалі, я ім галавы пазняў,
Я ім галавы пазняў і лашадзей іх забраў.

## 851









Што звечара пры зары
Ваяваліся вары,
Апаўночы пры свячы
Раз'язджаліся вары.

Мой міленькі ідзе,
Дзевяць лошадзей вядзе,
На дзесятай сам сядзіць,
На бок шапачку дзяржыць.

— Ах ты, мілая мая,
Адчыняй варота,
Вязу срэбра і злота
І плацейка крывянае.

Вядзі коней да стайны,
Цягні плацце да ракі,
Не разгартваючы,
Не рассматрываючы.

У мілай сэрдца не ўтрымала,
Разгарнула, паглядзела:
Гэта ж маёй мамуленькі
Утыканейка,

Гэта ж маёй сяструленькі
Умыванейка,
Гэта ж брацішанькі
Штапаванейка.

— А ты, міленькі ты мой,
Ты разбойнічак-вор,
За што брата ўбіў,
Яго з свету згубіў?

Убіў брата майго
І шурына свайго.
— Я гукаў, я крычаў,
Пастарожку даваў.

Ён з дарожкі не звярнуў,
А я мечыкам пашыбнуў.
— Убіў брата і сястру,
Уб'еш і мяне, маладу.

## БАНДАРОУНА

### 852

Moderato










Ой, у месце, на прадмесце, там музыкі гралі,
А там бедна бандарэўна з раскошы гуляла.

Сядзеў, сядзеў пан Канеўскі, патшал пшэз акенца,
Тэму пану Канеўскему забалела сэрца.

Наняў, наняў пан Канеўскі музыканты граці,
А сам узяў бандарэўну, пашоў танцаваці.

— Яшчэ бедна бандарэўна сукняў не спраўляла,
Каб я з панам да Канеўскім цала ноч гуляла.

Паслаў, паслаў пан Канеўскі служкі найвярнейшы:
— Ой, прынесце бандарэўне сукні найпякнейшы!

Ой, а тая бандарэўна жартаў не пазнала,
Ох, паднёсла бяла рончка, ему в мордэ дала.

Уцякала бандарэўна да паміж дамамі,
А за ёю пан Канеўскі з трыма казакамі.

Уцякала бандарэўна краз новыя мосты,
А за ёю пан Канеўскі цераз ставы проста.

Уцякала бандарэўна краз тры пералазы,
Ох, як стрэліў пан Канеўскі, раніў яе 'дразу.

А была на бандарэўне ядвабна спаднічка,
Дзе ляжала бандарэўна — там крыві крынічка.

Да быў на бандарэўне хвартушок з мярэжкі,
А дзе неслі бандарэўну — крывавыя сцежкі.

Ох, прынеслі бандарэўну ў глэмбоке пакое,
Пасадзілі бандарэўну да сцяны плячыма.

[Пасадзілі бандарэўну да сцяны плячыма,]
А да пана Канеўскéго чорнымі ачыма.

І казалі бандарэўне песенькі спяваці,
Ох, а сам пан Канеўскі сеў фузью набіваці.

Яшчэ бедна бандарэўна песні не скончыла,
А ўжо бедна бандарэўна галоўку скланіла.

Прышоў, прышоў стары бандур ды й тупнуў нагою:
— А ўжо маё дзіця наклала галавою!

Прышла стара бандарыха, спляснула рукамі:
— Ото ж табе, маё дзіця, гуляць з дваракамі.

## 853

Andante

Эй, у Брэс_ цю, на прад_ мес_ цю,
там карч_ ма ста_ я_ ла, а там п'я_ на
бан_ да_ роў_ на ўсю ноч тан_ ца_ ва_ ла.

Эй, у Брэсцю, на прадмесцю, там карчма стаяла,
А там п'яна бандароўна ўсю ноч танцавала.

Ой, казаў жа пан Чарнецкі музыкам іграці,
А сваёй жа бандароўне ўсю ноч танцаваці.

Ой, казалі стары людзі бандароўне сціха:
— Уцякай [жа], бандароўна, будзе табе ліха!

Уцякала бандароўна бэз окна высока,
Аступае пан Чарнецкі слугамі шырока.

Уцякала бандароўна смугамі, лугамі,
А за ёю пан Чарнецкі з сваімі слугамі.

Уцякала бандароўна бэз острыя мечы,
Асыстуе пан Чарнецкі бэз ясныя свецы.

Ой, казаў [жа] пан Чарнецкі труначку зрабіці,
Для свае жа бандароўны золатам выбіці.

Ой, на той жа бандароўне зялёна бакешка.
Куды ж яе правадзілі — чырвоная сцежка.

Ой, на той жа бандароўне чырвоная плахта,
Жалавала, шкадавала ўся такая шляхта.

Не так шляхта, не так шляхта, як старыя людзі,
Цо такое бандароўны на свеце не будзе.

### 854

Ой, чаму ж ты, пан Хаміцкі, той час не жаніўся,
Як у лесе на арэсе голуб урадзіўся?

Ой, чаму ж ты, бандароўна, ў гой час замуж не шла,
Як у млыне на камені пшанічанька ўзышла?

У мястэчку Церастэчку каманда стаяла,
Там жа наша бандароўна ўсю ночку не спала.

Гаварылі бандароўне да добрыя людзі:
— Уцякай ты, бандароўна, ліха табе будзе.

О, як скочыць бандароўна межамі, лугамі,
А за ёю пан Хаміцкі з сваімі слугамі.

А як дагнаў бандароўну у паўлагчынэчкі,
Так ухапіў бандароўну за белы ручэчкі.

А прывёў жа бандароўну да свэй святлічэнькі,
Пасадзіў жа бандароўну на белым красэлку.

А казаў жа бандароўне песеньку спяваці,
А сам пашоў пан Хаміцкі стрэльбу набіваці.

— А ці лепей, бандароўна, ў сырым пяску гніці,
Як за мною, за Хаміцкім, ў атласе хадзіці?

— Ой, лепей, пане Хаміцкі, ў сырым пяску гніці,
Як за панам за Хаміцкім ў атласе хадзіці.

Ох, як выцяў бандароўну пад левае вуха —
Засталася бандароўна і слепа і глуха.

Ой, казаў жа пан Хаміцкі ад ранку да ранку
Выкапаці бандароўне глыбокую ямку.

Ой, казаў жа бандароўну у тры дні хаваці,
Да няхай жа наплачацца яе бацька, маці.

Ой, прышоў жа яе бацька і сплясснуў рукамі:
— Ото ж табе прышло ліха з тваімі думкамі.

## 855

У нядзелю ранюсенька дожджык пакрапае,
Маладая бандароўна валы паганяе.

Гдзе узяўся пан канюшы з сваімі слугамі:
— Павярніся, бандароўна, з валамі дахаты.

Наняў, наняў пан канюшы музыканты граці,
То для млодай бандароўны пайсці пагуляці.

Маладая бандароўна мела адказаці:
— Я не маю такой сукні з канюшым гуляці.

Купіў, купіў пан канюшы дарагую сукню,
Прыслаў, прыслаў пан канюшы цераз верну служку.

Маладая бандароўна мела адказаці:
— Я не маю такой стужкі ў гэту сукню класці.

Купіў, купіў пан канюшы дарагую стужку,
Прыслаў, прыслаў пан канюшы цераз верну служку.

Уцякала бандароўна ў зялёныя лясы,
Даганялі бандароўну ашмянскія шляхты.

Уцякала бандароўна ў зялёныя лугі,
Папалася бандароўна канюшаму ў рукі.

Як даў пан канюшы бандароўне ў плечы,
Паліліся з бандароўны чырвоныя рэчы.

Казаў пан канюшы тры дні не хаваці,
Спасылаў пан канюшы па айца і маці.

Як прышла бандарыха, спляснула рукамі:
— Адгуляла маё дзіця з тымі дваракамі.

А як прышоў сам бандар, тропнуў ён нагою:
— Залажыла маё дзіця за ўсіх галавою.

## 856

У нядзельку параненьку дожджык пакрапляець,
Маладая бандарачка валы выганяець.

Фартух новы, фартулёвы, злотам вышываны.
Пісаў, пісаў пан Касцюшык бандарачцы лісты.

Ён к ёй пісаў, ён к ёй пісаў белымі рукамі,
А йна яму адпісала горкімі слязамі.

Насеяла руты-мяты пры бітым гасцінцы,
Прыскачылі тры малойцы, ўсё тры чарнабрыўцы.

У Варшаве ў слаўным доме каманда стаяла,
Маладая бандарачка ўсю ночку гуляла.

Як сказалі бандарачцы ды на вуха ціха:
— Уцякай ты, бандарачка, будзе табе ліха.

Уцякала бандарачка цёмнымі лясамі,
А за ёю пан Касцюша з рузнымі ружжамі.

Як стрэлілі бандарачцы у левае вуха,
Тады стала бандарачка і нема, і глуха.

Як загадаў пан Касцюша тры дні не хаваці:
— Няхай прыдзе наплачацца яе бацька-маці.

Як прышоў жа стары бондар, як топнець нагою:
— Налажыла, маё дзіця, навек галавою.

А як прышла яе мамка, як сплёснець рукамі:
— Адгуляла, маё дзіця, ды ўсё з дваракамі.

### 857

Пасею пшанічаньку у роўненькім полі,
Пасаджу бандароўну ў новенькім пакоі.

Расці, расці, пшанічанька, пакуль цябе жаці,
Заляцаўся пан крулевіч бандароўну ўзяці.

А у Слуцку на рыначку карчомка стаяла,
Там панна бандароўна п'яная гуляла.

Вот гуляла, вот гуляла з тымі дваракамі,
А дачуўся пан крулевіч, што з яго слугамі.

А у Слуцку на рыначку гаварылі ціха:
— Уцякай, бандароўна, будзе табе ліха.

Уцякала бандароўна на цёмныя лугі,
Сталі яе даганяці крулеўскія слугі.

Як дагналі, так узялі пад белыя рукі
Да павялі нешчасліву на вялікі мукі.

Прывялі і паставілі на новенькім ганку:
— Стой, панна бандароўна, з вечара да ранку.

Як стаў жа пан крулевіч на скрыпачку йграці,
Стала панна бандароўна песенькі спяваці.

Як стаў пан крулевіч ружжо набіваці,
Стала панна бандароўна цяжка уздыхаці.

Як памерыў, так і ўдарыў у левае вуха,
Ляжыць панна бандароўна і нема, і глуха.

Паляжала, паляжала з вечара да ранку,
Пакуль сказаў пан крулевіч выкапаці ямку.

Прыходзіць родна маці, спляснула рукамі:
— Адгуляла ж, дзіця маё, з тымі дваракамі.

А прыходзіць родны бацька, тупнуў жа нагою:
— Дзіця маё маладое, разлука з табою.

Павялеў жа пан крулевіч ёй труну рабіці,
Залатымі кутасамі вокала аббіці.

У нашага крулевіча шоўкам хата крыта,
Адна была ў яго жана і тая забіта.

Ляцелі скаўроначкі садам, гукаючы,
Заплакаў пан крулевіч, лісты чытаючы.

## 858

Ой, там, на гары, каманда стаяла,
Маладая Гануленька ўсю ночку не спала.

Як не спала, так не спала, захацела спаці,
Ой, вялеў жа пан палкоўнік музыкі наняці.

— Яшчэ бо я, маладая, валоў не ганяла,
Яшчэ ж бо я, маладая, і сукняў не ткала.

Ой, вялеў жа пан палкоўнік слугам найвярнейшым,
Каб прынеслі Гануленьцы сукню найпякнейшу.

Ой, прынеслі Гануленьцы сукню найпякнейшу
Да сказалі Гануленьцы сціха ды памалу:

— Уцякай ты, Гануленька,— табе бяда будзе,
[Уцякай ты, Гануленька,— табе бяда будзе!]

Уцякала Гануленька гарамі, даламі,
А за ёю пан палкоўнік з вернымі слугамі.

Хацелася палкоўнічку яе настрашыці —
Давялося палкоўнічку насмерць яе ўбіці!

Пыталіся палкоўнічка, дзе ёй дол капаці,
Ой, вялеў жа пан палкоўнік трохі абаждаці:

Няхай прыдзе ацец-маці Ганулю хаваці,
[Няхай прыдзе ацец-маці Ганулю хаваці.]

Палажылі Ганулечку ды ў парог нагамі
Ды зрабілі Гануленьцы труну з галунамі.

Палажылі Гануленьку на зялёным ложку,
Выквяцілі Гануленьцы крываву дарожку!

Ой, прышоў жа татка ў хату ды тупнуў нагою:
— Гэта табе, маё дзіця, пакласць галавою!

Ой, увайшла маці ў хату — ўспляснула рукамі;
— Гэта табе, маё дзіця, гуляць з жаўнярамі!

## 859













У мясцечку Берасцечку канеўскага пана
Там гуляла бандарэўна, як пышная пава. [1]

Да гуляла бандарэўна з тымі дваракамі,
Як дачуўся пан кралевіч, што з яго слугамі.

Як прыехаў пан кралевіч бандарэўну браці,
Яна яму адказала: «Не хачу і знаці».

Як ударыў пан кралевіч у правае вуха,
Кінулася бандарэўна, не казала духу.

Да заказаў пан кралевіч труначку зрабіці
Да наўкола кутасамі, кутасоў набіці.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Як прыехаў яе татка, тупнуў ён нагою:
— Дзіця маё маладое, разлука з табою.

Прыехала яе маці, ляснула рукамі:
— Дзеці мае маладыя, разлука із вамі.

## 860

Ой, там, за гарою, каманда стаяла,
Там жа наша бандароўна ўсю ночку гуляла.

Як гуляла, так гуляла, захацела спаці,
Мусіў, мусіў пан палкоўнік музыку наймаці.

— Яшчэ жа я сукні, сукні не спраўляла,
Каб я з вамі, да панамі, ўсю ночку гуляла.

[Ой,] паслаў жа пан палкоўнік слугі найвярнейшы,
Каб прынеслі бандароўне сукні найпякнейшы.

[Ой,] пашла жа бандароўна гарамі, далามі,
А за ёю пан палкоўнік з сваімі слугамі.

[Ой,] хацеў жа пан палкоўнік яе настрашыці,
Ах, вялела прыгоданька да смерці убіці.

Палажылі бандароўну на зялёным ложку
Да вылілі з бандароўны крываву дарожку.

Прышла, прышла яе маці, спляснула рукамі:
— Ота ж табе, маё дзіця, гуляць з лайдакамі!

Прышоў, прышоў яе бацька да тупнуў нагою:
— Налажыла, маё дзіця, сваёй галавою!

## 861

На гасцінцы на шырокім карчомка стаяла,
Там гуляла бандароўна, ўсю ночку пяяла.

Як гуляла, так гуляла з тымі дваракамі,
Як увідзеў пан канюшы, што з яго слугамі.

Ой, сказалі бандароўне суседанькі ціха:
— Не стой, не стой, бандароўна, будзе табе ліха.

Уцякала бандароўна у шырокі лугі,
Даганялі бандароўну канюшавы слугі.

Як злапалі, як спаймалі за белыя плечы,
Паімчалі бандароўну на вострыя мечы.

Ой, заказаў пан канюшы, эй, баню тапіці,
Для маладой бандароўны пук розак звязаці.

Ой, заказаў пан канюшы ёй труну рабіці,
Для маладой бандароўны ўсю злотам выбіці.

Ой, заказаў пан канюшы ёй яму капаці,
Для маладой бандароўны мурам мураваці.

Ой, пісалі пісарочкі да айца, да маткі.
Ой, пісалі пісарочкі да айца, да маткі.

Ой, спляснуў жа ацец-маці сваімі рукамі:
— Донька ж мая маладая, прапаў жа я з вамі.

Вязуць, вязуць бандароўну чатырма канямі,
А за ёю ацец-маці ліюцца слязамі.

## 862

Як у лесе на верасе музыкі гралі,
Ой, там з імі маладая дзяўчына гуляла.

Гуляй, гуляй, дзяўчыначка, будзе табе ліха,
Як пачуе пан Камінскі, дык не будзе ціха.

Ой, гуляла дзяўчыначка, стала уцякаці,
А за ёю пан Камінскі ружжо набіваці.

Як даў жа ён дзяўчыначцы у левае вуха,
Ой, упала дзяўчыначка і нема, і глуха.

23. Зак. 811

Ой, сказаў жа пан Камінскі труначку зрабіці.
Ды для яе, маладзенькай, золатам аббіці.

Ой, сказаў жа пан Камінскі тры дні не хаваці,
Няхай прыдзе паглядзеці яе бацька, маці.

А як прышоў стары бондар, як тупне нагою,—
Скруцілася яго дзіця уверх галавою.

А як прышла бандарыха — ўспляснула рукамі:
— Дык апошні табе раз гуляць з дваракамі.

## СЫН ДАНІЛА

### 863

А паехаў сын Даніла на вайну ваяваць,
А пакінуў Кацярыну ў сваім дому дамаваць.
Маці яго старая к яму лісты пісала:
— А вярніся ж, сын Данілушка, дамоў,
А ўжо твая Кацярына сваю волю паняла:
Мёды твае салодкія павыцэджавала,
Сукні твае дарагія пазаношавала,
Коні твае стаенныя пазаезджавала,
Грошы твае вялікія парассоравала.
А вярнуўся сын Данілушка дамоў,
Ажно яго Кацярына напярэймы вышла,
Сынка яго маленькага на руках вынесла.
А хваціў сын Даніла ваструсенькі меч,
А зняў Кацярыне галовачку з плеч.
Як пашоў сын Даніла да шкатулы сваёй,
А ў шкатуле яго грошы ў цэласці ляжаць;
Як пашоў сын Даніла да шафы сваёй,
А ў шафе яго сукні у цэласці вісяць;
Як пашоў сын Даніла да клеці сваёй,
А ў клеці яго мяды пазаплесневалі;
Як пашоў сын Даніла да стайні сваёй,
А ў стайні яго коні пазачэсаваны;
Як пашоў сын Даніла да святліцы сваёй,
А ў святліцы дзве сястрыцы дробны слёзкі ліюць;
Як пашоў сын Даніла да пякарні сваёй,

А ў пякарні Кацярына без галовачкі ляжыць,
Недалёка Кацярыны дамаверка стаіць.
Як пашоў сын Даніла да палацу свайго,
А ў палацы стара маці да у крэсле сядзіць,
Сына яго маленькага на руках дзяржыць.
— Ой, маці, маці, увесь грэх на цябе!
Першы грэх, што я молад аўдавеў,
Другі грэх, што мой сын сірата,
Трэці грэх, што Кацярынкі няма.

## 864

Ой, паехаў сын Даніла з казакамі на вайну.
Гай, гай, з казакамі на вайну! [1]
Ой, пакінуў сваю жонку у матулі адну.
Мамка яго старэнькая да ўсю ночку не спала,
Яна яму, маладому, дробны лісты пісала:
— Твая жонка Марысенька сваяволю узяла:
Коні твае вараныя пазаезджывала,
Валы твае палавыя да пазагорывала,
А кароўкі млечненькія да ўсе распродавала,
Служкі твае верненькія да пазаганівала,
Трункі твае дарагія да павышэставала,
Сукні твае ядвабныя да павышэставала,
Сынка твайго маленькага ледва ў гроб не ўвяла.
Прыязджае сын Даніла з казакамі з той вайны.
Жана яго маладая да шчыранька вітае,
Шыбкім крокам, шыбкім крокам за варота выбягае.
А Даніла да Марысі слоўка не прамаўляе,
Толька ў слуг аб шабельку, ах, хуценька пытае:
— Служкі мае верненькія, дайце найвастрэйшу меч,
Няхай здыму сваёй жонцы я галаваньку з плеч.
Пакацілася галоўка па мяцёнай гуліцы,
Палілася кроў гарача па зялёнай мураўцы.
Ой, тады пашоў Данілка свайго двара аглядаць,
Тады стаў ён, маладзенькі, ах, белы ручкі ламаць:
Коні яго вараныя пазастаіваліся,
Валы яго палавыя пазабуіваліся,
А кароўкі малочныя папрыплоджваліся,

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з дадаткам «Гай, гай».

Служкі яго верненькія не пасмучваліся,
Трункі яго салодкія да пазаплесневалі,
Сукні яго ядвабныя аж пазалежваліся.
Мамкі-нянькі, мамкі-нянькі да па застоллю сядзяць,
Сынка яго маленькага да на ручках дзяржаць.
— Цяпер табе, мая матка, аж тры грахі на душы:
Ах, адзін грэх, ах, адзін грэх, ах, што Марысенькі нет;
Ах, другі грэх, ах, другі грэх, што дзяцінка сірата;
Ах, трэці грэх, ах, трэці грэх, што я ўдавец малады.

## 865

Allegretto




Як паехаў Данілушка во на Русь на вайну, [1]
Маці яго радзіцелка ліст па лісту пісала:
— Твая жана Кацярына сваю волю ўзяла:
Коней тваіх вараненькіх пазаганівала,
Мяды твае салодкія параспаівала,
Сукні твае бялёвыя пазанашавала,
Служак тваіх вярнюсенькіх пазаменівала,
Дзетак тваіх драбнюсенькіх параскідавала.
Як вярнуўся ж Данілушка во са рускай вайны,
Жонка яго маладая пала ў ногі яму.
Вот выняў жа Данілушка свой сувострусенькі меч
Ды й зняў жа ім Кацярыне галовушку з плеч.
Як пашоў жа Данілушка во да стаенкі сваёй,
Аж коні яго вараныя пазастаівалі.
Як пашоў жа Данілушка во да клеці сваёй,
Аж мяды яго салодкія пазаплесневалі,
Аж мяды яго салодкія пазаплесневалі,
Сукні яго бялёвыя пазапыліваліі.
Як пашоў жа Данілушка да пакояў сваіх,
Аж служкі яго вярнюсенькі ўсе ціхонька сядзяць,

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Аж служкі яго вярнюсенькі ўсе ціхонька сядзяць
Да на ручках драбнюсенькіх дзетачак дзяржаць.
— Бог дай цябе, мая маці, сыра зямля убіла,
Як ты маю жонку Кацярыну са свету згубіла.

## 866




Гэй, паехаў сын Даніла да на Русь на вайну,
Гэй, пакінуў сын Даніла Кацярынушку жану.

Напісала яго маці тры лісточкі да яго:
— Гэй, вярніся, сын Даніла, ты да дому свайго.

Бо ўжо твая Кацярына сваю волю паняла,
Коні твае вараныя пазаезджывала.

Коні твае вараныя пазаезджывала,
Валы твае палавыя пазагорывала.

Сукні твае дарагія пазанашывала,
Мяды твае салодкія павыпоівала.

Гэй, вярнуўся сын Даніла ды да дому свайго,
Вышла жана Кацярына спатыкаці яго.

Ой, як выняў сын Даніла да ваструсенькі меч
І зняў жа ён Кацярыне ды галованьку з плеч.

Гэй, пашоў сын Даніла сваіх конікаў глядзець,
Коні яго вараныя на стаенцы стаяць.

Коні яго вараныя на стаенцы стаяць,
Валы яго палавыя на лужочку ляжаць.

Як пашоў жа сын Даніла ды да клецi сваёй,
Сукні яго дарагія па закалічкам вісяць.

Як пашоў жа сын Даніла ды да склепу свайго,
Мяды яго салодкія пазаплесненеўшы стаяць.

Як пашоў жа сын Даніла да святліцы сваёй,
Стаў жа маці вымаўляці аб нядолі сваёй.

— Цяпер табе, матуленька, тры грахі на душу:
Першы грэх, матуленька, што жану забіў.

Другі грэх, матуленька, што мой сын сірата,
Трэці грэх, матуленька, што я й сам удавец.

## 867

♩ = 76

Як па_ е_ хаў сын Да_ ні_ ла ды на
Русь на вай_ ну, як па_ е_ хаў сын Да_
ні_ ла ды на Русь на вай_ ну.

Як паехаў сын Даніла ды на Русь на вайну, [1]
А пакінуў сын Даніла Кацярынушку жану.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Яго матуля старая усю ноч не спала,
Усю ноч не спала, ўсё лісточкі пісала,
Усё лісточкі пісала, да Данілушкі слала.
— Прыедзь, прыедзь, сын Даніла, да з ваёнкі дамоў,
Твая жана Кацярына усю волю паняла:
Твае коні вараныя да й паз'язджавала,
Твае колы каваныя паразвалівала,
Твае сукні саятыя пазапылівала.
А прыехаў сын Даніла — да ў новую клець,
Як узяў сын Даніла найвастрэйшую меч,
Зняў жане Кацярыне ён галовачку з плеч.
А пайшоў сын Даніла да да сваёй стаёнкі:
Яго коні вараныя як стаялі, так стаяць;
Яго колы каваныя як ляжалі, так ляжаць;
Яго сукні саятыя як віселі, так вісяць.
А пайшоў сын Даніла да да сваёй матулі.
— Адзін грэх, матулечка,— Кацярынкі няма,
Другі грэх, матулечка,— што дзіця сірата,
Трэці грэх, матулечка,— удавец малады.

## 868

Andante

Ой, па_ е_ хаў сын Да_ ніл_ ка на вай_ ну ва_ я_ ваць,
сва_ ю жон_ ку Ка_ ця_ рын_ ку — ў но_вы двор па_ на_ ваць.

Ой, паехаў сын Данілка на вайну ваяваць,
Сваю жонку Кацярынку — ў новы двор панаваць.

Яго маці старая вельмі хітрая была
Да ўсё дзень цераз дзень да сына лісты пісала:

— Ой, вярніся, сын Данілка, да новага двара,
Твая жонка Кацярынка усю волю паняла.

Усю волю паняла да гуляці пачала:
Яна твае вороны коні пазаездживала,

Яна твае сівы волы пазагорывала,
Яна твае верны слугі пазаганівала,

Яна твае гостры шаблі павытуплівала,
Яна твае дрогі сукні пазапылівала.

Прыехаў сын Данілка пад новыя варота,
Стук-грук капыткаю: «Гэй, адчыні мне варота!»

Кацярына падбяжала, адчыніла варота,
А ён меч із-за плеч і зняў ёй галоўку з плеч.

І пашоў сын Данілка да стаенькі глядзець:
А ў той стаеньцы сівенькія конікі ржуць.

А ў той абораньцы сівыя волікі буяць,
Яго верныя слугі па застойлечках сядзяць.

Яго гострыя шабелькі ўсе на сценах вісяць,
Яго дрогія сукні па куфэрачках ляжаць.

І пашоў сын Данілка да святлічкі да й глядзець:
А ў той святлічаньцы да калысанька вісіць,

А у той калысаньцы дзяцінaчка да ляжыць.
— А цяпер жа, мая матка, тры грахі на душы:

Адзін грэх, мая матка,— Кацярыначкі няма,
А другі грэх, мая матка,— дзяціна малая.

А трэці грэх, мая матка, што я сам удавец.
А цяпер жа, мая матка, маёй песеньцы канец.

## 869




Як паехаў Данілушка да на русую вайну,
Жану сваю Кацярыну адну ў доме кідае.

Жану сваю Кацярыну адну ў доме кідае,
Маці ж яго старая на запечку сядзела.

Маці ж яго старая на запечку й сядзела,
На запечку сядзела, пісьмо за пісьмом слала.

На запечку сядзела, пісьмо за пісьмом слала.
— Ой, вярніся, Данілушка, да із русыя вайны.

Ой, вярніся, Данілушка, да із русыя вайны,
Жана твая Кацярына сваю волю узяла.

Жана твая Кацярына сваю волю узяла:
Коні ж твае стаенныя пазаезджавала,

Коні ж твае стаенныя пазаезджавала,
Сукні твае 'тласовыя параскачавала,

Сукні твае 'тласовыя параскачавала,
Слугі ж твае вярненькія парассылавала.

Да й вярнуўся Данілушка да із русыя вайны,
Да й узяў жа Данілушка сваю войструю меч.

Да й і узяў жа Данілушка сваю войструю меч,
Да зрубіў жа Кацярыне да й галовачку із плеч.

Да сам пашоў Данілушка да й да стаенькі свае —
Коні ж яго стаенныя пазастоівалі.

Коні ж яго стаенныя пазастоівалі,
Сукні ж яго 'тласовыя пазацвітавалі,

Сукні яго 'тласовыя пазацвітавалі.
Да й пашоў жа Данілушка да святліцы свае.

Да й пашоў жа Данілушка да святліцы свае —
Слугі ж яго вярненькія пазаседжавалі.

Слугі яго вярненькія пазаседжавалі,
Дзіцятачка Данілкава усё й рассмешавалі.

Дзіцятачка Данілкава усё й рассмешавалі:
— Люлі-люлі да дзіцятачка, усё й Данілкаў сынок.

— Бадай цябе, мая маці, сыра зямля не ўзяла,
Як ты маю Кацярыну з гэтага свету звяла.

Не капаўшы калодзежа, дык не піці вады,
Паслухаўшы роднае маці, дык не меці жаны.

## 870

Прыехаў Ясюлё з войска дадому,
Ой, з войска дадому.

Пытае матулю: «Ці жыва Ганудя?
Ой, Ганудя мая».

— Жывая, здаровая, усю волю паняла,
Ой, Ганудя твая.

Усю волю паняла, конікі прадала,
Ой, Гануля твая.

Конікі прадала, мёд, віно піла,
Ой, Гануля твая.

Мёд, віно піла, сыночка страціла,
Ой, Гануля твая.

— Матулю, матулю, што ёй то зрабіці,
Ой, Ганулі сваёй?

— Выведзь на гулянку, знімі з плеч галаваньку,
Ой, Ганулі сваёй.

Вывеў на гулянку, зняў з плеч галаваньку,
Ой, Ганулі няма!

Зайшоў да стаенкі, конікі заржалі,
Ой, Ганулі няма!

Зайшоў да піўніцы, піва не выпіта,
Ой, Ганулі няма!

Зайшоў да святліцы, сын спавіты ляжыць,
Ой, Ганулі няма!

— Матулю, матулю, ты ёй не радніца —
Паследня згубніца,
Ой, Ганулі няма!

## 871









## 872




Як паехаў Данілушка
Да й на русую вайну. [1]

Яго маць, яго маць
Па тры пісьмы ў дзень шлець.

— Вярнісь, вярнісь, Данілушка,
Да й са русае вайны.

Твая Каця-Кацярына
Разбязумевала:

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Мяды твае салодкія
Парассычавала,

Служак тваіх вярненькіх
Парассылавала,

Коней твах вараненькіх
Пазаезджавала,

Шубы твае дарагія
Пазанашавала.

Як вярнуўся Данілушка
Да й са русае вайны.

Яго жана Кацярына
Вышла яго сустракаць.

А як выняў Данілушка
Свойваструсенькі меч

Да й зняў жане Кацярыне
Ён галовачку з плеч.

Як пайшоў жа Данілушка
На падвор'ейка сваё —

Мяды яго салодкія
Пазаплеснелы стаяць.

Слугі яго вярненькія
Па застоллейку сядзяць,

Коні яго вараныя
Пазачосаны стаяць,

Сукні яго дарагія
У каморцы вісяць.

Як кінуўся Данілушка
Да й да мацеры сваёй:

— Ай, і маць, мая маць,
Да тры грахі на цябе:

Першы грэх, першы грэх,
Што галоўку зняў з плеч.

Другі грэх, другі грэх,
Што дзіця сірата.

Трэці грэх, трэці грэх,
Што Даніла ўдаўцом.

## 873




Паехаў Данілка на Русь на вайну,
Пакінуў жану ён бярэменную.

Пакінуў мамку ён жа старую.
Яго жана усю ноч не спала.

Яго жана ўсю ноч не спала,
Яго жонка сынка раджала.

Да яго мамка ночку не спала,
Да яго мамка лісты пісала.

— Прыедзь, прыедзь, сыночак,
Ды з Русі дамоў.

Ужо твая жана разгулялася
І з казакамі ды з малойцамі.

Прыехаў Данілка із Русі дамоў,
Увайшоў у хату і ўзяў войстру меч.

Увайшоў у хату й узяў войстру меч,
Узяў войстру меч, ссек жонцы галоўку з плеч.

— Ай, божа, божа, што ж я нарабіў,
Жану загубіў я, сына ўсіраціў.

Жану пахароняць, мяне акуюць,
Малую малютку ў прыют забяруць.

## 874

♩=75

Ай, па – е – хаў сын Да – ні – ла
на вай – ну вэ – я – ваць,
ай, па – е – хаў сын Да – ні – ла
на вай – ну ва – я – ваць.

Ай, паехаў сын Даніла на вайну ваяваць,[1]
Кінуў жонку Кацярыну дома гора гараваць.
Яго мамка старая усю ночку не спала,
Усю ночку не спала, ўсё й лісточкі пісала,
Усё й лісточкі пісала, на вайну пасылала.
— Ай, вярніся, сын Даніла, са ваёнкі дамоў,
Твая жонка Кацярына у шальмоўства пайшла:

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Коні твае стаяныя пазаезджавала,
Сукні твае дарагія пазанашавала,
Мяды твае салодкія пазалізавала.
А вярнуўся сын Даніла са ваёнкі дамоў,
А й пайшоў правяраць, правяраць, аглядаць.
— А вот твая, матуленька, уся няпраўда:
Коні мае стаяныя пазастоівалі,
Сукні мае дарагія пазалежавалі,
Мяды мае салодкія пазаплесневалі.

## 875

♩=50

Ой, па – е – хаў Да – ні – луш – ка
на се – м(ы) лет на вай – ну,
да па – кі – нуў Ка – ця – ры – н(ы) – ку
на ха – зяй – ства са – му.

## 876

Паехаў, паехаў Іване а ў Русь на вайну,
Аставіў, аставіў Іване Марусю адну.
А яго, а яго Маруся ўсю ноч не спала,
Усю ночку, усю ночку не спала:
Сына, сына раджала і пісьмы пісала.

А яго, а яго матулька пісьмы адкрала,
Пісьмы, пісьмы адкрала і перапісала.
— А прыедзь, а прыедзь, Іване, з Русі дамоў,
А твая, а твая Маруся ўсю ноч не спала,
Ўсю ночку, ўсю ночку не спала, з казакамі гуляла.
Прыехаў, прыехаў Іване з Русі дамоў,
Зайшоў жа, зайшоў жа Іване ў першую камна́ту.
А ў першай, у першай камна́це Маруся ляжыць.
— Маруся, Маруся, што ў цябе баліць?
— Баліць жа, баліць жа галоўка ад няспаннейка.
Як выняў, як выняў Іване найвострую меч,
А зняў жа, а зняў ён Марусі галовачку з плеч.
Зайшоў жа, зайшоў жа Іване ў другую камнату.
А ў другой, а ў другой камнаце люлькі да нянькі.
Там люлькі, там люлькі ды нянькі сыночка Іванькі.
Зайшоў жа, зайшоў жа Іване ў трэцюю камнату.
А ў трэцяй, а ў трэцяй камнаце матулька ляжыць.
— Вот табе, вот табе, матулька, тры няшчасцейкі:
Пярвое, пярвое няшчасце — Марусю хаваць,
Другое, другое няшчасце — унукаў гадаваць,
Трэцяе, трэцяе няшчасце — мяне век не відаць,
Ой, люлі, ой, люлі да люлі, маленькі сынок,
Учора, учора звячора на свет радзіўся,
Сягоння, сягоння раненька асірацеўся.

## 877

Як паехаў Ясенька на бой, на вайну,
І пакінуў дома маладу жану.
Задумала свякроўка яе з свету зжыць,
Задумала, лютая, з сынам разлучыць,
А маленькага хлопчыка асіраціць.
Млада нявестачка ночку не спала,
Млада Марусенька сына качала.
Лютая свякроўка лісты пісала,
Лісты пісала, сыну нагаваравала:
— Твая Марусенька двор спуставала,
Волікаў, конікаў папрадавала,
Усё тваё адзенне на мёд прапіла,
Сына радзіла да й загубіла.

Ой, едзе Ясенька з вайны дамоў,
І вышла Марусенька яго сустракаць.
А як выняў Ясь ды свой ясны меч
І зняў галованьку з Марусіных плеч.
Нявінна галовачка пакацілася,
Гарачая кроў на траву да й палілася.
Прыйшоў ён у стайню — конікі стаяць,
Прыйшоў у валоўню — волікі ляжаць,
Зайшоў у каморы — каптаны вісяць,
У хаце ля сыночка нянькі сядзяць:
— Ой, люлі, люлі, малое дзіця,
Учора звячора нарадзілася,
А сёння раненька асірацілася.
Як заплакаў Ясенька, усё бачачы,
Белыя ручкі сашчапіліся,
Моцныя ножанькі падламіліся.
— Каб не тая рэчка, не піў бы вады,
Каб не злая матухна, не згубіў бы жаны.
Як сабе хочаш, матухна, жыві,
А мае ўмовы, хоць памры — зрабі.
Адна ўмова — дзіця гадаваць,
Другая ўмова — мяне з Марусяй пахаваць.

## 878

Паехаў Ясенька на вайну,
Да пакінуў дома Марысю-жану.
— Матка ж мая старэнька,
[Г]лядзі мае Марыські маладзенькай,
Напуй яе мядамі,
Палажы спаць з панамі.
Напаіла мацi смалою,
Палажыла спаці з свіннёю.
Да з вечара стагнала,
А ў паўночы сканала,
Й а к пеўням уабралі,
К беламу свету пахавалі.
Прыехаў Ясё із вайны.
— Матка ж мая радненькая,
Дзе ж мая Марыська маладзенькая?
— Пашла, сынку, ў ягадкі!

— Няма, матка, з ягадак!
— Жджы, сынку, к абеду!
— Да й няма ж, матка, к абеду!
— Жджы, сынку, к полудню!
— Няма, матка, к полудню!
— Жджы, сынку, к вячэры!
— Да няма, матка, к вячэры!
— Жджы, сынку, к пасцелі!
— Няма, матка, к пасцелі!
Скочыў Ясё да служкаў:
— Служкі ж мае верныя,
Да скажыце мне ўсю праўду,
Дзе мая Марысенька маладзенька?
— Ой, Ясеньку, Ясеньку,
Ох, мы б табе сказалі,
Да баімося маткі твае.
— Служкі ж мае верныя,
Да не бойцеся маткі мае.
— Як паехаў Ясё на вайну
Да пакінуў дома сваю жану,
Напаіла маці смалою,
Палажыла спаці з свіннёю.
Да з вечара стагнала,
К поўначы сканала,
Як к пеўням увабралі,
К беламу свету схавалі.

## СВЯКРОЎ НЯВЕСТКУ З СВЕТУ ЗБАЎЛЯЛА

### 879

У лузе салавей каліну клюець,
Ліхая свякроўка нявестку журыць,
Шлець яе, маладу, на Дунай па ваду.
— На маё бяздолле пятух не пяяў,
Пятух не пяяў, гусак не крычаў,
Толькі адзін ваўчышча за гарою выець.
Плакала малада, к Дунаю ідучы,
А зачуў міленькі, коні пасучы:
— Не бось, мілая, я коні пасу,
Я коні напасу і вады прынясу.

— Чэрпай, міленькі, вёдры паўненькі,
Нясі, міленькі, памалюсеньку,
Пастаў, міленькі, ў сенях на лаўцы,
Не кажы, міленькі, а сваёй мамцы.
— Вот табе, свякроўка, з Дунаю вада,
Умыйся, напіся з поўнага вядра.
— Я ж цябе, нявеста, не вады слала,
Я ж цябе, нявеста, з свету збаўляла.

## 880

А у лозе салавей калінку клюець,
Ай, люлі-люлюшкі, ды калінку клюець!

А ні ён садзіўшы, а ні ён паліваўшы,
Ай, люлі-люлюшкі, а ні ён паліваўшы.

Садзілі ветрыкі, палівалі дожджыкі,
Ай, люлі-люлюшкі, палівалі дожджыкі.

А свёкар нявестку як журыць, дык журыць,
А ні ён расціўшы, а ні ён гадаваўшы:

Расціла матулька, гадаваў татулька.
Ён шлець яе, маладу, із поўначы па ваду.

Ні пятух не пяець, ні гусак не крычыць,
Толькі ваўчыца за гарою выець.

А за другей мілы коні й пасець.
Заплакала малада, ля Дунаю стоя.

Адгукнуўся яе мілы, на начлезе начуя.
— Не бось, не бось, міленька, бяры ваду смяленька:

Я ж цябе падвяду і вадзіцу паднясу.
[Я ж цябе падвяду і вадзіцу паднясу.]

Не кажы ж ты на мяне, што я быў у цябе,
Што я цябе падвадзіў і вадзіцу паднасіў.

— На ж табе, свёкарка, напіся вадзіцы!
— А нявестка мая, ты лябёдка мая:

Не вады я ждаў — цябе з свету збаўляў,
Ай, люлі-люлюшкі, цябе з свету збаўляў.

## 881

Нядоля, нядоля, няшчасце маё,
Пракляла свякроўка іменне маё.
Ты ж мяне, свякроўка, дзеўкаю знала,
А нашто ж ты мяне за сына брала?
Паслала маладу ў Дунай па ваду,
І пятух не пяе і ніхто не ўстае.
Крыкну я, гойкну я, вады ідучы,
Ды зачуў мой мілы, каня пасучы:
— Я і каня напасу і вады прынясу.
— Чэрпай, міленькі, папаўнюсеньку,
Ды нясі, міленькі, паціхусеньку,
Ды стаўляй, міленькі, памалюсеньку,
Каб з вядра вадзіца не спліхнулася,
Каб ліхая свякроўка не абачхнулася.
— Памыйся, свякроўка, з поўнага вядра.
— Я цябе, нявестка, не вады слала,
Я цябе, нявестка, з свету збаўляла.

## 882

♪=200



Нядоля, нядоля, няшчасце маё,
Не любіць свякроўка йменейка майго.

Слала маладу ў Дунай па ваду,
Пятух не пяяў жа, гусак не крычаў.

Пятух не пяяў жа, гусак не крычаў,
Толькі мой міленькі коніка сядлаў.

Стукнула, грукнула, ваду беручы,
Пачуў жа міленькі, каня пасучы.

— Не йдзі, не йдзі, міла, ў Дунай па ваду,
Каня напасу я, ваду прынясу.

— Вот табе, свякроўка, з Дунаю вада,
Напіся й памыйся з поўнага вядра.

— Не нада, не нада мне твая вада,
Толькі ж я хацела, каб ты не была.

## МАЧАХА ЗАГУБІЛА ПАДЧАРКУ

### 883

Не ўмела Ганууся, не ўмела Ганууся,
Не ўмела дачуша каровак даіці.

Ударыла Ганусю, ударыла матуся
А ў белыя плечы, а ў белыя плечы.

Ужо ж яе цела, ужо ж яе цела
Ўсё кроўю скіпела, ўсё кроўю скіпела.

Тонкая кашуля, тонкая кашуля
Ад крыві макрэнька, ад крыві макрэнька.

Прыйшоў жа татухна, прыйшоў жа родненькі,
Аж Ганусі нету, аж дачушы нету.

— Ты ж мая Настуся, ты ж мая жануся,
А й дзе ж то Ганууся, а й дзе ж то Ганууся?

— Як пайшла Ганууся, як пайшла Ганууся,
Як пайшла дачуша ў зялёны сад гуляць,

У зялён сад гуляці, цвяточкі ірваці,
Цвяточкі ірваці, вяночкі звіваці.

Пайшоў татухна, пайшоў родненькі
У зялёны сад шукаць — там Ганусі нету.

Там дачушкі нету, там дачушкі нету,
Рос не аббівана, рос не аббівана.

Пайшоў жа татухна, пайшоў жа родненькі
А ў нову святліцу, а ў нову святліцу.

— Ты ж мая Настуся, ты ж мая жануся,
А й дзе ж то Ганусяˏ а й дзе ж то Гануся?

— Як пайшла Гануся, як пайшла Ганусяˏ
А ў нову святліцу, а ў нову святліцу.

А ў нову святліцу, а ў нову святліцу
Белу ложу слаці, белу ложу слаці.

Пайшоў жа татухна, пайшоў жа родненькі.
Ляжыць жа Ганусяˏ ляжыць жа дачуша.

— Ты ж мая Ганусяˏ ты ж мая дачушка,
Чым ты нездарова, чым ты нездарова?

Ты ж мая Ганусяˏ ты ж мая дачушка,
Чы слаць па дактора, чы слаць па дактора?

— Ты ж мой татухна, ты ж мой родненькі,
Не шлі па дактор'я, не шлі па дактор'я.

Не шлі па дактор'я, не шлі па дактор'я,
Ды шлі на далінку, ды шлі на далінку.

А шлі на далінку, а шлі на далінку
Усё дрэвы рубаці, ўсё дрэвы рубаці.

Ай, дрэвы рубаці, ай, дрэвы рубаці,
Мне дом гатаваці, мне дом гатаваці.

Дзе й дом будаваці, дзе й дом будаваці,
Там век векаваці, там век векаваці.

## 884

Паехаў бацька ў поле-паляванне,
Да забыўся ўзяці свайго мулявання.
— Жона мая верна, дзе дзяціну дзела?
— Пашла дзяціна, пашла ў чыстае поле пшоначку жаці.
Бацька ў чыстае поле, ажно пшаніца не жата, дзяціна не сята.
— Жона мая верна, дзе дзяціну дзела?
— Пашла дзяціна, пашла да крыніцы браці вадзіцы.
Бацька да крыніцы — крыніца не брата, дзяціна не сята.
— Жона мая верна, дзе дзяціну дзела?
— Пашла дзяціна, пашла да каморы й убіраці ўборы.
Бацька да каморы — ажно не ўбраны ўборы.
— Жона мая верна, дзе дзяціну дзела?
— Пашла дзяціна, пашла да і ў боры абіраці зоры.
Бацька да і ў боры — ажно наверсе зоры.
— Жона мая верна, дзе дзяціну дзела?
— Пашла дзяціна, пашла па садочку шчыпаці цвяточкі.
Бацька па садочку — не знашоў слядочку.
— Жона мая верна, дзе дзяціну дзела?
— У панядзелак ўранцы пабачыш на лаўцы,
А ў нядзелю ўранцы пабачыш ў магілцы.
У нядзелю ўранцы пабачыў на лаўцы,
У панядзелак ўранцы пабачыў ў магілцы.

## 885




Была ў дзеўкі ліха мачаха, [1]
Пасылала і туды і сюды:

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

На высок церам пасцелю слаць,
Пасцельку слаць — з афіцэрам спаць.
А ўжо на дварэ са поўначы —
Красны дзеўкі з церама няма;
А ўжо на дварэ свет, бела зара —
Красны дзеўкі з церама няма;
А ўжо сонца пад абед б'еццa —
Красна дзеўка з церама ідзець.
На ёй плацце ўсё падранае,
Яе лічанька пабітае,
Яе каса ўся 'барваная.
Пашла дзеўка ды й да клетачкі,
Бярэць дзеўка палаценушка.
Стала рэзаць на падарачкі.
Не папала ў палаценушка,
А папала сабе ў се́рдзечка.
— Вот табе, татачка, вяселлейка,
Лютай мачысе папраднічкі.

## 886




## НЯВЕСТКА УТАПІЛА СВЯКРУХУ

## 887

Ой, у лузе каліна, ой, у лузе чырвона,
На каліне зязюля.
На каліне зязюля, яна куе-начуе,
Ніхто яе не чуе.
Ой, пачула нявеста, ой, пачула, маладая,
Рана па ваду йдучы.

— Добра табе, зязюля, добра табе, сівая,
На каліне куючы!
— Добра табе, нявеста, добра табе, маладая,
Свякрыве да годзючы!
— Дала свякроў пшаніцы намалоці мучыцы,
Намалоці мучыцы.
Я пшаніцу малола, па зернятку кідала,
Па зернятку кідала.
Ой, пшаніца сырая ды малоці цяжкая,
Мая свякроў ліхая!
Свякрыве голаў памыла, свякроў кажа — няміла.
Свякроў кажа — няміла!
Пайшла свякроў да броду, я за ёю па воду,
Я за ёю па воду.
Свякроў голаў нагнула, а я яе папхнула,
А я яе папхнула!
Плыві свякроў з вадою — трудна жыці з табою,
Трудна жыці з табою.

## БРАТАВАЯ-ЗДРАДНІЦА

### 888

Братавая залвы нанач просіць,
Ту, ту, ту! [1]
— Мая залвіца, мая сястрыца,
Прыдзі ка мне ноч начаваці:
Да цябе ў мяне ніхто не ўкрадзе,
Да ў мяне клетка з пярэклеткамі,
У мяне завесы шаўковыя,
У мяне падушачкі пуховыя,
У мяне пасцелька мякка-бяленька.
— Сяей ночы апоўначы
Да прыязджаюць тры дваране́ны,
Тры дваране́ны нежанатыя.
Адзін дваранін клетку адчыніў,
Другі дваранін завесы падняў,
Трэці дваранін мяне, моладу, ўзяў.
Ніхто таго не чуў, не бачыў,
Толькі чула неба да зямля,
Толькі бачыла чужа старана.

[1] Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Не ёсць мая братавая,
Да ёсць мая здрадніца:
Здрадзіла мяне, маладзенькую,
З руцвянога вянца,
З дзявоцкага стаўца.

## 889

♩=60

А зрад- ні- ца ня- вест- ка, зра- дзі- ла за- лоў- ку.

А зрадніца нявестка,
Зрадзіла залоўку:
— Хадзі залоўка, ў клець спаць!
Уз'ехалі тры на двор.
А ў чырвоным клець адпёр,
А ў багровым адчыніў,
А ў зялёным сабе ўзяў.
А плакала дзевушка,
Што не бацюшка аддаець,
Што не сястрыцы сураджаюць.
— Сураджала мяне цёмна ночка,
Выдавала мяне клетушка,
Праважаў мяне месячык,
А зрадзіла нявестка.

## 890

♩= 92

А здрад_ ні_ ца ня_ вест_
ка, ай, ра_ на - ра_ на, ня_ вест_ ка.

А здрадніца нявестка,
Ай, рана-рана, нявестка [1]
А здрадзіла залоўку:
— Хадзі, залоўка, ў клетку спаць:
Мая клетка камянная,
Мае дзверы медзяныя,
Мае ключы залатыя.
Ніхто клеці не 'таб'ець,
Ніхто дзеўкі не возьмець.
Ішла дзеўка ў клетку спаць,
На ёй шаты шумелі,
У руках ключы звінелі.
Прыехала к дзеўцы ды тры панічы:
Адзін паніч ў чырвоным,
Другі паніч ў зялёным,
Трэці паніч ў атласе.
Што ў чырвоным — клетку 'тбіў,
Што ў зялёным — плацця браў,
Што ў атласе — дзеўку ўзяў.
А плакала дзеўка сільненька,
Што не татухна выдаець,
Што не мамухна сураджаець,
Што не брахненька праваджаець,
Што не сястрыцы песні пяюць.
Выдавала дзеўку цёмна ноч,
Сураджала дзеўку нявестка,
Праваджаў дзеўку месячык,
Пелі песенькі пташачкі.

## 891

А ў Полацку на рыначку
Братоўка залву ў госці звала.
— Прыдзі, залвіца, ка мне ў госці,
У мяне столікі цясовыя,
У мяне кубачкі пазлачоныя,
У мяне падушкі пуховыя.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ай, рана-рана».

За 'дным сталом будзем выпіваць,
На адной ложы ляжам аддыхаць.
Усталі яны да поўначы,
Прышло да іх тры панічы.
Адзін паніч у золаце,
А другі паніч у сонаце,
А трэці паніч у серабрэ.
Што ў золаце — ключы ўкраў,
А што ў сонаце — каморку адмыкаў,
А ў сэрабрэ — залвіцу ўкраў.
— Братоўка мая, збавіцелька,
Збавіла мяне ў чужу старану.

## 892




Ой, на вуліцы стучыць-гручыць,
Братавая залвы нанач просіць:

— Хадзі, залвіца, ка мне нанач,
Хадзі, залвіца, ка мне нанач.

— Баюся, братавая,— здрадзіш мяне,
Баюся, братавая,— здрадзіш мяне.

— Не бойся, залвіца, я не здраджу,
Не бойся, залвіца, я не здраджу.

Клетачка мая каменная,
Клетачка мая каменная.

Замочкі мае нутраныя,
Замочкі ж мае нутраныя.

Да прыехала тры двараніны,
Да прыехала тры дваранінь

Адзін дваранін у сіненькім,
Адзін дваранін у сіненькім.

Другі дваранін у зялёненькім,
Другі дваранін у зялёненькім.

Трэці дваранін у чырвоненькім,
Трэці дваранін у чырвоненькім.

Што ў сіненькім — замок зламаў,
Што ў сіненькім — замок зламаў.

Што ў зялёненькім — полаг адняў,
Што ў зялёненькім — полаг адняў.

Што ў чырвоненькім — залву й украў,
Што ў чырвоненькім — залву й украў.

## СЯСТРА-ЗДРАДНІЦА

### 893

— Да пайдзём-ка, сястра,
На марскі бераг гуляць,
Да й пасмотрым, сястра,
Чым жа бераг украшон.

Да й пасмотрым, сястра,
Чым жа бераг украшон?
Украшон беражок
Да ўсё жоўценькім пяском.

Што на тым пяску
Стаіць лодачка нава,
Стаіць лодачка нава,
Вісіць лента галуба.

— Ой, сястрыца мая,
Знімі лентачку — твая!
Сястра ў лодку ступнула,
А лодачка зыбнула.

Сястра ў лодку ступнула,
А лодачка зыбнула,
А лодачка зыбнула,
Сястра ў мора ўтанула.

— Ой, сястрыца мая,
Ці дастала ў моры дна,
Ці дастала ў моры дна,
Ці халодная вада?

Ці дастала ў моры дна,
Ці халодная вада?
— Ай, гора ж мне,
Што я ў моры на дне.

Ай, гора ж мне,
Што я ў моры на дне,
А шчэ майму міленькаму
На чужой старане.

## ЖОНКА ЗАГУБІЛА НЯЛЮБАГА МУЖА

### 894




Ах, жана мужа да й не злюбіла,
Узяла яго да й задушыла.
[Ах,] палажыла ў каморы пад акнсм,
Накрыла тонкім белым палатном.
[Ах,] прыязджае два браточкі родных:
— Братавая, дзе наш родны браток?
— [Ах,] паехаў да Валкалыска ў прыём,

Бог ведае, ці павернецца ён.
— Ах, у прыёме мы самі бывалі,
Свайго брацейка там не відалі
Ах, братавая, [ты] лябёдка наша,
Што ж то ляжыць ў каморы пад акном,
Накрыта тонкім белым палатном,
Мы не знаем, не ведаем аб том?
— [Ах,] тут звечара два казакі былі,
А з паўночы рыбалоўцы пілі.
Ах, ізлавілі рыбу, лебедзя,
Палажылі ў каморы пад акном,
Ах, палажылі ў каморы пад акном
Да й накрылі тонкім белым палатном.
— [Ах,] братавая, ты лябёдка наша,
Адчыні нам новую камору!
— [Ах,] у чыстым полі пшаніца зрадзіла,
Там я, млода, палоці хадзіла,
Ах, там я, млода, палоці хадзіла,
Ад каморы ключыкі згубіла.
— Зазві жа нам слесароў, кавалёў,
Каб скавалі ключыкі ў камору,
[Ах,] альбо дай нам востранькіх сякераў,
Высечама мы дзверы ў камору.
Ах, як сталі ў камору дзверы сеч,
Тады стала братавенькая млець.
— Ах, братавая, [ты] лябёдка наша,
Ах, што зрабіла братку нашаму?
Ах, узяў жа братка да вострую меч,
Да й сцяў братавенькай галоўку з плеч.

## 895

Allegretto






Да жана мужа да й знявідзела,
Да забіла, да зарэзала.

Палажыла ў каморы пад акном,
Накрыла тонкім белым палатном.

Прыехала два брацейка-сакалы:
— Братавая, ты ж лябёдушка наша,

Дзе ж падзела брацейка-сакала?
— Дзевярове, сакалы вы мае,

Паехаў брат да ўсё войска дзяржаць,
Да бог ведае, ці вернецца назад?

— Братавая, ты лябёдушка наша,
А што ў цябе да за кроў на сцяне?

— Дзевярове, сакалы ж вы мае,
Нарэзалася курэй да гусей,

Спадзявалася міленькіх гасцей.
— Братавая, ты ж лябёдушка наша,

А што ў цябе да за госці былі?
— А звечара вечарнічкі былі,

А з поўначы рыбалоўчыкі плылі,
Злавілі шчуку-рыбу, лебедзя.

Палажылі ў каморы пад акном,
Да накрылі тонкім белым палатном.

— Братавая, ты ж лябёдушка наша,
Ой, дай жа нам залаценькі ключы

Да паглядзець шчукі-рыбы, лебедзя.
— Дзевярове, сакалы вы мае,

У чыстым полі пшанічанька зрадзіла,
Я й, малада, да палоць хадзіла,

Залаценькія ключы згубіла.
— Братавая, ты ж лябёдушка наша,

Ой, мы скажам кавале сыскаць,
Залатыя ключэ зрабіць.

— Дзевярове, сакалы вы мае,
Не рабеце залаценькіх ключоў.

Да зрабеце гострую меч,
Да здымеце мне галоўку з плеч.

## 896

♩=60

А што гэ- 3 та,

а ш(ы)- то й гэ- та за п(ы)-ры- чы- на бы-ла —

жа- на му- жа да й за - рэ- за - ла.

А што гэта, а што й гэта за прычына была —
Жана мужа да й зарэзала.

Жана мужа, жана мужа да й зарэзала,
Да й замкнула ў нову горніцу.

Да й замкнула, да й замкнула ў нову горніцу,
Да й прыехаў самы большы брат.

Да прыехаў, да прыехаў самы большанькі брат.
— Братавая, маладая нашая!

Братавая, братавая маладая нашая,
А дзе наш жа серадольшанькі брат?

А дзе наш жа, а дзе наш жа серадольшанькі брат?
— Дзевярочкі, вы два лебедзі мае!

Дзевярочкі, дзевярочкі, вы два лебедзі мае,
Ой, учора у нас госці былі.

Ой, учора, ой, учора у нас госці былі,
Ён паехаў да й гасцей праважаць.

Ён паехаў, ён паехаў да й гасцей праважаць.
— Братавая, маладая нашая!

Братавая, братавая маладая нашая,
Яго ж конічак на стаенцы стаіць.

Яго ж конік, яго ж конічак на стаенцы стаіць,
Яго збруечка на гвоздзічку вісіць.

Яго збруя, яго збруечка на гвоздзічку вісіць,
Яго боцікі пад столікам стаяць.

Яго боты, яго боцікі пад столікам стаяць,
Да й куражачка на століку ляжыць.

Братавая, братавая маладая нашая,
А што гэта за кроў на нажы?

А што гэта, а што гэта да за кроў на нажы?
— Дзевярочкі, вы два лебедзі мае!

Дзевярочкі, дзевярочкі, вы два лебедзі мае,
Ну й учора рыбалоўцы былі.

Ну й учора, ну й учора рыбалоўцы былі
Да й паймалі шчуку-рыбіцу.

Да й паймалі, да й паймалі шчуку-рыбіцу
Да й замкнулі ў новую горніцу.

Да й замкнулі, да й замкнулі ў новую горніцу.
— Братавая, маладая нашая!

Братавая, братавая маладая нашая,
Й атамкні нам нову горніцу.

Й атамкні нам, й атамкні нам нову горніцу,
Мы ж паглядзім шчуку-рыбіцу.

Мы ж паглядзім, мы ж паглядзім шчуку-рыбіцу.
— Дзевярочкі, вы два лебедзі мае!

Дзевярочкі, дзевярочкі, вы два лебедзі мае,
Я згубіла залатыя ключы.

Я згубіла, я згубіла залатыя ключы.
— Братавая маладая нашая!

Братавая, братавая маладая нашая,
Асядлаем варанога каня.

Асядлаем, асядлаем варанога каня
Да і з'ездзім да новага каваля.

Да і з'ездзім, да і з'ездзім да новага каваля,
Да і скуем два мы золаты ключы.

Да і скуем, да і скуем два мы золаты ключы,
І атамкнём мы нову горніцу.

І атамкнём мы, і атамкнём мы нову горніцу,
Да й паглядзім шчуку-рыбіцу.

Да й паглядзім, да й паглядзім шчуку-рыбіцу.
— Дзевярочкі, вы два лебедзі мае!

Дзевярочкі, дзевярочкі, вы два лебедзі мае,
Да й не куйце залатыя ключы.

Да й не куйце, да й не куйце залатыя ключы,
Да й іскуйце вы вастрэнькую меч.

Да й іскуйце, да й іскуйце вы вастрэнькую меч,
Да зніміце мне галовачку з плеч.

Да зніміце, да зніміце мне галовачку з плеч.
Да зніміце мне галовачку з плеч.

## 897




І па садзіку паходжана,
І расіца пакалочана.

Жана мужа страх не любіла,
Жана мужа з свету згубіла.

Як пачулі два браточкі яго,
А прыехалі брат брата 'двядаць.

— Ты брацiха, ты лябёдачка наша,
Дзе дзявала брата нашага?

— Дзевярочкі, вы браточкі мае,
А ў нас ўчора позна госці былі.

А ён жа павёў гасцей праважаць,
А ён жа павёў гасцей праважаць.

— Ты брацiха, ты лябёдачка наша,
Чаго ў цябе поўна сені крыві?

— А я гусей, курэй гасцям рэзала,
А я гусей, курэй гасцям рэзала.

— Ты брацiха, ты лябёдачка наша,
Ой, аддай нам залатыя ключы.

Ой, аддай нам залатыя ключы,
А мы пойдзем новы свіран адкрываць.

— Дзевярочкі, вы браточкі мае,
Дзевярочкі, вы браточкі мае.

А наце вам залатыя ключы,
А наце вам залатыя ключы.

Адмыкайце жа вы новы свіран,
Ды бярыце вы там вострую меч.

Ды знясіце мне галовачку з плеч,
Ды знясіце мне галовачку з плеч.

## 898

♪=66

А ў са- дзі-ку-ві- на- гра- дзі- ку
тра- ва шоў- ка- ва пры- топ- та- на,
тра- ва шоў-ка- ва пры- топ- та- на.

А ў садзіку-вінаградзіку
Трава шоўкава прытоптана.[1]

А там жана мужа страціла,
Вострым ножыкам зарэзала.

Палажыла ў светлай горніцы сваёй
Да накрыла белай скацерцю.

Прыехалі дзеверы-лебедзі,
Адчынялі цясовыя варата.

— Ты нявестка, ты лябёдка наша,
А гдзе твой муж, а наш брат радной?

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Дзевярочкі, лебядзёчкі мае,
Ен паехаў ў чыста поле паляваць.

— Ты нявестка, лябёдка наша,
А што ў цябе ў светлай горніцы ляжыць?

— Дзевярочкі, лебядзёчкі мае,
А ехалі рыбалоўнічкі.

[А ехалі рыбалоўнічкі]
Да й паймалі беларыбіцу.

Палажылі ў светлай горніцы маёй
Да й пакрылі белай скацерцю.

## 899

Allegretto

Ой, цём-на ноч-ка ды ня-від-на-я бы-ла, свай-го му-жа ды за-бі-ла жа-на.

Ой, цёмна ночка ды нявідная была,
Свайго мужа ды забіла жана.

Ой, палажыла у каморы пад вакном
Ды пакрыла тонкім белым палатном.

Ой, прыехалі ды два брацеткі яго,
Пытаюцца яны братанькі свайго:

— Ой ты, братаўка, ты лябёдка наша,
Дзе падзела свайго міленькага?

— Ой, дзевярочкі, сакалочкі мае,
Пайшоў мілы ў роўна поле на прыгон.

Ой, пайшоў мілы ў роўна поле не прыгон,
А бог знае, ці вернецца ён.

— Ой ты, братаўка, ты лябёдка наша,
А што ў цябе ды за кроў на дзвярах?

— Ой, дзевярочкі, сакалочкі мае,
Нарэзала я курэй і гусей.

Ой, нарэзала я курэй і гусей,
Чакаючы дзевярочкаў-гасцей.

— Ой ты, братаўка, ты лябёдка наша,
А што ў цябе у каморы пад вакном?

Ой, што ў цябе у каморы пад вакном
Ды пакрыта тонкім белым палатном?

— Ой, дзевярочкі, сакалочкі мае,
Былі ў мяне рыбалоўнічкі два.

Ой, былі ў мяне рыбалоўнічкі два,
Ды злавілі шчуку-рыбу для мяне!

Ой, палажылі у каморы пад вакном
Ды накрылі тонкім белым палатном.

— Ой ты, братаўка, ты лябёдка наша,
Падай жа нам залатыя ключы.

Ой, пойдзем жа мы да каморы тваёй,
Паглядзім мы шчукі-рыбы тваёй.

— Ой, дзевярочкі, сакалочкі мае,
Я згубіла залатыя ключы.

Ой, я згубіла залатыя ключы,
У роўным полі пшанічаньку жнучы.

Ой, дзевярочкі, сакалочкі мае,
Вы ўжо знаеце сакрэты мае.

Ой, вазьміце жа вы востранькі меч
Ды зніміце мне галовачку з плеч.

900

Жана з мужам не ў любосці жыла,
Не злюбіла, загубіла яго,
У каморы палажыла яго,
У каморы на трох століках,
На трох століках цясовенькіх.
Прыехалі яго брацеткі,
Прыехалі яго родныя:
— Ты братаўка, ты галубка,
Дзе ты нашага брацетку дзела?
— Дзевярочкі, вы галубочкі мае,
Учора былі любыя госці ў мяне.
Ён пайшоў тых гасцей правадзіць,
Як пайшоў, дык забавіўся!
— Ты братаўка, ты галубка наша,
Чаму ж яго тут і боцікі стаяць,
Чаму ж яго тут і суканька вісіць,
Чаму ж яго тут і шапачка ляжыць?
— Дзевярочкі, вы галубочкі мае,
Надзеў боцікі казловенькія,
А суканькі саятовенькія,
А шапачку пуховую!
— Ты братаўка, ты галубка наша,
Ды дай жа нам залатыя ключы,
Да сходзім мы да новай клеці.
— Дзевярочкі, вы галубочкі мае,
У роўным полі пшанічанькі жнучы,
Я ўраніла залатыя ключы.
— Ты братаўка, ты галубка наша,
А будзем жа мы людзей сабіраць,
А нада жа нам тыя ключы сыскаць.
— Дзевярочкі, вы галубочкі мае,
А нашто нам і людзей турбаваць,
Будзем жа мы усю праўдачку казаць:
Наце ж вам залатыя ключы,
А йдзіце вы у новую клець,
А вазьміце вы раменную плець,
А станьце вы мне белы плечы сеч —
Старым, малым на паказыванне,
Маладым на супакойванне.

## 901

Жана з мужам не ў любосці жыла,
Узяла яго да пагубіла,
Пагубіла да й зарэзала.
У каморы пад акном палажыла
І накрыла ценкім белым палатном.
— Ты братоўка, ты галубка наша,
Дзе падзела Яся, брата нашага?
— Выправіла я яго на прыгон,
Ну, бог знаець, ці павернецца ён.
— Ты братоўка, ты галубка наша,
А якая ў цябе кроў на сянях?
— Дзевярочкі, галубочкі мае!
Былі ў мяне любы госці мае,
Я нарэзала курчанятачкі свае,
Я хадзіла ў сянёх і пакапавала.
— Ты братоўка, ты галубка наша!
А што ў цябе у каморы пад акном
І накрыта ценкім белым палатном?
— Дзевярочкі, галубочкі мае!
Былі ў мяне рыбалоўнікі мае,
Улавілі шчуку-рыбушку ў рацэ,
Палажылі ў каморы пад акном
І накрылі ценкім белым палатном.
— Ты братоўка, ты галубушка наша!
Ты вазьмі ад каморы ключы,
І пасмотрым шчукі-рыбушкі.
— Дзевярочкі, галубочкі мае!
Я гуляла па вішнёвым саду
І пацярала ад каморы ключы.
— Ты братоўка, ты галубушка наша!
Пайдзём к сталярам, слесарам
І даробім да каморы ключы,
І пасмотрым шчукі-рыбушкі.
— Дзевярочкі, галубочкі мае,
Ідзіце вы ў новую клець
І вазьміце новую меч,
І вядзіце мяне ў вулачку,
І зніміце галовачку з плеч.
Пашлі дзевяры ў новую клець
І узялі ржавую меч,
І вывелі яе на вулачку,

І знялі галовачку з плеч —
Старым-малым на паказаванне,
А маладым на паглядаванне.
Перш-наперш дзеці ляцелі
І на дзіва крычэлі,
А маладкі дзівавалі,
Белы ручкі ламалі.

## 902




Ай, жана мужа не любіла,[1]
Павяла ў сад — загубіла.
Ай, паставіла ў каморы пад вакном,
Ай, накрыла тонкім белым палатном.
Прышло да яе дванаццаць дзевяроў.
— Ай ты, братоўка, ты сястрыца наша,
Ай, дзе ж дзе-та самы старшы наш брат,
Ай ты, братоўка, ты сястрыца наша?
— Былі ўчора любы госці ў мяне,
Ай, пайшоў ён любых гасцей правадзіць.
— Ты братоўка, ты сястрыца наша,
Ай, чаму ў цябе на сенях кроў?
— Дзевярочкі, вы браточкі мае,
Былі ўчора рыбалоўцы ў мяне,
А ўлавілі шчуку-рыбачку,
Палажылі ў нову скрыначку,
Паставілі ў каморы пад вакном
Ды й накрылі тонкім белым палатном.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

— Ты братоўка, ты сястрыца наша,
Адчыні нам нову скрыначку,
Пакажы нам шчуку-рыбачку.
— Вы браточкі, дзевярочкі мае,
Пагубляла залатыя ключы,
А ў полі пшонку-ярыцу жнучы.
— Ты братоўка, ты сястрыца наша,
Ай, пайдзем жа да слесара-каваля,
А скуём жа залатыя ключы,
Адамкнём мы нову скрыначку,
Паглядзім мы шчуку-рыбачку.
— Вы браточкі, дзевярочкі мае,
А не йдзіце да слесара-каваля,
Ай, не куйце залатыя ключы,
Ай, адкуйце вы ваструсенькі меч,
А здыміце мне галовачку з плеч.
Не здымайце у суботачку,
А здыміце у нядзелечку:
Будуць людзі да й да цэркаўкі йсці.
Старым бабам на здзіўленнейка,
Маладочкам на пакаянне,
Ноччу сплючы, а днём ходзючы,
Горку долю праклінаючы.

## 903







Цёмна ночка ды нявідна была,[1]
Жана мужа зненавідзеўшы жыла.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Прышла ночка, загубіла яго,
Палажыла ў каморы пад вакном
І накрыла ценькім белым палатном.
Прыехалі дзевярочкі яе:
— Ты братовачка, лябёдушка наша,
Чаму ў цябе усю ночку агонь?
— Дзевярочкі, галубочкі мае,
Учора з вечара папрадушкі былі,
А ў поўначы рыбалоўцы прышлі
І злавілі шчуку-рыбу на ляду.
Палажылі ў каморы пад вакном
І накрылі ценькім белым палатном.
— Ты братовачка, лябёдушка наша,
Чаму ў цябе ўсе сені ў крыві?
— Дзевярочкі, галубочкі мае,
Нарэзала і гусей і курэй,
Дажыдала дзевярочкаў гасцей.
— Ты братовачка, лябёдушка наша,
Дзе падзела ты нашага брацечку?
— Дзевярочкі, галубочкі мае,
Да паехаў мой міленькі на прыгон,
Ды бог знаець, ці вернецца ён.
— Ты братовачка, лябёдушка наша,
Да вот жа дзе яго й шубачка вісіць.
— Дзевярочкі, галубочкі мае,
Ўзяў шубачку ён і новенькую.
— Ты братовачка, лябёдушка наша,
Да вот жа яго й боцікі стаяць.
— Дзевярочкі, галубочкі мае,
Ўзяў боцікі ён казловенькія.
— Ты братовачка, лябёдушка наша,
Аддай жа нам ад каморы ключы.
— Дзевярочкі, галубочкі мае,
Пагубіла я ад каморы ключы,
Ў роўным полі пшанічаньку жнучы.
— Ты братовачка, лябёдушка наша,
Загубіла ты нашага братачка.
— Дзевярочкі, галубочкі мае,
Да вазьміце вы вострую меч
І зніміце мне галовачку з плеч.
— Ты братовачка, лябёдушка наша,
Мы не будзем тваёй галовачкі рубіць
І не будзем тваіх дзетак гадаваць.

## 904




Цёмна ночанька нявідна была,
Зарэзала жана мужа свайго.

Паставіла ў каморы пад акном
А й накрыла тонкім белым палатном.

Прыехалі дзевяраткі да яе,
А сталі яны спрашаць у яе:

— Братовачка, лябёдачка а й наша,
Дзе падзела а ты брата нашага?

— А пашоў рана ўчора на прыём,
А бог ведаець, ці вернецца ён.

— Братовачка, лябёдачка а й наша,
А што ў цябе на дзвярах а й за кроў?

— Нарэзала во курэй і гусей,
Ажыдала дзевярочкаў гасцей.

— Братовачка, лябёдачка а й наша,
А што ў цябе ў каморы пад акном?

А што ў цябе ў каморы пад акном,
А й накрыта тонкім белым палатном?

— Дзевяраткі, родны браткі вы мае,
Былі ў мяне рыбаловачкі два.

Былі ў мяне рыбаловачкі два,
А злавілі шчуку-рыбу яны мне.

Паставілі ў каморы пад акном,
А й пакрылі тонкім белым палатном.

— Братовачка, лябёдачка а й наша,
А й дай жа нам залатыя ключы.

А мы й пойдзем да каморы да тваёй,
Паглядзім мы шчукі-рыбіны тваёй.

— Дзевяраткі, родны браткі вы мае,
А й згубіла я залатыя ключы.

А й згубіла я залатыя ключы,
На пастачку ды й кароўку гонючы.

## 905

Andante

Эй- гэй! Цём- на ноч - ка ды ня -
від- на - я бы - ла, жа - на му- жа не ўзлю -
бі - ла бы- ла, жа- на му - жа не ўзлю -
бі - ла · бы - ла.

Эй-гэй! Цёмна ночка ды нявідная была,
Жана мужа не ўзлюбіла была. [1]

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Эй-гэй! Жана мужа не ўзлюбіла была,
Чарнавочка ды забіла яго.

Эй-гэй! Ды прыехалі два брацеткі яго:
— Чаму ў цябе ды ўсю ночаньку агонь?

— Эй-гэй! Дзевяраткі ды два брацеткі мае,
Із вячора ды тут попрадкі былі.

Эй-гэй! Із вячора ды тут попрадкі былі,
Са паўночы рыбалоўнічкі прышлі.

Эй-гэй! Са паўночы рыбалоўнічкі прышлі
Ды лядоўку шчуку-рыбу злавілі.

Эй-гэй! Палажылі у каморы пад акном
Ды накрылі тонкім белым палатном.

## 906



Да ў нядзелю параненька [1]
Жана мужа зарэзала.

Жана мужа зарэзала
Да й ў садочку схараніла.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Дачуліся яго браткі,
Прыехалі адведаці.

— Братавая маладая,
Дзе ж ты мужа задзявала?

— Дзевяраткі, мае браткі,
Муж паехаў ў вельку дарогу.

Муж паехаў ў вельку дарогу
Ды й не скора ён прыедзе.

Пашлі яны ў стаенку,
Коні ж яго усе дома.

— Братавая маладая,
Коні яго усе дома.

— Дзевяраткі, мае браткі,
Купіў каня да й паехаў.

Купіў каня да й паехаў
Да не скора ён прыедзе.

Пашлі яны у святліцу,
У святліцы кроў разліта.

— Братавая маладая,
Што ў святліцы кроў разліта?

— Дзевяраткі, мае браткі,
Куры, гусі парэзала.

Куры, гусі парэзала,
Далёкіх гасцей паджыдала.

Пашлі яны у садочак,
А ў садочку магілачка.

— Братавая маладая,
Што ў садочку за магілка?

— Дзевяраткі, мае браткі,
Нежывога сынка мела.

Нежывога сынка мела
Да й ў садочку схараніла.

— Братавая маладая,
Трэба папу й рубля даці.

Трэба папу рубля даці,
Магілачку адкапаці.

— Дзевяраткі, мае браткі,
Не капайце у суботу.

Не капайце у суботу,
Адкапайце у нядзелю.

Адкапайце у нядзелю,
Да й штоб людзі паглядзелі.

Штоб старыя дзівавалiся,
А малыя баяліся.

А малыя й баяліся,
Маладыя каяліся,

Што я богу саграшыла —
Навек душу утапіла.

## 907



Жана мужа ды не злюбіла, [1]
Павяла ў сад ды загубіла.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Загубіўшы, ў нову горніцу ўнясла,
Палажыла на цісовым стале
І накрыла ўсё бяленькай прасціной.
Прыехала да тры братцы са вайны.
— Нявехначка, ты лябёдка наша,
Дзе падзела брата роднага нашага?
— Дзевярочкі, сакалочкі мае,
Ён паехаў ў чыста поле пагуляць
А на коніку вароненькім,
На сядзёлушцы на новенькай.
— Нявехначка, ты лябёдка наша,
Воран кося ды на стаенцы стаіць,
Нова сядзёлушка на кручку вісіць.
— Дзевярочкі, сакалочкі мае,
Ён паехаў чыста поле пахаць
На коніку на буланенькім.
— Нявехначка, ты лябёдка наша,
Атамкні нам нову горніцу сваю.
— Дзевярочкі, сакалочкі мае,
Пацярала тры ключыкі залатых.
Дзевярочкі, сакалочкі мае,
Во цяпер я вам прызнаюся,
Прызнаюся я й сазнаюся:
Вашага брата я не злюбіла,
Павяла ў сад ды загубіла,
Загубіўшы, ў нову горніцу ўнясла,
Палажыла на цісовым стале,
А накрыла ўсё бяленькай прасціной.

## 908

Высако зара занімалася,
Вышы ельнічку, бярэзнічку,
Вышы горкага асіннічку.
Кабы ў нашым слаўным горадзе,
Праявілася праявушка:
Жана мужа распацешыла,
Вострым ножычкам зарэзала.
Яна складала у навэя сундукі,
Яна спускала ў халаднэя паграбы,
Яна замкала залóтымі ключмі.

Прыляталі два лебедзі на двор —
То не лебедзі, то дзеверы [яе].
— Ты нявестушка, галубушка наша,
Ты скажы-ка, гдзе Ванька, большы брат!
— Ён пашоў у чыста поле гуляць,
Свайго мілага госця праважаць.
— Ты ўрош жа, ты нявестушка наша:
Любы госцік ў навэй горанцы ляжыць,
Вараны конь, ён на стойме стаіць.
Ты нявестушка, ты галубушка наша,
Ты скажы-ка, гдзе наш Ванька, большы брат!
— Ах вы, дзеверы, вы лебедзі мае,
[Як] пашоў жа ваш большы брат
У зялёны сад сладка вішанне шчыпаць.
— Ты нявестушка, ты галубушка наша,
Што ж гэта ў цябе ў новых сенях кроў?
— Ах вы, дзеверы, вы лебедзі мае,
Я платала мелку рыбіцу сваю.
— Ты нявестушка, ты галубушка наша,
Пакажы нам мелку рыбіцу сваю!
— Ах вы, дзеверы, вы лебедзі мае,
Я складала у навэя сундукі,
Я спускала у зялёны паграбы.
— Ты нявестушка, ты галубушка наша,
Адтвары-ка нам навэя сундукі,
Пакажы-ка мелку рыбіцу сваю.
— Ах вы, дзеверы, вы лебедзі мае,
Пацярала ■ залотыя ключы.
— Ты нявестушка, галубушка наша,
Мы скуём табе залóтыя ключы.
— Ах вы, дзеверы, вы лебедзі мае,
Вы не куйце залотыя ключы,
А вы скуйце залóценькую меч,
Сыміце мне галовушку з плеч!

## 909

Жана мужа не ўзлюбіла
Да атрутачкі купіла,
Ох, і я леле, атрутачкі купіла.[1]

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ох, і я леле».

Свайго мужа атруіла
І ў садзіку схараніла.

Лялеяю абсадзіла,
Рутай-мятай абсеяла.

Прыехалі дзевярочкі,
Майго мілага браточкі.

— Братоўя маладая,
Дзе нашага брата дзела?

— Дзевярочкі, галубочкі,
Ён паехаў на ахвотачку

На вароненькім канёчку,
На залоценькам каточку.

— Братоўя маладая,
Ваш конічак у стойні.

[Ваш конічак у стойні,]
Усе каточкі па дварочку.

Братоўя маладая,
Што і ў садзе за магіла?

— Дзевярочкі, галубочкі,
Я дзіцятка спарадзіла

І ў садочку схараніла,
Лялеяю абсадзіла.

[Лялеяю абсадзіла,]
Рутай-мятай абсеяла.

## 910

♩=92

Жа – на му– жа да й за – рэ – за – ла
(й)у свi– рэнь–ку да й па– ве– сі – ла.

Жана мужа да й зарэзала,
У свірэньку да й павесіла.

Павесіла ж у свірэньку й пад вакном
Ды й накрыла тонкім белым палатном.

— Ох, брацiхна, ой, лябёдка наша,
Ой, куды наш ды брацейку пайшоў?

— Й ваш брацейка ды й на моры хадзіў,
Шчуку-рыбіну дадому прынасіў.

— Ой, брацiхна, ой, лябёдка наша,
Ой, што ў цябе ды за кроў на стале?

— Нарэзала ды гусей, то курэй,
Частаваці сваіх любых гасцей.

— Ой, брацiхна, ой, лябёдка наша,
Ой, дай жа ж нам ад каморы ключы.

Ой, дай жа ж нам ад каморы ключы,
Да й адмыкнем, да й пабачым братка.

— Я й хадзіла па зеллю, па траве,
Загубіла ад каморы ключэ.

— Ой, ды дай нам ды драцянага шворня,
Ды й адчынім, ды пабачым братка.

Ды й адчынілі, ды й пабачылі:
Вісіць браток на калачове.

— Ой, брацiхна, ох, лябёдка наша,
Не хавай ты і ні ўночы, ні ўдзень.

Не хавай ты і ні ўночы, ні ўдзень,
Ды схавай ты ў нядзельку апаўдзень.

Як усе людзі з цэркаўкі йдуць,
Жану й мужа хараніці вязуць.

# 911







— Братавенька, ты лябёданька наша,
Дзе падзела да брацейка-сакала?

— Дзевяратка, вы саколікі мае,
Да паехаў у прыём, у прыём.

[Да паехаў у прыём, у прыём,]
Бог ведае, да ці вернецца ён.

— Братавенька, ты лябёданька наша,
Да што ў цябе да за кроў на сцяне?

— Дзевяратка, вы саколікі мае,
Нарэзала да гусей, да курэй.

[Нарэзала да гусей, да курэй,]
Спадзявалася я нямножка гасцей.

— Братавенька, ты лябёданька наша,
Да што ў цябе да за агоньчык гарэў?

— Дзевяратка, вы саколікі мае,
Ўчора звячора да папрадушкі былі.

А з паўночы рыбалоўчыкі былі
Да злавілі шчуку-рыбу, акуня.

Палажылі у каморы пад акном
Да накрылі тонкім белым палатном.

— Братавенька, ты ж лябёданька наша,
Да дай жа нам злоты ключ ад каморы!

— Дзевяратка, вы саколікі мае,
Ў чыстым полі пшанічаньку палола,

[Ў чыстым полі пшанічаньку палола,]
Да згубіла злоты ключ ад каморы.

— Братавенька, ты лябёданька наша,
Да есць у нас хітры, мудры кавалец.

Ён даробіць злоты ключ к каморы.
— Дзевяратка, вы саколікі мае!

Да вазьмеце гостру меч, гостру меч.
Зніміце мне галовачку із плеч.

## ПАРАДА, ЯК ПАЗБАВІЦЦА АД БЛАГОГА МУЖА

### 912

— Да белая бярозачка,
Ці не цяжанька табе
Ў цёмным лесе стаяці,
У чыста поле глядзеці?
— Маладая маладзіца,
Ці не цяжанька табе
За благім мужам жыці,
На добрага глядзеці?
— А жоначкі, лябёдачкі,
Вы дайце мне радачку,
Да дайце мне радачку,
Як з благім мужам жыці?
— Маладая маладзіца,
Да вазьмі хмелю жменю,
Да другую ячменю,
Навары піва п'яна,
А упой мужа дужа.
Да вязі ў чыста поле,
Да палажы пад бярозай,

Абцягні саломкаю
Да падпалі лучынкаю,
Сама выйдзі на вулачку,
Крыкні, гукні ратунaчку:
— Здаецца, і дож не быў,
Здаецца, і гром не грымеў —
Майго мужа пярун забіў,
Маланнёй падпаліла.

## 913




Гарабіна, гарабінушка,
Ты кудравае дзераўца,

Ты кудравае дзераўца,
Раскудравела стоячы.

Ой, малада малодачка
Зажурылася ходзячы,

Зажурылася ходзячы,
За ліхім мужам жывучы,

За ліхім мужам жывучы,
На малойчыкі гледзячы.

— Малада малодачка,
Я табе зелля нараю:

Ты пайдзі ў сад вішнёвенькі
Ды нарві кміну ярага.

Ды нарві кміну ярага,
Нарабі піва п'янага.

Нарабі піва п'янага,
Ды напой мужа ліхога.

Кладзі спаць хоць у караваць,
Апрані хоць пярынаю.

Апрані хоць пярынаю,
Аблажы хоць саломаю.

Аблажы хоць саломаю,
Падпалі хоць лучынкаю.

— Як саломка загарэлася,
То я, млада, зажурылася.

Ой, як выйду я на вулачку,
Як тупну я па-маладзецку.

Як тупну я па-маладзецку,
Як свісну па-кавалерску:

— Вы, суседзі, вы, суседачкі,
Вы спіце, вы не чуеце.

Што ўсю ночку граза была,
Майго мілага страла ўбіла.

Майго мілага страла ўбіла
І маланкаю спаліла,

І маланкаю спаліла,
Дробным дожджыкам спаіла!

## 914



Як пайду я ў шчамяліначку [1]
Да пад самую Хватыначку.
Нашчыплю я хмелю ягаду,
Навару я піва п'янага,
А ўпаю я свайго мужа благога.
А ўпаіўшы, яго спаць палажу,
Вакруг яго саломачкай абкладу,
Удоль яго лучыначку падпяку.
Сама выйду я на крутую гару,
Крыкну-гэйкну на ўсю сваю галаву:
— Ой вы, людзі і суседзі мае,
Ці не чулі праявачку праз мяне:
Пярун паліў, майго мужа забіў,
Малання жагла, майго мужа спякла.
Я ж, молада, салякнулася,
З караватанькі звалілася.

## 915

♪=140

(Э) а-ра-бі-ва, ра-бі-куш-ка,
ку-д(ы)-ра-ва-е дзе-раў-ца,
ой, лю-люш-кі, лю-люш-кі,
ку-д(ы)-ра-ва-е дзе-раў-ца.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Арабіна, рабінушка,
Кудравае дзераўца,
Ой, люлюшкі, люлюшкі,
Кудравае дзераўца.[1]

А загінула, стоячы
Пры маху, пры балоцечку,

Пры маху, пры балоцечку,
Пры торнай дарожачцы.

А малодка маладая
Загінула, жывучы

За худой худачынаю,
За малой дзяцінаю.

Як пайду я к татачку,
К татку на парадачку.

— А ты, татка родненькі,
Парай жа мне радачку,

Як мне з малым мужам жыць,
Як мне яму наравіць.

— А дзіцятка, дзіцятка,
Ідзі ж ты у цёмны лес.

Наламай хмелю ярага,
Напой мужа малага.

Пакладзі сярод двара,
Навярні карыцечкам.

Абгарні саломаю,
Падпалі лучынаю.

А выйдзі на вулачку,
А пляснi ў ладонечкі.

А пляснi ў ладонечкі,
А крыкні ратуначку:

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ой, люлюшкі, люлюшкі».

— А жоначкі, суседачкі,
А ці чулі, ці бачылі?

А ці чулі, ці бачылі,
Што сягоння граза была?

Што сягоння граза была,
Майго мужа гром забіў.

Майго мужа гром забіў,
Малання запаліла.

## 916

— Ах ты, белая, кудравая бяроза,
Як табе не здакучыцца,
За сухім лесам стаячы,
На зялёненькі гледзячы?

— Маладзіца маладая,
Як табе не здакучыцца,
За благім мужам жывучы,
На лепшанькіх гледзячы?

— А жаночкі, лябёдачкі,
А парайце парадачку,
Як благога мужа зжыць,
А харошанькага нажыць?

— Ах, ідзі ж ты ў чыстае поле,
Нашчыпі ж ты хмелю ярога,
Напаі ж ты мужа благога,
Палажы сярод двору спаць.

Аблажы яго саломкаю
І падпалі лучынкаю.
Сама выйдзі на вулачку,
Крыкні-гойкні ратуначку:

— А здаецца ж, і гром не быў,
А майго мужа пярун забіў,
А здаецца, й маланя не была —
Майму мужу бровы пажгла.

## 917

— І ой, парай, мамка, парай, [1]
Як з нялюбым мужам жыць.

— І параю, дзіцятка,
Параю, міленькая:

І завядзі ў цёмны лес,
Палажы пад ёлачкай

І накрый саломачкай,
І накрый саломачкай.

Падпалі лучыначкай
І выйдзі на вулачку,

І выйдзі на вулачку,
Крыкні гвалт-ратуначку:

— І здаецца, і гром не быў,
Мілага пярун забіў

І маланка спаліла,
Мілага запаліла.

## 918

— Да парайце, жоначкі,[2]
Як за п'яніцам жыці?
— Бяры яго за ручаньку,
Вядзі яго ў карчомачку,
Напаі гарэлачкай.
Тады вядзі ў чыста поле,
Пасадзі пад ёлачкай,
Падпалі лучыначкай.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.
[2] Кожны радок паўтараецца два разы.

Сама ідзі ў гуліцу
Да й як крыкні ратуначку:
— А здаецца, й гром не быў,
Майго мужа пярун забіў,
Маланнёю падпаліла.

## МУЖ ПАЗБАУЛЯЕЦЦА АД ЖОНКІ-НЯУДАЛІЦЫ — І

### 919

Не жаніўся я — красата мая,
Ажаніўся я — сухата мая.

Узяў жану, жану малую,
[Жану малую,] свет няўдалую.

Ні біць яе, ні журыць яе,
Дзе мне падзеці яе?

Вазьму яе за праву руку,
Павяду яе у цёмны лес.

[Павяду яе у цёмны лес,]
Прывяжу к горкай асіне.

Там жана адарвалась,
На маю галаву накасалась.

Ні біць яе, ні журыць яе,
Дзе мне падзеці яе?

Вазьму яе за праву руку,
Павяду ў чыста поле.

Прывяжу жану к конскаму хвасту,
Пушчу кося ў чыста поле.

Няхай кося нагарцуецца,
Няхай жонка нагуляецца.

І там жа жонка адарвалась,
На маю галаву накасалась.

Ні біць яе, ні журыць яе,
Дзе мне падзеці яе?

Вазьму жану за праву руку,
Павяду жану к сіняму мору.

Пачаплю жане белы камушак,
Апушчу жану камянём на дно.

І там жана не ўтапілася
Да на маю голаву наявілася.

Ні біць яе, ні журыць яе,
Дзе мне падзеці яе?

Вазьму жану за праву руку,
Павяду жану к крутому берагу.

Пасаджу жану на крутым беразе,
А сам пайду ў Варшаву-горад

За пакупкамі, за трымя вяшчамі:
Перва вешч — новенькі караб,

А другая вешч — вясёлушка,
А трэцяя вешч — грабцы-малайцы.

За караб плачу сто рублей,
За вясёлушку — дваццаць пяць,

За грабцоў-малайцоў — пяцьдзесят.
Пасаджу жану ў новенькі караб.

А караб плывець, аж вада равець,
А грабцы грабуць, як мятлой мятуць.

А жана сядзіць і ўмываецца,
Тонкім рубачкам уціраецца.

А мне, молайцу, наругаецца,
А мне, молайцу, ажно жаль стала:

— Ах, вярніся, караб. к крутому берагу.
— Не варочайся к гэтаму падляцу.

Ужо ж ты, падлец, уж надругаўся нада мной,
Вывадзіў рэкі з маіх жаркіх слёз.

Качаў каменне з маіх белых плеч,
Касіў ты сена з маіх русых кос.

Ламаў трусачкі з маіх белых рук,
Прыкладаў агонь к маяму лічаньку.

— Ой, жана ж мая, няпраўда твая!
Вывадзіў рэкі са мхоў, з балота.

Касіў сена з зеляных лугоў,
Качаў каменне я із крутых гор.

Ламаў трусачкі з белай бярозы,
Прыкладаў агонь к гнілой калодзе.

## 920




Не жаніўся ж я, не жаніўся ж я —
Красата мая.
Ажаніўся я, ажаніўся я —
Сухата мая.
Ах, і ўзяў жану, ах, і ўзяў жану,
Жану малую,
Жану малую, жану малую,
Ўсё няўдалую.
Мне й ні біць жану, мне й ні біць жану,
Ні караць маладу.
Станеш біць жану, станеш біць жану,

Будзець плакаці,
А караць маладу, а карауь маладу,
Станець жаліцца.
Паеду, маладзец, паеду, маладзец,
Я ў ноў гарадзец,
Там куплю, маладзец, там куплю, маладзец,
Маляван чавён.
За чавён плачу, за чавён плачу
А я сто рублёў,
За вясёлачку, за вясёлачку
Ажно тысячу.
Пасаджу жану, пасаджу жану
Ў маляван чавён
І пушчу чавён, і пушчу чавён
На Дунай-раку.
Сам пайду глядзець, сам пайду глядзець,
Як чавён плывець.
А чавён плывець, а чавён плывець,
Як сакол ляціць.
А жана сядзіць, а жана сядзіць,
Як лябёдачка.
А мне, молайцу, а мне, молайцу,
Ўсё зазнобушка.
— Ты вярніся, жана, ты вярніся, жана,
Вярніся, малада.
Хуць не для мяне, хуць не для мяне,
Для дзяцей сваіх.
— Не вярнуся я, не вярнуся я
А ні для цябе,
А ні для цябе, а ні для цябе,
Ні дзяцей сваіх.
Ты умеў з мяне, ты умеў з мяне
Надругаціся,
Ты стругаў стружкі, ты стругаў стружкі
З белых рук маіх,
Віў вяровачкі, віў вяровачкі
З русых кос маіх,
Ты каціў камень, ты каціў камень
Чэраз жывот мой!
— Няпраўда твая, няпраўда твая,
Мая мілая!
Я стругаў стружкі, я стругаў стружкі
З белай бярозкі,

Віў вяровачкі, віў вяровачкі
Із мяккай пяньці,
А каціў камень, а каціў камень
Чэраз дарогу.

## 921




Не жаніўся я, не жаніўся я —
Красата мая.

Ажаніўся я, ажаніўся я —
Сухата мая.

А й узяў жану, а й узяў жану
Не па гонару,

Не па гонару, не па гонару,
Не па 'бычаі.

А й куплю жане, а й куплю жане
Маляван караб,

Маляван караб, маляван караб
Із вясёлачкай.

Пасаджу жану, пасаджу жану
Ў маляван караб.

І пушчу караб, і пушчу караб
На быстру раку.

А й караб плывець, а й караб плывець
Усё й пабрычаець.

А й жана плачыць, а й жана плачыць,
Ўсё й узрыгаець.

А й мужык крычыць, а й мужык крычыць:
— Ай, караб, караб,

Ай, караб, караб, варацісь назад,
Варацісь назад.

А як жана крычыць, а як жана крычыць:
— Не варочайся.

Віў ён вяроўкі, віў ён вяроўкі
З маіх русых кос.

Цясаў ён цёскі, цясаў ён цёскі
З маіх белых плеч.

Пушчаў ён рэкі, пушчаў ён рэкі,
З маіх дробных слёз.

— Няпраўда твая, няпраўда твая,
Ты, жана мая.

Віў я вяроўкі, віў я вяроўкі
З белай пянёчкі.

Цясаў я цёскі, цясаў я цёскі
З белай бярозкі.

Пушчаў я рэкі, пушчаў я рэкі
З зеляна віна.

Няпраўда твая, няпраўда твая,
Ты, жана мая.

## 922



Ажаніў мяне, ажаніў мяне
Судар бацюшка.

Ён узяў мне жану, ён узяў мне жану
Не па 'быччыку майму.

Не па 'быччыку, не па'быччыку,
Не па розуму свайму.

Як пайду ж я, младзец, як пайду, младзец,
У новы горад гуляць.

Як куплю ж я, младзец, як найму, младзец,
Тры сякірушкі вострых.

Як найму я, младзец, як найму я, младзец,
Трох плотнічкаў маладых.

Як зрублю ж я, младзец, як зрублю, младзец,
Я караблюшка навой.

Пасаджу я жану-шэльму, пасаджу я жану-шэльму
Я ў новенькі караб.

Як пушчу ж я караб, як пушчу караб
Я на быструю й раку.

Ах, і сам стану, а я сам стану
На круценькім берагу.

Ох, і я ж гляну, і я гляну
На Волгу й на раку:

А ці хараша, а ці хараша
Мой караб лягко бягіць.

А ці весела, а ці весела
Малада жана сядзіць?

А караб бягіць, а караб бягіць,
Як ясен сакол ляціць.

А грабцы грабуць, а грабцы грабуць,
Песенькі пяюць.

А жана ж сядзіць, а жана ж сядзіць,
Як і хмарны дзень.

А ў яе слёзы, а ў яе слёзы,
Як і сільны дробны дождж.

## 923




Ажаніў айцец малалетняга,[1]
Ой, узяў жану непамыслую,
Непамыслую і неразмыслую.
Ой, пайду жа я у Кітай-горад,
Ой, куплю жа я залатой кораб.
Аддам сто рублей із палцінаю,
Усаджу жану із дзяцінаю.
Ой, пушчу кораб на быстру раку,
Заўтра раненька на рассветачку,
Ой, пайду глядзець, як кораб ідзець.
А кораб ідзець — аж вада равець,
А жана сядзіць, як зара гарыць,
А дзяцінушка, як малінушка.
— Прападзі сто рублей із палцінаю,
Вараціся жана із дзяцінаю.
— Не вярнуся, утаплюся:
Як белым светам — дык тапіць вядзеш,
Як цёмнай ночкай — дык у кравацъ кладзеш;
Як белым светам — дык нагаечка,
Як цёмнай ночкай — дык каханачка.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

924

Ажанілі мяне малалетняга,
Малалетняга, малавумнага.
Да ўзялі жану мне
Не па любові,
Да не белае ж ліцо,
Не чорныя бровы.
Да не ўмее жаці,
Ні жаць, ні вязаці,
Ні жаць, ні вязаці,
Ні слоўца сказаці.
Павязу ж я й жану
На базар прадаваць,
Запрашу за жану
Я тры тысячы —
Не даюць за жану
Тры капеечкі.
Павязу я й жану
Да й назад дадому.
Ды й зраблю жане
Дарагой жа кораб,
Да й найму ж я грабцоў —
Добрых малайцоў.
Да й пушчу я й кораб
Да на сіне мора,
А сам пайду пагляджу,
Як карабель плыве,
Як грабцы грабуць.
А грабцы грабуць,
Як мятлой мятуць,
А карабель плыве —
Аж вална раве,
А жана сядзіць,
Да як роза цвіце.
— Ой, вярніся, жана,
Да назад дадому,
Будзем жыць з табой,
Лучша й прэжняга.
— Не вярнусь я й дамой,
Не вярнусь, мілы мой.

## 925

Жаніўся я, ажаніўся я —
Сухата мая.

Ох, і ўзяў жану, [1]
Жану малую,

Жану малую
Шчэ й няўдалую.

Не ўмее жана
Ні печ, ні варыць,

Ні печ, ні варыць,
З людзьмі гаварыць.

Як пайду, моладзец,
Ды па беражку,

Ой, куплю, моладзец,
Маляваны караб,

Маляваны караб
Шчэ й вясёлушка.

За караб плачу
Дваццаць пяць рублей,

За вясёлушка —
Паўтара рубля.

Ой, найму грабцоў,
Белых малайцоў,

Павязу жонку
На быстру раку,

Пасаджу жану
У маляваны караб.

---

[1] Далей першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А няхай караб
Па мору плывець.

Ой, грабцы грабуць,
Як арлы равуць.

А мне, молайцу,
Стала жаласна.

— Маляваны караб,
Вярніся назад,

Малада жана,
Ідзі-ка к дзецям.

Маляваны караб
Шчэ й не вернецца,

Рацівo сэрца
Не прыгорнецца.

## МУЖ ПАЗБАЎЛЯЕЦЦА АД ЖОНКІ-НЯЎДАЛІЦЫ — II

### 926

Пры дарозе, пры шырокай
Два дубочкі стаяць,
Пры бяседзе, пры вясёлай
Два малойчыкі п'юць.
Яны п'юць, размаўляюць
Аб жаніцьбу сваю.
— Ці ўдалася, ці ўдалася,
Брат, жаніцьба твая?
— Да ўдалася, да ўдалася,
Брат, нялюбая жана!
Да пайду я, маладзец,
У новенькі гарадзец,
Да куплю я, маладзец,
Маляваненькі чаўнец.
Да ўсаджу я, маладзец,
Да нялюбую жану,

Да пушчу я, маладзец,
Да на быструю ваду.
А сам пайду, маладзец,
На высокую гару,
Да гляну я, маладзец,
Да пад ясную зару.
— Ці высока, ці высока,
Ясна зорачка ўзышла,
Ці далёка, ці далёка,
Брат, нялюбая жана?
— Ой, высока, ой, высока,
Ясна зорачка ўзышла,
Ой, далёка, ой, далёка,
Брат, нялюбая жана!
— Ой, вярніся, ой, вярніся,
Хоць нялюбая жана!
— Не вярнуся, не вярнуся,
Ясён добры маладзец!
Лучшу возьмеш за мяне,
Так забудзеш мяне;
Худшу возьмеш за мяне,
Так успомніш мяне,
Хоць не па мне,
Так па дзетках маіх!

## 927

А у лузе пры дарозе
Два дубочкі стаяць,

А пад тымі дубочкамі
Два малойцы сядзяць.

Яны сядзяць, размаўляюць
Пра жаніцьбу сваю:

— Ці ўдалася, ці ўдалася,
Брат, жаніцьба твая?

— Не ўдалася, не ўдалася,
Брат,— нялюбая жана.

Да пайду ж, да пайду ж
У новы гарадзец.

Да куплю ж, да куплю ж
Новы чаланец.

Пасаджу ж, пасаджу ж,
Брат, нялюбую жану.

Да й пушчу ж, да й пушчу ж
На быструю раку,

На быструю раку,
Пад ясную зару.

— Ай, татка, татка,
Дзе наша мамка?

— Да ваша мамка
На рэчку пашла,

Пашла на рэчку
Бялλё паласкаць.

Бягуць дзеткі, скачуць —
Хочуць матку бачыць.

Ай, дума ж мая, дума,
Дума над думою.

Бягуць дзеткі з рэчкі,
Няма мамкі — плачуць.

Ай, дума ж мая, дума,
Дума над думою.

— Ай, татка, татка,
А дзе наша матка?

— Ай, ваша мамка
Па ваду пашла.

Ай, дума ж мая, дума,
Дума над думою.

Ды ўзыйду ж, ды ўзыйду ж
На высокую гару,

Ды й гляну ж, ды й гляну ж
Пад ясную зару.

Ці высока, ці высока
Ясна зорачка ўзышла?

Ці далёка, ці далёка,
Брат, нялюбая жана?

Дума ж мая, дума,
Дума над думою.

Ды вярніся, ды вярніся
Хоць нялюбая жана,

Не для мяне, не для мяне,
А для дзетачак сваіх.

Ой, дума ж мая, дума,
Дума над думою.

Як вярнулася, як вярнулася,
Брат, нялюбая жана.

— Ой, мамка, ой, мамка,
Дзеткі есці хочуць.

## 928

Ой, два дубы, ой, два дубы,
Два зялёныя стаяць,

А два браты, а два браты
Ды на хрэсьбінах сядзяць.

П'юць, гавораць, п'юць, гавораць
Аб жаніцьбачцы сваёй.

— Не ўдалася, не ўдалася,
Брат, жаніцьбачка мая,

Бо ўдалася, бо ўдалася
Горка п'яніца жана.

А пойдзем, брат, а пойдзем, брат,
Мы ў цёмныя бары.

А возьмем, брат, а возьмем, брат,
Мы вострьт тапары.

А ссячом, брат, а ссячом, брат,
Мы горкую асіну.

А зробім, брат, а скуём, брат,
Зробім слаўненькі чаўнок.

А ўложым, брат, а ўложым, брат,
Маю п'яную жану.

А пусцім, брат, а пусцім, брат,
Ды на быструю раку.

Самі глянем, самі глянем
Ды на ясную зару:

Ці далёка, ці высока
Ясна зорачка ўзышла?

Ці далёка, ці далёка
Мая жоначка сплыла?

— А скаціся, а зваліся,
Ясна зорачка, далоў.

А вярніся, а вярніся,
Мая жоначка, дамоў.

— Не скачуся, не звалюся,
Ясна зорачка, далоў.

Не вярнуся, не вярнуся —
Бо я ж п'яніца — дамоў.

## 929




Да ў бяседзе, да ў бяседзе
Два брацеткі сядзелі. [1]

Гаварылі, гаварылі
Пра жаніцьбушку сваю.

— Чы ўдалася, чы ўдалася,
Брат, жаніцьбушка твая?

— Не ўдалася, не ўдалася,
Брат, жаніцьбушка мая.

— Пойдзем, браце, пойдзем, браце,
Мы, дзе добры кавалі.

Зробім, браце, зробім, браце,
Мы вострыя тапары.

Зрубім, браце, зрубім, браце,
Мы грубыя явары.

Зробім, браце, зробім, браце,
Мы плыткія чаўначкі

І пасадзім, і пасадзім
Нялюбыя свае жанкі.

Мы іх пусцім, мы іх пусцім
Да й на быструю ваду.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Самі пойдзем, самі пойдзем
На высокую гару.

Потым глянем, потым глянем
Да на ясную зару.

Ой, ці высока, ці высока
Ясная зоранька ўзышла?

Ой, ці далёка, ой, ці далёка
Нялюбая адплыла?

— Ой, вярніся, ой, вярніся,
Нялюбая жоначка, да мяне:

Плачуць дзеткі, плачуць дзеткі
Маленькія па табе.

— Ой, не вярнуся, ой, не вярнуся,
Мой міленькі, да цябе.

Гадуй дзеткі, гадуй дзеткі
Маленькія без мяне.

## 930







У суседа на бяседзе
Два малойцы сядзяць,

Як сядзяць, так сядзяць,
Пра жаніцьбу гавараць.

— Ці ўдалася, ці ўдалася,
Брат, жаніцьба твая?

— Не ўдалася, не ўдалася,
Брат,— нялюбая жана.

А пайду я ў гарадзец,
Куплю новы чаланец,

Куплю новы чаланец,
Залатое весяльцо.

Пасаджу я ў чаланец,
Брат, нялюбую жану.

— Цы высока, ці высока
Ясна слоненька ўзышло?

Ці далёка, ці далёка,
Брат, нялюбая жана?

— Ой, высока, ой, высока
Ясна слоненька ўзышло,

Ой, далёка, ой, далёка
Нялюбая жана.

— Ой, вярніся, ой, вярніся,
Нялюбая жана,

Не для мяне, малайца,
Хоць для дзетак малых.

— Не вярнуся, не вярнуся,
Нялюбая жана,—

Ні для цябе, маладога,
Ні для дзетак малых.

## 931




Да ў бяседзе, да ў бяседзе
Да два брацці сядзелі,[1]

Гаварылі, гаварылі
Пра жаніцьбачку сваю.

— Ці ўдалася, ці ўдалася,
Брат, жаніцьбачка твая?

— Не ўдалася, не ўдалася,
Брат,— журлівая жана.

Пойдзем, браце, пойдзем, браце,
Мы да добрых кузняцоў.

Мы паробім, мы паробім
Мы плыткія чаўначкі.

Мы пасадзім, мы пасадзім
Нялюбыя жоначкі

І папусцім, і папусцім
На быструю раку.

Самі пойдзем, самі пойдзем
На высокую гару.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Глянем, браце, глянем, браце,
Мы на ясную зару:

Ці высока, ці высока
Ясна зорачка ўзышла?

Ці далёка, ці далёка
Нялюбая проч пашла?

## 932

Як у лузе пры дарозе
Там карчомка стаіць,

А ў той жа у карчомкі
Да два брацеткі сядзіць.

Яны п'юць і гуляюць,
Пра жаніцьбушку гукаюць.

— Ці ўдалася, ці ўдалася,
Брат, жаніцьбушка твая?

— Не ўдалася, не ўдалася,
Брат, жаніцьбушка мая.

Накасалась, навязалась,
Брат, нялюбая жана:

А ні жыць, а ні збыць,
А ні ў людзі пусціць.

Як пайду я, маладзец,
Я ў новы гарадзец

І куплю я, маладзец,
Маляваны чаланец,

Маляваны чаланец,
Пазлачонае вясло,

Пазлачонае вясло,
Штоб у мора унясло.

Як прышоў жа дамоў,
Дзеткі маленькі плачуць,

Яны плачуць, плачуць
Да яны есценькі хочуць.

— Цішаце, дзеці, не плачце,
Маладую матку дам.

— Маладую мамку дасі,
Мы не будзем маткай зваць.

— Як вазьму ж я вас у мех,
Панясу ж я вас у лес.

У нядзельку раненька
Крычыць нехта у бару:

— Хадзіце, дзеці, дадому,
Аднаму нядобра жыць.

— Жыві, татка, як бог даў,
Маладую жонку ўзяў.

— Як пайду ж я к сіняму мору,
Буду жоначку клікаць:

Ай, вярніся ты, вярніся,
Хоць нялюбая жана,

Хоць не радзі мяне,
Радзі дзетак сваіх.

# МУЖ ПАЗБАУЛЯЕЦЦА АД ЖОНКІ-НЯУДАЛІЦЫ — III

## 933




Ні на кога не жаль, як на 'тца сваяго,
Як на 'тца сваяго ж, на радзіцеля.

Ажаніў ён мяне малалетняга,
Малалетняга і малавумнага.

Што ўзяў я жану не па любові,
Што не бела ліцо, не чорныя бровы,

Што ні спекць, ні зварыць, ні з народам гаварыць,
Што ні жыцечка жаць, ні снапочка звязаць.

А як і звяжа снапок, дак развяжацца,
А як і скажа слаўцо — не наравіцца.

— Ой жа, сукін сын, да ты ж сам такі:
Ні грабель зрабіць, ні касы набіць.

Як пайду я, молад, у Кітай-горад,
Закажу карабель за сто дваццаць рублей,

За сто дваццаць рублей шчэ й з палцінаю.
Пасаджу там жану із дзяцінаю.

Што жана сядзіць, як свяча гарыць,
А дзяцінaчка, як жарыначка,
Не яно плача, а воран крача.

## 934

♩=60

Ой, ду- ма ма- я, ду- ма,

ой, ду - ма ма - я, ду - ма,

да звя- ла ма-лой- чы-ка с у- ма (й).

## МУЖ ПАЗБАУЛЯЕЦЦА АД ЖОНКІ-НЯУДАЛІЦЫ — IV

## 935

♩=90

Э, ха-дзіў, блу-дзіў доб-ры мо - ла - дзец

па кру - той га - рэ,




Хадзіў-блудзіў добры моладзец па крутой гарэ,
Завівае ён кудзёрушкі на сваёй буйнай галаве.[1]

Да ужо ж мне надакучыла, завіваючы,
На чужыя, на харошыя заглядаючы.

На чужыя да харошыя, як розавы цвет,
Над мае шэльмы-няўдашачкі ў белым свеце нет.

Як вазьму ж я няўдашачку за праву руку,
Пасаджу да ■ няўдашачку на калясачку.

Да павязу я няўдашачку і к Дунай-рацэ,
Кіну-брошу я няўдашачку у быстру ваду.

—Плыві, плыві ты, няўдашачка, і ўніз галавой,
Застаецца мне калясачка шчэ й конь вараной.

Толькі сесці да паехаці і ■ цесцю на двор.
— Здраствуй, здраствуй ты, мой цесцюхна! — Здароў,
зяцю мой!

— Аддай дачку да й паненачку на нядзелечку,
Надаела, да мой цесцюхна, без няўдашачкі.

Надаела, да мой цесцюхна, без няўдашачкі,
Да ўжо трэцяя нядзелечка без рубашачкі.

— Да бадай жа ты, мой зяцюхна, каб ты не дождаў,
Каб я дачку да паненачку за цябе аддаў.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 936

Хадзіў-блудзіў добры моладца
На крутой гарэ,
Завівае Ваня кудзеркі
На сваёй буйнай галаве.
Ён шчоткаю, грабёнкаю
Прыгладжавае,
На чужыя, на харошыя
Заглядавае.
Надаела, надаскучыла малойчыку
Прыгладжуючы,
На чужых жа на малодачак
Заглядуючысь.
— Што чужыя да малодачкі,
Як розавы цвет,
Пушчэй мае да няўдашачкі
Ва ўсім свеце нет.
Да вазьму я да няўдашачку
За праву руку,
Павяду я да няўдашачку
К рэчцы к Дунаю.
Во там ўкіну я няўдашачку
Ў халодну ваду:
Плыві, плыві, няўдашачка,
Уплыў за вадой,
Не нажыўся мальчышачка
Павек за табой.
Застаецца мне калясачка,
Шчэ конь вараной —
Толькі сесці да паехаці
К свайму цесцю на двор.
— Памагай бо, да мой цесцюхна,
Ці жыў, ці здароў?
— Здароў, зяцю, быў!
— Ох ты, цесць мой, цесцюхна,
Каб ты добры быў,
Аддаў дочку-паненачку да на зменачку
Хоць жа на 'дзін дзень.
— Бадай жа ты, мой зяцюхна,
Таго не даждаў,
Штоб я табе дочкі-паненачкі
На 'дзін дзянёк даў!

Утапіў ты першую маю дочар,
Утапіся сам,
Штоб я цябе, мой зяцюхна,
Цябе не слыхаў!
— От тамака да за рэчачкай
У цымбалы б'юць,
От там маю да няўдашачку
За ручкі вядуць.

## 937

♩ = 80

Гу- ляў, гу - ляў доб - ры мо - ла - дзец
па кру - той га - рэ,
за - ві - ва - е ён ку - дзё - руш - кі
на сва- ёй буй-най га - ла - ве.

Гуляў, гуляў добры моладзец
Па крутой гарэ,
Завівае ён кудзёрушкі
На сваёй буйнай галаве.

— Надаелі мне кудзёрушкі,
Завіваючы,
На чужыя ды харошыя
Заглядаючы.

Як чужыя ды харошыя,
Як розавы цвет,
Над маёй жа да няўдашачкай
У белым свеце нет.

Як вазьму я да няўдашачку
За праву ручку,
Кіну, брошу няўдашачку
У быструю раку.

Плыві, плыві, няўдашачка,
У сваю старану.
Астанецца мне конь і калясачка —
Я сяду й паеду.

Я сяду і паеду
К цешчы на двор.
— Здраствуй, здраствуй, мая цешчухна,
Яшчэ й добры дзень.

Здраствуй, здраствуй, мая цешчухна,
Яшчэ й добры дзень,
Аддай дачку да паненачку
Хоць на адзін дзень.

— А бадай табе, мой зяцюхна,
Бадай не даждаў,
Штоб маю дачку-паненачку
Хоць на дзень узяў.

938

♩=80

Ха- дзіў - блу-дзіў бе - лень- кі ма - лой- чык

па к(ы)- ру - той га - рэ,




Хадзіў-блудзіў беленькі малойчык
Па крутой гарэ,
Завівалісь яго кудзеркі
На буйнай галаве,

На буйнай галаве.
— Эй вы, кудры, кудры русыя,
А надаелі мне,

Да надаелі мне.
Надаелі, надакучылі,
А завіваючы,

А завіваючы,
На чужых жа на красівых
Заглядаючы,

Заглядаючы.
Што чужыя ды красівыя,
А як розаў цвет,

А як розаў цвет.
Пушчы маёй няўдашачкі
У белым свеце нет,

У белым свеце нет.
Як вазьму я няўдашачку
А за праву руку,

А за праву руку
Да ўброшу я няўдашачку
Да ў быстру раку,

Да ў быстру раку.
Плыві, плыві, а няўдашачка,
А ўслед за вадой,

А ўслед за вадой
Асталася мне калясачка
Ашчэ й конь вараной,

Ашчэ й конь вараной.
Толькі сесці да паехаці
А к цешчы на двор,

А к цешчы на двор.
— Здраствуй, здраствуй, мая цешчухна,
Здраствуй, добры дзень,

Здраствуй, добры дзень.
Аддай дачку да паненачку
Хоць на адзін жа дзень,

Хоць на адзін дзень.
Надаела, надакучыла
Без няўдашачкі,

Без няўдашачкі,
А сёмую ды нядзелечку
Без рубашачкі,

Без рубашачкі.
— А бадай жа ты, мой зяцюхна,
Бадай не даждаў,

Бадай не даждаў,
Пакуль дачку да паненачку,
А пакуль дачку ўзяў.

## 939

Andante

Па кру – той га – рэ

хо– дзіць, хо– дзіць праў – да– лы ма – лой – чык,

па кру – той га – рэ.

## 940

Хадзіў, гуляў добры моладзец
Па крутой гарэ,
Завіваў сабе кудзёрушкі
[На] буйнай галаве.

Надаела добру молайцу,
Завіваючы,
На чужых жа на малодачак
Паглядаючы.

Да ўсё чужы да харошыя,
Як рожавы цвет,
Хужэй маёй няўдашачкі,
У белым свеце нет.

Як вазьму я няўдашачку
За белу руку,
Кіну-брошу няўдашачку
У быструю раку.

Плыві, плыві, няўдашачка,
Уніз за вадой,
Асталася да калысачка
Да конь вараной.

Асталася мне калысачка
Да конь вараной,
Не нажыўся, не набыўся я,
Маладзец, з табой.

## 941

Хадзіў-блудзіў бел малойчычак,
Па крутой гары,
Завіваючы кудзёрнушкі
На буйной галаве.

Надаела, надакучыла,
Завіваючы,
На чужыя, на харошыя
Заглядаючы.

— Што чужыя а й харошыя,
Як розавы цвет,
Горшай маёй разняўдашачкі
Ва ўсім свеце нет.

Як вазьму я разняўдашачку
За праву руку,
Кіну-брошу разняўдашачку
У быстру раку.

Плыві-плыві, разняўдашачка,
Услед за вадой,
Асталася мне калясачка
Да й конь вараной.

Толькі сесці да й паехаці
К цёшчухне на двор,
Толькі сесці да й паехаці
К цёшчухне на двор.

— Здраствуй, здраствуй, мая цёшчухна,
А і добры дзень,
Аддай дачку да й паненачку
Хоць на адзін дзень.

— А бадай жа ты, мой зяцюхна,
А ты запрапаў,
Каб жа ты майго дзіцятачка
За сябе узяў.

— Надаела, надакучыла
Без няўдашачкі,
Трыццаць сёмая нядзелечка
Без рубашачкі.

## 942

Хадзіў-блудзіў добры моладзец,
Па крутой гарэ,

Завівае ён кудзёрушкі
На сваёй буйнай галаве.

Да ужо мне надакучыла,
Завіваючы,

На чужыя, на харошыя
Заглядаючы.

Што чужыя да харошыя,
Як розавы цвет,

Над мае шэльмы-няўдашачкі
У белым свеце нет.

Як вазьму ж я няўдашачку
За праву руку,

Пасаджу я няўдашачку
На калясачку

Да павязу я няўдашачку
І к Дунай-рацэ.

Да вазьму ж да я няўдашачку
За праву руку,

Кіну-брошу я няўдашачку
Да ў Дунай-раку.

Плыві-плыві ты, няўдашачка,
І ўніз за вадой,

Застаецца мне калясачка
Шчэ й конь вараной.

Толькі сесці да паехаці
К цесцю ў новы двор.

— Здраствуй, здраствуй ты, мой цесцюхна!
— Здароў, зяцю мой!

— Аддай дачку да й паненачку
На нядзелечку.

Надаела, да мой цесцюхна,
Без няўдашачкі,

Да ўжо трэцяя нядзелечка
Без рубашачкі.

— Да бадай жы ты, мой зяцюхна,
Каб ты не даждаў,

Каб я дачку да паненачку
За цябе аддаў.

### 943

А пахадзіў бел малойчык
Па высокай гарэ,
А распусціў русы власы
Па сваёй галаве,
А выплакаў свае вочы
Па няўдалай жане

Узяў жану няўдалую
За тонкія бокі
І укінуў младу жану
У Дунай глыбокі.
— Плыві, жана няўдалая,
Міжы той вадою,
Я сам знаю, разумею,
Што не жыць з табою.
— Было не сеч, не рубаці
Дубовыя кладкі,
Было мяне не адвазіць
Ад айца, ад маткі.
Было не сеч, не рубаці
Зялёнага дуба,
Было мяне адрачыся,
Як ехалі да шлюбу.
Было не сеч, не рубаці
Ды белай бярозы,
Было мяне не звадзіці,
Калі знаў мой розум.
Было не сеч, не рубаці
Зялёнай ігрушы,
Было мяне не хінуці
Ды да сваёй душы.
Было не сеч, не рубаці
Сухой ляшчыны,
Было мяне не звадзіці —
Маладой дзяўчыны.

## МУЖ ПАЗБАУЛЯЕЦЦА АД ЖОНКІ-НЯУДАЛІЦЫ — V

### 944






Нешчаслівы чалавек, што ў карчомачцы п'е,
А прышоўшы дадомачку, сваю жонку б'е.

— Ой ты, мілая мая, чарнабрывая мая,
Як жа мне цябе не біць, калі не ўмееш рабіць:

Ані прасці, ані ткаць, ані шыці, ані мыці,
Ані шыці, ані мыці, як жа мне з табой тут жыці?

Ой, пашоў жа чалавек на круценькі беражок,
Крыкнуў, гукнуў галаском: «Рыбалоўнічкі мае!

Рыбалоўнічкі мае, усе чатыры вы мае,
Ой, вазьміце няўдалішчу, ой, вазьміце ад мяне!»

Ой, прышоў жа чалавек ды да свае хатачкі,
А знайшоў жа дзетак малых на парозе плачучы:

— Ой, татачка, татачка, а дзе ж наша мамачка,
Ці ўтапіў ты, ці забіў, ці ў ціхі Дунай пусціў?

— Ціха, дзеткі, не плачце, будзе мама другая,
Будзе мама другая, слаўная, маладая.

— Ой, татачка, татачка, мы не хочам другое,
Мы не хочам другое — ні слаўнай, маладое.

Ой, пашоў жа чалавек на круценькі беражок,
Крыкнуў, гукнуў галаском: «Рыбалоўнічкі мае!

Рыбалоўнічкі мае, ўсе чатыры вы мае,
Ой, аддайце няўдалішчу, ой, аддайце для мяне!»

— Ой ты, дурань чалавек, па-дурному гаворыш:
Ужо свае ты няўдалішчы і ў Дунаі не зловіш.

## БАЦЬКА ПАЗБАЎЛЯЕЦЦА АД ДАЧКІ

### 945

Што каліна з малінаю
Розным цветам зацвіла,
А тае пары, тое ўрэмячка
Мяне маці радзіла.

А нарок жа мне татачка
Век у дзевачках быць,
А таго я спужалася —
Хочуць мяне з свету зжыць.
Як паехаў мой татачка
У новенькай гарадок,
А купіў жа мне мой татачка
Маляваненькі чаўнок.
Пасадзіў мяне татачка
У маляваненькі чаўнок
І спусціў мяне татачка
З крутога беражку.
— А плыві, мая дочанька,
Удаль па рэчцы плыві.
Не хадзіла мая мамка
Тры гадочкі ваду браць.
На чацвёрты гадок
Прышла маці па ваду.
— Ці не маё гэта дзіцятка
Удаль па рэчцы плывець?
Ці не маё то мілае
Громкі песенькі пяець?
— А калі б, мая мамачка,
Ды паганае ружжо,
Застраліла б цябе, мамачка,
З гэтага ружжа.

## МУЖ КАРАЕ ЖОНКУ ПА НАМОВЕ МАЦІ

### 946






Ой, з-пад гаю, гаю сівы конь вылятае,
А на том коню да казак выязджае.

Казак выязджае да на скрыпачку грае,
А струна струне да голас падавае.

А струна струне да голас падавае,
А маці сына да свайго навучае:

— Да хіба ж ты, сынку, да нагайкі не маеш,
Што ты сваю жонку да не б'еш, не караеш.

— Ой, маці, маці, да за што ж яе біці,
Калі ж яна ўмее да ўсё жа рабіці.

Ой, із вячора да нагайка лятала,
Ой, а з паўночы да мілая стагнала.

А да белу свету да ў мілае душы нету.
А да белу свету да ў мілае душы нету.

Ой, ляжыць міла, да як стужка, сіненька,
А стаіць мілы, да як хустка, бяленькі.

— Ой, маці, маці, да парадніца ў хаце,
Ты ж парадзіла да як жонку караці.

Ой, уставай, міла, бо кароўкі рыкаюць.
— А напускай, мілы, хай цялятка ўсысаюць.

— Ой, уставай, міла, бо сынок твой плача.
— Да няхай ён плача, да няхай гора знае.

Да няхай ён плача, да няхай гора знае,
Што ён сваю мамку да родну не мае.

— Ой, маці, маці, ты парадніца ў хаце,
Ты ж парадзіла да мне жонку караці,

То й парадзь, маці, дзе кароўкі падзяваці.
— То й вядзі, сынку, на торг прадаваці.

— Ой, маці, маці, будуць швагры сустрачаці,
Будуць сустрачаці да й сястрыцу пытаці.

— То ты скажы, сынку, што пашла каліну ламаці.
— Ой, маці, маці, ты парадніца ў хаце.

Ты ж парадзіла да мне жонку караці,
То й парадзь, маці, дзе мне жонку хаваці.

— Да пахавай, сынку, да ў зялёным садочку,
Да пасадзі, сынку, да чырвону калінку.

А як будзеш, сынку, да другую жонку маці,
То тагды пойдзеш да калінку ламаці.

То тагды пойдзеш да калінку ламаці,
Да будзеш, сынку, першу жонку спамінаці.

## 947



А з-пад гаю конік выбягае, [1]
На тым коню жаўнер выязджае,
Харашэнька на скрыпачку грае,
Струна струне голас падавае.
Маці сына сціха навучае:
— Ці ты, сынку, нагайкі не маеш,
Чаму сынку, жонку не караеш?
— А я маю нагайку ваструю,
Я ўкараю жонку маладую.
А з вячора звінела камора,
А з паўночы пасцель гаварыла,
На світанні мілая няжыва.
— Ах ты, маці, парадніца ў хаце,
Парадзіла, як жонку ўкараці,
Цяпер парадзь, дзе яе схаваці.
— Злажы, сынку, шаўкову сарочку,
Пахавай жа ў вішнёвым садочку.
– Уставай, міла, кароўкі рыкаюць.
— Пускай, мілы, бычкі высысаюць.
— Уставай, міла, каліна ўрадзіла.
— Няхай родзіць, хоць да зямлі гнецца,
Маё сэрца к табе не вярнецца.
— Уставай, міла, дробны дзеткі плачуць.
— Няхай плачуць, зямлю праклінаюць,
Няхай знаюць, што маткі не маюць.
Прыехалі братэ-братуленькі
Да да свае сястры маладзенькі.
— А ты швагру, швагру-швагруленьку,
Дзе ты падзеў сястру маладзеньку?
— У чыстым полі пшанічаньку поле.
Прыехалі браты пад бор зеляненькі,
Ляжыць сястра, як лебедзь бяленькі,
Стаіць швагер, як воран чарненькі.
— А дайце мне скрыпку галасную,
Я заграю долю нешчасную,
А дайце мне да скрыпачку звонку,
Што я забіў, забіў сваю жонку.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.




Там з-пад гаю жаўнер выязджае,
Там з-пад гаю жаўнер выязджае.

Ён, едучы, усё ў скрыпачку грае,
Ён, едучы, усё ў скрыпачку грае.

Струна струне голасу дадае,
Струна струне голасу дадае.

— Ой ты, мацi, парадніца ў хаце,
Парадзь, парадзь, яку жонку брацi.

Ой ты, мацi, парадніца ў хаце,
Парадзiла, яку жонку брацi.

Ой ты, мацi, парадніца ў хаце,
Парадзь тэраз, як жонку карацi.

— Вазьмi, сынку, бізун i нагайку,
Карай жонку з вечара да ранку.

А з паўночы святліца шумела,
А пад рана Марыська самлела.

— Ой ты, мацi, парадніца ў хаце,
Парадзь тэраз, як жонку хавацi.

— Вазьмi, сынку, белую сарочку,
Схавай жонку ў вішнёвым садочку.

# 949




Там з-пад гаю конік вылятае, [1]
Там матуля сына наракае.
— Чаму, сынку, жонкі не караеш?
Мусі, сынку, нагайкі не маеш?
Ой, да й скараў ды й з вечарочка,
Чуць світае — жонка паміраe.
— Ой, матуля, мая парадніца,
Парадзіла, як жонку караці.
Парадзіла, як жонку караці,
Парадзь цяпер, дзе яе схаваці.
— Ідзі, сынку, у вішнёвы садочак,
Схавай жонку у жоўты пясочак.
— Ой, матуля, мая парадніца,
Парадзіла, як жонку схаваці.
Парадзіла, як жонку схаваці,
Парадзь цяпер, як сына гадаваці.
— Ідзі, сынку, у вішнёвы садочак,
Будзі жонку з жоўтага пясочку.
— Устань, жонка, тваё дзіця плача.
— Няхай плача, хоць не перастане,
Няхай знае, што маці не мае.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

**950**




Ой, з-пад гаю конік выбягае,
На коніку Яся выязджае.

На коніку Яся выязджае,
Ён жаласна на скрыпаньку грае.

Ён жаласна на скрыпаньку грае,
Струна струне тонаў дадавае.

Струна струне тонаў дадавае,
Маці сына сціха навучае:

— Чы ты, сынку, нагайкі не маеш,
Чаму сваёй жонкі не караеш?

Вазьмі, сынку, нагайку чарненьку,
Вядзі жонку ў каморку цямненьку.

Узяў сынок нагайку чарненьку,
Павёў жонку ў каморку цямненьку.

І звечара камора звінела,
Апаўночы жонка адубела.

— Маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзіла, як жонку караці.

Парадзіла, як жонку караці,
Цяпер парадзь, дзе яе хаваці.

— Вязі, сынок, у чыстае поле,
Швагром скажаш — пшанічаньку поле.

Або вязі ў вішнёвы садочак,
Схавай жонку ў жоўценькі пясочак.

Павёз сынок сваю мілу жонку,
Схаваў жа ён ў жоўценькі пясочак.

Пасадзіў ён чырвону каліну:
«Буду хадзіць да яе ў гасціну».

— Маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзіла, як жонку хаваці.

Парадзіла, як жонку хаваці,
Цяпер парадзь, як дзеткі гадаваці.

Ідзі, ідзі ў садок пад каліну,
Будзі, будзі сваю жонку мілу.

— Устань, міла, кароўкі рыкаюць.
— Пушчай цялят, няхай высысаюць.

— Устань, міла, свіначкі скрыгочуць.
— Давай есці, няхай не скрыгочуць.

— Устань, міла, малы сынок плача.
— Няхай плача, няхай перастане.

Няхай плача, няхай перастане —
Маё сэрца ад зямлі не ўстане:

Мае вочкі ўжо засыпаныя,
Мае губкі ўжо засмужаныя.

## 951

Там з-пад гаю конік выбягаець,
Там з-пад гаю конік выбягаець.

Там малойчык на скрыпачцы йграець,
Там малойчык на скрыпачцы йграець.

Струна струне голас падаваець,
Маці сына ціха павучаець:

— Чаму, сынку, жаны не ўсцішаеш?
— Наўчы, маці, як жану ўсцішаці.

— А йдзі, сынку, у лес па дубінку,
Лупцуй, сынку, аб жончыну спінку.

Апаўночы свечачкі гарэлі,
Пад дзень белы нежывая стала.

— Учыла, маці, як жонку ўсцішаці,
Цяпер наўчы, як жонку хаваці.

— Запражы, сынку, сівую кабылку,
Вязі, сынку, жонку у магілку.

— Учыла, маці, як жонку хаваці,
Цяпер наўчы, дзе другую браці.

— Запражы, сынку, сівую кабылку,
А едзь, сынку, на Русь, Украінку.

Вазьмі, сынку, жонку, як малінку,
Вазьмі, сынку, пухову пярынку.

— Не хачу я жонку, як малінку,
Не хачу я пухову пярынку.

Пайду лепей старую будзіці:
— Устань, міла, твае дзеткі плачуць.

— Няхай плачуць, хоць не пераплачуць,
Няхай плачуць, што мамкі не ўбачаць.

— Устань, міла, малы сынок будзіць,
Устань, міла, малы сынок будзіць.

— Няхай будзіць, хоць не перабудзіць,
Няхай знаець, што мамкі не будзець.

— Устань, міла, кароўкі рыкаюць.
— Няхай, мілы, бычкі высысаюць.

Як паедзеш валоў прадаваці,
Будуць цябе швагрочкі вітаці.

Будуць яны аба мне пытаці,
А ты будзеш ціхенька стаяці.

## 952

Пайду я, маладая, на вулку гуляці,
А мой мілы будзе дома дзіця калыхаці.
Ой, пайду я, маладая, пад акно слухаці,
Што будзе свякроўка казаці.
— Да ці ты, сынку, нагайкі не маеш,
Ды што ты, сынку, жаны не ўкараеш?
Учора звячора нагайка шумела,
А дванаццатаю жана захварэла,
З белым светам жана расстаецца.
Ой, ляжыць жана, як лебедзь, бяленька,
Ой, стаіць мужу, як вугаль, чарненькі.
— Ой ты, маці, парадніца хаце,
Парадзіла мне, чым жану караці,
Цяпер парадзь, дзе яе схаваці.
— Ідзі, сыночак, у зялёны садочак,
Выкапай, сынок, глыбоку магілу,
Пахавай, сынок, сваю ты мілу,
Пасадзі, сынок, чырвону каліну.
Пойдуць дзеткі ягадкі шчыпаці,
Будуць дзеткі мамку ўспамінаці.
— Ой ты, маці, парадніца хаце,
Парадзіла мне, дзе жану схаваці,
Цяпер парадзь мне, дзе другую ўзяці.
— Едзь, сынку, на Украіну,
Вазьмі ж жану, як маліміну.
— Не хачу я з малінаю жыці,
Пайду ў садок старую будзіці.
— Уставай, міла, дробны дзеці плачуць.
— Няхай жа плачуць, хоць прымаўляюць,
Бо твае дзеткі мамкі не маюць.

953

Ажаніла маці сына маладога
І ўзяла нявестку роду багатога.

А тая нявестка шырока хадзіла,
І яе свякроўка да й незнавідзела.

І яе свякроўка да й незнавідзела,
Пашла да суседа яе асудзіла.

— Ой ты, сынку, сынку, вазьмі ты нагайку
І скатуй мілую на чорную галку.

У нядзелю рана нагайку куповаў,
У панядзелак рана мілую катоваў.

У аўторак рана камора звінела,
А ў сераду рана пасцель гаварыла,

Пасцель гаварыла, што міла няжыва.
— Ой ты, маці, маці, парадніца ў хаце!

Парадзіла маці, як мілу караці,
Парадзь жа мне, маці, што роду сказаці.

— Ой, ты скажаш, сынку, багатаму роду,
Што ішла міла да броду па воду,

Што ішла міла да броду па воду
І знайшла сабе яна хуткую хваробу.

— Парадзіла, маці, што роду сказаці,
Парадзь жа мне, маці, дзе мілу схаваці.

— Ты вазьмі, мой сынку, запражы кабылку
І завязі мілу ў поле у далінку.

— Каб жа ты, матка, таго не дождала,
Каб мая міла у даліне ляжала.

## 954

Дзякуй богу, што мужык добры:[1]
Сем гадочкаў жонкі не караець.
Стала маці сына навучаці:
— Ці ты, сынку, карачкі не знаеш?
— Да я, мамка, карачку знаю,
Сярод ночкі жонку закараю...
Матулечка, парадніца мая,
Парадзіла жонку забіці,
Парай, дзе яе схаваці.
— Схавай, сынку, у вішнёвым садочку,
Жонка прыдзець к табе на ранaчку.
Ждаў я ночку, ждаў другую,
Не прыходзіць жонка на ранaчку.
Пайду я ў садочак, паклікаючы,
Сваю мілую пабуджаючы.
— Устань, міла, устань, люба,
Цяляткі рыкаюць.
— Няхай рыкаюць, аж паздыхаюць,
Няхай знаюць, што гаспадынечкі не маюць.
— Устань, міла, устань, люба,
Твае дзеткі плачуць.
— Няхай плачуць, аж пауміраюць,
Няхай знаюць, што мамкі не маюць.
Гані, мілы, цялятак ў аржышча,
Спраўляй, мілы, із другой ігрышча,
А малых дзетак пааддавай служыці,
Нячым яны будуць мачасе гадзіці.

## 955

А на гарэ дубок зеляненькі,
Пад гарою чырвона каліна,[2]
Пад калінай красная дзяўчына.
А ўдоўчын сын распіўся, разгуляўся,
Сарваў, стаптаў чырвону каліну,
Ён празмусціў красную дзяўчыну.
Марусенька-ўдоўка пышна была,

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.
[2] Далей кожны радок паўтараецца два разы.

Узяла свайго сына ажаніла,
Ажаніўшы, нявестку судзіла.
— А ты ж, маці, парадніца ў хаце,
Парадзь, маці, як жану скараці.
— Ой, едзь, сынок, на таржок, на места,
Купі, сынок, драцяныя гужы,
А йшчэ к таму драцяну нагайку,
Скруці шэльме ручачкі і ножкі.
Са вячора камора шумела,
Са паўночы нагайка звінела,
К белу свету жана акалела
— Ох ты ж, маці, парадніца ў хаце,
Параіла, як жану скараці,
Цяпер парай, як жану схавацї.
— Падымі, сынку, ў каморы масніцу,
Схавай, сынку, чужое дзіцяце.
А па мілай тры папы чытаюць,
А мілага тры пукі чакаюць.
А па мілай усе званы звоняць,
А мілому кандалы гатуюць.

## 956

Маці сына ажаніла,
Нявестухі ўзяла не ўзлюбіла. [1]

— Ох ты, Ясю, Ясю-Ясюленьку,
Вазьмі карай жонку Ганулeньку.

— Ох ты, маці, парадніца ў хаце,
Парадзь жа мне, як жонку караці.

— Вазьмі, Ясю, дубінку гострую —
Карай, карай жонку маладую.

Із вячора камора звінела,
Із паўночы пасцель гаварыла:

[1] Другі радок кожнай двухрадковай страфы паўтараецца два разы.

— Як ты знойдзеш на ліцо пякнейшу,
То не знойдзеш на слаўцо вярнейшу.

Із вячора камора звінела,
Із паўночы пасцель гаварыла,
Світаючы — Ганула няжыва.

— Ох ты, маці, парадніца ў хаце,
Парадзіла, як жонку караці,
Парадзь цяпер, дзе яе схаваці.

— Вязі, сынку, ў чыста поле,
Няхай яна лянок белы поле,
Хай дадому не прыдзе ніколі.

— Ох, пайду ж я на торг таргаваці,
Швагры знаюць, то будуць пытаці:

— Ох ты, швагру, швагру-швагруленьку,
Дзе падзеў ты сястру Гануленьку?

Ці ты яе у карчомцы прапіў,
Ці ты яе у Дунаю ўтапіў?

— Й а ні яе у карчомцы прапіў,
Й а ні яе у Дунаю ўтапіў.

Завёз яе у чыстае поле,
Няхай яна лянок белы поле,
Хай дадому не прыдзе ніколі.

## 957



Няма міру ўдавінаму сыну: [1]
Як дзень, так ноч з карчмы не выходзіць.
У карчму йдзець, як мак зацвітаець,
А з карчмы йдзець, як мак аблятаець.
Прыдзець двору — сям'ю разганяець.
Не так сям'ю — жану маладую.
К таму маці больш прызмушчаець:
— Вазьмі, сынку, раменныя вожкі,
Звяжы жонцы і ручкі і ножкі.
Са вячора камора скрыпела,
Са паўночы нагайка шумела,
А к беламу свету — ў жаны душы нету.
Пашла маці нявестку гукаці:
Спіць нявестка, як сіня папера,
А стаіць сынку, як ліпіна бела.
— Умела, маці, мяне прызмушчаці,
Умей жа, маці, мяне выручаці.
— Пойдзем, сынку, да самога пана!
— Судзі, пане, судзі суд па праўдзе.
— Тваю жану трэба пахаваці,
Дзяцей тваіх ды скарбу пабраці,
Цябе, шэльму, ў салдацікі 'ддаці,
Тваю маці к каню прывязаці,
Пусціць каня ў поле растаскаці.

## 958




[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## 959




Да няма міру да ўдавінаму сыну,[1]
Б'е, карае ён чужую дзяціну.
Із паўночы да камора грымела,
Да пад пеўні нагайка кіпела,
А пад вутра жана мужа прасіла:
— Да не бі мяне, размілюсенькі Гор'я,
Да не марай маю да пасцелечку кроўю.
Да к беламу свету дак мілай душы нету.
Да ляжыць міла, як бумажачка сіня,
Да стаіць міленькі, як бярозачка бела.
Да прышла маці да нявехну будзіці:
— Да ўставай, нявехна, да каровак даіці.
— Да не будзі, маці, да чужое дзіцяці,
Да было, маці, да сваё навучаці.
— Да запрагай, сынку, сівую кабылку,
Да вязі, сынку, жонку на Украінку.
— Да запрагай, маці, сівых валоў пару,
Да йдзі, маці, к пану на параду.
— Парай, пану, як мне веку дажыці?
— Цябе, шэльма, у кандалы скаваці,
Тваю маці ў полі расстраляці,
А маладую малодку нада пахаваці.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## 960

Ой, з вечара камора звінела,
А з паўночы жонка захварэла.

Захварэла, як вугаль чарненькі,
Ходзіць мілы, як лебедзь, бяленькі

— Маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзіла, як жонку забіці,

Парадзіла, як жонку забіці,
Цяпер парадзь, дзе яе схаваці.

— Пайдзі, сынку, у вішнёвы садочак
Да выкапай глыбоку магілу.

Да выкапай глыбоку магілу.
Ды й пахавай жонку чарнабрыву.

Ды й пахавай жонку чарнабрыву,
Ды й пасадзі чырвону каліну.

Няхай расце, аж да зямлі гнецца,
Твая жонка к табе не вярнецца.

## 961







Ай, у садзе явар сукі ломіць, [1]
Маці сына на парадак горніць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

— Ты, матулька, парадніца ў хаце,
Парадзь жа мне, як жонку скараці.
— Вазьмі, сынку, раменну нагайку,
А збі жонку з вячэры да ранку.
А з вячора камора шумела,
А з паўночы нагайка звінела.
Напроць слонца прамовіла слоўца:
— Не бі, мілы, па галоўцы больна.
— Ты, матулька, парадніца ў хаце,
Парай жа ж мне, як яе збуджаці.
— Ідзі, сынку, на яе магілку.
— Устань, міла, калінка зацвіла,
Устань, міла, твой сыночак плачыць.
— Няхай плачыць, хоць не перастанець,
Няхай знаець, што мамкі не маець.

## 962

Ой, у печы да дровы палаюць,
Маці з сынам размаўляе:
— Ці ты, сынку, нагайкі не маеш,
Чаму свае жонкі не караеш?
Учора з вячора камора звінела,
А з поўначы свечанька гарэла,
Да белага свету мілая ўчарнела.
Да ляжыць міла, як вугаль, чарненька,
Да стаіць мілы, як лебедзь, бяленькі:
— Да ой, маці, парадніца ў хаце,
Дарадзіла, маці, як жонку караці,
Парадзь цяпер, маці, дзе яе пахаваці?
— Пахавай, сынку, у вішнёвым садочку,
Паставім, сынку, чырвону каліну.
Да будуць дзеткі каліну ламаці,
Будуць сваю матку штодзень успамінаці.
— Уставай, міла, кароўкі рыкаюць!
— Пушчайце цялятка, няхай высысаюць!
— Уставай, міла, сын маленькі плача.
— Няхай плача, няхай прыплакае,
Няхай тое знае, што маткі не мае.

## 963

Andante

А пад га – ем, га – ем зе – ля – нень – кім

вы – ля – та – е сіў конь ва – ра – нень – кі,

вы – ля – та – е сіў конь ва – ра – нень – кі.

А пад гаем, гаем зеляненькім
Вылятае сіў конь вараненькі. [1]

На том каню жаўнер маладзенькі,
Ох, ён сабе на скрыпачцы грае.

Струна струне голас падавае,
Там маці сціха сына намаўляе:

— Чы ты, сынку, нагайкі не маеш,
Чом ты жонкі нігды не караеш?

А з вячора камора звінела,
Аб поўначы пасцель гаварыла.

Перад светам мілая сканала,
[Перад светам мілая сканала.]

Ляжыць міла, як лебедзь бяленькі,
Сядзіць мілы, як воран чарненькі:

— Ой, маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзіла, як жонку скараці.

[Парадзіла, як жонку скараці,]
Парадзь жа, як яе пахаваці?

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Злажы, сынку, шаўкову сарочку,
Пахаваеш ў вішнёвым садочку.

Там насыплеш высоку магілу
І пасадзіш чырвону каліну.

Калі пойдзеш каліну ламаці,
Будзеш сваю мілу паклікаці:

— Ой, ўстань, міла, малы сынок плача,
Малы сынок плача, цыцкі хоча.

— Няхай плача, слязьмі заліваецца,
[Няхай плача, слязьмі заліваецца.]

— А ўстань, міла, кароўкі рыкаюць!
— Пушчай бычкі, няхай высысаюць!

964

Ой, стаіць вярба да й карчыстая,
Мая свякроў наравістая.
Пакуль яе пераведала,
Ні раз, ні два не абедала.
Ой, наварыла да вячэранькі,
Мая свякроў не вячэрала;
Ой, паслала да й пасцеленьку,
Мая свякроў не спала.
Цэлу ночку пад акном стаяла,
Свайго сына ўсё намаўляла:
— Вазьмі, сынку, драцяну нагайку,
Спішы ёй цяльцо на чорну галку.
Да поўначы пасцель гаварыла,
Да поўначы камора звінела,
Перад светам міла удубела.
— Ой ты, маці, парадніца ў хаце,
Парадзіла, як жонку скараці,
Парадзь цяпер, дзе яе схаваці?
Уставай, міла, кароўкі рыкаюць!
Уставай, міла, авечкі блеюць!
Уставай, сынок плача, цыцкі хоча!

Уставай, міла, каліна зрадзіла!
— Няхай родзіць, хоць да зямлі гнецца,
Сэрца маё да це не вярнецца.

## 965

Andante

Ой, у по – лі я – вар зе – ля – нень – кі,
пад я – ва – рам — жаў – нер ма – ла – дзень – кі.

Ой, у полі явар зеляненькі,
Пад яварам — жаўнер маладзенькі.

[Пад яварам — жаўнер маладзенькі,]
Пад жаўнерам конь вараненькі.

Сядзіць жаўнер, на скрыпаньцы грае,
А струна струне жалю задавае.

А там струна струне голас падавае,
А там маці сваго сына да й так навучае:

— Ой, чаму, сынку, нагайкі не маеш?
Ой, чаму, сынку, жонкі не караеш?

— Ой, маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзь жа мне, маці, як жонку караці?

— Ой, вазьмі, сынку, драцяну нагайку
Да карай жонку з вячора да ранку.

Скора мілая волікі прыгнала,
Не ўвайшла да хаты, пад акном стаяла.

Ажно свякроўка вячэраньку варыць,
Ажно свякратка дубінаньку парыць,

А яе міленькі дзяціну калыша,
Дзяціну калыша, дробны лісты піша.

Ох, і з вячора камора звінела,
А ўжо з поўначы і жонка няжыва.

— Ой, маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзь жа мне, маці, дзе жонку схаваці?

— Запражы, сынку, сівую кабылку
Да завязі жонку ў чыстае поле:

Думацімуць людзі, што пшаніцу поле.
А ў нядзелю рана чуць сонелька ўсходзіць,

А ўжо мой міленькі па рыначку ходзіць,
Па рыначку ходзіць, па рыначку ходзіць,

Сівую кабылку за сабою водзіць.
— Ой, ўстань, мая міла, бо дзяціна плача!

— Ой, няхай плача і не перастае,
Няхай тое знае, што маткі не мае.

## 966

Ой, у полі стаіць дуб зеляненькі,
Пад тым дубам стаіць конь вараненькі,
На тым коню сядзіць жаўнер маладзенькі,
Да й на скрыпачку йграе.
Да й маці свайго сына навучае:
— Ой, чаму, сынку, сваёй жонкі не караеш,
Ой, ці ты, сынку, да нагайкі не маеш?
Учыніў сынку, учыніў маткі волю
Да й павёў жонку у цёмну камору.
З вячора каморка звінела,
З паўночы нагайка шумела,
Як на дзень жонка мужа прасіла:

— Да не бі, мужу, да не бі да так больна,
Не рабі, мужу, да падушачку ва кроў.
Назаўтра рана пашла свякроўка будзіці:
— Устань, шэльма, да работу рабіці,
Устань, шэльма, да кароўку даіці.
Яна ляжыць, як асіна, сіня,
А ён стаіць, як папер, белы.
— Ой, дарадзіла, маці, як мне жонку караці,
Ой, радзі, маці, як мне яе пахаваці.
— Я дараджу свайму сынку:
Да й закладай да сіву кабылку,
Да й уцякай на Русь, на Краінку.
— Няльзя, маці, мне уцякаці,
Відно мне, маладому, тут прападаці.
А назаўтра рана я пайду да пана:
— Ой, дарадзь мне, пане, да парадзь,
Ой, забіў жонку, з кім я жыць буду?
— Ой, я дараджу — параджу:
Цябе маладога ў ракруты аддаці,
А тваю маці ў чыстым полі расстраляці,
А сіроткі да двара забраці.
Па ёй, маладой, ўсе званы зазвінелі,
А на стару [маці] ўсе крукі наляцелі.

## 967

Ці не бог даў, у каго многа сыноў:
Сярод поля мамку пераймаюць,
Пераняўшы, пад ручаньку бяруць,
А ўзяўшы, да хатачкі вядуць,
Прывёўшы, на крэсельца садзяць,
Пасадзіўшы, вячэраць падносяць,
Павячэраўшы, пасцеленьку сцелюць,
Паслаўшы, ножанькі разуваюць,
Разуўшы, спатанькі ўкладаюць,
Палажыўшы, мамку накрываюць,
А накрыўшы, мамку пытаюць:
— Ці мяканька пасцель наша, мамка?
— Мяккусенька пасцель ваша, сынку,
Толькі не мяккі вашай жаны словы.

Ідзі, сынок, у клець,
Вазьмі са сценкі раменную плець,
Вазьміся, сынок, жонку навучаці.
— Ды узяў я раменную плётку,
Ды ўзяў жа я жонку навучаці.
Ай, дзякуй богу за маю натуру,
Што я сваёй жаны не калечыў,
Толькі сваю матухну пацешыў.

## 968

♩=75

Як па са – дзі – ку, па зя – лё – нень – кам
куст бар – ві – на – чак па – слаў – ся,
а ўда – ві – нін сын за ўла – на – мі па–гнаў – ся.

Як па садзіку, па зялёненькам куст барвіначак паслаўся,
А ўдавінін сын за ўланамі пагнаўся.

Што няма ўпыну удавінінаму сыну,
Што ссушыў, скрушыў да чужую дзяціну.

Што са вечара ды каморачка скрыпела,
А пад белы свет жана мужа прасіла:

— А ты міленькі, сізакрыленькі орля,
Што не бі мяне а ў галовачку больна,

Не марай мае бел пасцелечкі кроўю.
А пад белы свет прышла маці пабуджаці.

— А цяпер, маці, учыніў тваю волю:
Забіў жоначку, а сам пайду пад няволю.

— Запрагай, сынку, пару валоў серых
Да язджай, сынку, к свайму пану на расправу.

— Не пайду, маці, к пану на расправу,
А паеду, маці, з казакамі ваяваці.

## 969




Ой, на моры ціхая пагода,[1]
А на лета да йшчэ цішэй будзе.
Ой, паехаў міленькі ў дарогу
Ды й пакінуў жонку нездарову.
Прыязджае мілы із дарогі,
Сустракае мілу каля тыну:
— Чыя ў цябе на руках дзяціна?
— Была ў мяне цыганачка ў ранцы,
Пакінула дзяціну на лаўцы.
— Брэшаш, міла, брэшаш, чарнабрыва,
Не такая цыганска дзяціна:
Цыганская — чорна, кучарава,
А руская — бела да й бялява.
— Маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзь, мамка, як жонку караці.
— Вазьмі, сынку, валасяны вужкі,
Звяжы жонцы белы ручкі, ножкі.
Вазьмі, сынку, драцяну нагайку
Ды й бі жонку з вечара да ранку.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Ой, з вечара камора грымела,
А з паўночы галава зляцела.
— Маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзь, маці, як жонку схаваці.
Я аддаў бы карову з цяляткам,
Ой, каб устала жонка із дзіцяткам.

## 970

♩=45

Я _ к(ы) па - е - хаў
мі - ле - н(і)-кі ў да - ро - гу,
да й па - кі - нуў
жа - ну не - зда - ро - ву.

Як паехаў міленькі ў дарогу,
Да й пакінуў жану нездарову.

Ды прыехаў міленькі з дарогі,
Скланілася міла да нізенька ў ногі.

— Ой, мілая, міла, што ж то за прычына,
Што ў цябе на ручках ды малая й дзяціна?

— Я ж не вінна, вінна твая маці,
Ой, што пускала на вячоркі гуляці.

— Ой ты, маці, ты парадніца ў хаце,
Ды парадзі жа мне, як жонку караці.

— Вазьмі, сынку, ды араменныя вожкі,
Ды звяжы жонцы белы ручкі-ножкі.

Ўжо звячора ды камора звінела,
А й к беламу свету жонка й акалела.

— Ой ты, сынку, ды ці так верна любіш,
Сонца ўзышло, ты ж яе не будзіш.

— Ой ты, маці, ты парадніца ў хаце,
Ды парадзі жа мне, як жонку схавацi.

— Вазьмі, сынку, ды ўкапаеш яму,
Ды ўкінь жонку, як рыбінку вялу.

— Да бадай, маці, да таго не даждала,
Каб мая жонка, як рыба, ляжала.

Лучшай буду у турме прападаці,
А сваю жонку па закону хаваці.

## МУЖ ГУБІЦЬ ЖОНКУ ПА НАМОВЕ КАХАНКІ

### 971

Ох ты, дзеўка, дзеўка красная,
Доля твая няшчасная.
Нашто прыгожа радзілася,
Лепша маёй маладой жаны?
Як пайду я ў новы гарадочак,
Як куплю я салодкага мёду,
Налью чару сабе і жане.
Злота чарачка увагнулася,
А яе сэрца улякнулася.
Жана таго дагадалася,
У дзевачак запыталася:
— Чы піць чару, чы не піць мне яе?
Піўшы чару, да жывой мне не быць!
Не піўшы чару, дык мілага ўгнявіць.
З вечара разгаласілася,
З паўночы разбалелася,
А белым светам — душы нету.

Кала абеду хараніць вязуць.
Красна дзеўка, ў вакошка глядзя, усміхалася.
Людзі таму дагадаліся,
Што яны даўно спадабаліся.
Людзі таму падзівіліся,
Што яны даўно палюбіліся.

## 972

Ах ты, вуліца шырокая,
Трава-мурава зялёная!
Ах ты, дзеўка, дзеўка красная,
Усё палучча ды жаны мае.
Як пайду я ды на рыначак.
Як пайду я ды на рыначак,
Вазьму вінца паўтара гарца,
Вазьму вінца паўтара гарца.
Вазьму чару пазлачаную,
Вазьму чару пазлачаную.
Налью чару — то я сам вып'ю,
А другую — то жане сваёй,
А другую — то жане сваёй.
Жана-шэльма дагадалася,
У суседачак папыталася:
— Суседачкі, вы лябёдачкі мае,
А парайце мне параданьку,
Як роднаму дзіцятаньку:
А ці піць чару, ці вон выліць?
Выпіўшы мне чару — на свеце не жыць,
Разбіўшы чару — мне бітай быць.
Падыму чару павыша сябе,
Кіну чару аб сыру зямлю,
Ой, у жоўты пясок.
Сыра зямля зрыганулася,
Я ж молада улякнулася:
Са вячора разбалелася,
Са паўночы разгарэлася,
Белым светам богу душу аддала.
Ай, у цэркві ўсе званочкі звіняць,
Марусеньку хараніці вязуць.

Красна дзеўка-шэльма і ў вакошка глядзіць,
Ай, глядзіць, глядзіць, насміхаецца,
Маладому малойчыку наругаецца:
— Забіў жану за мяне, маладу,
А цяпер я за цябе не пайду.
Цяпер табе не жаніціся,
Як сабаку валачыціся.

## 973

Allegretto

Ў ад- ным ба - ку сон - ца ўсхо - дзіць,
а ў дру - гім — за - хо - дзіць, а мой
мі - лы да дзяў - чы - ны кож - ны ве - чар хо - дзіць.

Ў адным баку сонца ўсходзіць,
А ў другім — заходзіць,
А мой мілы да дзяўчыны
Кожны вечар ходзіць.

Ой, звяжу я галаваньку
Беленькім платочкам,
Накажу я да матулі
Сівым галубочкам.

Баліць мая галаванька,
Ды нечым звязаці.
Паляцеў той галубочак,
Нет кім наказаці.

Ішла маці дарогаю,
Глянула ў акенца —
Ляжыць дачка пабітая,
Накрыта радзенцам.

Увайшла ў сені, ўвайшла ў хату,
Усплясиула рукамі:
— Ой, што ж гэта, мае дзеткі,
Ды сталася з вамі!

За што, зяцю, жонку біці,
За што забіваці,
Есць у яе айцец, маці —
Дык трэба забраці.

## 974


















Спараненьку сонца ўсходзіць,
А позна заходзіць,
Ажаніўся казачэнька —
Да дзяўчыны ходзіць.[1]

— Калі ходзіш, верна любіш,
Зарэж сваю жонку.
Калі ходзіш, верна любіш,
Зарэж сваю жонку.

А як стаў жа казачэнька
Да ножык тачыці,
Яго жонка-галубачка
Пачала прасіці:

— Ай, казача, казачэнька,
Дай мне час, гадзіну,
А я сяду падгадую
Малую дзяціну.

— Тады будзеш, мая міла,
Дзіця гадаваці,
Як я пайду на рэчаньку
Ножык паласкаці.

— Ай, суседзі, добры людзі,
Накажыце маме,
Няхай яна ка мне прыдзе
Не позна — із рання.

І ў нядзельку спараненьку
Прыйшла яе маці,
Яе дочка-дачушачка
На сонцы пячэцца.

Яе дочка-дачушачка
На сонцы пячэцца,
А дзіцятка ў калыбелі,
Як рыбіна, б'ецца.

---

[1] Апошняе двухрадкоўе кожнай страфы паўтараецца.

— Ай, дачушка, дачушачка,
Што ты нарабіла,
А дзіцятка сваё міла
Навек сіраціла.

— А не я жа сіраціла,
Сірацілі людзі!
Сіраціла та дзяўчына,
Што жанатых любіць.

## 975




Цяжка, цяжка на сэрцы мне,
Як вечар находзіць,
Што мой мілы штовечара
Да другой ходзіць.

Няхай ходзіць, няхай ходзіць,
Бо ён яе любіць,
Яна ж яму, маладая,
Дружынаю будзець.

Дружынаю, дружынаю,
Вернаю жаною.
— Заражж. мілы, перву жонку,
Буду з табой жыць.

Прышоў мілы з вечарыны
І стаў нож астрыці,
Жана ў яго пытаецца:
— Што будзеш рабіць?

— Не пытайся, жана мая,
Што буду рабіці,
Паследнюю мінутачку
Мне з табою жыць.

— Не рэж мяне, мой міленькі,
Дай пажыць мінутку,
Да дай жа мне падгадаваць
Малую Анютку.

— Тады будзеш Анютачку
Будзеш гадаваці,
Як панясу да Дуная
Ножык паласкаць.

— Суседзейкі мае мілы,
Накажыце маме,
Няхай, няхай прыдзе маці
Дачку пахаваць.

Ідзе маці вуліцаю
І ручкі ламае,
Ўчора дачка ў гасцях была,
Сёння нежывая.

## 976

Прышоў Раман на вячоркі:
— Добры вечар, дзеўка.
Яна яму адказала:
— Зарэж сваю жонку

Прышоў Раман да й дадому,
Стаў нажа вастрыці,
Яго міла дагадалася
Да й стала прасіці:

— Ой, пастой жа, Раманушка,
На час, на гадзіну,
Ножа астрыш, мабыць, мяне,
Зарэзаці хочаш?

Пастой жа, Раманушка,
Хаця час, гадзіну,
Да пакуль я пагадую
Маладу дзяціну.

— Тагды будзеш, мая мілка,
Дзіця гадаваці,
Як я пайду край Дунаю
Нажа абмываці.

— Ой, суседзі, добры людзі,
Дайце матцы знаці,
Няхай ідзе сваю дочку
На смерць наражаці.

Бяжыць, бяжыць стара маці,
З страху амлявае,
Сядзіць Раман край Дунаю
Ножа абмывае.

Ой, дачушку-адзініцу
На смерць нарадзілі,
А ўжо зяця-разбойнічка
У ляску забілі.

Ой, па дочцы-адзініцы
Айцец-маці плача,
А па зяцю-разбойніку
Чорны воран крача.

## 977

Ды забіў Раман жану сваю
У шчырым бару качарэжкаю, пад алешкаю,
Пахаваў жану ў шчырым бару, у жоўтым пяску.
— Ты наш татачка, ты наш родненькі,

А дзе ж падзеў нашу маманьку?
— Ціху, дзетачкі, ціху, міленькі,
Ваша маманька ў грыбы пайшла.
Ды пайшлі дзеткі туды скачучы,
А ідуць дзеткі адтуль плачучы.
— Ты наш татачка, ты наш родненькі,
А дзе ж ты падзеў нашу маманьку?
— Ціху, дзетачкі, ціху, маленькі,
Ваша мамка ў ягадкі пайшла.
Ды пайшлі дзеткі туды скачучы,
Ды ідуць дзеткі адтуль плачучы.
— Ты наш татачка, ты наш родненькі,
А дзе ж ты падзеў нашу маманьку?
— Ціху, дзетачкі, ціху, маленькі,
Ваша мамачка ў шчырым бару, у жоўтым пяску.
Ды пашлі дзеткі туды плачучы,
Ды ідуць дзеткі адтуль плачучы.
— Ціху, дзетачкі, ціху, родненькія,
Пастаўлю хатку навюсеньку
Ды вазьму мамку маладзюсеньку.
— Ты наш татачка, ты наш родненькі,
Ды згары хатка навюсенька,
Ды прападзі мамка маладзюсенька.

## 978

Узышла зара да й звячора,
А месяц спазніўся,
Ішоў Якім да ўдовушкі.
Сусед падзівіўся.

Падыходзіць пад акенца:
— Добры вечар, сэрца!
А яна яму адказала:
— Забі жонку першу.

— Зашчо, зашчо, удовушка,
Маю жонку біці,
Мая жонка маладая,
Будзе мяне прасіці.

— Не здавайся, Якімушка,
На жончыну просьбу,
Вымі гостры меч
Да й зрубай галоўку з плеч.

— Ты ж параджала, удовушка,
Як жонку забіці,
А цяпер парадзь,
Дзе яе падзеці.

— Заткні комін, запалі ў печы,
То скажуць, што згарэла,
А выведзь яе ў чыста поле,
То скажуць, што здурэла.

Павёў жонку ў чыста поле,
А за ім дробненькі дзеткі,
Як сізыя сакалочкі,
Да як сакалочкі.

Прыходзяць суседкі
Да пытаюць дзетак:
— Ой вы, дзеткі маленькія,
Дзе ж вашая маці?

— Пайшла наша стара маці
У луг па каліну
І бажылася, прысягалася,
Што «навек пакіну».

Скача, скача верабейка
Да па высокім плоце,
Вядуць, вядуць Якімушку
У жалезным пуце.

— Ой, пастойце ж, паны-браці,
Я вады нап'юся,
Яшчэ ж я маладзенькі
Розуму набяруся.

Прыляцела зязюленька
Ды на калючу грушу,
Застаюцца мае дробны дзеткі
На ўдавіную душу.

## 979




Ой, як цяжка, ой, як важка,
Ўжо вечар находзіць,
Ой, што жанаты да дзяўчыны
Штовячора ходзіць.

Няхай ходзіць, няхай ходзіць,
Бо ён яе любіць,
Бо ён яе, маладую,
Із света от згубіць.

Ой, прыходзіць да дзяўчыны
Да й стаў гаварыці:
— Ой, як зарэжу сваю жонку,
З табой буду жыці.

Ох, прыходзіць ён дадому,
Стаў нажа вастрыці,
Яго жонка дагадалася
Да й стала прасіці:

— Не рэж, мілы, не рэж, мілы,
Пастой хоць гадзінку,
Пакуль жа я падгадую
Малую дзяцінку.

— Тады будзеш, мая міла,
Дзіця гадаваці,
Як я пайду да Дунаю
Нажа паласкаці.

Суседачкі, добры людзі,
Далі цешчы знаці,
Прышла цешча, прышла цешча,
Стала на парозе.

Ляжыць дочка зарэзана,
Льюцца дробны слёзы,
Ляжыць дочка зарэзана,
Льюцца дробны слёзы.

— Зяцю мілы, зяцю мілы,
Што ты нарабіў,
Што ты сваё родна дзіця
Навек сірацію.

## 980

♩=62

Ра – на, ра – на сон – ца ўсхо – дзя,
поз – нень – ка за – хо – дзя,
а на – на – ты ка – за – чэнь – ка
да дзе – ўчач – кі хо – дзя,
а на – на – ты ка – за – чэнь – ка
да дзе – ўчач – кі хо – дзя.

Рана, рана сонца ўсходзя,
Позненька заходзя,
А жанаты казачэнька
Да дзевачкі ходзя.[1]

— Калі ходзіш, верна любіш —
Зарэж сваю жонку,
А сваіх маленькіх дзетак
Павесь на сасонку.

Вот прыходзя муж дадому,
Стаў нажы істрыці,
А малада яго жонка
Йна стала прасіці:

— Не губі мяне, мой мілы,
Дай пажыць гадзінку,
Дай падрасціць мне хоць трошкі
Малую дзяцінку.

— Тады будзеш, мая міла,
Дзяціну расціці,
Як панясу нож крывавы
У рэчку памыці.

— Вы, суседзі, добры людзі,
Накажыце мамцы,
Няхай прыдзе к дачцэ ў госці
Не позна, ды рана.

Як прыходзя матка ў госці,
Зірнула ў ваконца,
А дачка ляжыць на лаўцы,
Як яснае сонца.

— Ты дачушка, ты дачушка,
Што ты нарабіла,
Ты сваіх маленькіх дзетак
Рана ссіраціла.

— Ой, не я іх сіраціла,
Сірацілі людзі,
Сіраціла тая дзеўка,
Што жанатых любя.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

## 981



Ой, не рана, ой, не позна,
А сонейка ўходзя,
Маладзенькі казачанька
Да другія ходзя.

— Када хочаш быці маім,
Зарэж сваю жонку,
А дзяцей ты сваіх
Павесь на сасонку.

Прыходжае ён дадому,
Стаў ножык тачыці,
А яна к яму на калені
І стала прасіці.

— Не рэж, не рэж, мой міленькі,
Дай пажыць гадзіну,
Ашчэ трошкі падрасціць
Малую дзяціну.

Не паслухаў яе мілы,
А ўзяў нож, зарэзаў,
Сеў на лаву і заплакаў:
— Што ж я нарабіў.

Ой, божа мой, божа,
Што ж я й нарабіў,
Жонку я зарэзаў,
Дзетак асіраціў.

## КАЗАК ТОПІЦЬ ЖОНКУ

### 982

♩ = 92

Ой, а- дзін ка-зак веў ка- ня па- іць,
а дру- гі ка- зак веў жа- ну (й) та- піць.

Ой, адзін казак веў каня паіць,
А другі казак веў жану тапіць.

А другі казак веў жану тапіць,
Да й жана ў яго распрасілася:

— Ой, не тапі мяне да й рана з вечара,
Не тапі мяне рана з вечара.

Не тапі мяне рана з вечара,
Эй, а тапі мяне позна з поўначы.

А тапі мяне позна з поўначы,
Як і дзетачкі спаць улягуцца.

Ой, спаць улягуцца, не наплачуцца,
Спаць улягуцца, не наплачуцца.

Сама старша доч да не спала ўсю ноч,
Эй, старшая доч не спала ўсю ноч.

Не спала ўсю ноч, а ўсё слухала,
Не спала ўсю ноч, а ўсё слухала.

Заўтра рана павутру яна спрашуе,
Рана павутру яна спрашуе:

— Папа, папаша, дзе наша мамаша,
Родны папаша, дзе наша мамаша?

— Эй, ваша мамаша у новай горніцы,
У новай горніцы вымываецца,

У яснае зеркала выглядаецца,
У яснае зеркала выглядаецца,

Белым ручнічком выціраецца,
Белым ручнічком выціраецца.

— Родны папаша, няпраўда ваша,
Наша мамаша у быстрай рацэ

Жоўтым пясочкам выціраецца,
У яснае сонца углядаецца.

Усе дзетачкі заплакалі.
— Цыцьце, дзеці, не крычыце.

Я вам здзелаю печ медзяную,
Я вам прывязу маць маладую.

— Растапіся ты, печ медзяная,
Правалíся ты, маць маладая.

983



♪=156
А-дзі-н(ы) ка- зак веў ка- ня па- іць,




а д(ы)-ру- гі ка - зак




веў жа- ну та - піць.


984



♩=84
Со - ней-ка за- хо- дзіць, ме- сяч-н(а) сы-




хо- дзіць. Ка - зак да дзяў - чы - ны, ой, што-




ве- ча- ра хо - дзіць, ка - зак да дзяў-




чы - ны, ой, што- ве- ча- ра хо - дз(іць).

985

Цякла рэчка быстрая,
Там вадзіца чыстая,
Эй, там вадзіца чыстая.

Там казак каня паіў,
Ён сваю жонку тапіў,
Эй, ён сваю жонку тапіў.

Яна ў яго прасілася:
— Не тапі ты мяне ўдзень,
Эй, не тапі ты мяне ўдзень.

А тапі мяне ўначы,
Як паснуць мае дзетачкі,
Эй, як паснуць мае дзетачкі.

Да паснулі дзетачкі,
Павёў ён яе тапіць,
Эй, павёў ён яе тапіць.

Як усталі дзетачкі:
— А татачка, татачка,
А дзе ж наша мамачка?

— Пайшла ў лес за ягадкай,
За чорнай смародкай,
Эй, за чорнай смародкай.

Пайшлі дзеткі скачучы,
Назад ідуць плачучы,
Эй, назад ідуць плачучы.

Ідзе нядзелька другая,
Бацька дзеткі склікае,
Эй, бацька дзеткі склікае.

— Ідзіце, дзеткі, дадому,
Цяжка жыці аднаму,
Эй, цяжка жыці аднаму.

— Жыві, татка, як бог даў —
Маладую жонку ўзяў,
Эй, маладую жонку ўзяў.

Лепей у лесе на карэнях,
Як у мачыхі на каленях,
Эй, як у мачыхі на каленях.

## 986

♪=196

Што пер- шы ка - зак —
ён ка - ня па - іў,
а дру - гі ка - зак —
ён жон - ку та- піў.

Што першы казак ён каня паіў,
А другі казак — ён жонку тапіў.

А жана ў мужа усё прасілася:
— Не тапі, мой муж, позна звечара.

Затапі мяне цёмнай поўначы,
Нашы дзетачкі спаць улягуцца,

Нашы дзетачкі спаць улягуцца.
Сама больша доч не спала ўсю ноч,

Не спала ўсё ноч да ўсё слышала,
Гарачай слязой абліваласяе,

Гарачай слязой абліваласся,
Белым рукавом уціралася.

— Ох, татачка мой, дзе наша маці?
— Ваша матушка у краватушцы.

— Ой, татачка мой, няпраўда твая:
Наша матушка дзе-та вось пайшла.

## 987




Ой, з-пад кусціка з-пад зялёнага
Выцякала рэчка, рэчка быстрая.

Выцякала рэчка, рэчка быстрая,
Рэчка быстрая, вада чыстая.

Вывадзіў казачок каня ворана паіць,
Каня ворана паіць, маладу жану тапіць.

Ой, жана мужу пакаралася:
— Ой ты, мой муж, ты данскі казача!

Не тапі ж ты мяне рана звечара,
Ой, тапі ж ты мяне з палуночнае зары,

Калі дзеткі мае спаць паложуцца
І суседзі мае успакояцца.

А назаўтрага дзеткі спросяцца:
— Ой, папенька, папенька, а дзе ж наша
маменька?

— А вашая маменька ў светлай комнаце,
Яна мыецца, вымываецца.

Яна мыецца, вымываецца,
Яна к абедзенькі ісці сабіраецца.

— Ой ты, папенька наш, не абманывай нас,
А ужо ж наша маменька на быстрай рацэ.

Яна мыецца, вымываецца
Да к крутому беражку прыбіваецца.

## 988

Allegretto

Сы – дзі, сы – дзі, со – нуш – ка,
сы – дзі, сы – дзі, со – нуш – ка,
да ў ма – е ва – ко – нуш – ка,

Сыдзі, сыдзі, сонушка, [1]
Ды ў мае ваконушка,

[1] Першы радок кожнай двухрадковай страфы паўтараецца два разы.

Да да майго Ванюшка.
Мой Ванюшка добры быў:

Па вячорушках хадзіў,
Красны дзевушкі любіў.

Сталі ночы цёмныя,
Ўпалі снягі белыя.

Ішлі дажджы дробныя,
Цяклі рэчкі быстрыя.

Там казак каня паіў,
Там мужык жану тапіў.

Жана у мужа спрашывала:
— Не тапі мяне ўдзень.
Ох, не смяшы ўсіх людзей.

Да тапі ж мяне ўначы,
Як паснуць дробны дзеці.

Ох, назаўтра раненька
Дзеткі у бацька спрашываюць:

— Судар, судар бацюшка,
Да дзе ж наша матушка?

Ці ў сырой зямлі ляжыць,
Ці ў жоўтым пяску жывёць?

— Не ў сырой зямлі ляжыць,
Да ў жоўтым пяску жывёць.

## 989






Эй, сышло, сышло сонечка
Ў кутняе аконечка.
Да гэй, гэй, ў кутняе аконечка. [1]

Муж жану тапіць вядзе,
Жана мужа спрашывае:

— Не тапі мяне ўдзень, ўдзень,
Да тапі мяне ўначэ.

Назаўтра ранелька
Палі й сняге белыя,

[Палі й сняге белыя]
І слядочкі свежыя.

Там дзеванька мылася,
Яна вымывалася.

Яна дзівавалася,
Яна дзіва бачыла.

— Ах ты, мая дочачка,
Якая ты умная,

[Якая ты умная,]
Умная, разумная!

Пашла ваша мамачка
У лес па ягады.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Да гэй, гэй».

— Ах ты, мой ойчанька,
Мой родненькі!

Нашая мамачка
У быстрай рэчаньцы!

## 990




Як забіў казак маладу жану,
Ой, лялё й рана, маладу жану. [1]
А й асталіся дробны дзетачкі,
А й асталіся і пыталіся:
— А татка, татка, дзе наша мамка?
— А ваша мамка на быстрай рацы,
На быстрай рацы, на гібкай кладцы,
На гібкай кладцы умываецца.
Пайшлі дзетачкі туды скачучы,
А йдуць дзетачкі адтуль плачучы.
— Ціхаця, дзеткі, ды не плачце ж вы,
Пастаўлю хатку я наўлюсеньку
І вазьму мамку маладзюсеньку.
— А згары ж, татка, з новаю хаткай,
Прападзі, татка, з маладой маткай.

## 991

Ой, соненька, соненька,
Прасвяці ў аконенька.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ой, лялё й рана».

Дзе Дунай каня поіць,
То там мужык жану топіць.

— Не тапі ж мяне удзень —
Не смяшы усіх людзей.

Не смяшы усіх людзей,
Не пужай сваіх дзяцей.

Да тапі мяне ўночы,
Штоб не бачылі дзеці:

Будуць дзеткі бачыці,
Па мацеры плакаці.

Да ўтапіў мужык жану
Ды ў ціхаму Дунаю.

Ідзе бацька раненька,
А дзетачкі наўпроціў:

— Ой, татачка, татачка,
А дзе ж наша мамачка?

— Цыцце, дзеткі, не плачце:
Я вам мацер прывяду.

Я вам мацер прывяду
Харошую, маладу.

— Хоць хароша, малада,
Ды не мамачка радна.

Прывёў бацька мачаху,
Стала абед варыці.

Стала й мужа прасіці:
— Прагані, мужу, дзяцей:

Буду цябе любіці,
Буду із табою жыці.

— Ідзіце, дзеткі, йдзіце ў лес,
Ды няхай вас воўк паесць.

Ды пашлі дзеткі плачучы,
А мачыха скачучы.

Жыве бацька адзін дзень
Без раднюсенькіх дзяцей.

А на другі раненька
Стала бацьку нудненька.

Стала бацьку нудненька,
Без родных дзетак скучненька.

Пашоў бацька гукаючы,
Дзетак родных шукаючы.

— Жыві, бацька, як бог даў —
Маладу ты жонку ўзяў.

А як прыдзе субота,
Не кончана работа.

А як прыдзе нядзеля,
То кашулька не бела.

## ЖОНКА КНЯЗЯ ВАСІЛЯ ПАМІРАЕ

### 992

Ой, рана, рана да трое курэй пела,
Да яшчэ раней таго да вароты скрыпелі,
А шчэ раней за таго князь Васіль на вайну паехаў.
За ім паслы па тры, па чатыры:
— Вярнісь, вярнісь, князь Васіль,
Твая жана радзіла дачку.
— Калі дачку, не вярнуся, як сына — варачуся.
За ім паслы па тры, па чатыры:
— Вярнісь, вярнісь, князь Васіль,
Твая жана радзіла сына.
— Пад'язджаючы пад новыя вароты,
Мне ж думаецца — дравасекі рубяць,
Аж то маёй жане дамавіну робяць.

Мне ж думаецца — то пчолачкі гудуць,
Аж то дзеткі па мамцы галосяць.
Цыцце, цыцце, мае дзетачкі дробныя,
Састроім сабе святліцу навую,
Складом сабе грубу зеляную,
Возьмем сабе мачаху маладую.
— Згары ты, святліца навая,
Разваліся, груба зеляная,
Умры, прападзі ты, мачаха маладая.

## МУЖ У ПАГОНІ ЗА ЗВЕЗЕНАЙ ЖОНКАЙ — I

### 993

Ездзіў, ездзіў маладзец [1]
Па шырокаму полю.

А скланіў сон галоўку,
Ай, на конскую грыўку,

Ай, із грыўкі ў капыцце,
А з капыцця й у далінку.

Спіць моладзец ўсё часінку,
Спіць моладзец і другую.

А ўспрашнуўся — каня нет,
Прышоў дамоў — і жаны нет.

Прышоў дамоў — і жаны нет
Із маленькім дзіцяткам.

— Слугі мае верныя,
Запражыце пару коней.

Запражыце пару коней,
Мы паедзем удагоны.

Мы паедзем удагоны
За маёю жаною,

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

За маёю жаною,
За малюсенькім дзіцяткам.

Едуць поле і другое,
На трэцяе ўз'язджаюць.

На трэцяе ўз'язджаюць,
Там казакі п'юць, гуляюць.

Там казакі п'юць, гуляюць
Із маёю жаною,

Із маёю жаною,
Із малюсенькім дзіцяткам.

Жана скачыць, жана пляшыць,
Назад ручанькай машыць:

— Не наязджай, мілы друг,
А на п'яную бяседу.

Знімуць табе галоўку
А за мяне, чарнаброўку.

Вазьмуць каня варанога
А дзіцятку малога.

Мілы таго не паслухаў,
Ён блізюсенька пад'ехаў.

Выняў шаблю, выняў меч,
Зняў галоўку жане з плеч.

— Ай, не станься ты, жана,
А ні мне, ні казакам.

Ай, і станься ты, жана,
Сырой матушцы-зямельцы.

## 994

І сон молайца скланяець,
І сон молайца скланяець

Варонаму каню ў грыўку,
А з капыццяў у далінку.

Спіць моладзец гадзінку,
Спіць моладзец другую.

Як прашнуўся — каня нету,
Прышоў двóру — жаны нету.

— Уж вы, слугі верныя,
Запрагайце карэту.

[Запрагайце карэту,]
Уж я сяду да й паеду!

Еду поле і другое,
На трэцяе уз'язджаю.

Віджу ў полі бел шацёр,
У том шатры — татары.

Міз татараў мая мілая,
Мілая гуляець.

[Мілая гуляець,]
На мяне платком махаець:

— Не паяэджай, міленькі,
На чужу дальнюю старонку:

Пацяраеш, міленькі,
Сваю буйную галоўку!

— Я татараў не баюся,
Я татараў ўсіх парублю.

Я татараў ўсіх парублю,
Цябе, шэльма, пачацвяртую.

Выхвачу вострую меч,
Сыму жане галаву з плеч:

Не 'ставайся, мілая,
Ні мне, ні татару.

Да 'ставайся, мілая,
Сырой матушцы-зямельцы.

## МУЖ У ПАГОНІ ЗА ЗВЕЗЕНАЙ ЖОНКАЙ — II

### 995

Прыдалося молайцу,
Прыдалося ўдаламу

Ў нядзелечку рана ўстаці,
Ў чыстае поле выязджаці.

— Еду поле і другое,
На трэцяе ўз'язджаю.

Змарыў мяне крэпкі сон,
Зваліў мяне сівы конь.

Абачнуўся — белы свет,
Агляпуўся — каня нет.

[Аглянуўся — каня нет,]
Прышоў дамоў — жаны нет.

Дзеткі мае мілыя,
Служкі мае вярненькія!

Закладайце трох каней,
Я паеду сам за ей.

Ў чыстым полі карчомка,
Ў тэй карчомцы малойцы.

Ў тэй карчомцы малойцы
Ў скрыпачкі йграюць.

Там мая мілая гуляець
І хустачкай махаець:

— Не едзь, не едзь, міленькі!
І конікаў патраціш,

І сам галоўкай наложыш.
— Хоць конікаў утрачу,

Хоць галоўкай налажу,
А жану сваю увязу.

## 996

А ў нядзельку парана
Прыдалася прыгода.
А ў нядзельку рана ўстаў
І коніка асядлаў,
Ў чыста поле выехаў.
Сам жа лёг на гарэ,
А коніка пусціў на траве.
А сасніўся дзіўны сон.
Ускочыў я — каня нет,
Прыду дамоў — жаны нет.
— Слугі мае, мілы мае,
Запрагайце трох каней,
Я паеду за ей.
Еду поле і другое,
На трэцяе уз'язджаю,
Аж там стаіць бел шацёр,
А ў тым шатры жана ёсць,
З казакамі жартуець.
— Не едзь, не едзь, мой мілы:
І конікаў патраціш,
І вінaчку заплаціш,
І галоўкай наложыш,
І жану з сабой не возьмеш.
— Хоць конікаў патрачу,
Хоць вінaчку заплачу,
З сабой жану прывязу.

## 997










Ездзіў, ездзіў маладзец [1]
А па чыстаму полю.

Скланіў ён галоўку
Вараному каню ў грыўку,

А са грыўкі ў каленькі,
А з каленек ў капытцы,

А з капытцаў ў далінку.
Спіць маладзец гадзінку,

А спіць маладзец другую.
Як прачнууся маладзец,

Ажно яго каня нет,
Нету каня ні сядла,

Нету зброі залатыя,
Нету жаны маладыя.

— Слугі мае верныя,
Запрагайце пару коні,

Мы паедзем удагонкі.
Едзем полем, едзем лесам,

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

На трэцяе уз'язджаем.
Стаіць шацёр з палацён,

Стаіць шацёр з палацён,
А ў шатрочку мілая

З казакамі п'е, гуляе,
Назад хусткаю махае:

— Не паязджай, міленькі,
Ты на п'яную бяседу.

Пакладзеш ты галоўку
Чэраз мяне, чарнаброўку.

Пакладзеш ты буйную
Чэраз мяне, маладую.

## БРАТ КАРАЕ СЯСТРУ ЗА НЯШЛЮБНАЕ ДЗІЦЯ

### 998




— Чаму, каліна, ў цяню стаіш?
Чы ты, каліна, сушы баіш? [1]

— Ой, каб я сушы не баяла,
То б я ў цянёчку не стаяла.

Да і стаяла б пад гарамі,
Раўнявалася б з яварамі.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А на явару ўсё й жоўты цвет.
— Мандруй, дзеўка, за мною ўсей свет.

— Каб я мамуні не баяла,
То б я з Ясенькам мандравала.

Долам, долам, да далінаю
Едзе брацішак краінаю.

Вязе сяструнцы падарачкі:
Чорну кітайку, сукеначкі.

— Ой, вітам, вітам, сёстра моя,
Чые ж дзецко на рэнку твоем?

— Сонсядка бydла папэндзіла
І мне то дзецка пажуціла.

Выняў брацішак гостры мечык
І зняў сяструнцы голаў з плечык.

А тое дзецка мала была
І да Ясенькі пшемувіла:

— Тобе, Ясю, сем жон бэндзе,
Мне мамулі другэй не бэндзе.

Табе, Ясю, жонка ў вяночку,
Мая мама ляжыць ў пясочку.

Табе, Ясеньку, усё скрыпачкі,
А мне, малому, да слёзачкі.

## БРАТЫ КАРАЮЦЬ СЯСТРУ ЗА СПАТКАННІ З КАХАНЫМ

### 999

Ай, у Тлуцку на рынку
Хваліліся два братцы.

Хваліліся два братцы
Сваёю сястрою.

Есць у нас сястрыца
За трыдзевяць замкамі.

За трыдзевяць замкамі,
За трымя старажамі.

Адазваўся паповіч,
Із-за мора Раковіч:

— Не хваліцеся, братцы,
Ды вашай сястрой:

Я у вашай сястры быў,
Тры начы начаваў,

Тры вячэры вячэраў,
Тры абеды абедаў.

Брат з братам раду браў:
— Пойдзем мы ў вішнёвы сад

І звіём вяночак,
Панясём к сястрыцы.

Кінем сястры ў ваконца,
Што нам сястра прамовіць?

Адазвалась сястрыца:
— Не бруй, не бруй, паповіч!

[Не бруй, не бруй, паповіч,]
Із-за мора Раковіч.

Ой, брат з братам раду браў,
[Ой, брат з братам раду браў:]

— Возьмем мы востры меч,
Знімем сястрэ галовушку з плеч.

— Не сыміце ў суботу,
А зніміце ў нядзелю,

Як дзевунькі з утрані йдуць,
Стары бабы з абедні —

Дзеванькам на пакаянне,
[Дзеванькам на пакаянне.]

Не хавайце ў касцёле,
У касцёле пры сцяне.

А хавайце пры дарозе,
Ідзе паповіч коні пасець:

Ён жа мяне ўспамянець
І цяжанька ўздыхнець.

## 1000







Ах, кабы ў нашага саседа
Весяла была бяседа,

Весяла была бяседа.
Хваліліся два браты,

Хваліліся два браты
Сваёй роднаю сястрою,

Сваёй роднаю сястрою:
— Ёсць у нас сястрыца,

Ёсць у нас сястрыца,
Яна з цераму не ходзіць,

Яна з цераму не ходзіць,
Бела ліца не кажыць,

Бела ліца не кажыць.
Як выскаўся паповіч,

Як выскаўся паповіч:
— Не хваліцеся, два браты.

Не хваліцеся, два браты,
Сваёй роднаю сястрою,

Сваёй роднаю сястрою.
Я ў вашай сястрыцы быў,

Я ў вашай сястрыцы быў,
Дзве ночанькі начаваў,

Дзве ночанькі начаваў,
Дзве вячэры вячэраў,

Дзве вячэры вячэраў,
Два абеды й абедаў,

Два абеды й абедаў,
Два заўтракі заўтракаў,

Два заўтракі заўтракаў.
Брат брату гаворыць,

Брат брату гаворыць:
— Выйдзем, брацец, па сялу,

Выйдзем, брацец, па сялу,
Вазьмём снегу па каму,

Вазьмём снегу па каму,
Кінем сястрэ у церам,

Кінем сястрэ у церам:
Што нам сястра згаворыць,

Што нам сястра згаворыць.
— Ці шуціш ты, паповіч,

Ці шуціш ты, паповіч,
Ступай прама у церам!

Ступай прама у церам!
Брат брату гаворыць,

Брат брату гаворыць:
— Пайдзём, брацец, к кавалю.

Пайдзём, брацец, к кавалю,
Скуём сабе па нажу,

Скуём сабе па нажу,
Знімем сястрэ галаву!

## 1001







На сладкім на рынку,
А на сладкім на рынку [1]
Хваліліся два браты

Сваёю сястрою:
— Есць у нас сястрыца

За тромі замкамі,
За чатырмя старажамі.

— Не хваліцесь вы, братцы,
Я у вашай сястры быў,

Я у вашай сястры быў,
Дзве ночанькі начаваў,

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Два заўтракі заўтракаў.
Як ускочыў большы брат,

Ён ухваціў вострую меч,
Зрубіў сястрэ галаву з плеч.

Галовушка пакацілась,
Бела цела завалілась.

## КАРА ЗА СТРАТУ ВЯНКА НА КУПАЛЛІ

### 1002

Ой, рана, рана на Яна
Зямля дрыжала з купала,
Да лясы шумелі, як пелі,
Да сяло з музыкаў дрыжала.
Да прасілася вайтуўна ў бацюшка:
— Пусці мяне, бацюшка, на купала,
Пусці мяне, родненькі, на купала!
— Ідзі, маё дзіцятка, да не баўся,
Да белага свету не шлягайся!
Да ўсе дзевачкі з купала йдуць,
Адной вайтуўны з купала няма,
Вайтовіч вайтуўны шукае,
Да яе, маладзенькую, страчае.
— Дзе ты, дзіцятка, спазнілася,
Дзе ты, маладая, спазнілася?
— На купаллі, бацічка, спазнілася,
На купаллі, родненькі, спазнілася.
— Чаму ў цябе, дзіцятка, хустка змята?
— Малайцы, бацюшка, жартавалі
Да маю хустачку змялі.
— Чаму ў цябе, дзіцятка, хвартух мокры?
— Малайцы, бацюшка, купаліся
Да маім хвартухом уціраліся.
— Да што ў цябе, дзіцятка, ў прыполе?
Да дзіцятка ў прыполе плача,
Хоча цябе, дачка, страціць.

## КАРА ЗА СПРОБУ АТРУЦІЦЬ МУЖА

### 1003

Ах, зіма мая марозлівая,
Прашу цябе: не змарозь мяне.

[Прашу цябе: не змарозь мяне,]
З паходу ідучы, маршыруючы,

А ў правай ручцы каня ведучы,
А ў левай ручцы руж'ё несучы.

Ах, руж'ё мае багатырскае,
Галоўка мая кавалерская!

На маёй галоўцы кудзеркі ўюцца,
За мае кудры дзевачкі б'юцца.

Ах, не біцеся, не сварыцеся,
За мае кудры пагадзіцеся.

Ах, пайду, пайду ў новы гарадок,
А куплю айцу новенькі двор,

Сваёй матушцы залаты пакой,
А сястры сваёй дарагога сукна,

А брату свайму варанога каня,
А шэльме-жане драцяную плець:

Яна з чужымі зажывалася,
Вінца-мёду напівалася.

Выносіць жана шкляначку віна,
Ні самому піць, ні таварышу даць:

Самому піць — на свеце не жыць,
Таварышу даць — грашно будзе.

Ах, кіну віно аб сырую зямлю —
Сырая зямля не бярэ віна.

Прывяжу жану к конскаму хвасту,
А пушчу каня ў зялёныя луга:

Няхай мой конік напасаецца,
А шэльма-жана навучаецца.

Ах, бяжыць конік з зялёных лугоў,
А ў шэльмы-жаны ўжо няма духу.

## 1004




Польна молайцу, польна молайцу,
Польна піць, гуляць.

Пара молайцу, пара добраму
Супакаіцца!

Ёсць у молайца, ёсць у добрага
Ацец з матушкай,

Ацец з матушкай, ацец з матушкай,
Малада й жана,

Малада жана, малада жана,
Дзеці дробныя.

Прышоў моладзец, прышоў моладзец
К сваяму двару.

Яго маць стрэла, яго маць стрэла
У вароціках.

А жана стрэла, а жана стрэла
Серадзі двара,

Серадзі двара, серадзі двара,
Чару дзержучы.

Вокала чары, вокала чары
Сінь агонь гарыць.

Серадзі чары, серадзі чары
Люты змей сіпіць.

— Ой, ці піць чару, ой, ці піць чару,
Ці на землю ліць?

Выліць мне чару, выліць мне чару —
Жану разгнявіць.

Выпіць мне чару, выпіць мне чару —
Жывому не быць.

Я выллю чару, я выллю чару
Серадзі двара,

Штоб сыра зямля, штоб сыра зямля
Растварылася,

Лютая змяя, лютая змяя
Правалілася!

Во сам я пайду, во сам я пайду
На канюшанку.

Вазьму коніка, вазьму коніка
Неязджалага.

Прывяжу жану, прывяжу жану
К конскаму хвасту.

Пушчу коніка, пушчу коніка
У чыстае поле:

Пусць мой конічак, пусць мой конічак
Нагарцуецца,

Маладая жана, маладая жана
Нагаруецца!

Прыбег конічак, прыбег конічак
З чыстага поля:

А ў хвасце яго, а ў хвасце яго
Ні шарсціначкі,

Ў маладой жане, ў маладой жане
Ні касціначкі.

## 1005

Ой, зіма, зіма да й марозяна,
Прашу я цябе: не марозь мяне,

Казака маладзенькага, каня вараненькага.
На майму каню коскі плятуцца,

А на мне, молайцу, кудрушкі ўюцца.
За мае кудрушкі дзяўчата б'юцца.

Ох вы, дзяўчаты, вы не біцеся,
За мае кудрушкі паміріцеся.

Пайду на места да й на новае,
Куплю матусі шубу цяплую,

А старшай сястры персцень залатой,
А шэльме-жане нагай драцяной.

А шэльма-жана дагадалася,
Вынесла яна шклян бальшой.

Чы самому піць і на свеце не жыць,
Таварышу даць — грэх на душу ўзяць?

Разаллю віно да й па табуну,
А сам, малады, да пайду дамоў.

Пайду да стайні да й да навóе,
Выберу каня найсівейшага.

Прывяжу жану к конскаму хвасту,
Пушчу коніка ў шырокі паля:

Няхай мой конік нагуляецца,
А шэльма-жана навучаецца.

Ужо мой конь без хваста бяжыць,
А шэльма-жана без духу ляжыць.

Ужо майго каня да стайні вядуць,
А шэльму-жану да магілы нясуць.

## 1006




Годзе вам, братцы, піці, гуляці,
Гэй, гэй, піці, гуляці. [1]
Пара вам, братцы, дадому ісці.
А ў нашым доме нікога няма,
Толькі адна ёсць братняя жана.
Сядзіць яна у канцы стала,
Перад ёй стаіць кубачак віна,
Кубачак віна ўскалыхнулася,
Братняя жана усміхнулася.
Ой, пойдзем, братцы, ў нову стаеньку,
Выбярэм каня ўсё й найменшага,
Усё й найменшага, найсільнейшага.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з дадаткам «Гэй, гэй» упачатку.

Прывяжам жану к конскаму хвасту,
Ой, пусцім каня ў чыстае поле:
Няхай наш кося нагарцуецца,
Братняя жана накрасуецца.
На трэці дзянёк прыбег наш канёк:
У каня хваста ні паўсціначкі,
Братняе жаны ні касціначкі.

## КАРА ЗА СПРОБУ АТРУЦІЦЬ БРАТА

### 1007

Як хадзіў-гуляў добры моладзец, [1]
Добры моладзец.

Ён стругаў стружкі з кленавэй даскі,
З кленавэй даскі.
За ім ходзіць красна дзевіца,
Красна дзевіца.

Бяроць стружкі да на агонь кладзёць,
Да на агонь кладзёць.

На том на агні змяя лютая, падкалодная,
Падкалодная.

— Я з тэй змяі сэрца выражу,
Сэрца выражу.

Сэрца выражу, зелля здзелаю,
Зелля здзелаю.

Зелля здзелаю, піва вывару,
Піва вывару.

І не для друга, не для мілага,
Не для мілага —

Для свайго брата радзімага,
Радзімага.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Сястра з братам сярод поля сустрачалася,
Сустрачалася.

Сястра брата віном угашчалася,
Угашчалася.

Брат не п'ёць, каню ў грыву іллёць,
Каню ў грыву іллёць.

Сястра не п'ёць, у рукаў іллёць,
У рукаў іллёць.

У каня грыва разгаралася,
Разгаралася.

У сястры рукаў раздымаецца,
Раздымаецца.

— Ты не ёсць сястра — змяя лютая,
Змяя лютая,

Змяя лютая, падкалодная,
Падкалодная!

Прывяжу сястру к канячаму хвасту,
К канячаму хвасту.

Пушчу каня ў зеляныя луга,
Ў зеляныя луга:

Пушчай мой конь нагарцуецца,
Нагарцуецца!

Пушчай сястра нагаруецца,
Нагаруецца!

## 1008

Хадзіў-гуляў моладзец па зялёным саду,
Стругаў стружкі з кляновай доскі.
За ім ходзя красная дзеўка,
Стружкі бярэ да на агонь кладзе.
На агні спякла змяю лютую,
З тае змяі сэрца выняла,

[Сэрца выняла,] зелле здзелала:
Ні пра дружка свайго ні пра мілага —
Пра свайго братца радзімага.
Наліла брату стакан віна.
— Выпі, сястра, на здаровейка!
Сястра не п'е, да ў рукаў ілле,
Братка не п'е, каню ў грыву лле.
Ў каня грыва загарэлася,
Ў брата сэрца закіпелася:
— Не сястра ты мне, не родная,
А змяя, шэльма падкалодная.
Хацела ты страціць брата-молайца.

## СЯСТРА АТРУЧВАЕ БРАТА ПА НАМОВЕ КАХАНКА

### 1009

Пад Кракавам чорна полё,
Чорна полё не гарата.

Падалянка квяткі рвала,
Квяткі рвала, вянкі віла.

Тудэмі ехаў ваявода,
Ваявода з Навагрода.

— Падалянка, ладна панна,
Даруй ты мне свой вяночак.

[Даруй ты мне свой вяночак,]
А я табе свае ключы.

— Твае ключы ні сё, ні то,
Мой вяночак, як золата.

Рада была б даравацi,
Дык баюся свайго брата.

— Падалянка, ладна панна,
Струці брата радзанога.

[Струці брата радзанога]
Да ідзі за мяне маладога.

— Рада была б я струціці,
Да не маю такога зелля.

— Падалянка, ладна панна,
Ідзі да саду вішнявога.

[Ідзі да саду вішнявога,]
Знойдзеш зелля зелянога.

Вазьмі яго да хвартушка,
Да палажы да гарнушка.

Напар яго ў чорным піве,
У чорным піве, ў зялёным віне.

Нясі яго да піўніцы
Да налі яго ў шкляніцы.

Братка едзе із вайніцы,
Сястра бяжыць із піўніцы:

— Просім, братка, піва, віна напіціся.
— Пі ты, сястронька, ты старэйша.

Сястра піе — у хвартух ліе,
Братка піе — з каня ные.

Яшчэ братка не напіўся,
Да ўжо з коніка зваліўся.

— Да дзе ж мае верны слугі,
Няхай вядуць мяне на падушкі.

— Не паможа табе, братка, бела ложка,
Да паможа табе смаляная дошка.

Свайго брата пахавала,
Ваяводзе ліст пісала.

Ваявода не прымае,
Назад дзеўцы адсылае:

— Струціла ты брата радзанога,
Струціш мяне, маладога.

— Цяпер жа я ні прачка, ні швачка,
Хоць пашла б я за жабрачка:

Жабрак будзе хлеба прасіць,
А я буду торбу насіць.

## 1010




Ой, у полі былінaчка,
Там стаяла дзяўчыначка.

Атрутаньку гатавала,
Свайго братка наджыдала.

Яшчэ братка няма дома,
Атрутанька ўжо гатова.

Яшчэ братка на дарозе,
Атрутанька на парозе.

— Выпій, братка, маго віна,
Паглядзімо таго дзіва!

Яшчэ братка не напіўся —
За сэрданька ухапіўся.

— Што ж ты, сястра, нарабіла,
Сваго братка атруціла!

Ўзяла яго за ручаньку
І павяла на уланьку,

Пасадзіла ў цянёчку,
Да й на ціханькам вятрочку.

Ціхі ветрык павявае,
Ўжо мой братка канае.

Няма ойца, няма маткі,
Ні сястры, ні браценька.

[Ні сястры, ні браценька,]
Сама пайду за казачанька.

Казак будзе ў войску служыць,
А я па ём буду тужыць.

## 1011

Moderato

Ой, у по_лі кры_ні_ чань_ка, ой, у
по_лі кры_ ні_ чань_ ка, бра_ ла во_ ду дзяў_чы_
нань_ ка, бра_ ла во_ ду дзяў_чы_ нань_ ка.

Ой, у полі крынічанька, [1]
Брала воду дзяўчынанька.

Яна брала, набірала,
З казачэнькам размаўляла.

— Ты, казача, казачэньку,
Вазьмі мяне, маладзеньку!

— А як жа мне цябе браці,
Калі ў цябе брат багаты.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Чаруй, дзева, брата свайго —
Будзеш мецi мiленькага!

— А як жа мне чараваці,
Не ведаю, скуль што браці.

— Вазьмі, дзева, новы горшчык,
Пастаў пад яловы корчык.

Будзе сонца прыграваці,
Будуць чары прыбываці.

Яшчэ братка у дарозе,
Сястра з півам на парозе.

— Выпі, братка, гэта піва,
Будзе ўсім людзям на дзіва!

Яшчэ братка не напіўся,
Як з коніка паваліўся:

— Прадай каня і сядзельца,
Ратуй мяне, маё сэрца!

— Не на тое чаравала,
Каб я цябе ратавала!

## 1012

♩=76

Ой, у полі крынічэнька,[1]
Там халодна вадзічэнька.

Там дзяўчына воду брала,
І з сябрынем размаўляла.

— Ой, сябрыню, сябрынёчку,
Бяры мяне, дзяўчыночку.

— Як я маю цябе браці,
Калі ў цябе брат пракляты.

Чаруй, дзеўка, брата свога —
Будзеш меці міленькога.

— Ой, каб жа я чары знала,
То я б яго чаравала.

— Ой, у лесе яліначка,
Там вісела гадзіначка.

А ў ямічку сонца пячэ,
А з гадзінкі трута цячэ.

Пастаў, дзеўка, канёвачку
Пад гадаву галовачку.

Дзеўка гэта і зрабіла,
Ўзяла й піва наварыла.

Ўзяла й піва наварыла,
Для брацейка паставіла.

Братка на двор уз'язджае,
Сястра з півам сустрачае.

— Ой, на, братка, табе піва,
Шчо я ўчора наварыла.

— Чаму, сёстра, сама не п'еш,
Усё на мяне астаўляеш?

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Ой, я, братка, сама піла
І для братка аставіла.

Братка піва да й напіўся
І з коніка да й зваліўся.

— Бяжы, сёстра, ў сад па кваты,
Да сэрдайка прыкладаці.

— Не памогуць, братка, кваты,
Пара, братка, паміраці.

Сястра брата не схавала,
Да сябрыня ліст пісала.

— Ой, сябрыню, сябрыноньку,
Бяры мяне, дзяўчыноньку.

— Як я ж маю цябе браці,
Калі знаеш чараваці?

Счаравала брата свога,
А міленькага — што нічога.

## 1013

У чыстым полі камень ляжыць,
На камені падалянка сядзіць.

— Падалянка, дараўлянка,
Даруй жа мне свае вянка.

— Я ж бы табе даравала,
Каб я брата не баялась.

— Не бойся брата раджонага,
Да й пабойся мяне маладога.

Атруй брата раджонага,
Мецьмеш мяне маладога.

— Як я маю атруціці,
Калі ж не знаю якіх зёлак.

— Ідзь да саду вішнёвага,
Злаві гужа зялёнага.

Згатуй яго ў сладкім медзе,
Атруй братка, як прыедзе.

Налі яго да шкляніцы,
Пастаў яго ў піўніцы.

Братка едзе з ваеначкі,
Вязе сястры сукеначкі.

Братка едзе з ваяўніцы,
Сястра ідзе з піўніцы.

— Выпі, братка, бо ты старшы,
У маём сэрцы найкаханшы.

— Выпі, сястра, бо ты мнейша,
У маём сэрцы наймілейша.

Сястра піе — ніц не шкодзіць,
Братка піе — скора млее.

— Служкі мае вярненькія,
Засцілайце белу ложу.

Бела ложа не паможа,
Чорна труна то быць можа.

Сястра брата атруціла,
Да ваяка ліст пісала:

— Сядам собе пры вярштаце,
Мыслім собе моем браце.

А ваяка ёй адпісвае,
А ваяка адпісвае:

— Атруціла брата свайго,
То атруціш мяне, маладога.

— Няма брата, ні ваяка,
Цяпер выйду за жабрака.

Жэбрык ходзіць, хлеба просіць,
А я за ім — торбы носіць.

## 1014

— Счаруй, дзеўка, свайго брата,
Пойдзеш замуж за казака.

— Ой, каб я ж чары знала,
То б я яго счаравала.

— Ой, у лесе дзве яліны,
Там віселі дзве гадзіны.

Гэтых гадзін сонца пячэ,
З аднаго гада ядо цячэ.

Вазьмі, дзеўка, конавачку
Пад гадаву голавачку.

Ды й нацячэ з гада яда —
Гэта будуць брату чары.

Стаяць чары на парозе,
Яшчэ брат у дарозе.

Стаяць чары на вакенцы,
Яшчэ брат у сядзельцы.

Сястра брата сустракала,
Півам, мёдам угашчала:

— Ой, на, браце, гэта піва,
Гэта піва й я не піла.

Сястра піла — ў рукаў ліла,
А брат напіўся ды й атравіўся.

Брат напіўся ды й атравіўся,
Ды й з коніка паваліўся.

— Вазьмі, сястра, каня майго,
Схавай брата раджонага.

Вазьмі, сястра, сядзелечка,
Схавай брата, сардэнечка.

Няма брата, ні казака,
Пашла дзеўка за жабрака.

Жабрак ходзіць, хлеба просіць,
За ім дзеўка торбу носіць.

## 1015

♩=70

Што - та ў ле_ се за_ шу_ ме_ ла,
што - та ў ле_ се за_ шу_ ме_ ла,
па_ бя_ жаў я ту_ ды сме_(ла).

Што-та ў лесе зашумела, [1]
Пабяжаў я туды смела.

Там Таццяна прахаджала,
Сама сябе развалала:

— Ох ты, Іван, Іваночку,
Сватай мяне, Таццяночку.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Ой, рад бы я цябе сватаць,
Ды баюся твайго брата.

— Ой, рада б я атравіці,
Ды й не знаю, што рабіці.

— Ідзі, дзеўка, ў чыста поле,
Там атрута землю пора.

У даліне куст каліны,
На каліне тры гадзіны.

У каліну сонца пячэ,
А ў гадзіны рапа цячэ.

Падстаў, дзеўка, вядзерачка
Пад гадзюча раберачка.

Падстаў, дзеўка, кановачку
Пад гадзючу галовачку.

Узяла дзеўка ды й зрабіла,
Да й брацікa атравіла.

Яшчэ брацік у дарозе,
А сястрыца на парозе.

— Ой, на, брацік, майго піва,
Што сястрыца наварыла.

Ой, на, брацік, майго мёду.
— Выпі, сястра, папяроду.

— Ой, я піла, выпівала,
Для брацікa астаўляла.

Узяў брацік ды й напіўся,
Ды й з коніка паваліўся.

— Пастой, брацік, не хіляйся,
Давай, брацік, папрашчайся.

— Не прашчаўся да й не буду,
Вавек сястры не забуду.

## ШВАГЕР-ЗЛАЧЫНЕЦ

### 1016

♩= 156

Ад_даў мя_не та_ тач_ ка за зло_дзе_ я за_

муж, за з(ы)_ло_ дзе_ я за_ муж.

Аддаў мяне татачка за злодзея замуж,
За злодзея замуж.

Сказаў жа мне татачка сем год не відацца,
Сем год не відацца.

Жыву я гадок, да жыву я і другі,
Да жыву я і другі.

Ажно мой татачка едзе ў госці ка мне,
Едзе ў госці ка мне.

— Чаго, дочачка, арэш, барануеш,
Арэш, барануеш?

— Ціха, татачка, да паціху гавары,
Да паціху гавары.

Мой нялюбы да ў беражочку стаіць,
Да ў беражочку стаіць.

Да ён стаіць, да ўсё ж ён чуе,
Да ўсё ж ён чуе.

Прыязджаю да да новых варотцаў,
Да да новых варотцаў.

Мой нялюбы ў вароцечках стаіць,
У вароцечках стаіць.

А ён стаіць да войструю меч дзяржыць,
Да войструю меч дзяржыць.

— З кім ты, міла, у полі гаварыла,
У полі гаварыла?

— Ехалі купцы а дарожкі пыталі,
А дарожкі пыталі.

Я ж, малада, стала а дарожку ўказала.
А дарожку ўказала.

А выняў жа мужу да войструю мечу,
Да войструю мечу.

Да зняў жа ён галовачку з плечаў,
Галовачку з плечаў.

Да дачуліся да яе ўсе тры братцы,
Да яе ўсе тры братцы.

— Едзьма, братцы, да сястру давядацца,
Да сястру давядацца.

Прыязджаюць да да новых варотцаў,
Да да новых варотцаў.

Аж наш швагер па надвор'ейку ходзя,
Па надвор'ейку ходзя.

А ён ходзя, дзіцятачка нося,
Дзіцятачка нося.

— Чаму, швагер, сястра не выходзя,
Сястра не выходзя?

— Стойце, братцы, буду праўду казаці:
Буду праўду казаці.

Із вечара галоўка балела,
Галоўка балела.

Із поўначы да дзіцятка радзіла,
Да дзіцятка радзіла.

К беламу дню ручкі сашчапіла,
Ручкі сашчапіла.

Кінуліся братцы к кавалю дарагому,
К кавалю дарагому.

— А іскуйце да ключы залатыя,
Да ключы залатыя.

Адамкніце а й амбары навыя,
А й амбары навыя.

— Чаго, швагер, да палужынкі крыві,
Да палужынкі крыві?

— Гэта былі ў мяне рыбаловы,
Ў мяне рыбаловы.

Рыбу чынілі, крыві напусцілі,
Крыві напусцілі.

## 1017

Аддаў бацька за нялюбага замуж,
Прыказаў дачцэ часта ў госці не хадзіці.
Не йдзець дачка год, не йдзець і другі,
На трэці год бацька ў госці едзе.
Пераехаў поле, пераехаў другое,
На трэцяе ўз'язджае,
Ажно дачка арэ, барануе.
—Што ж ты, дачка, арэш, баранеш?
— Гэта, татачка, за нялюбым жывучы!
А нялюбы у беразе стаіць,
У правай руцэ войстры меч дзяржыць.
Вышаў нялюбы з берагу, пытаецца:
— Ох ты, жана-шэльма, з кім ты гаварыла?
— Ох ты, мой міленькі, я табе ўсю праўду скажу:
Ехалі купцы, дарожкі пыталі,

Я, молада, дарожку ўказала.
Як вынуў нялюбы войстры мечык,
Зняў жане галоўку з плечак.
Пашлі звестушкі да айца-матушкі:
— Адзявайцесь, сынкі, ў жаўнерскае плацце,
Едзьце, сынкі, сястры адвядаці!
Прыехалі к шчытовым варотам,
Ажно швакру у вароцех стаіць,
На ручачках дзіцятку дзяржыць.
— А што, швакру, сястра не выходзе?
— Я табе, швакру, ўсю праўду скажу:
Са вечара галоўка балела.
Са поўначы дзіця спарадзіла,
К беламу свету душу аддала.
— Хадзем, швакру, сястры палядзім!
Чаго, швакру, галовачка розна?
Прывязаць швакру к конскаму хвасту,
Пусціць каня ў чыстае поле:
Няхай конь бяжыць на чатыры шляхі,
Разарве швакру на чатыры кускі.
Конь дамоў бяжыць,
Швакру нежывы ляжыць.

## БРАТЫ Ў ПАГОНІ ЗА СЯСТРОЮ

### 1018

Маці доню б'е, карае:
— Дзе ты, доню, венчык дзела?

— Ехаў, маці, князь Міхайла,
І зняў венчык мой, паехаў

Дарогаю шырокаю,
Дуброваю зялёнаю.

Маці ходзіць, слугі будзіць.
Маці ходзіць, слугі будзіць:

— Ой вы, слугі маладыя,
Бярыце коні вараныя.

Да бяжыце, даганіце,
З плеч галоўку ізніміце.

З плеч галоўку ізніміце
Да вязіце чэраз сяло,

Чэраз сяло сялянскае,
Чэраз места мяшчанскае:

Няхай старыя дзівуюцца,
А маладыя пакаюцца.

Дзеўкам танка не мяшаюць,
З дзеўкі вянка не знімаюць.

## 1019




Ўстала маці да кудзелі — [1]
Няма цуркі на пасцелі.

Ўстала маці, заплакала —
Няма цуркі, дзе ляжала.

— Мой сыночку наймілейшы,
Бяры каня варанога.

Бяры каня варанога,
Даганяй Касю з Ясем.

Даганілі да ўва Львове,
Стоі Кася ў злотай глове.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ходзіць Кася па рыначку,
Носіць дзіця ў хвартушачку.

Адзін браткó вінам віта,
Другі братко здровя пыта,

Трэці братко галаў зніма.
— Падай, Касю, ручнік бялы,

Падай, Касю, ручнік бялы,
Пазавіваць Ясю раны.

## 1020

Пайшла старая матулька
Сваіх сынкоў пабуджаці.

— Устань, сынок самы большы,
Асядлай каня што найгоршы.

Устань, сынок серадольшы,
Асядлай каня што палепшы.

Устань, сынок самы меншы,
Асядлай каня што найлепшы.

Едзьце, сястру даганіце,
Даганіце у паўбору.

Даганіце у паўбору —
Не рабіце там разбою;

Даганіце у паўлясу —
Не рабіце там галасу.

А дагналі аж у Слуцку —
Ходзіць сястра па ганачку.

— Вітам, вітам, сястра наша,
Дзе ж ты дзела свайго Яся?

— Мой Яся ў пакоіку,
Пішыць лісты на століку.

— Вітам, вітам, млоды швагру,
Папіваеш мёду, віна.

Папіваеш мёду, віна,
Папіваеш жа і крыві.

Ўзялі Яся ў паўпаяса —
А вот табе, сёстра наша.

Ўзялі Яся у паўгловы —
А вот табе за падмовы.

— Свеціць месяц, но не ярка,
А мне Яся свайго жалка.

Месяц свеціць над вадою —
Асталася удавою.

## 1021

Па лугах, па лужочках,
Па зялёных муражочках

Вон там Каця валоў пасла,
Да й пасучы, пагубіла.

[Да й пасучы, пагубіла,]
Шукаць пашла — заблудзіла.

Прыблудзілася к шыночку,
К высокаму церамочку.

Во там ляхі п'юць, гуляюць,
К сабе Кацю падмаўляюць.

— Хадзі, Каценька, із намі,
З маладымі із ляхамі.

Яшчэ Каця не думала —
Пара коней запрэжана,

Пад сенечкі пад'ехана —
Павезлі Кацю з ляхамі.

Ходзя маці па хаце,
Плача маці па Каці.

[Плача маці па Каці,]
Сваіх сыноў верна прося:

— Вы сыны мае, сыночкі,
Запрагайце пару коней,

Да паняйце бітым шляхам,
Даганяйце Кацю з ляхам.

Не дагналі у Варшаве,
Дык дагналі у Палтаве:

Сядзіць Каця за сталамі,
За разнымі за цвятамі.

П'е, гуляе із ляхамі,
Сваіх братцаў верна прося:

— Вы браты мае, браточкі,
Ясныя сакалочкі,

Што хочаце, то бярыце —
Мяне з ляхам разлучыце.

## 1022

Ой, у полі дзеравенька,
Ні вяліка, ні маленька.

Жыла-была удавенька,
Мела сабе тры дачкі:

Адна — Саша, друга — Маша,
А трэцяя — душа Кася.

Ой, Ясь Касю верна любіў,
Без рашчоту грошы насіў.

Вот прынёс сіню бумажку
І кітайку на падкладку.

Вот шаўковенькі платочак,
На галовачку цвяточак,

На галовачку цвяточак,
І цвяточак, і вяночак.

Устае матка із пасцелі,
Вядзе дочкі да кудзелі.

— Уставайце, сынкі ж мае,
Даганяйце сястру сваю!

Прыехалі да Кракова —
Ходзіць Кася па садочку.

— Ой, дзень добры, сястра наша,
Дзе падзела швагра Яся?

— Сядзіць Яська за столікам,
П'е мёд-віно з палкоўнікам.

— Ой, дзень добры, швагрэ млоды,
Напіліся крыві й воды?

— Не на такуй вайне былі,
Штоб кроў за ваду пілі.

Сталі з Ясем ваяваці,
Яго секчы і рубаці.

От, пасеклі, парубалі,
Тады Касю завалалі.

Свеціць месяц віднюсенькі,
Быў Ясь Касі мілюсенькі.

Свеціць месяц да не грэе,
Кася з жалю ажно млее.

## 1023

Ой, там на Дунаі,
Там дзяўчына каня паіла,
Да каня гаварыла:
— Да табе, коню, ваду піці,
А мне, дзеўцы, да ліцо мыці,
Да табе, коню у Дунай плысці,
А мне, млодай, замуж ісці.
Да тудэю ішлі тры зводы,
Ішоў Яська із пахода.
— Сядай, дзеўча, на калёса,
Бо добра нам удалося!
А назаўтра да ранюсенька
Галубка варкавала,
Да матка сынкі пабуджала:
— Сынкі ж мае маладыя,
Закладайце коні вараныя,
Даганяйце Касю з Ясем:
Калі дагоніце ў паўдарогі,
Не нарабіце вялікай трывогі,
Калі дагоніце ў паўлясу,
Не нарабіце вялікага галасу.
Да дагналі у Кракове.
Да сястрыца па саду ходзіць,
Паціхеньку й гаворыць:
— Браткі ж мае да маладыя,
Да закладайце коні вараныя,
Што хочаце, тое забірайце,
Хаця майго Яся не чапайце.
Бо я з ім сем ноч начавала
Да сваю красату пацярала.

## 1024

Ой, за рэчкай, за ракой, [1]
Ой, там ляхі п'юць, гуляюць.

Ой, там ляхі п'юць, гуляюць,
Яны з сабой Кацю падмаўляюць.

— Паедзь, паедзь, Каця, з намі,
З маладымі са ляхамі.

Каця ножанькай ступіла,
Калясачку абламіла.

Ляхі на то не ўпавалі,
Адну, другую падстаўлялі.

Села Каця паехала,
Паехала са ляхамі,

Паехала са ляхамі.
А назаўтра параненьку,

А назаўтра параненьку
Нідзе Каці не відаць.

Нідзе Каці не відаць,
Галасочка не слыхаць.

Галасочка не слыхаць,
І ходзіць маці па камнаце.

І ходзіць маці па камнаце,
Ломіць рукі па дзіцяці.

Ломіць рукі па дзіцяці.
— Ой, сыночкі-саколікі!

Ой, сыночкі-саколікі,
Асядлайце пара коней.

Асядлайце пара коней,
З'едзьце за Кацей уздагонкі.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Сыны маці паслухалі,
Узялі коней, селі ж яны паехалі.

Едуць поле і другое,
Нідзе Каці не відаць.

На трэцяе ўз'язджаюць —
Сядзіць Каця за сталамі.

Сядзіць Каця за сталамі
З маладымі са ляхамі,

П'еңь мёд-віно стаканамі.
Браты сястры не ўвазналі.

Ціха слова атвячалі:
— Ах ты, Каця, ах ты, Каця!

Сястра наша, сястра наша,
Дзе дзелася, дзе дзелася?

Сястра братцам атвячала:
— З ляхамі ночку начавала,

З ляхамі ночку начавала,
Каця красу пацярала.

## МАЛАДЫ (ЯСЬ) ГІНЕ, АБАРАНЯЮЧЫ СВАЮ ВЫБРАНКУ

### 1025

Да праз двор, праз дуброву
Вязе Ясь сваю Касю

У маляваным вазочку,
А ў руцьвяным вяночку.

Вох, сустрачаюць Яся
Да семсот казачэнькаў:

— Ці нам Касю даеш,
Ці сам на шабелькі йдзеш?

— Ой, я вам Касі не дам,
Сам на шабелькі іду.

Сталі Яся рубаці,
Як матылькі лятаці.

Кася стаіць, ручкі ломіць,
Ручкі ломіць, слёзкі роніць.

— Ой, цыць, Кася, не плач, наша,
Да ў нас Ясяў не з так веле.

Да ў нас Ясяў не э так веле,
Так, як лісця на дрэве.

— Хоць іх будзе і з так веле,
Так, як пяску на земе,

Да не будзе мне такога
Над Ясенькам маладога.

## ЗАСЕНЬКА РАТУЕ СВАЙГО КАХАНАГА

### 1026

— Дзе ты, Ясенька, гарцаваў,
Што ты коніка змарнаваў?

— Ездзіў да панны Зафеі,
Дачакаў вянка з лілеі.

— Лепшы ж ты слуга, як я пан,
Што з лілеі вянка дачакаў.

Ой, вазьміце яго, вазьміце,
Да ў жалезны ланцуг прыбіце.

Дайце Засéньцы прэнтка знаці,
Ці будзе Ясенька жалаваці.

Скора Засенька услышала,
Сем міль ў ночы ехала.

Скора Засенька прыбыла,
Камнем ланцуг разбіла:

— Годзі, Ясенька, гараваці,
Хадзем у цэркаў шлюб браці.

## ЯСЬ ПАКІНУЎ КАСЮ, І ТАЯ ПАМІРАЕ З ЖАЛЮ

### 1027

Сцялю кунтуш і жупан,
Кладуся спаць, як бы пан.

— Мы маладыя людзі,
Хто ж нас будзіці будзе?

— А скаўронак, добры птах,
Ён нас збудзіць — ото так!

Да ў нядзелю спарання:
— Уставай, Ясю, каханне!

Як Ясь з ложа ускочыў,
Касі паклонам суліў:

— Бывай, Кася, здарова,
Я кавалер, ты ўдова.

Ясь на вайну выязджаў,
Касю ўдому пакідаў.

Касенька ноч не спала,
Белы лісты пісала.

Белы лісты пісала,
Да Ясенькі паслала.

Ясь каня не жалаваў
Сто міль на ноч уязджаў.

Як прыехаў да двара,
Стукну-грукну да акна.

— А й чы жыва Касенька?
— Жые здарова ў касцеле.

Пры аўтары, пры сцяне
Шоўкам труна накрыта.

Шоўкам труна накрыта,
Аксамітам прыбіта.

Далі рубля на дзвоны,
А злоты на арганы:

— Заграйце ж вы, арганы,
Па Касеньцы каханай.

Ай, ударыў велькі дзвон,
Па Касеньцы вечны згон.

Як зайгралі арганы
Па Касеньцы каханай,

Па Касеньцы каханай,
Самлеў Ясек сплаканы.

Як у дзвоны ўдарылі,
Ужо Ясек ў магіле.

## МІЛАЯ ПАМІРАЕ З ТУГІ ПА МІЛЫМ

### 1028

— Ой, ці будзеш, ой, ці будзеш ты па мне тужыці,
Як я буду, маладзенькі, у войску служыці?

— Ой, не буду, ой, не буду, яй-богу ж, не буду,
Як выедзеш за вароты, скоранька забуду.

Як выехаў яе міленькі за новыя вароты,
Забылася дзяўчыначка, што ў руках работа.

Як выехаў яе мілы за гору крутую,
Вязуць яго дзяўчыначку, вязуць нежывую.

— Ой, вярніся, казачэнька, маці умірае.
— Няхай умірае, няхай хоць канае.

Я ж не буду каня гнаці, ўсю ночку не спаці,
Я ж не буду каня гнаці, ўсю ночку не спаці.

— Ой, вярніся, казачэнька, дзяўчына ўмірае.
— Ой, няхай жа не ўмірае, няхай не канае.

Буду, буду каня гнаці, ўсю ночку не спаці,
Каб жа сваю дзяўчыначку жывую застаці.

Як прыехаў яе мілы за новыя вароты,
Ляжыць яго дзяўчыначка, як шчырае злота.

— Ой, цяпер жа вы мяне сячыце, рубайце,
Да з маёю дзяўчыначкай разам пахавайце.

### 1029

Пытаецца казак дзеўкі:
— Чы не будзеш тужыці,
Як я сяду та й паеду
Аж да войска служыці?

— Ні па ком я не тужыла,
То й па табе не буду,
Як выедзеш за вароты,
То й цябе забуду!

Як выехаў казачэнька
За новыя варота,
Не ўзяў, не ўзяў дзяўчынаньку
Ані сон, ні работа.

Як выехаў казачэнька
А на жоўтыя пескі,
Аглянуўся назад сябе —
Нясе брацічак весці:

— Ой, вярніся, пане-браце,
Ацец-маці ўмірае!
— Ой, яй-богу, не вярнуся,
Няхай зараз канае.

Як выехаў казачэнька
На зялёныя лугі,
Аглянуўся назад сябе —
Нясе брацічак другі:

— Ой, вярніся, пане-браце,
Дзяўчынанька ўмірае!
— Буду біці каня, гнаці,
Каб жывую застаці.

Як выехаў казачэнька
На высокія горы,
Зазванілі па дзяўчыне
Ва ўсе чатыры звоны.

Як выехаў казачэнька
На пліту камяниую,
Носяць, носяць дзяўчынаньку
На руках нежывую.

Як уз'ехаў казачэнька
На высоку магілу:
— Разыйдзіся, сыра зямля,
Нех забачу дзяўчыну!

Ты казала, дзяўчынанька,
Што не будзеш тужыці,
А цяперча ў сырой зямлі
Будзеш тута гніці.

## ХЛОПЕЦ ГІНЕ ЗА ДЗЯЎЧЫНУ

### 1030

Праз бары, праз бары
Вязуць Міхалю на кані.

Яго галоўка на мячы,
За ім мамачка плачучы:

— Сынку, сынку, Міхале,
За каго галоўку палажыў?

Ці за татачку старога,
Ці за брацiка малога?

Ці за мамачку нядужу,
Ці за сястрыцу дасужу?

— Не за татачку старога,
Не за брацiка малога.

Не за мамачку нядужу,
Не за сястрыцу дасужу.

Палажыў галоўку за дзевачку,
За яе цiхiя ўходы.

За яе цiхiя ўходы,
За яе нiзкiя ўклоны:

Яна цiханька хадзiла,
Нiзка галоўку насiла.

## 1031

Ехалi баяры з вайны
Везлi малойца на канi.

Ўся яго галоўка у крывi.
Яго мамачка старая

Далёка сыночка сустракае,
За галоўку хапае.

— Ох, сынку, сын мой,
За каго галоўку ты палажыў?

— Палажыў галоўку за дзеўку,
За яе нізкія ўклоны.

За яе нізкія ўклоны,
За яе ціхія ўходы.

Што яна нізенька скланілася,
Мяне малайцом назвала.

## 1032

Цёмна, цёмна на двару,
Ды яшчэ цямней за дваром.

Ды едуць баяр'я ўсе радком,
Вязуць Міхаля на кані.

А яго галоўка на мячы,
А за ім ойчанька крычучы:

— Міхале, Міхале, сыне й мой,
За каго ты галоўку палажыў?

Ці за ойца, ці за матку,
Ці за дзевачку прекрасну?

— Не за ойца, не за матку,
А за дзевачку пракрасну:

За яе паходы ціхія,
За яе паклоны нізкія.

Што яна ціханька хадзіла
І нізенька галоўку насіла.

## 1033

Andante



Ой, цёмна на дварэ,
Ой, яшчэ цямней за дваром.

От ідзе баяр'я ўся радом
Да вязуць Міхала на кані.

Палажыў галоўку на мячы.
Да за ім ойчанька плачучы:

— Міхале, Міхале, сыне мой,
За каго галоўку палажыў?

Ці за ойчанька роднага,
[Ці за мамачку родную?]

Ці за мамачку родную,
Ці за дзеваньку маладую?

— Не за ойчанька роднага,
Не за мамачку родную.

[Не за мамачку родную,]
Да за дзеваньку маладую:

За яе паходы ціхія,
За яе паклоны нізкія.

Сціха, памаленьку й хадзіла,
Нізка галоўку насіла.

## ПАЯДЫНАК МАЛАЙЦОЎ

### 1034



Узыйшлі, ўзыйшлі ды два месяцы ясны,
Ой, вандравалі два малойчыкі красны.

Ой, вандруючы, так сабе гаварылі:
— Слаўну мы, браце, дзяўчыну намовілі.

Ой, ходзьма, ходзьма мы, таварышу, ходзьма,
Ой, зводзьма, зводзьма мы, дзяўчыну, ой, зводзьма.

А як будзем мы абодва к ёй хадзіці,
То не будзе нас дзяўчыначка любіці.

Ой, пойдзем, браце, мы ў роўнае поле,
Спрабуем, браце, чыя стрэльбанька скора.

Паповіч стаў на высокай гарыцы,
Удовін сын стаў на нізкай далініцы.

Паповіч стрэліў — даліну перастрэліў,
Удовін стрэліў — у сама сэрданька цэліў.

— Дарую табе, мой таварышу, дзеўку,
Толькі ты выймі з майго сэрданька стрэлку.

— Табе, мой браце, у пясочку ляжаці,
А мне, мой браце, з дзяўчынай пагуляці.

Табе, мой браце, у сырой зямлі гніці,
А мне, мой браце, з дзяўчынай век жыці.

**1035**

Andante

Ой, зы_шло, зы_шло да два ме_ ся_цы яс_ ных,
ой, і_шло, і_ шло да два ма_лой_ чы_ кі крас_ ных.

Ой, зышло, зышло да два месяцы ясных,
Ой, ішло, ішло да два малойчыкі красных.

Ішлі сабе, ішлі і ўдвох гаварылі,
Што адну дзеўку, адну дзеўку ўдвох палюбілі.

Адзін кажа, што «дзеўка мая будзе!»
А паповіч кажа: « Хіба мяне не будзе!»

Паповіч стаў на высокай гарэ, гарэ,
А сын ўдовін стаў да пры зялёнай дуброве.

Паповіч стрэліў, то ў дубровеньку цэліў.
Сын удовін стрэліў, то і ў паповіча цэліў.

— Ото ж табе, попе, калінава стрэлка,
А мне, маладому, да харошая дзеўка.

## 1036




Ой, там мандравала да два красных малайцы.
Яны мандравалі да сціха гаварылі:

— Што то, браце, будзе, што адну ўдвох любілі?
Пойдзем, браце, да з гары, з гары на даліну.

[Пойдзем, браце, да з гары, з гары на даліну,]
Да будзем страляці ў чырвону каліну.

Ох, а як стрэліў, ў само сэрдайка ўцэліў.
— Што то, браце, будзе, ў само сэрдайка ўцэліў?

— Табе, браце, будзе чырвона каліна,
А мне, маладому, маладая дзяўчына.

## 1037

Moderato

Ой, і зы_шло да два ме_ся_цы яс_ных,

там ман_дра_ва_ла два ма_лой_чы_кі крас_ных.

_чы_кі

## 1038

Andante

Сы_шло, сы_шло два ме_ся_цы яс_ны_я,

ту_дэ_ма_ю і_шло два ма_лой_цы крас_ны_я.

Сышло, сышло два месяцы ясныя,
Тудэмаю ішло два малойцы красныя.

Да ішлі, ішлі, сціха гаварылі,
Ой, што ўдвух адну дзяўчыненьку палюбілі.

Да адзін кажа: «Яна мая будзе!»
А другі кажа: «Хіба мяне не будзе!»

Ой, пойдзем мы да цешчынае сені,
Ано ж наша цешча да вячэраці села.

— Добры вечар, да радзоная цешча,
От тут, тутака да надзеенька ешча.

— Да ідзі, зяцю, да ліхое гадзіны,
Да няма тутака ля цябе дзяўчыны!

— Да бадай, цешча, да марне прапала,
Як ты ад мяне да падаруначкі брала.

[Як ты ад мяне да падаруначкі брала,]
Ой, сем пар чаравічак да стаптала!

— Ой, вазьмі, матка, залатыя ключы,
Ой, кінь яму ўсе падаруначкі ў вочы!

— Ой, пойдзем мы з гары да на даліну.
Ой, увідзелі да чырвоненьку каліну.

Адзін стрэліў, да ў калінaчку цэліў,
А другі стрэліў, да ў малойчыка цэліў.

От табе, каліна, да первая стрэлка,
А табе, малойцу, да не суджана дзеўка.

## 1039

Ох, зышло, зышло да дзве зорачкі ясных,
Машаравалі два казачэнькі красных:
Адзін паповіч, другі й удовіч.
Машаруючы, самі сабе гаварылі:
— Адну дзяўчыну мы ўдваіх палюбілі.
Адзін стаў між гор, між даліны,
А другі й стаў на высокай гарэ.
Паповіч стрэліў — ўсю гару перастрэліў,
А ўдовіч стрэліў, да ў паповіча цэліў.
— Гэта табе, паповічу, да харошая дзеўка,
Што акіпела каля сэрданька стрэлка.
Па паповічу ўсе званы зазванілі,
А па ўдовічу ўсе лугі зашумелі.
Па паповічу ацец і матка плача,
А па ўдовічу да чорны й воран грача.

## 1040




Што з-пад лесіку, лесу цёмнага,
Ой, лі, ой, люлі, лесу цёмнага. [1]
Што з-пад садзіку, саду зялёнага
Ішлі-прайшлі да два молайцы,
Да два молайцы, да два холасты.
Яны йшлі-прайшлі, станавіліся,
Да адзін з адным пабраніліся.
За што, пра што? За красну дзеўку.
Выхадзіла к ім красна дзевіца,
Выхадзіла к ім, гаварыла ім:
— Вы два молайцы, вы два холасты,
Вы ж не біцеся, не сварыцеся,
Па харошаму разыйдзіцеся.
Да ідзіце вы ў сад зялёненькі,
Выламайце, братцы, да па пруціку,
Да кіньце, братцы, да вы жэрабя:
Ды й катораму я й застануся,
Да ці большаму, да ці меншаму.
Засталася я парню браваму,
Парню браваму, кучараваму.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ой, лі, ой, люлі».

## РАЗВІТАННЕ З МІЛЫМ

### 1041




— Знаю, знаю, мой міленькі, знаю,
Што ты мяне пакінуці маеш! [1]

— Па чом, па чом, мая міла, знаеш,
Што я цябе пакінуці маю?

— Часта, часта да стаенкі ходзіш,
Часта, часта каню аброк носіш.

Не едзь, не едзь, мой мілы, на вайну,
А хто ж табе кашульку вымые?

— У чыстым полі быстра рэчка плыне,
То яна мне кашульку вымые.

— Не едзь, не едзь, мой мілы, на вайну,
А хто ж табе пасцельку пасцеле?

— Ой, там у лузе трава пухавіца,
Пад галоўку шабелька, муніца.

— Не едзь, не едзь, мой мілы, на вайну,
Бо хто ж табе плечанькі спалошча?

— У цёмным лесе дробны дождж хвошча,
То ён жа мне плечанькі спалошча.

— Не едзь, не едзь, мой мілы, на вайну,
Бо хто ж табе галоўку аплача?

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— У цёмным лесе варона грача,
То яна мне галоўку аплача.

— Не едзь, не едзь, мой міленькі, мостам,
Бо зарасла дарожка хваростам.

— Ест у мяне конік вараненькі,
Ён патопча хворост зеляненькі.

### 1042

Ой, знаю я, мой міленькі, знаю,
Што ты мяне пакінуці маеш.

Ой, не едзь жа, мой міленькі, не едзь:
Закідана хворастам дарожка.

— Ой, найду я коні вараныя,
Што падтопчуць хворост пад капыты.

— Ой, не едзь жа, мой міленькі, не едзь,
Закідана дарожка чарамі.

— Ой, найду я коні вараныя,
Што падтопчуць чары плюгавыя.

— Ой, не едзь жа, мой міленькі, не едзь,
Я табе кашулю вымыю.

— Ў чыстым полі быстра рэчка плые,
Ой, яна мне кашулю вымые.

— Ой, не едзь жа, мой міленькі, не едзь,
Я табе галоўку спалошчу.

—Ў чыстым полі дробны дожджык хвошча,
Ой, ён жа мне й галоўку спалошча.

— Ой, не едзь жа, мой міленькі, не едзь,
Я табе снеданька згатую.

— У цёмным лесе зазуленька куе,
Ой, яна мне снеданька эгатуе.

— Ой, не едзь жа, мой міленькі, не едзь,
Я табе пасцельку пасцелю.

— Ў быстрым лузе трава зеляная,
Там для мяне пасцель гатовая.

— Ой, не едзь жа, мой міленькі, не едзь,
Хто ж па табе сярдэчна заплача?

— Ў чорным лесе чорныя крукі крачуць,
Яны па мне сярдэчна заплачуць.

## БРАТ БРАТА ЗАБІЎ

### 1043

Moderato










Ой, у полі-полюшку крутая гара, эй,
Эй, ох-хо-хо, крутая гара, эй.[1]

Ой, ды на той горачцы тры палкі стаяць, эй,
Эй, ох-хо-хо, тры палкі стаяць, эй.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца без выклічніка «эй» у канцы.

Ой, у першым полушку коні заржалі, эй,
Эй, ох-хо-хо, коні заржалі, эй.

Ой, у другім полушку шаблі блішчалі, эй,
Эй, ох-хо-хо, шаблі блішчалі, эй.

Ой, у трэцім полушку прыгода стаяла, эй,
Эй, ох-хо-хо, прыгода стаяла, эй.

А што за прыгодушка? Брат брата забіў, эй,
Эй, ох-хо-хо, брат брата забіў, эй.

А забіўшы брацетку, сеў лісты пісаць, эй,
Эй, ох-хо-хо, сеў лісты пісаць, эй:

— Прыедзь, прыедзь, мамачка, сыночка хаваць, эй,
Эй, ох-хо-хо, сыночка хаваць, эй.

Буду табе, мамачка, ўсю праўду казаць, эй,
Эй, ох-хо-хо, ўсю праўду казаць, эй.

Служылі мы, мамачка, у адным палку, эй,
Эй, ох-хо-хо, у адным палку, эй.

Любілі мы, родная, ўдвох адну панну, эй,
Эй, ох-хо-хо, ўдвох адну панну, эй!

Ехалі мы, мамачка, ды праз яе двор, эй,
Эй, ох-хо-хо, ды праз яе двор, эй.

Звалілася шапачка у мяне далоў, эй,
Эй, ох-хо-хо, у мяне далоў, эй.

А я вялеў, мамачка, шапачку падаць, эй,
Эй, ох-хо-хо, шапачку падаць, эй.

А ён жа мне, мамачка, шапкі не падаў, эй,
Эй, ох-хо-хо, шапкі не падаў, эй.

А я выняў шабельку, з плеч галоўку зняў, эй,
Эй, ох-хо-хо, з плеч галоўку зняў, эй!

Вумная галовачка пакацілася, эй,
Эй, ох-хо-хо, пакацілася, эй.

Гарачая кровушка разлівалася, эй,
Эй, ох-хо-хо, разлівалася, эй.

Чаго ж маё сэрданька не парвалася, эй,
Эй, ох-хо-хо, не парвалася, эй!

Заіржалі конікі, яго везучы, эй,
Эй, ох-хо-хо, яго везучы, эй.

Застагнала зямелька, яго дзержучы, эй,
Эй, ох-хо-хо, яго дзержучы, эй.

Закувала зязюлька, над ім летучы, эй,
Эй, ох-хо-хо, над ім летучы, эй.

## 1044

Allegretto







Ой, у першай дружыне шабелькі блішчаць,
Гэй, да гэй, шабелькі блішчаць.[1]
Ой, ў другой дружыне конічанькі ржаць,
Ой, у трэцяй дружыне брат брата забіў!
Ой, брат брата забіў, сеў лісты пісаць,
Ой, сеў лісты пісаць, да матэнькі слаць:
— Прыбудзь, прыбудзь, мамачка, сыночка хаваць.
Ваявалі, мамачка, праз тры леці ўдвух,
Во, любілі, мамачка, дзеўку па двух, ўдвух.

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, да гэй».

Да ехалі, мамачка, цераз яе двор,
Такі, мая мамачка, калпак мой упаў,
А я яго, мамачка, прасіў, каб падняў.
А ён, мая мамачка, калпачка не даў,
Так я яму, мамачка, галаваньку зняў.
Не паспела матанька сыночка хаваць,
Да паспела матанька, дзе суды судзяць.

## 1045




Ці дол, ці гара, ці туман, ці дождж?
Да не дол, не гара.

Ішло тры палкі да ўсё конніца,
Ішло тры палкі.

А ў першым палку шабелькі брашчаць,
А ў першым палку.

А ў другом палку навіны чуваць,
А ў другом палку.

А ў трэцім палку брат брата забіў,
А ў трэцім палку.

Брат брата забіў, галоўку зрубіў,
Брат брата забіў.

Трэ лісты пісаць, да мамкі паслаць,
Трэ лісты пісаць.

Ох, стала матачка лісты чытаць,
Ох, стала матачка.

Ох, лісты чытаць да й сільне плакаць,
Ох, лісты чытаць.

— А мой сыночку, што ж ты нарабіў,
А мой сыночку.

Свайму брацейку галоўку зрубіў,
Свайму брацейку.

— Я яму казаў каня асядлаць,
Я яму казаў.

Каня асядлаць да й каня падаць,
Каня асядлаць.

Шабелька мая ахфіцэрская,
Шабелькая мая.

Моладасць мая кавалерская,
Моладасць мая!

### 1046

На чыстым полі не дым, не туман,
Ай, люлюшкі, люлі, не дым, не туман. [1]
Не дым, не туман жа — зеляна сасна.
Пад тою сасною тры палкі салдат.
У першым палочку — тры братцы радных.
Ай, большы брацец сярэдняга ўбіў.
А малы жа брацец да гэта відаў,
Да гэта відаў жа, пісьмо напісаў.
— Прыедзь, прыедзь, матуленька, сына хаваці,
Аднаго хаваці — другога караць.
Кукала зязюленька, борам лятучы,
Плакала матуленька, к сынам едучы.

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ай, люлюшкі, люлі».

— Ай, сынка мой, сынка, за што брата ўбіў?
— Я табе, матуленька, на месцы скажу:
Хадзілі, матуленька, па адной вуліцы,
Любілі, матуленька, адну дзяўчыну.
Я яго, матуленька, па ласцы прасіў,
А ён мне, матуленька, дзеўкі не ўступіў.
Я яго, матуленька, з ружайца убіў.

## 1047




Ой, у полі, ў полі не дым, не туман.
Там стаяла воіска да й не год, не два,

Там стаяла воіска да й не год, не два,
Там стаяла воіска роўна тры гады.

Вой, у першым воіску коні заржалі,
Вой, у другім воіску шаблі заззялі.

Вой, у трэцім воіску брат брата забіў,
Брат брата забіў, галоўку зрубіў.

Піша маці пісьмы, пісьмо за пісьмом:
— Прыедзь, прыедзь, мамка, сына хараніць.

Прыедзь, прыедзь, мамка, сына хараніць,
Большага карацъ, меншага хаваць.

Прыехала мамка сына хараніць,
Большага карацъ, меншага хаваць.

— Вох, я ж табе, мамка, усю праўдачку скажу:
Служылі мы, мамка, ў аднаго пана.

Да злюбілі, мамка, адну паненку,
Да ехалі, мамка, цераз панаў двор.

Да ехалі, мамка, цераз панаў двор,
Да спала, мамка, шапачка далоў.

Да спала, мамка, шапачка далоў,
А я ж яго прасіў: «Шапачку падай!»

А мне ж ён, меншы, шапкі не падаў,
А я ж яму, мамачка, з плеч галоўку зняў.

Пакацілася галовачка, як туман па бару,
Плач, плач, мамачка, штодзень па яму.

## 1048

Moderato

Ой, у по_лі, по_ лі не дым, не ту_ ман,
гэй, гэй, не дым, не ту_ ман.

Ой, у полі, полі не дым, не туман,
Гэй, гэй, не дым, не туман. [1]
Ой, у полі, полі тры палкі стаяць.
У першым палку коні зарзалі,
У другім палку шаблі заззялі,
А у трэцім палку навіны сталі
Навіны сталі: брат брата забіў,
Брат брата забіў, галоўку зрубіў.
А сам жа ён сеў пісьмы пісаці,

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з дадаткам «Гэй, гэй» упачатку.

Пісьмы пісаці, да мамкі слаці.
— Во прыедзь, ты, мамка, прыедзь ты сама,
Аднаго хаваці, другога караці.
Во я табе, мамка, ўсю праўду скажу,
Служылі мы, мамка, у адным палку,
Палюбілі, мамка, мы адну дзеўку.
Во ён жа мне, мамка, правоў не ўступіў,
Вот я яму, мамка, галоўку зрубіў.

## 1049




Ай, там у полі тры дубы стаіць,
Ой-ё-ё, тры дубы стаіць. [1]
Пад тымі дубамі тры шатры вісіць,
Пад тымі шатрамі тры палкі салдат,
Тры палкі салдат, маладых рабят.
А ў першым палку сівы конь заржаў,
А ў другім палку сабелька блішчыць,
А ў трэцім палку брат брата забіў.
Брат брата забіў — сеў пісьмо пісаць,
Сеў пісьмо пісаць, к атцу-маці слаць.
— Я ж табе, мамачка, ўсю праўду скажу:
Служылі мы з ім у адным палку,
Любілі мы з ім адну дзеўчыну.
Я ж яго, мамачка, па ласцы прасіў,
Ён жа мне, мамачка, шагу не ўступіў,
Я ж яму, мамачка, галоўку зрубіў.
Кукавала зязюля, з бору летучы,
Сівы конь заржаў, цела везучы,
Плакаў я, мамачка, услед ідучы.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з дадаткам «Ой-ё-ё» ўпачатку.

## 1050

У роўным полі не дым, не вада,
Там стаяла войска вялікае,
У тым войску прыгода стала.
А што за прыгода? Брат брата забіў.
Ідзець іх мамка і плачыць:
— А сынка, мой сынка, нядобра зрабіў,
Роднага брата да смерці забіў!
— Нам далі, мамка, войска
І выправілі ваяваць,
На роднага брата нада наступаць.
Я ў яго, мамка, праўданькі пытаў,
Ды ён мне, мамка, праўды не сказаў,
Дык я яму, мамка, з плеч галоўку зняў.
Круглая галоўка пакацілася,
Румяненька цельца адвалілася.
Круглая галоўка пакацілася ў кусты,
А я сабе палучыў на грудзь красты.
Мы служылі, мамка, у адным палку
І любілі, мамка, дзевачку адну.
Мы ішлі, мамка, вулачкай вузкой
І ступілі, мамка, у адзін слядок.
І мы пілі, мамка, салодкі мядок,
І мы той жа мядок саладзенькі,
Ён жа быў мне браток радненькі.
А той слядок быў вузенькі.
Ён жа мне браток быў міленькі.

## 1051

Ой, у полі, ў полі не дым, не туман,
[Не дым, не туман,] зеляная вярба.
Пад той вярбой тры войскі стаяць.
У першым войску конікі рзуць,
У другім войску малайцы пяюць,
У трэцім войску брат брата убіў.
Слышны весці д' атца, маці дайшлі:
— Сынку мой, сынку, што ж ты ўчыніў?
А роднага братца ты свайго загубіў!

— Я табе, бацюшка, усю праўду скажу:
Стрэліся мы, маці, ў цеснай вуліцы,
Я яму, маці, «добры дзень» даў,
А ён мне, маці, і рэчы не ўказаў,
Тады я яму з плеч галовачку зняў.
Пакацілася галовачка, як шар, па двару,
Разлілася гарача кроў па жоўтаму пяску!

## 1052




Што і у полі, ў полюшкі тры дубы стаіць,
Што пад тымі дубамі тры дамы стаіць.

Што і ў першым доміку конь сівы заржаў,
Што і ў другім доміку брат брата рубаў.

Што і ў трэцім доміку брат брата прасіў:
— А ты, братка родненькі, напішы пісьмо.

Напішы пісёмушка да маці сваёй,
Няхай прыязджае сынка хараніць.

Сыночка хароняць, маці ўслед вядуць,
Сыночка хароняць, маці ўслед вядуць.

Заплакала мамачка, сына вязучы,
Большага вязучы, меншага клянучы.

— Бадай табе, мой сынок, бог долі не даў,
Як большаму браточку ўслед галоўку зняў.

— Не плач, мая мамачка, усю праўду скажу:
Служылі мы, мамачка, у адным палку,

Любілі мы, мамачка, дзевачку адну.
А я яму мамачка, сем начэй спусціў,

А ён жа мне, мамачка, шагу не ўступіў,
Дык я яму, мамачка, галоўку зрубіў.

## 1053




Аддавала маці двух сыноў ў салдаты, эй, [1]
Што й у первым войску коні заржалі, эй,
Што й у другім войску брат брата убіў, эй,
Да забіўшы братачка, сеў пісьмо пісаць, эй:
— Прыбудзь, прыбудзь, мамачка, сыночка й хаваць, эй!
Да й прыбыла мамачка сыночка хаваць, эй,
Да й не ўмела мамачка сыночка хаваць, эй,
Як жа стала мамачка другога й караць, эй.
— Ну, й за што ж ты, сынок, свайго брата ўбіў, эй?
— Ну, мы любілі, мамачка, адну дзевушку, эй,
От за гэта, мамачка, я яго ўбіў, эй!
Ён жа мне, мамачка, ночкі не спусціў, эй,
Ну, й за гэта, мамачка, [redacted] яго ўбіў, эй!

[1] Кожны радок паўтараецца без выклічніка «эй».

## РЫЦАР І ЛЯВУТАНЬКА

### 1054

Рыцар каня паіў,
Лявутэнька ваду брала
І з рыцэрам размаўляла:
— Ай, рыцэру, рыцэру,
Прашу цябе на вячэру,
А на рыбку шатрынку,
На мяккую пярынку.
— А баюся, Лявоська,
Цёмнае ночкі цямненькай,
Быстрае рэчкі быстрэнькай.
— А не бойся, рыцэру,
Запалю тры свечачкі,
Сама пайду каля рэчкі.
А пастаўлю свечачкі
І нізенька, і высока,
Каб увідзеў далёка.
Каралёва ключніца,
Усяму свету разбойніца,
Каля рэчкі хадзіла,
Хустачкай махнула,
Усе свечачкі пагасіла
І рыцэра утапіла.
А зачула Лявоська,
Кінулася ў хваробу,
Зажадала шчукі-рыбы.
— Мае мілы рыбалоўцы,
Ды закіньце шолкаў невад,
Ды ўлавіце шчуку-рыбу.
Закінулі шоўкаў невад,
Не ўлавілі шчукі-рыбы,
Улавілі рыцэра.
Рыцэра хаваць вязуць,
А Лявоську канаць кладуць.
Пахавалі рыцэра
У касцеле пры сцяне,
А Лявоську пахавалі
На дварэ ў прытварэ.
На рыцэру явор расцець,
На Лявосьцы — бярозачка.
Раслі, раслі схіліліся,
Яны з сабой злюбіліся.

## 1055

У нядзелю параненька
Луцэранька каня пасіў,
А Юзенька ваду брала
І з Луцэрам размаўляла.
— Луцэранька, маё сэрданька,
Чаму ў мяне не бываеш,
Майго быту не адведаеш?
— Юзанька, маё сэрданька,
Як жа мне ў цябе бываці,
За гарамі высокімі
І за рэчкамі быстранькімі.
— Луцэранька, маё сэрданька,
Я табе панароўлю
І дзве свечачкі пастаноўлю:
Адну свечку высокую,
А другую нізенькую.
З высокай далёка відаць,
А з нізкай глыбока відаць.
Тудама ішла ксенжна панна
І ксенжацкая наключнічка,
Луцэрава разлучнічка.
А як хусткаю замахнула,
Дзве свечачкі патушыла
І Луцэра утапіла.
У нядзелю параненька
Усе панны да касцёла ідуць,
А Юзечка не часалася,
Ні да касцёла не ўбіралася.
— Юзечка, маё дзіцятка,
Вазьмі сабе шырыначку,
Счашы сабе галовачку.
Не шла Юзя да каморы,
Да ўскочыла да рыбаловы:
— Мае мілы рыбалоўчыкі,
Закідайце шоўкаў невад,
Да злавіце шчуку-рыбу.
Не ўлавілі шчукі-рыбы,
Да ўлавілі Луцэра з канём.
Як Юзечка абачыла,
Голым сэрцам к зямлі ўпала,
На том месце паканала.

Пахавалі Юзьку у касцёле,
А Луцэра пад касцёлам.
На Юзаньцы расце вішанька,
А на Луцэру зялёны явар.
Голь за гольку пабраліся,
Вяршок з вяршком зліпнуліся.
Тудама йшла ксенжна панна
І ксенжацкая наключнічка,
Луцэрава разлучнічка.
— На сем свеце разлучыла,
А на гэтым не мушу,
Бо ўсадзіла ў пекла душу.

## 1056

Ахвіцэр каня паіў,
Дзеўка ваду падлівала,
Ахвіцэра падмаўляла:
— Ахвіцэру, ахвіцэру,
Хадзі ка мне на вячэру,
А на рыбку-шатрынку,
На мяккую пярынку.
Ахвіцэр дзеўцы адмаўляець:
— Цяпер ночкі цёмныя,
Цяпер ночанькі цямны,
Цяпер рэчанькі быстры.
— Мы ж гэтаму прыгадаем,
Ясны свечы пазапаляем,
Мы ж гэтаму прымыслім,
Гібкі кладкі намосцім.
Як устала ліха бура,
Ясны свечы пазадула,
Гібкі кладкі падламіла
Й ахвіцэра затапіла.
А назаўтра рана
Ахвіцэра жана
Кала рэчунькі ходзіць,
Белы ручкі ломіць,
Дробны слёзкі роніць:
— А ўкарай жа, божухна,
Ахвіцэраву ключніцу,

А маю разлучніцу —
Мяне, млоду, разлучыла,
Маіх дзетак асіраціла.

## ПЯТРУСЬ

### 1057

Далёка слыхаці такую навіну,
Забіта Пятруся, забіта ў Жыліну.

А за што забіта, за якую навіну?
Што сваю мае, чужую кахае.

Чтэры служачкі да Пятруся слала,
А за пятым разам сама паеха́ла.

— Пакінь, Пятрусю, ў полі араці,
Няма пана дома, будзем начаваці.

Паквапны служонцы пану азнаймілі,
Ўкола новага двара пакой абступілі.

Выглянула пані з новага пакою,
Абачыла пана на вараном коню.

— Уцякай, Пятрусю, уцякай, сардэнька,
Бо ўжэ пан прыехаў — будзе нам цяжэнька.

Білі Пятруся чтэры гадзіны,
Упаўнялі сабе, што Пятрусь няжывы.

Узялі Пятруся пад белыя бокі
І ўкінулі Пятруся ў Дунай глыбокі.

У Дунай глыбокі, у быструю воду
За яго такую харошую ўроду.

Вяльможна пані ў сенях стаяла
І сваім рыбакам па даляру дала.

— Ідзіце, рыбакі, Пятруся лавіце,
Будзеце ад мяне нагараду меці.

Шукалі Пятруся чтэры гадзіны
І нашлі Пятруся ў Жылінскай даліне.

Няма каму даці ды матульцы знаці,
Штоб прыехала Пятруся хаваці.

Вяльможна ідзе, яго матка хліпе,
Вяльможна ідзе, яго матка хліпе:

— Не плач, матка, не плач, бо я сама плачэ,
Я за тваім сынам панства, жыце трацэ.

## 1058

Недалёка става, у Джуліне ў пана
Вяльможная паня нераўню кахала.

Па пяць разы паслы пасылала,
А за шостым разам сама прыехала.

— Пакінь, Пятруню, сеяць ды араці,
Хадзем да пакою, будзем панаваці.

Пакінь Пятруню пшаніцу малаціці,
Хадзем да пакою будзем мёд, віно піці.

— Баюся, пані, мёд, віно піці —
Хваліўся вяльможны з туга лука ўбіці.

— Не бойся, Пятруню, няма каму ўбіці,
Паехаў вяльможны да суду судзіці.

Толькі-што селі мёд-віно кружаці —
Быў у пана слуга верны, той паехаў пана даганяці.

Дагнаў пана на калінным мосце:
— Вярніся, вяльможны, ёсць у пана госці.

Прыехаў вяльможны ды й стаў у брылі,
Вялеў падаці сваю астрогу.

Вялеў падаці сваю астрогу,
Каб таго Пятруні ды й не пусцілі.

Як толькі імасць пана акном узрэла,
На ёй усё цела падзервянела.

— Уцякайма, Пятруню, ў аконца цямненька!
Пятрусь да дзвярэй, у дзвярах цясненька.

Ой, узрэла паня стрэльбаньку грубу:
— Цяпер жа з табою прапала, Пятруню!

Ой, служыў Пятрусю паўчварта року,
А ўзяў заплату са стрэльбы па боку.

Укінулі Пятруся ў халодную воду:
— Гэта табе, Пятрусю, за харошу ўроду!

Ляжаў Пятрусь тры дні, тры доўгія дніны,
Пакуль яго знайшлі людзі ў Джуліне.

Як толькі паня аб тым дазнала,
Што знайшлі Пятруся, што верна кахала,

Ухапіла паня сіню жупаніну,
Завярнула паня белу намітчыну.

Пабегла паня лугам ды мяжамі,
Абліваецца паня дробнымі слязамі.

— Ой, наце, рыбаловы, грошы карбаванца,
Выцягніце Пятруся, майго каханца!

Ой, дам, рыбаловы, гарэлкі напіцца,
Выцягніце Пятруся, хаця падзівіцца.

Прыйшла яго маці ды й стала плакаці.
Прыйшла яго маці ды й стала плакаці.

— Не плач, мамуню, няхай я паплачу,
Цераз твайго сына сваё панства трачу.

— Ты будзеш, паня, будзеш панаваці,
А мне, старэнькай, трэба гараваці.

Ты будзеш, паня, мёд-віно піці,
А мой Пятрусь у зямельцы гніці.

— Ой я, матулька, таго не знала,
Што нас з Пятрусем бяда спаткала.

Што нас з Пятрусем бяда спаткала,
А я Пятруся верна кахала.

## 1059

Вяльможная пані свайго пана мяла,
Да яшчэ таго Пятруся кахала.

Чатэры разы коні пасылала,
За пятым разам сама паехала.

Прывязла Пятруся ў новыя пакоі,
Забачыла пана на вараных конях.

— Уцякай, Пятрусю, уцякай, сардэнька!
А Пятрусю ў дзверы — уцячы трудненька.

А панскія слугі пану данасілі,
Навакола дому усе аступілі.

Узялі Пятруся пад белыя рукі,
Павялі Пятруся на вечныя мукі.

— Пакажы, Пятрусю, пакажы жупаны,
Што падаравала вяльможная пані.

Пакажы, Пятрусю, пакажы пярсцені,
Што падаравала вяльможна ў пасцелі.

Узялі Пятруся пад ценькія бокі,
Кінулі Пятруся у Дунай глыбокі.

Вяльможная пані усю ноч не спала,
Сваім рыбаловам па дукату дала.

— Шукайце Пятруся, шукайце младога,
Будзеце вы меці нагрsuccession ладнога!

Шукалі Пятруся паўтары нядзелі,
Знайшлі Пятруся у жаласнай даліне.

Няма ж каго слаці даці пані знаці.
Пані прыязджала, Пятруся хавала.

Ехала вяльможна барамі, лясамі,
Абліваласся пані дробнымі слязамі.

Да яшчэ Пятруся у дол не ўпусцілі —
Па вяльможнай пані званэ зазванілі.

## 1060

Далеча слыхаць вяліка навіна:
Вялікая пані Пятруся любіла.

Вяльможная пані свайго мужа мала,
Яшчэ да таго Пятруся кахала.

Вяльможная пані з Пятрусем у пакоі,
А едзе вяльможны пан на вараном кані.

— Уцякай, Пятрусь, уцякай, сэрданька,
Як цябе паймаюць, будзе табе міленька.

Узялі ж Пятруся за белы рукі,
Зацерпіць Пятрусь вялікай мукі.

Узялі Пятруся за белыя бокі,
Укінулі Пятруся у Дунай глыбокі.

— О, дзе твае, Пятрусь, дарагія жупаны,
Што табе спраўляла вяльможная пані?

Дзе твае, Пятрусь, дарагі паясы,
Што табе спраўляла вяльможная з прывязі?

А дзе твае, Пятрусь, дарагі пярсцені,
Што табе даравала вяльможная ў пасцелі?

Некаму даці да вяльможнай знаці,
Штобы пасылала Пятруся шукаці.

Вяльможная пані рыбакоўззывала,
На дзень па талеру каждаму давала.

Шукалі Пятруся ў Жыромскай даліне,
Шукалі Пятруся ў Жыромскай даліне.

Ой, некаму даці да вяльможнай знаці,
Штобы прыязджала Пятруся хаваці.

Вяльможная пані да карэты сядала,
Белыя ножанькі аб камень збівала.

Ехала вяльможная цёмнымі лясамі
І абліваласся дробнымі слязамі.

Прыехала вяльможная пані — яго матка хіпле,
Вяльможная пані чырвонцамі сыпле.

— Вяльможная пані, ці нам таго трэба?
Надгарадзі, божа, з высокага неба.

Сталі Пятруся да долу спушчаці,
Стала вяльможная абамляваці.

Некаму даці вяльможнаму знаці,
Каб прыязджаў дзве душы хаваці.

— А волей бы я ў свеце мандраваці,
Ніжэлі мне ехаць дзве душы хаваці.

1061

Далёка слыхаці такую навіну:
Забіта Пятруся, забіта ў Жыліню.

За што забіта, за якую віну?
Шчо сваю мае, а чужу кахае.

Як жа ты смееш да такеі пані,
Пані ў атласах, а ты ў сукмане?

Чтыры служанкі да Пятруся слала,
А за пятым разам сама паехала.

— Пакінь, Пятрусю, у полі араці,
Няма ж пана дома, будзем панаваці.

Паквапны служонькі пану азнаймілі,
Навакола двара покуй аступілі.

Выглянула пані з новага пакою,
Абачыла пана на вараном коню.

— Уцякай, Пятрусю, уцякай, сардэнька!
Бо ўжо пан прыехаў — будзе нам цяжэнька.

Бо ўжо пан прыехаў — будзе нам цяжэнька.
Пятрусь да дзверый — уцячы трудненька.

Білі Пятруся чатыры гадзіны,
Панімалі сабе, шчо Пятрусь няжывы.

Узялі Пятруся пад белыя бокі,
Укінулі Пятруся ву Дунай глыбокі,

Ву Дунай глыбокі, ву быструю воду —
Во табе, Пятрусю, за харошу ўроду.

Вяльможна пані ў сенях стаяла,
Сваім рыбакам па талеру дала:

— Ідзіце, рыбакі, Пятруся лавіці,
Будзеце ад мяне надгароду меці.

Шукалі Пятруся чатыры нядзелі,
Нашлі Пятруся у Жаліньскай даліне.

Няма каму даці да вяльможнай знаці,
Шчоб прыехала Пятруся хаваці.

Вяльможна ідзе, яго матка хліпе,
Вяльможна пані талерамі сыпе.

— Не плач, матка, не плач, бо я сама плачэ,
За тваім сынам жыце і панства траце.

Хадзіла вяльможна барамі-лясамі,
Аблівала лічка дробнымі слёзамі.

Белыя ногі а камень збівала,
Дарагія шаты па пояс мачыла.

Ходзіць пан па рынку, цяжанька ўздыхае
І сам на сябе цвёрда наракае:

— Шчобы я ведаў такую нядолю,
Даў бы Петрусёві ў сваім двару волю.

## 1062

Ой, якую чуці ж да й у свеце навіну:
Пані пана мяла а й Пятруся кахала.

Пані пана мяла а й Пятруся кахала,
Па чатыры разы ёму коні пасылала.

Па чатыры разы ёму коні пасылала,
Й а за пятым разам да й сама паехала.

— Ой, пакінь, Пятрок, гарашок малаціці,
Да й хадзем за мною мэд-гарэлку піці.

Шчось то Петрусеньку гарэлачка не п'еццa,
Кала яго сэрца да пячаль-журба ўецца.

Панскія слугі ж да пану азнаймілі
І акола пакою старожу выстанавілі.

— Й уцякай, Пятруська, да й уцякай, сардэйка,
Як нас убачаць, то будзе нам трудненька.

Пятруська да дзверай — ўжо Пятрусю трудненька
Узялі Пятруся да за белы рукі.

Узялі Пятруся да за белы рукі,
Павялі Пятруся на вялікі мукі.

Узялі Пятруся да за белы бокі,
Кінулі Пятруся у Дунай глыбокі.

Петрусёва мама ідзе уліцою, хлыпле,
Вяліможна пані да тысячамі сыпле.

Вяліможна пані да на беражку стала,
Кажнаму рыбалову да па дукату дала.

Дала па дукату да шчэ й зверху залатога:
— Найдзіце мне Пятруська, мне хоч нежывога.

Нашлі Пятруська ў даліне далінскай,
Вяліможна бегла і да чаротам, балотам.

Вяліможна бегла, на Пятрусенька ўпала:
— Пятруську, Пятруську, як я верна кахала.

У нядзельку рана ужо Пятруська хароняць,
А па вяліможнай ва ўсе звоны звоняць.

## МАЛАДАЯ КАСЯ ПАМІРАЕ

### 1063

Служыў Ясь ваяводзе,
Выслужыў Касеньку —
Маладу жанэньку.
Кася лісты пісала
І да Яся пасылала:

— Едзь, Ясю, дадому,
Збудуй нову камору,
Штоб я мела гдзе ляжаць,
Свае дзеткі гадаваць.
Прыехаў Ясь дадому,
Праводзяць Касю да гробу.
— Ой, пакажэце Касю мне,
Пагляджу, чы не жыве.
Прышоў Ясь да сяней,
Ляжыць Кася на досцы,
Малы сын — у калысцы.
— Люлі, люлі, сыну мой,
Нашто цябе бог стварыў,
Калі ты Касю замарыў.
Сястра тое учула
Да на Яся ўскрыкнула:
— Ой, не кляні ты яго,
Табе жонка зараз будзець,
У яго маткі не будзець:
Табе жонка ў вяночку,
Яму матка ў пясочку.

## 1064

Ясь паехаў на вайну,
Кінуў Касю у даму.

Ясь на вайне ваюець,
Дома Кася хваруець.

Ясь прыехаў з ваёнкі,
Пусціў каня ў стаёнкі.

[Пусціў каня ў стаёнкі,]
А сам прышоў у хатачку.

А там цяслы цяслуюць,
Касі труну гатуюць.

А ў калысцы малы сын,
А ў калысцы малы сын.

Ясь калыску ўскалыхнуў,
Маленькі сын уздыхнуў.

— Люлі, люлі, малы сын,
Каб ты веку не дажыў.

[Каб ты веку не дажыў,]
Як ты Касю умарыў.

— А не кляні, татачка,
Табе Кася на вулцы.

[Табе Кася на вулцы,]
А мне мамка у трунцы.

Табе Кася ў вяночку,
Мая мамка ў пясочку.

## ГАЛУБКА-УДАВА

### 1065

Moderato

Пад ду_ бі_ но_ ю, пад зе_ ля_ но_ ю,
жыў там га_ луб_ чык з га_ лу_ бі_ но_ ю:
ца_ ла_ ва_ лі_ ся, мі_ ла_ ва_ лі_ ся,
пра_ вым скры_ дэл_ кам на_ кры_ ва_ лі_ ся.

Пад дубіною, пад зеляною,
Жыў там галубчык з галубіною:

Цалаваліся, мілаваліся,
Правым скрыдэлкам накрываліся.

Наехаў казак з новэга двору,
Забіў галубка, галубка ўдова.

Ставяць вадзіцы, сыплюць пшаніцы:
— Ты еш, галубка, тыя студавіцы!

— Я не хочу есці, я не хочу піці,
Няма міленькага, я не магу жыці.

Наехаў казак з новэга двору,
Навёз галубкоў, што да выбору.

Навёз галубкоў сто дваццаць чтэры,
Выбірай, галубка, каторы мілы.

— Каб я выбірала, каб надвыбірала,
Такі міленькага свайго не дабрала.

У майго міленькага сівая галоўка,
Сівая галоўка, ціхая размоўка.

## 1066




Ой, ў полі, ў полі да й два дубчыка,
На тых дубчыках два галубчыка.

Цалаваліся, мілаваліся,
Ўсё й правым крылом абдымаліся.

Скуль жа да ляцеў да сівы сакол,
Ўдарыў галубка ў сізыя плечы.

Ударыў галубка ў сізыя плечы,
А сам паляцеў да й пад аблокі.

А сам паляцеў да й пад аблокі,
За ім галубка, расплакаўшыся.

— Не плач, галубка, не плач, сізая,
Наганю цябе стаду й галубей.

Выбераш сабе, якога злюбіш,
З другім галубком гора забудзеш.

## 1067










Пад дубіною, пад зеляною
Сядзеў галубчык із галубою,

Ой, лі-ля, ляй-ля, ой, лі-ля, ляй-ля,
Сядзеў галубчык із галубою. [1]

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ой, лі-ля, ляй-ля, ой, лі-ля, ляй-ля».

Яны сядзелі і мілаваліся,
Адным крылечкам ды й накрываліся.

Прыляцеў сокал з-за сіня мора,
Забіў галуба, галубка — ўдова.

Наліў вадзіцы, ўсыпаў пшаніцы.
— Ой, ешце-піце, мае ўдаліцы.

— Не хачу есці, не буду піці,
Няма мілога, не з кім мне жыці.

Прыляцеў сокал з-за сіня мора,
Нагнаў галубаў рознага пёра.

Нагнаў галубаў трыста чатыры:
— Выбер, галубка, каторы мілы.

— А я сядзела, а я глядзела,
Няма такога, якога мела.

Гэты высокі і даўганосы,
А мой міленькі красіў, харошы.

Гэты нізенькі і таўставаты,
А мой міленькі красіў, багаты.

## 1068

𝅗𝅥. = 56

Пад ка_ лі_ но_ ю, пад ма_ лі_ но_ ю
ся_дзеў га_ луб_ чык з га_ лу_ бі_ но_ ю,
ся_дзеў га_ луб_ чык з га_ лу_ бі_ но_ (2).

Пад каліною, пад маліною
Сядзеў галубчык з галубіною. [1]

Цалаваліся, мілаваліся,
Правым крылечкам накрываліся.

Прыляцеў сокал з-за сіня мора,
Забіў галубца — галубка ўдова.

Сыплюць пшаніцу, ставяць вадзіцу:
— Пі, галубіца, бедна ўдавіца.

Яна не ела, яна не піла,
Па галубочку ўсё слёзы ліла.

Паляцеў сокал за сіня мора,
Прывёў галубцаў дваццаць чацвёра.

— Выбірай, галубка, якога любіш,
Якога любіш, шчыра шануеш.

— Я й выбірала, ■ і глядзела:
Няма такога, якога мела.

Мой быў міленькі, чорнабрывенькі,
Лічка бяленька, сам маладзенькі.

## 1069




Там на рэчаньцы, там на быстранькай,
Ой, там плавала пара галубоў.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Яны плавалі, расплываліся,
З правага крыльца абніма́ліся.

Вылецеў гарол да з чужых старон,
Забіў галубца з правага крыльца.

Узяў галубаньку да й ў няволеньку,
Пасадзіў яе на крынічаньцы.

Пасыпаў жменю да ёй пшаніцы:
— Пі, еш, галубка, бо ты ўдавіца!

— Ой, не буду піць, не буду есці,
Буду думаці, гора гараваці.

Забіў галубца, забівай мяне,
Такі не буду естанькі ў цябе.

Паляцеў гарол да чужых старон,
Ой, прыгнаў ён зтуль сем пар галубоў:

— Выбірай жа ты да каторы твой.
— Ой, няма, няма, ой, нігоднага.

У гэтых галубоў шары галовы,
Шары галовы, горды размовы;

У майго галубца сіва галоўка,
Сіва галоўка, ціха размоўка.

## 1070






Пад дубіною пад зеляною
Сядзеў галубец з галубіною.
Алі-тундылі, ылі-тундалі,
Сядзеў галубец з галубіною. [1]

Цалаваліся, абнімаліся,
Правым крылечкам накрываліся.

Прыехаў козак з-за Чорна мора,
Забіў галубца — галубка ўдова.

Сыпаў пшаніцу, ставіў вадзіцу:
— Пі, галубіца, млада ўдавіца!

— Не хачу есці, не хачу піці,
Няма галубца — не з кім мне жыці!

Паехаў козак за Чорна мора,
Прыгнаў галубцаў галубцы-ўдове.

Прыгнаў галубцаў трыста чатыры:
— Бяры, галубка, каторы мілы.

---

[1] Рэфрэн «Алі-тундылі, ылі-тундалі» з другім радком кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Я выбірала, перабірала
І не выбрала так, як кахала.

Гэты і ценькі, ён даўганосы,
А мой міленькі пекны, прыгожы.

## 1071

♪ = 120

Ой, там, на га_ рэ, ой, там, на кру_тэй
ся_дзе_ ла, гу_ ля_ ла (й) па_ ра га_ лу_ бей,
ся_ дзе_ ла, гу_ ля_ ла(й) па_ ра га_ лу_ бей.

Ой, там на гарэ, ой, там на крутэй
Сядзела, гуляла пара галубей.[1]

Ой, яны сядзелі, параваліся,
Сызымі крыламі абнімаліся.

Адкуль узяўся ахотнік-стралец,
Разбіў, разлучыў пару галубей.

Галуба убіў, галубку злюбіў,
Узяў пад палу, прынёс дадаму.

Прынёс дадому, пусціў дадолу,
Падаў пшаніцы, наліў вадзіцы.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Галубка не п'ецъ, галубка не есць,
На крутую гору ўсё плакаць вядзець.

— Галубка мая сізакрылая,
Чаму ж ты така клапатлівая?

— Ой, як жа і мне не клапатаці,
Было нас пара, засталась я адна.

— Ой, ёсць у нас там сем пар галубей,
Лётай, выбірай, каторы красівей.

— Ой, лётала ж я, выбірала ж я,
Ды не выбрала ж, якога ўцярала.

Не тыя крылачкі, не тыя пёрачкі,
Не той пушочак — не мой дружочак.

## 1072

♩=144

Ой, па_д(ы) га_ ро_ ю, па_д(ы) га_ лі_ но_ ю
ся_ дзеў га_ луб_ чык з га_ лу_ бач_ ко_ (ю),
ся_ дзеў га_ луб_ чык з га_ лу_ бач_ ко_(ю).

Ой, пад гарою, пад галіною,
Сядзеў галубчык з галубачкою.[1]

Яны сядзелі, яны мувілі,
Правым крылечкам сябе накрылі.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Вой, ехаў казак з Чорнага мора,
Забіў галубца, галубка — ўдова.

Пасыпаў пшаніцы, паставіў вадзіцы:
— Пі, еш, ґалубіца, малада ўдавіца.

— Не буду піці, не буду есці,
Няма мілога, не з кім мне сесці.

Ой, ехаў казак чатыры мілі,
Нагнаў галубцоў дваццаць чатыры.

Нагнаў галубцоў дваццаць чатыры:
— Выбірай, галубка, каторы мілы.

— Я выбірала, перабірала,
Няма такога, як я кахала.

А мой каханы чорнабрывенькі,
Ліцо румяна, сам ён бяленькі.

## 1073




Вой, там на гарэ, вой, там на крутой
Сядзела пара галубоў. [1]

Яны сядзелі, любаваліся,
Белымі крыламі абдымаліся.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Адкуль узяўся хлопец маладой,
Разбіў, разлучыў пару галубоў.

Галуба убіў, галубку забраў
Пад праву полу, прынёс дадому.

Насыпаў пшанца пад самыя крылца,
Наліў вадзіцы пад самыя каленцы.

Галубка не есць да й вады не п'е,
На крутую гору ўсё плакаць ідзе.

— Галубка, не плач, не плач, не рыдай,
Пайду прынясу семсот галубей.

Галубка лятала, галубка шукала,
Такога не знайшла, як пацярала.

## 1074

♪ = 120

Ой, там на га_ рэ, ой, там на кру_ той,

ой, там ся- дзе_ ла па_ ра га_ лу_ боў,

ой, там ся_дзе_ ла па_ ра га_ лу_ боў.

Ой, там на гарэ, ой, там на крутой,
Ой, там сядзела пара галубоў. [1]

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Яны сядзелі, вымываліся,
Белымі крыламі выціраліся.

Адкуль узяўся ахотнік-стралок,
Галубочка ўбіў, галубку злавіў.

Узяў пад палу, прынёс дадому,
Прынёс дадому, пусціў дадолу.

Насыпаў пшонкі, наліў вадзіцы,
Наліў вадзіцы да й пад крыліцы.

Галубка не есць, галубка не п'е,
Галубка не есць, галубка не п'е.

— Галубка мая, чаго ты така,
Чаго ты така невясёлая?

Ой, ёсць у мяне семсот галубей,
Лятай, выбірай, каторы ён твой.

— А я ж лятала, я ж выбірала —
Няма такога, як уцярала.

## АДНАЧАСОВАЯ СМЕРЦЬ ЗАКАХАНЫХ

### 1075

♩ = 182

Хма_ рач_ ка на_ хо_ дзя,
хма_рач_ ка на_ хо_ дзя, дож_джы_ку не бу_(дзе).

Хмарачка находзя, [1]
Дождж ыку не будзе,

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

З нашае любові
Нічога не будзе.

Як мы любіліся,
Нат маці не знала,

Сталі расставацца —
Як цёмная хмара.

Чатыры нядзелі
У глаза не відалі,

А як увідалі,
Разам забалелі.

Дзяўчына ляжыць
А ў новай каморы,

Казачэнька ляжыць
У зялёнай дуброве.

Перад дзяўчыначкай
Напіткі, наедкі,

Перад казачэнькам —
Траўка зеляненька.

У нядзелю рана
Ва ўсе званы звоняць.

— Паглядзі, маменька,
Ці не казака хароняць?

Калі казачэньку,
Вы мне накажыце,

Ува 'дну магілу,
Вы нас палажыце.

Накапайце, маменька,
Высоку магілу,

Пасадзіце, маменька,
Чырвону каліну.

А пастаўце, маменька,
Храсты залатыя,

Пускай людзі знаюць,
Што ляжаць маладыя.

## 1076




Ой, друзя да друзя любіліся ў лузе,
Як мы любіліся, луге хіліліся.

Як мы перасталі, луге паўсыхалі.
Як мы любіліся чатыры гадочкі,

Чатыры гадочкі, чатыры нядзелькі,
Як мы пахварэлі аднае гадзінкі:

Казачэнька млоды ў зялёнай дуброве,
Млода дзяўчына і ў новай каморы.

Маладой дзеўчыне піці, есці носяць,
Малады казачак зімной вады просіць:

—Сырая зямліца, дай вады напіцца!
Ці не перастану па дзеўцы журыцца?

У нядзелю рана званэ зазванілі,
Малада дзяўчына ў каморы самлела.

Малада дзяўчына ў каморы самлела,
Сваёй роднай матцы слухаці вялела:

— Паслухай, матка, ці ўсе званэ звоняць,
Калі ва ўсе звоняць — казака хароняць,

Калі ў палавіне — будзе па дзяўчыне.
Пахавай нас, матка, хоць ў адной магіле.

Хоць ў адной магіле ўпоруч галавамі,
Будзе на том свеце ўся размова з намі.

## 1077

♩= 148

Зай_ дзі, зай_ дзі, яс_ на сон_ ца,
за кру_ ту га_ ру, а я
з та_ бой, мой мі_ лень_ кі, тро_ шкі па_ ста-
ю, а я з та_ бой, мой мі_
лень- кі, тро_ шкі па_ ста_ ю.

## 1078

Andante

Люб_ лю ця_ бе шчы- рым сэр_ цам, дзяў_ чы-
на ма_ я, да не ве_ ліць баць_ ка
з мат_ кай ця_ бе, бед_ ну, браць, да не
ве_ ліць баць_ ка з мат_ кай ця_ бе, бед_ ну, браць.

## ДЗЯЎЧЫНА ЧАРУЕ ХЛОПЦА

## 1079

А на моры, на моры, на цёмненькім азёры,
Дуброўка, ты дуброўка, ты зялёная мая! [1]
Пісар гусей ганяець, ў іскрыпачку йграець.
— Да скажыце паненцы, што ў чырвонай сукенцы,
Няхай замуж не йдзе, няхай мяне падажджэ.
Я ест пісар малады, к таму яшчэ багаты:
Дзевяць коні ў аборы, яшчэ столька у полі,
А дзесяты — вячаты, што паехаць у сваты.
— Матка, капай караня з-пад белага камяня,
А вымый жа на рацэ, а ўпар яго ў малацэ,
А вымыйце на ляду, а усмажце у мяду.
Яшчэ корань не кіпеў, а ўжо пісар прылацеў.
— Што ж то цябе прынясло: чы чаўночак, чы вясло?
— Прынёс мяне сівы конь да дзяўчынкі маладой.

---

[1] Рэфрэн «Дуброўка, ты дуброўка, ты зялёная мая!» паўтараецца пасля кожнага радка.

**1080**

Ой, на горцы, на горцы,
Там гулялі малойцы.

Там гулялі малойцы,
Рассыпалі чырвонцы.

Там дзяўчынкі гулялі,
Чырвончыкі збіралі.

Пісар гусі ганяе
Ды ў дудачку іграе.

— Ой вы, хлопцы-малойцы,
Накажыце той дзеўцы.

Накажыце той дзеўцы,
Што ў чырвонай шнуроўцы,

Няхай мяне не любіць,
Сваіх летаў не губіць.

Яна дзеўка багатая,
А я хлопец убогі.

А я хлопец убогі:
Сем пар валоў ў аборы.

Сем пар валоў ў аборы,
А конікі у полі.

А каровак не злічу,
Цябе, дзеўка, не хачу.

То дзяўчына учула,
Ручанькамі ўспляснула.

— Ой, што, маманька, рабіць,
Пісар не хоча любіць?

— Бяжы ж, доню, да гаю,
Шукай зелля celle розлага.

Шчэ да гаю не дайшла,
Рознага зелля найшла.

Выкапала караньца
З-пад белага камянца.

Выпаласкала ў рацэ,
Высушыла ў руцэ.

Прыставіла у печы
Да сказала тры рэчы.

Яшчэ корань не ўскіпеў,
Як ужо пісар прыляцеў.

— Ой, што ж цябе прынясло,
Ой, ці човен, ці вясло?

Ой, ці човен, ці вясло,
Ці паверх лесу нясло?

— Прывёз мяне сівы конь
К табе, дзеўка, на спакой.

Збірай, дзеўка, радзіну,
Каб жыцечка радзіла.

Каб жыцечка і авёс
Ды вялікі парос.

А грэчачка на крупу,
Што не хваціць, то куплю.

А у дзеўкі, у душкі
Чатыры падушкі.

А пятая маленькая,
Ды ты сама міленькая.

## 1081




Ай, на моры, на моры,
Гуляў казак па волі,
Вой, люлі-люлі,
Гуляў казак па волі. [1]

Ай, гуляў ён, гуляў,
На рабятушак мігаў.

— Ай, рабяты, рабяты,
Вы тапарышы мае,

Вы таварышы мае,
Вы пайдзіце да мяне.

Накажыце паненцы,
Што ў чырвонай сукенцы,

Няхай замуж не йдзе,
Няхай мяне не жджэ.

— А мамачка, мамачка,
Што мы будзем рабіці?

Што мы будзем рабіці —
Кінуў казак любіці!

— А дачушка, дачушка,
А пойдзем мы на раку.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Вой, люлі-люлі».

А пойдзем мы на раку,
Накапаем карэння.

Накапаем карэння
З-пад белага камення.

І намыем на рацэ,
І насушым на руцэ.

І насушым на руцэ,
І натопім ў малацэ.

І дадзім яму папіць,
Ці не будзе ён любіць?

Яшчэ корань не ўскіпеў,
А ўжо казак прыляцеў.

— А чаго ж ты прыляцеў,
А ты ж мяне не хацеў?

— А я й сам не ляцеў,
Мяне конь сівы прынёс.

## 1082

На ціхенькім Дунаі
Пісар гусі ганяе.
Ай, ай, а-я-яй! [1]

Пісар гусі ганяе,
На малойца маргае:

— Накажыце паненцы,
Што у чырвонай сукенцы,

Няхай мяне не жджэ,
За іншага замуж ідзе.

---

[1] Рэфрэн «Ай, ай, а-я-яй!» паўтараецца пасля кожнай страфы.

Бо я пісар малады,
Яшчэ к таму багаты:

Трыццаць коні на стайні,
Сорак авец ў аўчарні.

А дзяўчынка зачула,
За горуньку скочыла.

Накапала карэння,
З-пад белага камення.

Яшчэ корань не ўкіпеў,
А ўжо пісар прыляцеў.

— А чаму ж ты прыляцеў,
Калі мяне не хацеў?

— А як жа мне не лятаць,
Калі ўмееш чараваць.

## 1083

Накажыце той дзеўцы,
Што ў чырвонай сукенцы,
Вой, лі, вой, лі, вой, люлі,
Што ў чырвонай сукенцы. [1]

Штоб яна мяне не ждала,
Ды штоб замуж яна йшла.

Тая дзеўка пачула
Да з вячорак махнула.

Не дабегла да двара —
Забалела галава.

— Ой, мамачка, ой, родная,
Ой, што ж я буду рабіць?

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Вой, лі, вой, лі, вой, люлі».

Ой, што ж я буду рабіць —
Кінуў міленькі любіць.

— Збегай, доню, да гаю
Ды накапай размаю.

— Я размаю не знаю,
Накапаю, што знаю.

Спаласнула на рацэ,
Высушыла на руцэ.

Высушыла на руцэ
Ды й стапіла ў малацэ.

Яшчэ ж корань не ўскіпеў,
Як малойчык прыляцеў.

— Ой, што ж цябе прынясло,
Ці лодачка, ці вясло?

— Прынёс мяне сівы конь
К табе, дзеўка, на ўспакой,

Прынясла мяне вада
К табе, дзеўка, наўсягда.

## 1084

Міз гор, міз гор даліна,
Трай-рай, рай-рай! [1]
Любіў казак дзяўчыну.
Казак каня засядлаў,
Да дзяўчыны паехаў.
Да дзяўчыны паехаў,
Таварышам наказаў:
— Таварышы вы мае,
Таварышы вы мае,
Накажыце вы маей мілай,

---

[1] Рэфрэн «Трай-рай, рай-рай!» паўтараецца пасля кожнага радка.

Пушчай мяне не любіць,
Свае лета не губіць.
Та дзяўчына пачула,
Яна й дахаты махнула.
— Ай, маменька, маменька,
Баліць маё сэрданька.
Баліць сэрца і душа,
Што мілага няма.
— Ідзі, дачушка, да гаю,
Шукай зелля із раю.
Я й да гаю не дайшла,
Сабе зеллейка найшла.
Перамыла ў тарэлца,
Настаяла ў гарэлца,
Перамыла на рацэ,
Натапіла ў малацэ.
Я да печкі стаўляла,
Пару слоўцаў сказала,
Каб карэнне кіпела,
Каб па мне сэрца балела.
Яшчэ корань не скіпеў,
Ка мне мілы прыляцеў.
— Чаго ка мне прыляцеў,
Мяне любіць не хацеў?
— Чаму к табе не лятаць,
Ты ўмееш чараваць.

## 1085

За гарою світае, [1]
Пісар гусей ганяе.

Пісар гусей ганяе,
На малойцаў маргае.

— Ой вы, хлопцы-малайцы,
Накажыце той дзеўцы.

Накажыце той дзеўцы,
Што ў сіненькай сукенцы,

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Хай яна мяне не жджэ,
За другога замуж йдзе.

— Парай, маці, што рабіць —
Пісар не хоча любіць.

— Ідзі, донька, да гаю,
Капай зелле размаю.

Накапала караня
З-пад белага камяня.

Перамыла на рацэ,
Наварыла ў малацэ.

Яшчэ корань не ўкіпеў,
А ўжо пісар прыляцеў.

— Ой, што ж цябе прынясло,
Да ці човен, ці вясло?

— Прынёс мяне сівы конь
Да к паненцы пад пакой,

Прынёс мяне сіў баран
Да к паненцы пад паркан.

## 1086

Ой, на моры, на моры
Гуляў пан на волі.

Ён гуляе, гуляе,
На свісцёлачку йграе.

На свісцёлачку йграе,
На малойцаў маргае:

— Вы малойцы-малайцы,
Накажыце той дзеўцы,

Што ў зялёнай сукенцы,
У ядвабнай хустэчцы.

Тая дзеўка слыхала,
Карэннейка капала.

Накапала карэння
З-пад белага камення.

Прыставіла да печы
Да сказала тры рэчы:

— Кіпі, кіпі, карашок,
Ці не прыдзе мой дружок?

Яшчэ корань не ўскіпеў,
Як малойчык прыляцеў.

— А што ж цябе прынясло,
А ці човен, ці вясло?

— Прынёс мяне сівы конь
Да дзяўчыны на пастой.

## 1087

На крутой гарэ,
У высокім цераме

Пісар [ў гуслі] іграець,
Двух малайцоў гукаець:

— Вы малойчыкі мае,
Вы хадзіце ка мне.

А скажыце дзяўчыне,
Што ў беленькай рубчыне:

Пусць мяне не жджэць,
І пусць замуж ідзець.

Скора дзеўка зачула,
Ў зялён сад скочыла.

Выкапала караня
З-пад белага камяня.

Перамыла на рацэ,
Высушыла на руцэ.

[Высушыла на руцэ,]
А зварыла ў малацэ.

Яшчэ корань не ўскіпеў,
А ўжо пісар прыляцеў.

— А чаго ж ты прыляцеў,
А ты ж мяне не хацеў?

А што цябе прынясло,
Чаўнок ці вясло?

— Не вясло мяне нясло,
Прынёс мяне сівы конь.

[Прынёс мяне сівы конь]
А к дзяўчыне у пакой.

О, дзяўчына ты мая,
А ці любіш ты мяне?

[А ці любіш ты мяне,]
А ці пойдзеш за мяне?

— І любіць не люблю,
І адказаць не магу.

## ДЗЯУЧЫНА ПРАКЛІНАЕ НЯВЕРНАГА КАХАНКА

### 1088










А чыє ж гэта коні да́ па полю хадзілі?
Гэта ж таго дваранiна, што мы утрох любілі.

Адная любіла — да галовачку мыла,
Другая любіла — вячэру варыла.

Другая любіла — вячэру варыла,
Трэцяя кахала — пасцель белу слала.

Кукавала зязюлечка, із бору лятучы,
Заплакаў дваранін, із двора з'язджаючы.

Да не так дваранін, як тая дзяўчына,
Выйшла за вароты да й загаласіла.

Выйшла за вароты да й загаласіла,
Да дзержучы жаўнерскага сына.

— Да сыночак мой, да сакалочак,
Да няма у моры, няма ў моры канца.

Да няма ў моры канца, да няма ў цябе аццa,
Да няма ў моры канца, да няма ў цябе аццa.

Да няма ў цябе аццa, не будзе і мамкі,
Да няма ў цябе айца, не будзе і мамкі.

— Не ўмірай, дзяўчына, гадуй майго сына,
Як з Русі вярнуся, я з табой ажанюся.

— Хай цябе ажэніць да ліхая гадзіна,
Да сцуралася ж мяне уся мая радзіна.

Да сцураліся мяне і ацец, і маці,
І да сцураліся мяне і сёстры, і брацці.

Да сцураліся мяне усе чужыя людзі:
Із харошае дзеўкі да не будуць людзі.

## ДЗЯЎЧЫНА АТРУЧВАЕ ХЛОПЦА НА ЗАЛЁТАХ

### 1089

Andante

— А сон, мам_ ка, а сон, мам_ ка,
сон га_ ло_ вань_ ку ло_ міць. — А то та_ бе,
мой сы_ ноч_ ку, у_ сё сва_ во_ ля ро_ біць.

— А сон, мамка, а сон, мамка,
Сон галованьку ломіць.
— А то табе, мой сыночку,
Ўсё сваволя робіць.

А ты позна кладавішся,
А рана ўстаеш,
А ў дзяўчыны на лужэчку
Чабаток забываеш.

Пакінь, сынку, пакінь, сынку,
Да дзяўчыны хадзіці,
Змаўляюцца трох казакоў,
Хочуць цябе забіці.

Адзін кажа казачэнька:
— Заб'емо, заб'емо.
А другі кажа казачэнька:
— Жупаніка здзярэмо.

Трэці кажа казачэнька:
— Згадземся, згадземся,
Да аднае дзяўчыны
На залёты зыдземся.

Або табе смерць, або мне смерць,
А на свеце не быці,
Ніж да аднае дзеўчыны
На залёты хадзіці.

Едзе, едзе казачэнька
І на коніку ўецца,
Седзіць, седзіць Рожа-дачка,
Ў вакенэчку смяецца.

— Ой, не смейся, Рожа-дачка,
Не смейся, не смейся,
Бо я ў цябе на залётах
Атрутанькі наеўся.

— Ой, не многа, казачэньку,
Не многа, не многа,
Адно толька ў адном розе
У пшанічным пірозе.

— Ото табе, мой сыночку,
Дзеўчыненька красна:
А ўчора быў, як ружа цвіў,
Сягодня смерць няшчасна.

Ото табе, мой сыночку,
Дзеўчыненька ўночы:
Засыпаюць жоўтым пяском
Твае чорныя вочы.

## ДЗЯУЧЫНА АТРУЧВАЕ ХЛОПЦА ЗА НЯВЕРНАЕ КАХАННЕ

### 1090







Свеця месяц, ой, да свеця ясны, эй,
Шчэ ясна зара.[1]

Прыйдзі, прыйдзі, прыўдалы малойчык, эй,
У госці да мяне.

Выпі, выпі, прыўдалы малойчык, эй,
Хоць румку віна.

Адвярнулась, ой, да усміхнулась, эй:
— Я ўжо выпіла.

А ў нядзельку рана-параненьку, эй,
Усе званы гудуць.

Маладога, ой, да казачэньку, эй,
Хараніць вязуць.

Да за ім ідзе ацец, родна маці, эй,
Вазрыдаючы.

Стаіць дзеўка у новых варотах, эй,
Усміхаецца.

— Было табе, прыўдалы малойчык, эй,
Нас трох не кахаць.

Было табе, прыўдалы малойчык, эй,
Адну мяне знаць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 1091

Зышоў месяц, вячорна зара,
Ай, прыбудзь, прыбудзь, ўдалы малойчык,
Прыбудзь у госці, прыбудзь да мяне!
Вып'ем, вып'ем з удалым малойцам,
Вып'ем, вып'ем па чарачцы вінца.
Ой, звячора ўдалы малойчык,
Ён піў да гуляў, ён піў да гуляў,
Няўбаве свету богу душу даў.
Няўбаве па ўдалым малойцу
Ўсе званы равуць, ўсе званы равуць.
Ой, за́ра ўдалага малойца
Хавацъ да вязуць, хавацъ да вязуць.
За ім, за ім оцец, матка ідзе,
Убіваецца, убіваецца.
Стаіць дзеўчына ў новых варотцах
Насмяхаецца, насмяхаецца.
— Было табе, малады малойчык,
Гарэлкі не піць, гарэлкі не піць,
Было табе, удалы малойчык,
Нас дзвюх не любіць, нас дзвюх не любіць,
Было табе, малады малойчык,
Адну яе знаць, адну яе знаць.
Як забачу, уздумаю, заплачу,
Очкі забаляць, очкі забаляць.
Ой, выму да выму да хустаньку
Очкі праціраць, очкі праціраць.

## 1092

Allegro moderato









Ляцела зязюля праз сад, кукуючы,
Заплакаў Ясенька, з вячорак ідучы.[1]

Прыйшоў ён дадому, не сказаў нікому.
Пайшоў у сена спаці, стаў думку думаці.

Прыйшла яго сястра, стала прабуджаці:
— Уставай, родны браце, мы пойдзем гуляці!

— Не буду ўставаці, не пайду гуляці —
Баліць мне галоўка, не змагу падняці!

Прыйшоў родны брацец брацетку будзіці:
— Уставай, родны браце, мы пойдзем касіці.

— Не буду ўставаці, не пайду касіці —
Баліць мне галоўка — не змагу насіці.

Прыйшла яго маці, стала наракаці:
— Было табе, сынку, дзевак не кахаці!

Адна з іх дзяўчына кашульку пашыла,
Другая дзяўчына атруту варыла.

Вось табе, мой сынку, такая заплата:
Дзве дошкі сасновы — цёмненькая хата!

Званы зазванілі на першу гадзіну,
Схавалі сыночка праз адну дзяўчыну.

## 1093




[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.




Ляцела зязюля праз бор, кукуючы,
Заплакаў Ясенька, з вячорак ідучы. [1]

Прыйшоў ён дадому, не кажа нікому,
Пайшоў у сена спаці, стаў думу думаці.

Прыйшла яго сястра, стала абуджаці:
— Ўставай, родны браце, мы пойдзем гуляці.

— О, не, я не ўстану, не пайду гуляці,
Бо я не магу ўжо галоўкі падняці!

Прыйшоў яго брацец і стаў абуджаці:
— Ўставай, родны браце, мы пойдзем араці.

— О, не, я не ўстану, не пайду араці,
Бо я не магу ўжо на валы гукаці.

Прыйшоў яго бацька, стаў сына прасіці:
Ўставай, родны сынку, мы пойдзем касіці.

— О, не, я не ўстану, не пайду касіці,
Бо я не здужаю касы намянціці.

Прыйшла яго маці, стала наракаці:
— Было табе, сынку, дзяўчат не кахаці.

Адна палюбіла — кальцо падарыла,
Другая любіла — хустачку купіла.

Трэцяя любіла — хустачку вышыла,
Чацвёрта любіла — атруты купіла.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

І вось табе, сынку цэлая заплата:
Тры дошкі сасновы — і цёмная хата.

Ляжыць ён на сене, ляжыць і думае,
Апошнюю гадзіну жыццё ўспамінае.

Праз шчыліну месяц у твар заглядае,
Атруты малойчык жыццё ўжо канчае.

А назаўтра рана званы зазванілі,
Маладога хлопца ў магілу спусцілі.

Магіла глыбока, і крыжык дубовы!..
Кукуе зязюля ў зялёнай дуброве.

## 1094

Ляцела зязюля праз сад, кукуючы,
Заплакаў малойчык, з вечарынкі ідучы.

Прыйшоў ён дадому, не кажа нікому,
Пайшоў у гумно спаць, стаў думу думаці.

Прыйшла яго маці яго пабуджаці:
— Ўставай, ўставай, сынку, ды пойдзем араці.

— Не буду ўставаць, не буду араці,
Бо я не ўздолею ручачак падняці.

Прыйшоў яго бацька яго пабуджаці:
— Ўставай, ўставай, сынку, да пойдзем касіці.

— Не буду ўставаці, не буду касіці,
Бо я не ўздолею косачкі мянціці.

Прыйшла яго сястра яго пабуджаці:
— Ўставай, ўставай, браце, ды пойдзем гуляці.

— Не буду ўставаці, не пайду гуляці,
Бо я не ўздолею галовачкі падняці.

Стала яго маці яго наракаці:
— Было ж табе сынку, дзевак не любіці.

Першая любіла — да сябе туліла,
Другая любіла — кашульку вышыла,

Другая любіла — кашульку вышыла,
Трэцяя любіла — атраўку купіла.

У нядзельку рана званы зазванілі,
Маладога малойца у гроб спусцілі.

— Вось табе, сынку, такая заплата:
Тры сасновых дошкі і вечная хата.

## 1095




Ляцела зязюля праз сад, кукуючы,
Заплакаў малойчык, з вячорак ідучы.

Прыйшоў ён дадому, не сказаў нікому,
Не сказаў нікому, лёг спаць у салому.

Прыйшла да яго да родна сястра яго:
— Ўставай, братка, ўставай, мы пойдзем гуляці.[1]

— Не буду ўставаці, не пайду гуляці,
Баляць мае ножкі — не магу ступаці.

Прыйшоў да яго да родны братка яго:
— Ўставай, братка, ўставай, мы пойдзем касіці.

— Не буду ўставаці, не пайду касіці —
Баляць мае ручкі касярку насіці.

---

[1] Далей другі радок у двухрадковых строфах паўтараецца два разы.

Прыйшла да яго да родна матка яго:
— Скажы, сынок, скажы, што так за прычына.

— Скажу табе, мамка, якая прычына,
Любіў жа я за раз, за раз тры дзяўчыны.

А першую любіў — хустачку вышыла,
А другую любіў — кашульку памыла,
А трэцюю любіў — атравы купіла.

— Ну, вот, табе сынок, такая заплата:
Тры дошкі сасновы і цёмная хата.

## 1096




Ляцела зязюля праз сад, кукуючы,
Заплакаў малойчык, з вячоркаў ідучы.

Прышоў ён дадому, не казаў нікому,
Пашоў у сена спаці, стаў думку думаці.

Прышла яго сястра да й стала будзіці:
— Уставай, родны брацік, мы пойдзем гуляці.

— Не буду ўставаці, не пайду гуляці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

Прышоў яго брацік, стаў яго будзіці:
— Уставай, родны брацік, мы пойдзем касіці.

— Не буду ўставаці, не пайду касіці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

Прышоў яго тата, стаў яго будзіці:
— Уставай, родны сынок, мы пойдзем гараці.

— Не буду ўставаці, не пайду гараці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

Прышла яго маці, стала наракаці:
— Было табе, сынку, дзевак не кахаці.

— Адна мне дзяўчына кашульку вышыла,
Другая дзяўчына атруту падала.

Званы зазванілі у смутну гадзіну,
Схавалі сыночка за едну дзяўчыну.

— Вот табе, сыночак, якая заплата:
Тры дошкі сасновы і цёмная хата.

## 1097

♩ = 75

Ля_ це_ ла зя_ зю_ ля праз сад, ку_ ку_ ю_ чы, за_
пла_ каў ма_ лой_ чык, з вя_ чо_ рак і_ ду_ чы, за_
пла_ каў ма_ лой_ чык, з вя_ чо_ рак і_ ду_ чы.

Ляцела зязюля праз сад, кукуючы,
Заплакаў малойчык, з вячорак ідучы. [1]

Прыйшоў ён дадому, не кажа нікому,
Кладзецца ён спаці на белай пярнаці.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Прыйшоў родны брацец, стаў Яся будзіці:
— Уставай, родны браце, мы пойдзем касіці!

— Не буду ўставаці, не пайду касіці,
Бо я не здужаю косанькі насіці.

Прыйшоў яго бацька, стаў Яся караці:
— Уставай, родны сынку, мы пойдзем гараці!

— Не буду ўставаці, не пайду гараці,
Бо я не здужаю на валы гукаці.

Прыйшла яго маці, стала наракаці:
— Было табе, сынку, па трох не кахаці.

Першая любіла — хустачку рабіла,
Другая любіла — кашульку пашыла.

Трэцяя любіла — зеллейка варыла,
А ў нядзелю рана Яся атруціла.

— Ото ж табе, сынку, такая заплата,
Тры дошкі сасновы — цямненькая хата.

Званы зазванілі на першу гадзіну
Пахавалі Яся праз адну дзяўчыну.

## 1098

Allegretto

А дзе то_ е по- ле, што ва_ лы а_
ра- лі, а дзе ты_ я дзеў_ кі, што мы ўдвох ка_ха_ лі? А
дзе ты- я дзеў_ кі, што мы ўдвох ка_ ха- лі?

А дзе тое поле, што валы аралі,
А дзе тыя дзеўкі, што мы ўдвох кахалі? [1]

Першая любіла — кашулю пашыла,
Другая любіла — зелля наварыла,

Зелля наварыла, хлапца атруціла,
Ляжыць хлопец, ляжыць, ані не гаворыць.

Прыйшоў родны айцец, стаў хлопца будзіці:
— Уставай, сынку, ўставай травіцу касіці!

— Не буду ўставаці, не пайду касіці —
Не магу, радненькі, косаньку насіці!

Прыйшла родна маці, стала наракаці:
— Уставай, сынку, уставай на валы гукаці!

— Не буду ўставаці, не пайду гукаці,
Бо я не здужаю голасу падаці.

Прыйшоў родны брацец у карчомку зваці:
— Уставай, браток, уставай, пойдзем піць, гуляці!

— Не буду ўставаці, не пайду гуляці,
Не магу, радненькі, песенек спяваці!..

Усе званы звоняць, малайца хароняць,
Звоняць палавіну — хароняць дзяўчыну.

## 1099

— Ой, чые ж то сівы волы
Па раллі хадзілі?

Па раллі хадзілі...
— Гэта ж таго казачэнька,
Што мы ўтрох любілі,

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Што мы ўтрох любілі...
Ой, адная палюбіла,
Вячэру варыла,

Вячэру варыла...
А другая палюбіла
Посцель белу слала,

Посцель белу слала...
А трэцяя няверная
Да й ачаравала,

Да й ачаравала...
— Чаруй ручкі, чаруй ножкі,
Чаруй чорны очы,

Чаруй чорны очы...
Каб не хадзіў казачэнька
Цямненькае ночы,

Цямненькае ночы...
Ой, заплакаў казачэнька,
Ад дзяўчыны йдучы,

Ад дзяўчыны йдучы...
Ой, прыйшоў жа ён дадому,
Не сказаў нікому,

Не кажа нікому...
За цісовы стол садзіцца
Да й на бок хіліцца,

Да й на бок хіліцца...
Ой, зайгралі музычанькі
У новай карчомцы,

У новай карчомцы...
Прыйшлі братцы-таварышы
Да й завуць гуляці,

Да й завуць гуляці...
— Не здужаю, мае братцы,
Не перайду хаты,

Не перайду хаты...
Як зачула родна маці,
Седзячы ў кравацi,

Седзячы ў кравацi...
— Было ж табе, мой сынаньку,
Было ж трох не кахацi,

Было ж трох не кахацi...
Ой, кахаў жа, мой сынаньку,
Адную і другую,

Адную і другую...
За трэцяю дзяўчынаю
Пойдзеш ў зямлю сырую,

Пойдзеш ў зямлю сырую...
То за гэта, мой сынаньку,
І варожкаў багата,

І варожкаў багата...
— Ой, багата не багата,
Будзе з мяне крошкі,

Будзе з мяне крошкі...
Адмерайце сажань зямлі
І чатыры дошкі,

І чатыры дошкі...
Пахавайце казачэнька
Блізка край дарожкі,

Блізка край дарожкі...
І скуль людзі да ідзімуць,
І скуль людзі ідзімуць,

І скуль людзі ідзімуць...
То на маёй магіланьцы
Спачываці зайдуць,

Спачываці зайдуць...
Будуць мяне, казачэнька,
Да ўсё спамінаці,

Да ўсё спамінаці...
Гэта ж таго казачэнька
Дзяўчаты любілі,

Дзяўчаты любілі.
Яны, шэльмы-чараўніцы,
Яго ж атравілі.

## 1100

Ляцела зязюля чэраз бор, куючы,
Заплакаў Ясенька, з вечарынкі ідучы. [1]

Прышоў ён дадому, не кажа нікому,
Палажыўся спаці на белай пярнаці.

Прышоў яго бацька, стаў яго будзіці:
— Уставай, родны сынку, мы пойдзем касіці.

— Не буду ўставаці, не пайду касіці,
Бо я не здужаю косаньку насіці.

Прышоў яго брацец, стаў яму казаці:
— Уставай, родны браце, пойдзем мы гараці.

— Не буду ўставаці, не пайду гараці,
Бо я не здужаю на валоў гукаці.

Прышла яго маці, стала наракаці:
— Ото табе, сынку, як па тры кахаці.

Адна любіла, кашулю пашыла,
Другая любіла, хустачку дарыла.

Другая любіла, хустачку дарыла,
Трэцяя любіла — Яся атравіла.

Зазванілі званы на першу гадзіну,
Пахавалі Яся праз адну дзяўчыну.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 1101




Ляцела зязюля праз бор, кукуючы,
Заплакаў малойчык, з вячорак ідучы. [1]

Прышоў ён дадому, не сказаў нікому,
Пашоў у гумно спаці, стаў думку думаці.

Прышоў яго бацька, стаў яго будзіці:
— Уставай, родны сынку, пойдзем мы касіці.

— Не пайду касіці, не магу я ўстаці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

Прышоў яго браце, стаў яго будзіці:
— Уставай, родны браце, мы пойдзем араці.

— Не пайду гараці, не магу я ўстаці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

Прышла яго сястра, стала абуджаці:
— Уставай, родны браце, мы пойдзем гуляці.

— Не пайду гуляці, не магу устаці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Вот жа табе, браце, такая заплата:
Тры доскі сасновы і цёмная хата.

Было табе, браце, двух-трох не любіці,
Было ж табе, браце, з адною жаніцца.

## 1102




Ой, чые ж то валы па бару хадзілі?
То таго казака, што мы ўтрох любілі.

Ой, адна любіла — кашуленьку шыла,
І друга любіла — хустачкі рубіла.

[І друга любіла — хустачкі рубіла,]
Трэцяя любіла — казака струціла.

Ў панядзелак рана зеллечка збірала,
А ў уторак рана да перамывала.

А ў сераду рана зеллечка варыла,
А ў чацвер рана казака струціла.

А ў пятніцу рана велька звестка была,
Што дзеўка казака, казака струціла.

А ў суботу рана маці дачку біла:
— Да нашто ты, шэльма, казака струціла!

— Мама, мамуленька! Жаль увагі не мае,
Нашто казак-шэльма тры дзяўчыны мае!

## 1103




Ляцела зязюля праз бор, кукуючы,
Заплакаў малойчык, з вячорак ідучы. [1]

Прышоў ён дадому, не казаў нікому,
І прышоў на сена, і лёг сабе смела.

Прышла родна мамка, стала пабуджаці:
— Устань, мой сыночак, пайдзём мы араці.

— Ах, родная мамка, ой, рад бы устаці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

Прышоў родны татка сына абуджаці:
— Устань, мой сыночак, пайдзём пяньку мяці.

— Ах, мой родны татка, рад бы я ўстаці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

Прышоў родны брацец брата абуджаці:
— Устань, мой браточак, пайдзём выпіваці.

— Ах, мой родны брацец, не магу устаці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

Прышла родна сёстра брата абуджаці:
— Устань, мой браточак, пайдзём пагуляці.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Ах, родная сёстра, рад бы я ўстаці —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.

Першая любіла — касцюмчык купіла,
Другая любіла — віном напаіла.

Другая любіла — віном напаіла,
Трэцяя любіла — атруты купіла.

А ў нядзелю рана маці доню біла.
— А нашто ты, шэльма, Грышу атравіла.

— Няхай Грыша будзець ні мне, ні нікому,
Няхай Грыша будзець зямельцы сырое.

## 1104




## 1105






## 1106




Ой, не хадзі, Грыцу, ды й на вечарніцу,
Ой, на вечарніцы дзеўкі-чараўніцы.

Бо на вечарніцах дзеўкі-чараўніцы.
Ой, адна дзяўчына на лугі лятала.

У панядзелак рана на лугі лятала,
А ў аўторак рана зелля накапала.

Зелля накапала ды й перамывала,
А ў сераду рана Грыцу атравіла.

А ў сераду рана Грыцу й атравіла,
А у чацвер рана па Грыцу званіла.

А у чацвер рана па Грыцу званіла,
А ў пятніцу рана маці дачку біла.

А ў пятніцу рана маці дачку біла:
— Ой, нашто ты, шэльма, Грыцу й атравіла.

Ідзі ж на магілу, разбудзі ж ты Грыцу,
Разбудзі ж ты Грыцу, прывядзі дадому.

— Уставай, ўставай, Грыцу, малады казача,
Бо па табе, Грыцу, ўся Украіна плача.

Бо па табе, Грыцу, ўся Украіна плача,
Ой, ўся Украіна шчэ й тая дзяўчына.

Шчэ й тая дзяўчына, што цябе, маладога,
Што цябе, маладога, са свету згубіла.

— Ой, сыдзі ты, шэльма, і з маёй магілы,
Бо хай я загіну без твае прычыны.

## 1107

Прышоў сын з вечарыны, лёг на сенца спаці,
Лёг на сенца спаці, стаў думку думаці.

Прышоў яго брацец, стаў яго абуджаці:
— Уставай, родны брацец, мы пойдзем касіці.

— Не буду ўставаці, не пайду касіці,
Бо я не здалею косанькай вадзіці.

Прышоў яго бацька, стаў яго абуджаці:
— Уставай, родны сынку, мы пойдзем гараці.

— Не буду ўставаці, не пайду гараці,
Бо я не здалею валоў паганяці.

Прышла яго маці, стала абуджаці:
— Уставай, родны сынку, мы пойдзем снядаці.

— Не буду ўставаці, не пайду снядаці,
Бо я не здалею галоўкі падняці.

Адна палюбіла — хустачку дарыла,
Другая палюбіла — кашульку вышыла.

Другая палюбіла — кашульку вышыла,
А трэцяя палюбіла — атрутай спаіла.

— Вот табе, сынку, такая заплата:
Тры сасновы дошкі і цёмная хата.

У нядзелю рана званы зазванілі,
А майго сыночка дзеўкі схаранілі.

## ХЛОПЕЦ «ПАМІРАЕ», КАБ ЗАВАБІЦЬ КАХАНУЮ У СВОЙ ДОМ

### 1108




Ў зялёным садочку казак нарадзіўся,
З дзяўчынай маладою даўно ўжо любіўся.

Любіўся, кахаўся і думаў яе браці,
Яму не дазволіла родная маці.

— Дазволь жа мне, маці, крыніцу капаці,
Мо, прыйдуць дзяўчаты ваду набіраці.

Прыйшлі ўсе дзяўчаты, а мае нямае,
А маю дзяўчыну маці не пускае.

— Дазволь жа мне, маці, карчму збудаваці,
Мо, прыйдуць дзяўчаты піці ды гуляці.

Прыйшлі ўсе дзяўчаты, а мае нямае,
А маю дзяўчыну маці не пускае.

— Дазволь жа мне, маці, пры смерці ляжаці,
Мо, прыйдуць дзяўчаты мяне наражаці.

Прыйшлі ўсе дзяўчаты, а мае нямае,
А маю дзяўчыну маці выпраўляе:

— Ідзі, донька, тога казака наражаці,
Што любіў хадзіці да нашае хаты.

На першы парожак дзяўчына ступала,
На першым парожку слёзкі пралівала:

— А дзе ж тыя ножкі, што за мной хадзілі,
А дзе ж тыя ручкі — падаркі насілі?

На другі парожак дзяўчына ступала,
На другім парожку слёзкі пралівала:

— А дзе ж тыя вочкі — да мяне маргалі,
А дзе ж тыя губкі, што так цалавалі?

Казак усхапіўся: «Давай, маці, шубу,
Давай, маці, шубу — я еду да шлюбу!»

## 1109




— Памру, памру, маці праз марную рэчу,
Праз марную рэчу, праз ўдавіну дачку.

Пазволь, пазволь, маці, калодзеж капаці,
Ці не прыдуць дзеўкі вадзічаньку браці.

Ды ўсе дзеўкі прышлі, адной няма тое,
Адной няма тое, дачкі ўдавіное.

Пазволь, пазволь, маці, цэркаўку стаўляці,
Ці не прыдуць дзеўкі богу маліцца.

Ды ўсе дзеўкі прышлі, адной няма тое,
Адной няма тое, дачкі ўдавіное.

Пазволь, пазволь, маці, карчомку стаўляці,
Ці не прыдуць дзеўкі піці да гуляці.

Ды ўсе дзеўкі прышлі, адной няма тое,
Адной няма тое, дачкі ўдавіное.

Пазволь, пазволь, маці, на жарты памерці,
Ці не прыдуць дзеўкі мяне паглядзеці.

Ды ўсе дзеўкі прышлі, прышла ўжо і тая,
Прышла ўжо і тая, дачка ўдавіная.

Ды й дзе тая слава, ды ў Варшаве стала,
Што ўдовіна дочка з мёртвым шлюб узяла.

## 1110

— Памру, мая маці,
Памру, радзімая,
На чатыры гадочкі
Па ўдавінай дочкі.

— Не ўмірай, мой сыночак,
Не ўмірай, дзіцятачка!
Пастрой, мой сыночак,
Сярод двара баню.

Будуць людзі прыхадзіць
У баню мыцца,
Прыдзе твая ўдалая
Дачка ўдавіная.

А ўсе людзі прыхадзілі
І ў бані мыліся,
Няма ж мае удалые
Дачкі ўдавіные.

— Памру ж, мая маці,
Памру, радзімая,
На чатыры гадочкі
Па ўдавінай дочкі.

— Не ўмірай, мой сыночак,
Не ўмірай, дзіцятачка!
Выкапай, сыночак,
Сярод двара калодзезь.

Будуць людзі прыхадзіць
Вадзіцу браці,
Прыдзе твая ўдалая
Дачка ўдавіная.

А ўсе людзі прыхадзілі,
Вадзіцу бралі,
Няма ж мае удалые
Дачкі ўдавіные.

— Памру ж я, мая маці,
Памру, радзімая,
На чатыры гадочкі
Па ўдавінай дочкі.

— Не ўмірай, мой сыночак,
Не ўмірай, дзіцятачка!
Пастаў, мой сыночак,
У варотах цэркву.

Будуць людзі прыхадзіць
Богу маліціся,
Прыдзе твая ўдалая
Дачка ўдавіная.

А ўсе людзі прыхадзілі,
Богу маліліся,
Няма ж мае удалые
Дачкі ўдавіные.

— Памру ж, мая маці,
Памру, радзімая,
На чатыры гадочкі
Па ўдавінай дочкі.

— Умірай, мой сыночак,
Умірай, дзіцятачка,
Умірай, мой сыночак,
Умірай, дзіцятачка.

Будуць людзі прыхадзіці
Мерцвяца глядзеці,
Прыдзе твая удалая
Дачка ўдавіная.

А ўсе людзі прыхадзілі,
Мерцвяца глядзелі,
Прышла ж мая удалая
Дачка ўдавіная.

Мярцвец усхапіўся,
За шыю абшчапіўся:
— Во цяпер, мая маці,
Вядзі ў цэркву вянчаці.

**1111**




— Умру, умру, мая матушка, умру, жыў не буду [1],
Цераз тую любімую дачку ўдавіную!
— Не ўмірай-ка, мой сыночак, не ўмірай, дзіцятка!
Выкапаем крынічаньку у сваіх варотах:
Будуць людзі прыхадзіці вадзіцу чарпаці,
Ці не прыдзець любімая дачка ўдавіная?
Папрышлі добрыя людзі, вадзіцу чарпалі,
Аднэя нету любімае дачкі ўдавінае.
— Умру, умру, мая матушка, умру, жыў не буду,
Умру, умру, мая матушка, умру, жыў не буду,
Цераз тую любімую дачку ўдавіную!
— Не ўмірай-ка, мой сыночак, не ўмірай, дзіцятка!
Мы выстраім банюшку проці свайго двара:
Папрыдуць добрыя людзі у банюшку мыцца,

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Ці не прыдзець любімая дачка ўдавіная?
Папрышлі добрыя людзі ў банюшку мыцца,
Аднэя нету любімае дачкі ўдавінае.
— Умру, умру, мая матушка, умру, жыў не буду,
Умру, умру, мая матушка, умру, жыў не буду,
Цераз тую любімую дачку ўдавіную!
— Не ўмірай-ка, мой сыночак, не ўмірай, дзіцятка!
Мы выстраім цэркаўку серадзі свайго двара:
Будуць людзі прыхадзіці божаньку маліцца,
Ці не прыдзець любімая дачка ўдавіная?
Папрышлі добрыя людзі божаньку маліцца,
Аднэя нету любімае дачкі ўдавінае.
— Умру, умру, мая матушка, хуць на адзін часочак:
Папрыдуць добрыя людзі мерцвяца глядзеці,
Ці не прыдзець любімая дачка ўдавіная?
— Папрышлі добрыя людзі мерцвяца глядзеці,
Прышла, прышла любімая дачка ўдавіная;
Як ускочыў мой сыночак з лаўкі на землю.

## 1112

Ой, там за гарамі сняжок белюсенькі,
Хадзіў да дзяўчыны казак маладзенькі.

Хадзіў ён, любіў ён і думаў узяці.
А тую дзяўчыну не пускае маці.

— Дазволь-ка мне, маці, калодца капаці,
Не прыдзе ці дзяўчына вадзіцу браці.

Усе дзяўчаты ідуць вадзіцу браці,
А тую дзяўчыну не пускае маці.

— Дазволь-ка мне, маці, царкоўку строіці,
Не прыдзе ці дзяўчына бога маліці.

Усе дзяўчаты ідуць бога маліці,
А тую дзяўчыну не пускае маці.

— Дазволь-ка мне, маці, на лаўцы ляжаці,
Не прыдзе ці дзяўчына хлопца адвядаці.

